


# ПОЛЫМЯ

*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС*

**11** (1009)

*ЛІСТАПАД*

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2013

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



## Мікола МАЛЯЎКА

### ШЛЯХ ЗЯМНЫ І ШЛЯХ ДА БОГА

На спачын не час яшчэ ісці,
Ды падказвае дарога:
Два шляхі галоўныя ў жыцці —
Шлях зямны
І шлях да Бога.

Восень звужвае абсяг
Спадзяванняў, звязаных з вясною, —
Шлях зямны — кароткі шлях,
Хоць і многа вёрстаў за спіною.

Без малітвы будзіць страх,
Не знаходзім у душы спакою, —
Шлях да Бога — доўгі шлях,
Хоць да храма і падаць рукою.

Вось і сам дажыў да сівізны,
А не ведаю, нябога,
Ці сальюцца ў вечнасці яны,
Шлях зямны
І шлях да Бога.

* * *

Іх не звалілі перуны,
Ліхія ветраломы, людзі:
Наўздзіў трывалыя яны,
Дубы ў Лядзінах і Альбуці.

Разложна кроны паднялі
У свеце сонца і блакіту,
А цёмна-шэрыя камлі —
Як з маналітнага граніту.

На доўгі век, пяцьсот гадоў,
Заклалі каранёў аснову,
І кожны ўвосень жалудоў
Дае на цэлую дуброву.

Яны зрадніліся з зямлёй,
Спакою і красы гаранты,
І над Стаўбцоўшчынай маёй
Трымаюць неба, як атланты.

---

***Маляўка Мікалай Аляксандравіч*** *нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у Карэліі лесарубам. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе «Вясёлка».*

*Піша для дарослых і дзяцей. Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душою» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы ды сосны…» (2006), «Дзічка ў полі» (2007), «Крыштальная галінка снегападу» (2011) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

## У СВЕЦЕ КОЛАСАВЫХ ПІСЬМАЎ

У свеце Коласавых пісьмаў зноў
Яскрава прада мной яны паўсталі,
Падзеі, вобразы, штрыхі-дэталі,
Нібы гляджу ў мінуўшчыны акно —
І бачу тых, каго няма даўно,
І чую галасы, што адгучалі
На радаснай і невясёлай хвалі, —
Свет без мяне, а блізкі ўсё адно.

Ад ліставання, ад жывой натуры
Нас аддаляе век клавіятуры.
Пісалі пісьмы лёгка, ад рукі,
Бывала, і ўначы не спала перца, —
І праз гады захоўваюць радкі
Святло душы і хваляванне сэрца.

## СТАРТУЮЦЬ У БЯЗМЕЖЖА КАРАБЛІ

Стартуюць у бязмежжа караблі.
Кладуцца трасы роўна, круг за кругам,
Нібы барозны — з хлебнай нівы духам.
І зоркі, што надвечар узышлі,
Зярняткамі глядзяцца на раллі —
Услед, за карабля імклівым рухам,
Як быццам чалавек прайшоўся з плугам
Па цаліне, далёкай ад Зямлі.

Не ўсе яны, касмічныя аратыя,
Вярнуліся ў сям'ю сваю, дахаты.
Адкрыццяў веліч свет ускалыхне,
Закаласяцца зорныя зярняткі —
І ўвекавечаць там, на цаліне,
Імёны іх удзячныя нашчадкі.

## ЗОРКА Ў НЕБЕ, ВАСІЛЁК У ПОЛІ

*Міколу Чарняўскаму*

Ажыўлялі свет памалу
Песень родных адгалоскі.
І зайздросціў запявалу
Ты — хлапчук з глыбіннай вёскі.

Ад вайны
Яшчэ не акрыялі,
Неставала ў хаце хлеба, солі,
Ды красой натхнялі, акрылялі
Зорка ў небе,
Васілёк у полі.

Вершы з ціхім хваляваннем
Ад чужога ўтойваў вока,
Саграваў сваім дыханнем
І вучыў лятаць высока.

Свет духоўны твой —
Без звону сталі.
Гартаваў любоўю сілу волі,
Ад грымотных рытмаў ратавалі
Зорка ў небе,
Васілёк у полі.

Не канвеерныя вершы,
А ручная ўсё работа:
У радках — сяброўства, вернасць,
Дабрыня, святло, пяшчота.

Малады рамантык,
Творца сталы,
Ты на лёс не наракаў ніколі:
Абярэгам паэтычным сталі
Зорка ў небе,
Васілёк у полі.

Не шукаў пасады хлебнай,
І цяпер, у веку новым,
Паяднаў зямлю і неба
І жыццём сваім, і словам.

Пасівелы,
З думкамі сам-насам,
Зычыш ты нашчадкам лепшай долі,
Дбаеш, каб і іх натхнялі з часам
Зорка ў небе,
Васілёк у полі.

Да вытокаў зноў вяртаюць
Песень родных адгалоскі,
І гадоў не адчуваеш
Ты — хлапчук з глыбіннай вёскі.

## БАЛАДА
## ПРА ЛІСТЫ ФРАНТАВЫЯ

Разляцеліся, быццам жывыя,
І на ветры, далёка ад хатаў,
Замярзаюць лісты франтавыя —
Не дайшлі да сваіх адрасатаў.

Што было ў іх? Трывога? Надзея?
Ці ад кулі варожай замова?
Адбялілі і час, і завея
Ўсе радкі — да апошняга слова.

Падымаліся людзі ў атаку
І зямлю прыкрывалі сабою —
Пад любові і вечнасці знакам,
На мяжы рукапашнага бою.

Пэўна, тут і свайго паштальёна
Пахавалі сябры баявыя, —
І вось так, без яго абароны,
Замярзаюць лісты франтавыя.

Ні душы навакол, ні сцяжынкі,
Толькі ў полі — акопы пустыя
Ды рабінавых ягад крывінкі
На магіле, забытай у тыле.

## БЕЛЫЯ ФІРАНКІ

Вісяць яны, двайныя шторы,
На вокнах гарадскіх, як хмары,
Адгарадзілі ад прастору,
Зацьмілі згадкі ўсе і мары.

Хоць на адно акно ў кватэры
Павесім белыя фіранкі,
Каб тут, у камяніцы шэрай,
Святлей ад сонца стала зранку.

Не зануджуся ў адзіноце,
Адчую сувязь з ветрам, з громам,
Убачу голуба ў палёце,
Жывое воблачка над домам.

І ў думках палячу далёка,
І дух перавяду на ганку
Той хаты ціхай, дзе на вокнах
Бялеюць маміны фіранкі.

* * *

Бэз адцвіў…
Асыпаліся гронкі
На траву жывую, на пясок.
З-пад акна сплывае водар тонкі,
Аддаляецца чмяля басок.
На зямлі і россып яркіх кветак,
І святла блакітнага разліў,
Ды ў вачах і сэрцы непрыкметна
Сцьмела быццам штосьці…
Бэз адцвіў.

## РАМАНС НА ДВА ГАЛАСЫ

У зале, для музыкі цеснай,
Яна ажыла са слязы,
Журлівая гэта песня —
Раманс на два галасы.

У поле вывела сцежка,
У спелага жыта красу —
І сонечным промнем усмешка
Пазалаціла слязу.

Натхніла і акрыліла,
Запаланіла прасцяг
Любві неўтаймоўная сіла
У музыцы і галасах.

Да кожнае ноты ў песні,
Да кожнага слова давер, —
Ні плач, ні грукат нябесны
Яе не заглушаць цяпер.

На зверцы пачуццяў і лёсаў
І ценю журбы не відно:
Адкрыліся сэрцы з палёгкай,
Гучаць ужо як адно.

Здаецца, ніколі не счэзне
У свеце дабра і красы
Раздольная гэта песня —
Раманс на два галасы.

## НЕ ЎСПАМІНАЙ…

Не ўспамінай мяне з дакорам.
«Любоў — салодкая атрута», —
Спявалі мы, студэнты, хорам
На першым курсе інстытута.

Мой часе мілы, часе любы!
Яшчэ сустрэчы — без разлукі:
Ад пацалункаў сохнуць губы,
І млеюць у абдымках рукі.

Сказаў табе, маёй дзяўчынцы,
Што мару доляй парадніцца,
А тыя мары-аблачынкі
У свет сплылі, каб там не збыцца.

Жывём нібыта ў розным часе:
Я долю перайначыў крута,
А ты ў мінулым засталася —
На першым курсе інстытута.

Засмуціць восень залатая,
І ў песню, што спявалі хорам,
Радок свой шэптам уплятаю:
«Не ўспамінай мяне з дакорам…»

## У ВЕЧАРОВЫМ ЗМРОКУ

Разбегліся жыццёвыя шляхі.
Я Вас любіў — і вобраз не размыты,
А павалокай трапяткой спавіты.
Даўно ўвайшла ў спакою берагі
Паводка думак, страсці і тугі.
Як быццам з высяў, з памяці арбіты,
Гляджу на свет,
ад мар яшчэ блакітны, —
Цалую Вас, мой вобраз дарагі.

На сходзе дня, у вечаровым змроку,
Царкоўны звон даносіцца здалёку.
Пад гэты звон туды, бліжэй да Вас,
У веку маладым не прызямліцца, —
І толькі вобраз, як святы абраз,
У вечаровым змроку залаціцца.

* * *

Свет жыцця неспакойны,
Як штармавы акіян:
Рэвалюцыі, войны,
Крызісаў ураган.

Дзе яно, ціхае шчасце?
Доўгі век ці кароткі,
Мы падобныя ў часе
На падводныя лодкі.

Штылю ў жыцці не знаем,
Як заклятыя ўсё адно:
Цяжка наверх усплываем,
Зноў лажымся на дно.

Колькі сонечных лёсаў
Згасла рана, зямляне,
У крутым, да нябёсаў,
Штармавым акіяне!

Без святога прычасця
Штыль жалобны якраз
Так, на вечным прычале,
Закалыхвае нас.

## УСПАМІНЫ

Пра лёс мой зямны,
Пра дарогі-пуціны
Расказвае скупа
Сямейны альбом.
Не верыцца нават:
Ужо і ўспаміны
Прысыпаны снегам,
Размыты дажджом.

У родных мясцінах
Шукаю начлегу,
Сярод маладых —
Як вандроўнік чужы.
Мінулае зноў
Атрасаю ад снегу,
Размытае зноў
Узнаўляю ў душы.

Бяссоннаю ноччу
Ўспаміны і самі
Плывуць і плывуць,
Дапаўняюць альбом —
Аблічча́мі новымі
І галасамі,
Раскатамі грому,
Заранак святлом.

Абачліва ўсе
Тупікі і развілкі
Мінуў бы цяпер,
Да людзей ідучы,
Ды позна ўздыхаць
І апраўдваць памылкі —
Нічога не зменіш,
Хоць крычма крычы.

Збіраю ўспаміны…
І ў будучым болей
Не кіну пад ногі
Пражытым гадам:
Пачуцці спатолю,
Душу разняволю —
Нашчадкам у спадчыну
Іх перадам.

І некаму, можа,
У смуты часіны
Слязою ці ўсмешкай
Памогуць яны,
Сямейны альбом
І жывыя ўспаміны —
Пра час і эпоху,
Пра лёс мой зямны.



Зінаіда ДУДЗЮК

# ГОНДЫ

*Раман*

## Пралог

Кожнае паселішча, незалежна ад яго памераў і геаграфічнага знаходжання, мае ўласную гісторыю, якая складаецца з тысяч людскіх лёсаў, найчасцей непрыкметных і нікому невядомых. Але ад гэтага ягонае жыццё не становіцца менш цікавым для таго чалавека, які захоча даведацца, хто заснаваў населены пункт, хто будаваў, а потым жыў тут, пакідаючы ў спадчыну нашчадкам здабыткі ўласнай працы і розуму, славу ці ганьбу, рысы твару і паставу, характар і звычкі. Безумоўна, мела адметную гісторыю і вёска Ляды, якая ўтульна размясцілася паблізу возера, што называлася Сінім. Селішча акалялі балоты ды лясы некалі непраходнай пушчы.

Па назве вёскі, можна здагадацца, што яе заснавальнікі, з цяжкасцю адваёўваючы ў балота і лесу ладны кавалак зямлі, радасна крычалі: «Вось дык ляда!» І потым кожны з гаспадароў цешыўся сваёю перамогаю і паўтараў: «Ляда, маё ляда!» Так і з’явілася назва вёскі, а лепшае і не прыдумаеш. У ёй ужо змясцілася першапачатковая гісторыя селішча.

Пра першага князя, які нажываўся на працы сялян з Лядаў і іншых навакольных селішчаў у архівах і почуту не засталося, але пра ягоных далёкіх нашчадкаў, якія добра-такі распладзіліся тут, звесткі захаваліся. Вядомыя яны з сярэдзіны XV стагоддзя, называліся панамі Пратасевічамі, жылі ў маёнтку Пратасы, пабудаваным іхнім прапрадзедам. З пакалення ў пакаленне іх станавілася ўсё больш, яны спачатку падзялілі між сабою па некалькі вёсак, потым па адной. Пасля пачалі дзяліць палеткі, але хіба з такога надзелу разжывешся? Вымушаны былі шляхцюкі Пратасевічы патроху прадаваць свае мізэрныя

---

***Дудзюк Зінаіда Іосіфаўна*** *нарадзілася 29 сакавіка 1950 года ў вёсцы Слабодка Браслаўскага раёна. Скончыла Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (1977) і Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага ў Маскве (1993), працавала інжынерам, загадчыкам літаратурнай часткі ў тэатры.*

*Выдала зборнікі вершаў «Праводзіны птушак» (1983), «Абрысы лета» (1988), «Так і не» (1993), «Табе» (2000), «Падданыя кахання» (2003), кнігу прозы «Палоннікі жыцця» (1997), раманы «Год 1812» (2005), «Кола Сварога» (2006), «Аднарог» (2010), гістарычны нарыс «Леў» (2011). Пераклала на беларускую мову казку П. Яршова «Канёк-гарбунок» (1993), камедыю Яна Ходзькі «Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман» (2002) і інш.*

уладанні панам Яновічу, Маневічу, Рэчыцу, Альшэўскаму ды іншым, якія па-свойму абжывалі набытыя вёскі. Багацейшыя будавалі храмы ды корчмы, бяднейшыя абыходзіліся тым, на што хапала сродкаў.

Самыя разумныя з Пратасевічаў з'язджалі ў гарады, наймаліся пісарамі, каморнікамі — знаходзілі якую цывільную, а часам і вайсковую службу, а няўдаліцы засталіся ў Пратасах, называючы сябе шляхтаю, вымушаныя былі, як сяляне, упрагацца ў саху ды самастойна абрабляць свае надзелы. У канцы XVIII стагоддзя з'явіўся граф Войцах Буслоўскі, які паступова купіў усю зямлю, якою яшчэ пакуль валодалі паны Пратасевічы, а заадно уладанні іхніх суседзяў. Ад былых уладальнікаў засталіся толькі назвы вёсак: Яновічы, Альшэва, Маневічы, Рэчыца, Пратасы…

На новай зямлі граф Буслоўскі заснаваў сваю вёску і назваў яе Вайцехі, пабудаваў там палац, гаспадарчы двор, млын, бровар, пасадзіў парк на беразе невялікай, але маляўнічай рэчкі. У іншых селішчах, якія таксама належалі яму, наладзіў выраб паперы, сукна, жалеза, смалы, шкіпінару з улікам самых перадавых тэхналогій таго часу. У суседняй вёсцы Альшэва ўзвёў прыгожы і вялікі касцёл, а для праваслаўных вернікаў у Вайцехах паставіў невялікую, аднак утульную царкву. Сабраў багатую калекцыю мастацкіх палотнаў, скульптурных выяў і кніг, карацей, вёў граф цікавы і разнастайны лад жыцця.

На ўскрайку вёскі Ляды пасяліўся ў сярэдзіне дваццатых гадоў мінулага стагоддзя адзін з аканомаў пана Буслоўскага з дзіўным прозвішчам Кубіцель у прыгожым аднапавярховым будынку, які з чатырох бакоў акаляў глыбокі роў, абсаджаны дрэвамі для ўмацавання берагоў. Трапіць на двор можна было толькі праз масток, высланы з тоўстых бярвенняў. Мясціну гэтую ў народзе пачалі называць гайком. З захаду ад аканомавай сядзібы цягнуўся шырокі поплаў. Далей быў лес, з усходу туліліся шэрыя хаткі сялян. Тыя з тутэйшых людзей, хто займаліся ткацтвам, у час перапісу атрымалі прозвішча Ткачукі, хто быў шаўцом — Шаўчукі... Карацей кажучы, жылі ў Лядах Краўчукі, Гарбарчукі, Кавальчукі, Стальмашукі, Сталярчукі ды шмат іншых добрых і майстравітых людзей. Былі прозвішчы, звязаныя не толькі з працоўнай дзейнасцю, але з навакольным асяроддзем такія, як Воўк, Голуб, Цыбульнік, Мураш, Баран, Кулак. Да гэтых прозвішчаў пачалі дадавацца яшчэ і мянушкі. Тую сям'ю, дзе бацька даглядаў панскіх сабак, называлі Сабакарамі. Тых, хто працаваў на канюшні, клікалі Конюхамі, хто варыў піва — Піваварамі. Найменні гэтыя былі не крыўдныя, яны толькі паказвалі на занятак, які прыносіў прыбытак сям'і. Меліся ў сялян мянушкі, набытыя на працягу жыцця ці ў выніку нейкага ўчынку, а для гэтага існавала мноства падстаў. Напрыклад, прамаўляў хлапчук у раннім маленстве не бацька, а бака, так і застаўся Бакам да самае смерці, яшчэ і жонку ягоную да гэтага часу Бачыхаю называюць. Здараліся мянушукі не проста крыўдныя, а нават нецэнзурныя, але на іх мы псаваць паперу не будзем.

Ляды — вёска звычайная, жылі тут, як скрозь, і яўрэі: карчмар, каваль ды лавачнік. Самых хітрых з сялян аднавяскоўцы называлі імёнамі гэтых яўрэяў. Часам нехта казаў: «Вой, Сцяпане, ты хітры, як Лейба.» І гэтага было дастаткова, каб да чалавека і ягоных нашчадкаў прыліпала ласкавая мянушка Лейбачка. Так, у вёсцы з'явіліся свае Юдалька, Хроім, Шымель, Мэйта. Даходзіла да таго, што сапраўднае праваслаўнае імя забывалася, а яўрэйскую мянушку ведалі ўсе.

На долю лядчукоў у большай ці меншай ступені выпалі ўсе тыя гістарычныя мітрэнгі, якія перажывала Палессе на працягу шматлікіх стагоддзяў, але хто цяпер тое помніць? Адно я магу засведчыць дакладна, што над гэтаю

вёскаю свеціць такое ж, як скрозь, зыркае сонца, і бухматыя зоркі пасылаюць сваё святло з глыбіняў космасу гэтак жа таямніча і дзівосна. А для тых, хто тут нарадзіўся, няма на свеце лепшага куточка, чым Ляды, якія былі… Так, былі, бо вёскі, як людзі, нараджаюцца і… і няхай жывуць…

**1**

Малаша чакала гасцей, на гэта паказвалі ўсе прыкметы: і лыжка вывалілася з рукі падчас сняданку, і кот на лаве старанна ўмываўся, пэўна, рыхтаваўся да сустрэчы. Шыбы спрэс размаляваў мароз, добра пастараўся і выпісаў дзівосна прыгожае лісце, мабыць, такія расліны растуць толькі ў райскім садзе. Гаспадыня трохі прадрала пазногцем намаразь, пацерла пальцамі і ачысціла лапік шыбы, каб бачыць вуліцу. За ноч мяцеліца дадала снегу, сумёты былі роўныя з платамі. Яна з трывогаю падумала, як жа яны даедуць ад чыгункі? Пешкі па такім снезе і за дзень не дойдзеш, але Бог літасцівы, калі яго добранька папрасіць, дык усё зробіць найлепшым чынам. Яна павярнулася да іконы святога Міколы, якая вісела ў чырвоным куце, упрыгожаная вышытым ручніком, нешта пашаптала, перахрысцілася, а потым пайшла ў парог, узялася за бярозавы венік ды яшчэ раз падмяла земляны дол, быццам выганяючы ўсё нядобрае, час ад часу паглядваючы ў адталы лапік на акне. Чакала старэйшага сына, асабліва яе радавала тое, што ён ехаў, каб застацца дома, як думалася ёй, назаўсёды, годзе ўжо нагойсаўся па свеце. Атрымлівала яна ягоныя лісты і з Масквы, і з Якуціі, і з нейкага Растова. Ехаў не адзін, пісаў, што ажаніўся. Цікава, якая ў яе нявестка? Ці ўмее прасці, ткаць?..Наогул, што ўмее рабіць?..

Малашка на ўсялякі выпадак прыпнула да будзённай спадніцы чысты фартух, абула пасталы, хоць звычайна ў хаце хадзіла босая. Змалку звыкла тупаць басанож па зямлі, у хаце не было падлогі, такім чынам, яна нават зімой пачувалася вольна, быццам летам.

Яе прадчуванні аказаліся недарэмныя. Пад вечар спыніўся насупраць хаты гняды конік, запрэжаны ў сані. Выбегла яна з хаты насустрач жаданай радасці, пабачыла двух сваіх сыноў, старэйшага Аўдзея ды сярэдняга Паўлюся, побач маладую жанчыну з дзяўчынкаю гадоў пяці, ціха засмяялася ад радасці і разгубленасці, не ведаючы, каго цалаваць ды абдымаць першым. Каб нікога не пакрыўдзіць, абмежавалася толькі тым, што спытала:

— Ці не памерзлі? Ідзіце хутчэй у хату! — і зноў ціха засмяялася, хаваючы за весялосцю трывогу і расчараванне, што сын узяў жанчыну з дзіцем, быццам такому прыгожаму хлопцу дзяўчыны не знайшлося…

Сярэдні сын Паўлюсь між тым апавядаў маці:

— Мы толькі паабедалі, ажно прыбягае Кожучыха і кажа: твой брат прыехаў, у мяне грэюцца з жонкаю і дачкою. Я спачатку не зразумеў: які брат, якая дачка? Тут яна мне і растлумачыла, што Аўдзей вярнуўся. Ад чыгуначнай станцыі іх падвезлі вайскоўцы на машыне. Дык яны і пайшлі ў першую хату, якая трапілася, грэцца, бо малая ледзь шчокі не адмарозіла. Кожучыха спіртам яе адцірала. А мне давялося ў калгасе каня прасіць… Дык вось і прывёз…

— Добра, добра, што прывёз. Куды зараз?

— Паеду назад. Каня ў калгас трэба завесці, старшыня будзе сварыцца. Хоць і хочацца застацца, чарку выпіць за сустрэчу…

— Вып’еш іншым разам. Едзь! Не варта начальства злаваць, яно горай за сабак.

Паўлюсь сеў у сані, развярнуў каня і паехаў. Маці правяла яго позіркам ды паспяшала ў хату, куды ўжо зайшлі яе госці. Нявестка ўсё яшчэ тапталася ў

парозе, хораша апранутая ў гарадское паліто з футраным каўнерыкам, з надта ж вялізнай кваяцістаю шаліноўкаю на галаве, такой ва ўсім сяле ні ў адной бабы няма, аглядала ўбогае жытло з маленькімі акенцамі. У вочы кінулася вядро з вадою пры парозе на лаве, побач маслабойка з заплеснелым хлебным квасам, стол з брудным настольнікам, печ ды запечак з латамі, акрытымі паласатаю посцілкаю.

«Нявестка ўбраная, бы пані,» — толькі і падумала Малаша, а ўголас сказала:

— Распранайцеся ды лезьце на печ грэцца. Як дзіця завуць?

— Ліза, — адказала нявестка.

— Лісавета, значыць. Аўдзейка, складвай апранахі на запечак і дапамажы дзяўчатам на печ ускараскацца, — сказала Малаша, аглядаючы стройную паставу нявесткі ў гожай сукенцы, пашытай неяк вельмі мудрагеліста, і заўважаючы, што ў яе прыкметна выпучваецца жывот.

«Цяжарная, — здагадалася Малаша, — хутка яшчэ нехта на свет з'явіцца. Што Бог дае, тое трэба прымаць, каб не гнявіць яго сваёю няўдзячнасцю.»

Не паспелі госці на печы агледзецца, як у хату пачалі збягацца вяскоўцы, пераважна жанчыны, апранутыя ў шэрыя світкі ці акрытыя вялізнымі хусткамі ў клетку з даматканага сукна. Адразу з парога пыталіся:

— Дзе ваша маладая? Дайце паглядзець!

Стаялі цесным натоўпам, разглядвалі Малашыну нявестку, абмяркоўвалі ўголас.

— Нашто Аўдзей прывёз здалёку сабе бабу, у нас поўная вёска дзяўчат, чырвоных ды гладкіх! А гэтая худая ды рабая! — сказаў камлюкаваты дзяцюк, блізарука жмурачы вочы.

— А сукенка прыгожая! Глядзіце, дзеўкі! — з захапленнем прамовіла бялявая дзяўчына. — Трэба сабе такую пашыць…

— Пашыеш, як хто пакроіць, — азвалася жанчына сталага веку. — Што гэта сукенка хіба нагрэе? Андарак — сапраўды адзежына. А ў такой апранасе і курыцу адмарозіш.

Усе галасна засмяяліся. Калі рогат прыціх, мужчынскі голас грэбліва сказаў:

— Гарадскія не мерзнуць, яны ў майтках ходзяць. Гэта вы па даўняй звычцы голыя азадкі пад андаракамі грэеце!

Натоўп зноў зарагатаў. Аўдзей падаўся бліжэй да печы, каб супакоіць жонку, якая пасылала яму моўчкі запытальныя позіркі.

— Не хвалюйся, у нас так робяць агледзіны. Усім хочацца пабачыць свежага чалавека на свае вочы, — супакоіў яе Аўдзей. — А гэта мой дваюрадны брат Якім, сын цёткі Дамінкі і майго дзядзькі Саўкі, які на вайне загінуў. Я ж табе расказваў, — ён кіўнуў галавою ў бок камлюкаватага хлопца.

Малаша таксама не стала чакаць, калі суседзі канчаткова зганяць яе нявестку, трэба было заткнуць ім раты пачастункам. Яна дастала з печы цёплую таўкеню ў рашцы і дранікі на патэльні, прынесла з каморы салёных гуркоў, квашанай капусты, дзве пляшкі самагонкі, накроіла хлеб, нарэзала сала, запрасіла:

— Сядайце, людкі, пачастуйцеся, чым Бог паслаў! Вып'ем за вяртанне майго сына. Каб яшчэ малодшанькага Кандрата з войска прычакаць, дык мая душа і зусім расцвіла б.

Вяскоўцы ахвотна расселіся за сталом, як ганаровыя госці, абвясцілі першы тост за Аўдзея, дружна выпілі, другі тост — за гаспадыню, што вельмі ўсцешыла Малашу. Пасля трэцяй чаркі ўсе развесяліліся. Зацягнулі нудную

песню, але хутка яна абарвалася, бо жвавая маладзіца выскачыла на сярэдзіну хаты, прытопваючы і размахваючы рукамі заспявала прыпеўку:

Гэта што за яно,
Што вісіць каля ног?
Гэта ж той малаток,
Што наробіць дзяток.

Людзі за сталом зарагаталі, а пявуння і не думала спыняцца, сыпала і сыпала двухсэнсоўныя ды непрыстойныя прыпеўкі. Малаша, бачачы, што паўза зацягнулася, папрасіла Аўдзея, з замілаваннем гледзячы на яго (выліты бацька):

— Налівай, сынку, кілішкі высахлі.

Пасля трэцяй чаркі гаспадыня не ўтрымалася, каб не заспяваць ад радасці. Яна лічыла, што ў яе дужы і прыгожы голас, таму нават надта не напружвалася, а зацягнула тое, што мо найбольш адпавядала яе настрою:

Захацела стара баба
Маладою буці,
Натыкала пад намітку
Зялёнае руты.
Ой, ты мая рута,
Рута зеляная.
Учора была баба стара,
Цяпер маладая.

Так, яна адчувала сябе цяпер маладою і шчаслівую, бо дамоў вярнуўся сын, якога яна не бачыла сем гадоў, трывожылася, калі доўга не атрымлівала лістоў ці сніла благі сон. А цяпер усё гэта засталося ў мінулым. Яе Аўдзей пайшоў з хаты юнаком, а вярнуўся ўзмужнелы малады мужчына, як дзве кроплі падобны на бацьку. Маці не магла нагледзецца на яго, быццам малады нябожчык-муж вярнуўся: той жа голас, тыя ж рухі, усмешка — усё.

Прыезджая маладзіца з дачкою сядзела на печы і трывожна паглядвала на гэтых дзікіх людзей, што бесцырымонна толькі што разглядвалі яе, а зараз глытаюць чарку за чаркаю, бы закідваюць за сябе, ды спяваюць брыдкія прыпеўкі, на бедна абстаўленую хату, дзе нават падлога была земляная, а з мэблі мелася дзве лавы абапал сцен, запечак ды ўслон каля стала. Нявестка была родам з Магілёўшчыны. І там людзі не шыкавалі, бо ў вайну амаль уся вёска згарэла. Іхняй сям'і пашанцавала, хата засталася, але без вокнаў і дзвярэй, без масніц, ды бацька ўсё аднавіў і мэблю гожую парабіў: ложкі, табурэткі, шафу з точанымі ножкамі. Усё тут было не так. Двор без варот, плот паваліўся. У яе вёсцы вароты рабілі высокія на шулах, за такімі не разгледзіш, што ў двары робіцца. А тут усё наросхрыст, нават ніякіх фіранак на вокнах няма, толькі зверху размаляваныя паперыны прымацаваныя. Але, як кажуць, з мілым рай і ў шалашы…

## 2

З самага ранку нявестка завіхалася ля печы, а Малаша задаволена паглядвала на яе, ды думала: «Бач ты, не ўспалася, рана ўстала. Пра сямейку клапоціцца. Ранняя птушка песню спявае, а позняя толькі вочкі прадзірае. Імя нейкае дзіўнае ў яе, не наша, дай божа памяць: Таіся, ці што? Сказала можна называць коратка Тая. Няхай будзе Тая! Каб узяў Аўдзей сабе дзяўчыну са сваёй вёскі, дык хоць карову ў хлеў прывяла б, а гэтая з двума валізкамі прыехала. Хаця чым бы я тых кароў карміла? На адну, мабыць, сена не хопіць.

Што Бог дае, тое мусім прымаць. І малая ўспаролася следам за дарослымі. У дзіцяці вочкі разумненькія. Халера яго бяры, як будзе, так і будзе. Аўдзей вярнуўся — дык ужо радасць. А нявестка няхай таўчэцца ля печы — мне палёгка…»

Малаша зацікаўлена зірнула на дзяўчынку, якая сядзела за сталом і гартала кніжку, побач з ёю на стале ляжала вялізная прыгожая лялька, падумала: «Бач, якую дарагую цацку малой купілі. Мусіць, добра ў горадзе зараблялі. Песцяць цяпер дзяцей змалку. Маімі лялькамі былі авечкі. Як толькі на ногі стала, пачала іх пасвіць, хустку ягняткам завязвала. Гэта і былі мае лялькі.» Малаша падсела да малой, зазірнула ў кніжку з чорна-белымі малюнкамі, спытала:

— Што гэта ў цябе?

— Буквар, — дзяўчынка паказала вокладку.

— Ты мо чытаці ўмееш?

— Трошкі, трошкі…

— Пачытай…

Дзяўчынка, водзячы пальчыкам па старонцы, прамаўляла па складах словы:

— Ма-ма, ра-ма…

— Дык табе ў школе не будзе чаго рабіці, — сказала старая ў знак пахвалы.

Малая нічога не адказала, а працягвала старанна чытаць.

— Мама, дзе соль? — спытала нявестка ў Малашы .

Старая ажно страпянулася ад гэтага ласкавага «мама» і адказала, паказваючы на паліцу:

— Гондэ.

Нявестка дастала слоік з соллю. Яе трохі здзівіла незнаёмае слова, але яна ўжо і ад Аўдзея чула не раз словы з прыстаўным гукам «г», характэрныя для палескага дыялекту, накшталт «гочы», «гуліца», таму зразумела: «гондэ», азначае «вось тут». У яе ўсходнебеларускай вёсцы часцей у якасці прыстаўнога выкарыстоўваўся гук «в», казалі «вунь», «вочы», «вуліца». Думка прамільгнула і знікла, а маладзіца зноў засяродзілася на сваёй кухарскай справе, хацелася дагадзіць свякрусе, пакарміць яе смачна. Таму гатуючы на сняданак салонікі, варыла іх болей, чым трэба было, задумала зрабіць на абед варэнікі з бульбай у дадатак да крышаноў з грыбамі. Хацела яшчэ спячы трохі піражкоў з капустай, усё ж сёння нядзеля, трэба пацешыць родных чым-небудзь смачненькім. Пакуль тапілася ў печы, яна дастала з чамадана белыя паркалёвыя фіраначкі, якія прывезла з сабою, і павесіла на вокны. Нядобра, каб хата прасвечвалася наскрозь, і суседзі бачылі, што тут робіцца. Адразу ў пакоі стала святлей і прыгажэй. Мусіць, таму свякроў не пярэчыла, толькі ўважліва разглядвала карункі, якія ўпрыгожвалі фіранкі ды сказала сыну:

— Добра, што вярнуліся дамоў. А то сноўдаліся б па свеце, бы Каўбасюкі.

— Хто такія Каўбасюкі? — спытала Таіса ў Аўдзея.

— Жылі тут Міхалка з Хадораю, чацвёра сыноў гадавалі, а зямлі не мелі, зараблялі на жыццё тым, што плялі кельні, прадавалі іх ажно ў Косава. А яшчэ на вяселлях гралі на баяне, скрыпцы ды барабане. Каўбасюкамі іх назвалі, таму што сваіх каўбасаў ніколі не мелі, а толькі на вяселлях ласаваліся, за дзве шчакі набівалі. Цяпер нікога з іх не засталося ў Лядах. Бацькі паўміралі. Старэйшы сын загінуў у Брэсцкай крэпасці ў вайну, другі прыстаў у прымы ў суседнюю вёску, трэці некуды з’ехаў, а чацвёрты краў, дык недзе ў турме сядзіць. Я аднойчы высунуў руку з таўкеняю ў акно, глядзь, а яе ўжо

няма: Каўбасюкоў Сымон украў. Прыйдзе на танцы зімою, сваё старое паліто пакіне, а нечае новае надзене і пайшоў, — Аўдзей пасміхнуўся, згадваючы мінулае. — А хата ў іх была дзярном накрытая, у сярэдзіне чорная, закураная, печ без коміна.

Непрыкметна зусім развіднела. Аўдзей падаўся на двор. Маці, прасачыла праз акно, як ён агледзеў пахілы плот, выйшаў на вуліцу, мусіць, параўноўваў свой двор з іншымі. Яна міжвольна залюбавалася сынам. Што і казаць, добрага хлопца выгадавала, да ўсялякае працы здатнага. Яшчэ зусім быў малы, а ўжо вярхом на кані ездзіў. Залезці не здужае, дык да плота каня падвядзе, а стуль ужо ўскараскаецца на спіну жывёліне. З малых гадоў давялося быць яму гаспадаром. Гной вазіў на поле, араў, сеяў, касіў, малаціў, родных і дваюрадных братоў прывучаў да працы. Міжвольна падумала, няхай пабачыць да якога бязладдзя даходзіць хата без гаспадара. Малашы з рукамі, прыгнутымі каўтуном, далёка не ўсё пад сілу. Хоць, безумоўна, слабою сябе не лічыла, панесці на спіне магла б не меней за дужага мужыка, а ў маладосці з канём навыперадкі бегала. Доктар спрабаваў выпрастаць яе рукі, не верыў, што ёсць на свеце такая хвароба — каўтун. А потым выпісаў усё ж нейкіх парашкоў, быццам мог вылечыць хваробу, якую Бог паслаў.

Думкі наплывалі адна за адной. Шчымліва згадала, як кахала яна свайго любага мужа Аўдзея, як упадабала з першага позірку, а ён жа ўзяў яе за зямлю. Можа і не кахаў яе спярша, але пасля заўважала, што раўнаваў, калі яна апранала святочны андарак ды падвязвала беленькі з карункамі фартушок. Старэйшага сына назвала ў ягоны гонар Аўдзеем, хоць кажуць, нельга гэтага рабіць. Адзін з іх не будзе жыць доўга. Так яно і атрымалася. У трыццаць сем гадкоў сканаў Аўдзей-старэйшы ад сухотаў. Пакутліва было глядзець на ягоную нядужасць. Бывала ляжыць Малаша побач з ім на печы, і думае, няхай бы мне палова ягонай хваробы, каб яму было лягчэй. На полі за яго і за сябе спраўлялася. А якое жыццё цяжкае было: дзве сям'і мясціліся ў адной хаціне. Не было, дзе спаць. Аўдзееў брат Саўка меў трое дзяцей, ды сваіх чацвёра, а яшчэ свякруха. Дванаццаць душ у адной халупе! Калі ўсе старэйшыя ішлі на поле, хворы Аўдзей даглядаў малых, карміў і нават пялюшкі мыў. Саўка пачаў будаваць сабе хату, паспеў паставіць зруб яшчэ за польскім часам. Свякруха перайшла да старэйшага сына, бо там было вальней. Сама Малашы і пажыць! Але тут і пачаліся беды. Спачатку памёр Аўдзей, праз год шкарлятына задушыла малодшанькую дачушку Ганначку. І зараз страшна ўспомніць, як задыхалася дзіця на яе вачах, а Малаша нічога не магла зрабіць, нічым дапамагчы. Толькі маліла Бога і туліла да сябе малую. Пад ранне Ганначка аціхла. Гарачае яе цельца пачало астываць. А людзі не маглі адарваць малую ад маці. З тае пары і закляклі яе рукі ў локцях, не разгіналіся, быццам яна да гэтага часу спрабуе ўтрымаць дзіця пры сабе.

Назіраючы за тым, як нявестка завіхаецца ля печы, Малаша прыспешвала яе:

— Годзе, Тая, ўжо таўчыся ля прыпечка. Зачыняй засланку, хутка людзі прыйдуць.

— Якія людзі? — здзівілася Таіса.

— Нашы, — коратка адказала Малаша.

Сапраўды, ледзьве пасля сняданку Таіса паспела прыбраць посуд са стала, як у хату пачалі збірацца людзі: хлопцы, дзяўчаты, вяскоўцы сталага веку. пазаймалі ўсе лавы, услоны і запечак, перакідваліся словамі, лускалі семкі, плявалі проста на падлогу. Стары Кузьма, як толькі ўвайшоў у пакой, адразу заўважыў фіранкі і сказаў:

— Хораша, Малаша, табе нявестка хату ўбрала.

Гаспадыня толькі задаволена ўсміхнулася, дзіва што, ні ў адной вясковай хаце няма гэтакіх панскіх фіранак. Мужчыны гулялі ў карты, курылі, спаборнічалі, выпускаючы дым з рота кольцамі. Стары Кузьма пачаў хваліцца, што займеў золата, і дастаў з кішэні лыжачку з жоўтага металу.

— Гэта медзь, — запярэчыў Антось Самота, — я золата бачыў у Германіі.

— Чыстае золата, — стаяў на сваім Кузьма. — Яно ў цемры будзе блішчаць.

— Давай-тколе праверым, — з запалам сказаў Сеня Голубаў, выхапіў лыжку і палез пад запечак. — Халера яе ведае. Быццам блішчыць, быццам не.

— Трэба на зуб паспрабаваць, — прапанаваў Антось.

Хлопец вылез з-пад запечка, перадаў лыжку Антосю, а той паспрабаваў грызці.

— Мусіць, золота. Бачыш, не ўгрыз. Ніякага знаку… Дзе ты ўзяў?

— Дзе ўзяў, там ужо няма.

— Патрасі добра, мо яшчэ што знойдзеш, каб параўнаць.

— Трэба ў бацюшкі спытаць, — прапанавала Малаша. — Ён, напэўна, умее адрозніць золата ад медзі. Гэта мы нічога, акрамя гною, у жыцці не бачылі. Хоць вось мне нябожчык Аўдзей падараваў срэбны пярсцёнак, дык ведаю, што срэбра белае.

Людзі яшчэ доўга спрачаліся наконт золата, пасля завялі гаворку пра скарбы, маўляў, як бы добра было б разбагацець, ды Антось астудзіў іх:

— Разбагацейце, паспрабуйце, дык паедзеце да белых мядзведзяў, як Леўка з Данілам.

І ўсе прыціхлі на момант, думаючы, што не трэба хваліцца багаццем. Забяруць нават за прозвішча ды павязуць на злом галавы. І не толькі за багацце, патрэсці могуць.

— Але ўспомніце, як было з Аксентым. У яго прозвішча Кулак, нехта не разабраў і запісаў яго ў кулакі, — засмяяўся Антось, паказваючы свае роўненькія белыя зубы. — Прыйшлі маёмасць апісваць, а там — галеча.

— Табе з прозвішчам пашанцавала. Адно слова — Самота. Да цябе не прыйдуць, — адзначыла Адарка Сымонкава, хоць мужык яе загінуў на вайне, яе па-ранейшаму вяскоўцы называлі ягоным найменнем.

— У мяне адно багацце — дзеці.

— Не дзіва, дзвюх жонак маючы, — пасміхнулася ўедлівая маладзіца.

— Не выдумляй, адна ў мяне жонка, Антоля, — слаба бараніўся Антось. — А Маня толькі яе сястра, але ж куды ёй падзецца? Гадую ўсіх…

— Кажуць, што малодшая Маніна дачка ад цябе, — не сунімалася Адарка.

— У вас языкі, як мянташкі, вы што заўгодна скажаце, не пачырванееце. Гэта Маніна справа, колькі і з кім заводзіць дзяцей. Я не поп, каб яна мне спавядалася. Кожны за свае грахі сам будзе адказваць, — ужо злосна адказаў Антось, не жадаючы працягваць непрыемную гаворку.

Малаша, каб зняць напружанне, памяняла тэму гутаркі і спытала:

— Кажуць, Стась Лапіцкі прыехаў, не чулі, мо да Нінкі вярнуўся? Як-ніяк, а там жа дачка падрастае?

Малашына сваячка Дамінка адказала:

— Ага, чакай — вернецца! Кажуць, да Бярынчыкавай дачкі пасватаўся.

Жанчыны спачувальна забожкалі, быццам папярэджваючы прысутных тут дзяўчат, каб не верылі хлопцам. А Малаша ў працяг тэмы завяла прыпеўку:

Я — не Таццяна, я — не Маруся,
Я — не красуня, я не баюся.
Маня-красуня хлопцаў любіла,
За што вы хлопцы Маню набілі?

Людзі зарагаталі. Раптам Вера Клемава высокім і прыгожым голасам, што ажно душы наструніліся ў слухачоў, зацягнула тужлівую песню:

Ой, чыя ж там ніўка,
Чые ж там пакосы?
Чыя ж там дзяўчына
Распусціла кросы?

Дружны хор галасоў падхапіў за ёю:

Косы распусціла,
Галаву схіліла:
Ой, Божа ж мой Божа,
Што я нарабіла?
Казак мае жонку
А я палюбіла….

Малашына нявестка сядзела на печы, прыслухоўвалася да гаворкі і думала: «Дзіўныя людзі, сядзяць і сядзяць цэлы дзень. Ні паабедаць, ні дзе што ў хаце зрабіць. І гаворкі ў іх пустыя. Усё спяваюць і спяваюць. З якое радасці? І самі ж галодныя сядзяць цэлы дзень, ці мо іх частаваць трэба? Не, няхай свякруха сама кіруе. Я іхніх звычаяў не ведаю…»

Між тым і прысутныя раз-пораз кідалі позіркі на печ, прыглядаліся да Аўдзеевай жонкі, якую ён прывёз немаведама скуль. Шмат каму хацелася распытаць, хто яна, ды не спяшалі, зашмат гонару. Да прывазных жонак у вёсцы, асабліва, калі яны з Расіі, ставіліся з недаверам: гэтыя «васточніцы» няздатныя да сялянскай працы. Паглядзіш на каторую — кволая надта. І дзяцей у іх мала бывае, адно-два не болей. З чаго б гэта?

Асабліва пільна прыглядаліся да Малашынай нявесткі жанчыны, каб было пра што папляткарыць з суседкамі і прыяцелькамі. У вёсцы хадзіла паказка, што адзін лядчук пасватаўся да нейкай гарадской дзяўчыны і пачаў хваліцца, які ён багаты, маўляў, ёсць млын, прадзільная машына і ткацкі станок. Падумала дзяўчына, калі трапіўся ёй такі багаты чалавек, дык можна і ў вёсцы жыць у дастатку. Прывёз яе лядчук дамоў, завёў у камору, дзе стаялі жорны і сказаў, што гэта і ёсць млын: бярэшся за вочап і круціш два вялізныя камяні, якія расціраюць зерне на муку. Пасля паставіў перад ёю потась, прывязаў кудзелю, даў у рукі верацяно і сказаў, што гэта і ёсць прадзільная машына. А калі прадзіва набярэцца ўдостаць, дык паставіць у хаце кросны —ткацкі станок так называецца, тады можна будзе ткаць палатно. Зразумела дзяўчына, што трапіла не туды, куды хацела, і атрымала не тое, пра што марыла.

## 3

Малая Ліза з першага дня пацягнулася да Малашы, аказалася, што ў іх шмат агульнага. Абедзве яны любілі хадзіць на вячоркі, грэцца на печы, слухаць казкі і песні, разгадваць загадкі. Старая займела сабе ўдзячнага слухача. Дзяўчынка, як толькі ўбачыла, што жанчыны прадуць, адразу ж папрасіла, каб і ёй зрабілі потась. Чамусьці ў Лядах жанчыны не карысталіся калаўротам, а пралі ўручную з дапамогаю верацёнаў. Малаша таксама прала, хоць у яе балелі рукі. Для Лізы яна знайшла на вышках маленькую потась, якую некалі

змайстраваў для Ганначкі Аўдзей-старэйшы. Ні мужа, ні дачкі даўно няма на свеце. Таму старой, калі яна чула побач Лізіна шчабятанне, пачало здавацца, што гэта Бог паслаў ёй на ўцеху немаведама скуль родную душу замест яе вялікіх страт. Дзяўчо сапраўды было вельмі прыгожанькае, рухавае, хутка пераймала ўсялякую, даступную дзіцяці, справу, нават гаварыць пачало на тутэйшым дыялекце без асаблівых высілкаў.

Як толькі змяркалася, Ліза адразу пачынала тармасіць Малашу:

— Баба, да каго пойдзем на вячоркі?

Старая называла каго з суседак, у якіх сёння меліся сабрацца папрадухі, каб пагаманіць, паспяваць і папрацаваць у ахвоту, кожная знаходзіла сабе занятак па душы: пралі, вышывалі, вязалі на прутках ці шыдэлачкам, як тут называўся кручок. Тыя, што былі прывязаныя да кроснаў, мусілі запрашаць суседак да сябе часцей, бо ад ткацтва не адарвешся. Калі ісці было блізка, дык Малаша не абувалася, перабягала па снезе басаною. Ліза таксама колькі разоў парывалася гэтак жа выбегчы з хаты, але Малаша забараніла, сказала, што ў малой скура надта тонкая, а таму ногі хутка замерзнуць, яна можа захварэць. Выйшлі з хаты. У цёмным небе дзяўчынка ўпершыню ўбачыла поўню з невыразнымі цёмнымі постацямі на ёй:

— Што гэта? — спытала Ліза, паказваючы пальчыкам.

— Не можна ў неба пальцам тыкаць, — строга сказала Малаша. — Туды Бог пасадзіў двух братоў, за тое, што яны біліся між сабою.

— А чаго яны біліся?

— Не ведаю. Людзі могуць знайсці сто прычын для сваркі і бойкі. Хадзі хутчэй, — адказала старая, якая выправілася на вячоркі басаною, нецярпліва пераступала з нагі на нагу, каб не застудзіцца.

Сёння жанкі збіраліся ў Галены Бузюміхі, якая мела хоць і невялікую, але даволі чыстую хатку, з вышараванаю падлогаю. Мянушку сваю яна атрымала ад бацькі, які меў прозвішча Бузюма. Чалавек гэты рана памёр. Спачатку Бузюміхаю называлі ягоную жонку, прыгожую ды ладную Наталю. А пасля таго, як яе расстралялі немцы ў сорак першым годзе разам з іншымі вясковымі актывістамі, мянушка перайшла да старэйшай дачкі. Галенін муж Анісім быў чалавек гаспадарлівы, трохі маладзейшы за жонку, з вайны вярнуўся паранены ў шыю, мусіць, пашкодзіў жылы, дык галаву трымаў, схіленую набок, і ад таго здавалася, што кожнага суразмоўцу ён занадта ўважліва слухае, разумее і спачувае. Пабраўся ён з Бузюміхаю пасля вяртання з фронту, за час сумеснага жыцця паспелі нажыць чатырох дачок. Акрамя таго ў гаспадыні быў свой сын, якога нарадзіла ад чырвонаармейца Волаха, які перад вайною ўсю зіму бегаў да яе на лыжах з суседніх Вайцехаў, дзе ў былым палацы пана Буслоўскага размясціліся чырвонаармейцы. Што і казаць, надта прыгожы быў Волах! Невядома, ці знайшлася б якая дзяўчына ў вёсцы, якая б адмовілася прыручыць такога магутнага ды прыгожага волата. Бузюмішын сын — выліты Волах: стройны, сінявокі, з хвалістымі залацістымі валасамі! Проста паніч, а не сялянскае дзіця. Падлетак — ужо добры памочнік у сям'і. Пашанцавала Бузюмісе замуж выйсці, дзяцей нарадзіць! Паўвёскі ўдоў тут пасля вайны засталося, мала хто з мужчын вярнуўся з фронту. Так думала Малаша, адчыняючы дзверы суседчынай хаты. А там ужо было даволі тлумна. Жанчыны сядзелі на лавах з потасямі, пралі. Дзве старэйшыя Бузюмішыны дачкі за сталом выконвалі хатнія заданні.

— Заходзь, заходзь, цётка, — запрасіў Малашу Анісім, які сядзеў каля прыпечка і плёў лапаць.

Усе лавы былі занятыя. Новыя папрадухі прымасціліся на ўслоне, паставілі потасі, сталі прасці. Ліза мусоліла тоўстую нітку, няўмела накручваючы яе на верацяно, ды ўсё паглядвала на рамку, якая вісела на сцяне, дзе на чорным полі красаваўся букет кветак з белай фольгі. Прыгожая гэта была выява, на яе хацелася глядзець. А яшчэ на запечку ляжалі высокія падушкі з вышытымі яркімі кветкамі. Лізе вельмі хацелася таксама навучыцца вышываць, але яна не ведала, дзе ўзяць каляровых нітак, гораню, як называлі іх у вёсцы.

— Старанная ды працавітая ўнучка ў цябе расце, — сказала Бузюміха Малашы.

— Пахвалім цялятка, як цяліца вырасце, — адказала старая.

— Тваю Паўлінку, цётка Параска, надта прыгожы настаўнік вучыць чытаць, — прамовіла Вера Клемава прыгорбленай старой, — вось думаю, каб мне якога памагатага Бог паслаў. Гэта ж ніколі такога не было, каб дзяўчат грамаце вучылі.

— Дык пасылаў табе, Верачка, Бог упаўнававажанага Пастухова, а ты зганьбіла чалавека, — пасміхнулася старая.

— Ага, той Пастухоў па ўсіх сёлах дзяцей нарабіў, ды, кажуць, за ўдарную працу яго на павышэнне ў Брэст перавялі!

Жанчыны дружна засмяяліся. А Дамінка сказала, душачыся смехам:

— Хіба толькі Пастухоў такі? Нашы мужчыны не далёка адышлі. Маладыя мо і не помняць, як гондэ Настусін Ахрэм яшчэ за польскім часам, не маючы клуні, усё хадзіў, самі ведаеце да каго, каня ставіць, а заадно дачку той бабе зрабіў.

— Ён мужык быў спраўны, — сказала Малаша.

Жанчыны зноў дружна засмяяліся, некаторыя ажно да слёз, смех той стаў падобны на плач. Ім, удовам, горка і шчасна згадвалася мінулае даваеннае жыццё, калі іхнія мужы былі маладыя і здаровыя, але ўсіх іх неміласэрна забрала і знішчыла вайна.

— Годзе вам, Валя і Надзя, пісаць, давайце ўжо казкі чытаць, — сказала старая Параска, якую ў сяле яшчэ называлі Рэчычанкаю, бо была яна родам з вёскі Рэчыца.

Дзяўчынкі для прыліку яшчэ трохі пакорпаліся са сваімі сшыткамі ды падручнікамі, мусіць, толькі і чакалі гэтага загаду. Валя разгарнула вялізную кніжку беларускіх народных казак і пачала чытаць пра Пакацігарошка.

Ліза так заслухалася, што нават прасці перастала. Як жа гэта было цікава і страшна слухаць пра тое, як шматгаловы Змей украў сястру, перасыпаў сцежку саломаю, завабіў у свой хорам яе братоў і забіў. Які пачварны Змей! Гэта яго трэба было Богу змясціць на месяц! Няхай бы ён там жыў і нікога не чапаў, абурана думала малая, губляючы нітку аповеду. Схамянулася яна, калі Пакацігарошак ужо выратаваў сваіх братоў, а яны яго не прызналі ды прывязалі ў лесе да дуба. Цяпер Ліза здагадалася, якіх братоў Бог перанёс на месяц. Яны аказаліся горшыя за Змея, а Пакацігарошак не мог пакараць іх, бо яны былі родныя…

Казка доўжылася, хілілася да шчаслівага канца. Жанчыны таксама слухалі ўважліва. У цішыні гучаў толькі тонкі галасок чытальніцы. Калі апошняя старонка была перагорнута, усе ўздыхнулі з палёгкаю. Добрая была казка.

— Каб так усё ў жыцці хораша канчалася, — сказала Галена Бузюміха.

— Жыццё не казка, — адказала Рэчычанка.

Суседкі з разуменнем заківалі галовамі. А Ліза згадала, што яна таксама бачыла змяю, яшчэ калі жыла ў дзеда. Яе дваюрадны брат Віця з сябрукамі забілі гадзюку, папярэдне выгналі на сярэдзіну вуліцы, колам прышпілілі

да зямлі галаву, а яна ўсё звівалася, білася хвастом аб дарогу. Была гадзюка малая, не такая страшная, як той змей, што ў казцы. Лізе было яе шкада.

Аднойчы, калі цёця Поля жала жыта каля хаты (агарод у дзеда быў вялікі, мала хат засталося пасля вайны, зямлі хапала, а жыта расло вельмі высокае, Ліза баялася ў ім заблудзіцца), дык знайшла сухую змяіную скуру і сказала, што змеі вылузваюцца са старой апраткі і набываюць новую. Вельмі хацелася Лізе паглядзець, як змеі пераапранаюцца, але не ўдалося, хоць яна часта хадзіла каля жыта і ўсё заглядвала паміж сцяблінамі, ці не відно там змяі.

— Хадзем ужо дамоў, папрадуха, — паклікала Малаша Лізу.

Дзяўчынка схамянулася, агледзелася, заўважыла, што цёткі заварушыліся, збіраюцца дамоў, і сама пачала згортваць прадзіва: старанна намотала нітку на верацяно, заткнула яго ў кудзелю, апранула паліто, узяла потась і накіравалася ўслед за бабаю.

## 4

З самага ранку ў хаце панаваў святочны настрой. Ліза гэта зразумела адразу, як толькі прачнулася. Баба Малаша нахвальвала сваю карову, а яшчэ нейкую цялушачку, твар яе свяціўся радасцю, а шыракаваты рот з тонкімі вуснамі міма волі расцягваўся ва ўсмешцы. А потым малой на сняданак далі нечага вельмі смачнага, падобнага на малако. І яна спытала:

— Што гэта?

— Малозіва, наша кароўка ацялілася, — адказала Малаша і зноў радасна заўсміхалася.

Не піла, а смакавала Ліза малозіва. Да гэтага часу самаю смачнаю ежаю яна лічыла манную кашу, якую ёй зрэдку варыла цёця Поля, а яшчэ кукурузныя шматкі, аблітыя варам і трохі прыцярушаныя цукрам. Безумоўна, і цукеркі былі добрым ласункам, але пра іх можна было толькі марыць. Тут, у вёсцы, людзі харчаваліся аднастайна. На стале пераважала бульба. Варылі яе на сняданак вялізны чыгун, таўклі, нешта з'ядалі раніцай, а рэшту таўкені ставілі ў печ, каб ёю можна было паабедаць, а калі застанецца, дык і павячэраць. У сем'ях, якім не пашанцавала займець сала, ці прыберагалі яго да вясны ды лета на пару цяжкай працы, таўклі льняное семя, падсмажвалі і атрымлівалі духмяную і смачную прыправу да бульбы. Спажывалі кіслую капусту, салёныя гуркі, ды сушаныя грыбы, якія тут называлі казлякамі. Мусіць, баравікі яны атаясамлялі з каровай, а ўсе астатнія грыбы, што раслі ў бярэзнічках ды на балоце, параўноўвалі, з козамі. З'яўленне малака было вялікім святам. Тады рацыён значна пашыраўся, на стале з'яўляўся тварог, які называлі сырам, дзе-калі можна было і масла пакаштаваць. Але раскашаваць не даводзілася, бо існавалі падаткі, якія трэба было аддаваць. Казалі, што шматдзетная ўдава Крондзіха пасля таго, як занесла і здала ў раён масла ў хустачцы, ад страшэннай нішчымніцы ўкінула тую хустачку ў крышаны, каб хоць трохі прыправіць пустое варыва.

Малаша загадала нявестцы нікому не казаць, што карова ацялілася, а калі прыйдзе Клемава Ева што прасіць, дык нічога не даваць.

— Чаму? — здзівілася Таіса, ведаючы кампанейскі характар свякрухі.

— Яна ведзьма! Забярэ ў кароўкі малако…

— Няўжо на свеце яшчэ ведзьмы жывуць?

— Жывуць! Не сумнявайся! Людзі бачылі, як яна з трапкача малако даіла… Так і цекла! Так і цекла!

— Клем дзве каровы трымае, таму і малака шмат, — запярэчыла Таіса.

— Ты ведаеш, чаму яна кульгае?

— Не… Адкуль мне ведаць? Мусіць, нага баліць…

— Таму нага баліць, што ператваралася яна ў жабу, прыскакала да Патапа ў хлеў, каб малако ў каровы высмактаць. А той прасачыў ды і адцяў касою пяту… Паглядзі калі летам. Яна ж бяспятая…

— Які жах…

— Клем ніколі свайго масла не есць, бо яно чараваннем здабытае. Затое на гулянках чужым ажно душыцца. Пойдзеш карову ўвечары даіць, выходзь з хлява асцярожна, каб ніхто цябе не бычыў, — папярэдзіла Малаша недасведчаную нявестку, а сама падумала: «Бяда з гэтымі хто з іншых краёў. Нічога не цямяць.»

Увечары, калі Таіса выправілася даіць карову, Малаша пайшла за ёю ўслед, каб прасачыць, ці правільна ўпраўляецца нявестка. І засталася задаволеная ёю, бо маладзіца і вымя ў кароўкі абцерла, і падаіла ўмеючы. Была ў Малашы яшчэ адна патрэба. Яна агледзела сваю паросную свінню, узяла шнурок і пачала, нашэптваючы замову, навязваць вузлы. Нявестка здзіўлена пацікавілася, што яна робіць. Свякроў адказала не адразу, завязала яшчэ колькі вузлоў, а потым патлумачыла:

— Дзякаваць богу, кароўка наша ўдала ацялілася. Хутка і свінні парасіцца. Вось я і замаўляю ды вузлы завязваю, каб столькі парасят было, колькі вузлоў на вяровачцы.

Нявестка толькі плячыма паціснула і адказала:

— Каб гэта толькі ад вузлоў залежала…

— Трэба верыць, верыць Богу і сабе, — нездаволена прабурчала Малаша. — Мусіць, цялятка нанач варта ў хату забраць, каб не замерзла тут.

Нявестка згодна кіўнула галавою. Адказала, што занясе малако, працэдзіць і прыйдзе па цялушачку.

Ах, і шчаслівы дзень выдаўся ў Лізы! Увечары ёй зноў далі напіцца малака, а потым прынеслі цялятка. Яны з бабаю Малашаю доўга не маглі нацешыцца маленькаю кудлатаю рыжаю істотаю, гладзілі яе — радаваліся. Далоні іхнія і вочы вылучалі пяшчоту і былі яны ў гэтай радасці вельмі падобныя адна да адной, як сапраўдныя бабуля і ўнучка.

Жыццё ў Лядах здавалася Лізе вельмі цікавым. Раней яна найчасцей жыла ў дзеда і цёці Полі, а мама працавала ў горадзе і прыязджала наведаць яе толькі па нядзелях. Сваю бабулю Ліза не помніла, была яшчэ вельмі малая, калі яна памерла. Іншы раз дзяўчынцы ўдавалася ўпрасіць маму ўзяць яе з сабою ў горад, але тады яна вымушана была цэлы дзень сядзець адна дома, перабіраць рэчы ў чамадане, гуляць з лялькаю, есці кукурузныя шматкі і ласавацца цукрам, які вісеў у палатнянай торбачцы на цвіку каля дзвярэй. Можна было падысці і пасмактаць ражок торбачкі — у роце рабілася соладка.

Калі мама прыходзіла з працы, толькі тады выпускала Лізу на вуліцу, але казала, каб дзяўчынка з двара нікуды не хадзіла, бо старцы забяруць яе ў мяшок і панясуць. Чым было заняцца ў двары? Хіба грэбціся ў пяску, пячы піражкі, але гаспадар хаты, у якой мама здымала пакойчык, вельмі злаваў, калі заўважаў, што малая псуе ягоны двор. Таму калі-нікалі Ліза ўсё ж адважвалася выйсці за вароты, а там проста праз дарогу быў вялікі парк, пасярод якога стаяла чырвоная трыбуна. Можна было ўскараскацца па прыступках на вялікую пляцоўку, або праз шчыліну залезці пад гэтае збудаванне, збітае з драўляных дошак, і схавацца ад усіх. А найбольш Лізе падабалася назіраць за дзецьмі з дзіцячага садка, якія гулялі за агароджай пад наглядам выхавацелькі. Дзяўчынка вельмі ім зайздросціла. Яны сябруюць, гамоняць, бавяцца рознымі цац-

камі, а Ліза заўсёды адна. Помніла, што некалі даўно-даўно яна таксама гэтак жа гуляла з дзецьмі ў нейкім іншым горадзе, дзе жыла з мамаю. У дзедавай вёсцы равесніц Ліза не мела. Хаты там стаялі далёка адна ад адной. Вёска згарэла ў вайну, людзі загінулі цэлымі сем'ямі. Ацалелыя ці адбудаваныя двары хаваліся ад чужых вачэй за высокімі варотамі ды весніцамі. Гаспадары трымалі сабак. У двары Лізінага дзеда жыла злосная сучка Пальма, якая з дзікім брэхам рвалася з ланцуга да ўсялякага чужога чалавека.

У Лядах было ўсё адкрыта, ніякіх варот і весніц. Нават хаты не замыкаліся, затыкала гаспадыня калочкам прабой, калі куды адлучалася, каб бачылі суседзі, што няма нікога дома. Вокны фіранкамі не завешваліся, людзі жылі навідавоку адзін у аднаго. У кожнай хаце гэтаю лютаўскаю зімою кіпела праца. Дзяўчаты і жанчыны пралі, ткалі, вышывалі, вязалі, шылі. Хто сабе пасаг рыхтаваў, хто імкнуўся сям'ю апрануць, ды запасціся палатном на ўсялякія гаспадарчыя патрэбы, бо на крамнае адзенне дзе ўзяць селяніну грошай гэтаю пасляваеннаю парою, калі зарабіць у калгасе немагчыма? Ліза хутка спасцігла вясковы лад жыцця і ўжо не чакала, калі баба Малаша пакліча яе на вячоркі, а ўдзень сама выпраўлялася хадзіць па хатах. Спярша ішла да бабы Дамінкі. Там пасярод хаты стаялі вялізныя кросны, гаспадыня ткала, а яе дачка-падлетак Алеся навівала цэўкі, Ліза дапамагала ёй і хутка сама навучылася рабіць гэтую няхітрую справу. Потым, калі праца надакучвала, а цэвак было навіта ў запас на цэлы дзень, дзяўчынкі ішлі гуляць на вуліцу. Алеся вазіла Лізу на санках. Вёска стаяла на ўзгорку, які называўся Малашынаю гарою. Тут была найвышэйшая кропка, а дарога зімой ператваралася ў добрую коўзанку для дзяцей. Снег паскрыпваў пад палазамі. Абедзвюм дзяўчынкам было весела і цікава.

Алеся мела двух старэйшых братоў: падслепаватага дзецюка Якіма і шаснаццацігадовага даволі прыгожага Алёшу. Гэтых сваякоў Ліза таксама ўжо добра ведала ў твар, бо яны штодня наведваліся да бабы Малашы. Варта было зайсці ў хату Якіму, як тут жа прыбягала суседская дзяўчына Марыля папрасіць солі ці запалак. Хлопец абшчаперваў дзяўчыну, кідаў на запечак і навальваўся на яе ўсім целам. Палонніца верашчала, астатнія сямейнікі рагаталі, а баба Малаша на правах старэйшай загадвала:

— Не займай дзяўчыну…

Якім адпускаў Марылю. Расчырванелая, прысаромленая і ўспацелая, яна ўставала з запечка, папраўляла хустку, брала соль ці запалкі і знікала. З-за гэтых паводзінаў Ліза не любіла Якіма. І наогул, ёй не падабалася, калі ў нядзелю збіралася ў хату мноства людзей, якія дапазна гулялі ў карты, дымілі цыгаркамі, што адно ёй было месца — на печы з лялькаю. У будні дзень у кожнай чужой хаце Ліза магла знайсці сабе занятак, а ў нядзелю ніхто не працаваў, таму Ліза сядзела дома. Яна бачыла, што і маме не падабаюцца гэтыя зборышчы, а таму яшчэ больш злавалася на гэтых гулякаў. Калі нарэшце ўвечары ўсе разыходзіліся, Ліза прасіла тату, каб ён намаляваў хату з вялізным замком.

— Я ж маляваў табе хату надоечы, — адмаўляўся тата.

— Намалюй яшчэ, — прасіла Ліза. — Падсвядома спадзеючыся, што аднойчы іх сям'я займее свой домік, куды нежаданым гасцям уваход будзе забаронены.

Тата маляваў яшчэ адну хату дакладна такую, якая была на папярэдняй старонцы сшытка. Іншы раз Ліза хадзіла да Лаўрэнкаў, у якіх было шмат дзяцей, але гуляць яна не ўмела, а сядзела ды назірала, як цётка калыша сваіх блізнят у падвешаных калысках. Іншы раз наведвалася да Бузюмішыных меншых дачок, амаль равесніц. І зноў назірала, як яны гуляюць у сям'ю, не

замінала, але і не імкнулася браць на сябе нейкую пэўную ролю ў гульні. Заставалася гледачом у гэтым дзіцячым тэатры жыцця. Найбольш ёй падабалася хадзіць да дарослых дзяўчат, якія ўспрымалі Лізу як малое і неразумнае дзіця, пра нешта яе распытвалі, нешта ёй расказвалі. І не было на свеце больш удзячнага слухача, чым гэтая чужая дзяўчынка немаведама скуль закінутая Богам у глухую палескую вёску.

Падабаліся Лізе Барбарыны дочкі, Люба і Клава, абедзве тоненькія ды ўвішныя. У гаспадыні голас сварлівы, рэзкі, картавы, як карканне вароны, а дзяўчаты маўклівыя і пяшчотныя. Паставілі станок з кута ў кут, робяць аснову для кроснаў. Ліза пры іх, сядзіць ціхенька на ўслончыку, назірае. Ходзіць Люба з кутка ў куток хаты, навівае ніткі на калкі асновы, ажно ў жываце булькае нішчымная зацірка. І ўсім добра. Ніхто нікому не замінае. Здаецца ўсё жыццё праседзела б Ліза з гэтымі маўклівымі дзяўчатамі, ды прыходзіць мама, забірае яе і сварыцца, што яна, як збродлівая кошка, поўзае па чужых хатах. Дзяўчынка не крыўдуе, яна шчаслівая думае, што некалі і сама будзе навіваць аснову і ткаць дзівосныя палотны…

## 5

Даўно ў Малашыным двары не ўладарыла мужчынская рука. Малодшы сын Кандрат служыў у войску ўжо трэці год, сярэдні Паўлюсь жыў асобна, а таму меў удосталь уласных клопатаў. Нарэшце з вяртаннем Аўдзея пачаліся добрыя перамены. Па-першае, ён навазіў альховых дроў, як іх тут называлі каўбасак, за тое што цурубалкі былі тонкія ды чырвоныя. Наогул тутэйшы люд пазбягаў карыстацца гэтаю драўнінаю, з-за колеру, а яшчэ з-за таго, што альха расла па нізінах, называлі такія дровы чортавымі. Але, калі была нявыкрутка, дык ехалі зімою на замерзлае балота і секлі гэтае дабро, каб не мерзнуць у хаце. Па-другое, калі трохі апаў снег, тымі ж акоранымі каўбаскамі ўзяўся сын ладзіць плот, варотцы ды весніцы. На стук ягонага малатка найперш прыбегла суседка Барбара, агледзела работу і з зайздрасцю сказала:

— Добра Малашы, у яе сыны, а ў мяне адны дочкі.

— Дык трэба было табе, цётка, трымацца Грубаса, быў бы і ў цябе гаспадар. Навошта аддала Вакулісе? А яна вунь сабе яшчэ і сына нарадзіла…

— Вой, згадаў леташні снег! — замахала рукамі старая. — На халеру мне той Грубас! Мой мужык быў тутэйшы, дык і з тым нагаравалася, а як бы я з нейкім з чужых мясцін ужылася?

— Людзі розныя і сярод нашых ёсць. Пра Грубаса ў сяле ніхто благога слова не скажа. Прыжыўся…

Барбара не стала пярэчыць, пайшла. Мусіць, не хацелася ёй згадваць пару сваёй маладосці. Не надта прыгожаю ўдалася Барбара, і голас мела скрыпучы, як у сухадрэвіны, да ўсяго яшчэ і картавіла, але ж працаўніца была шчырая. Пасватаўся да яе чалавек, бяздзетны ўдавец з суседніх Маневіч. Скуль было ёй, маладой і наіўнай, ведаць, што ліхадзей ён, сваю жонку раней часу ў магілу загнаў, а як ажаніўся з Барбараю, дык і з яе пачаў вяроўкі віць. Нездарма ж суседзі яго Чортам празвалі. Пэўна, ведалі, што няма ў яго ні жалю, ні сумлення, ні страху перад Богам. Маладзіца трывала, дзве дачкі нарадзіла і думала, што век неяк прабядуе з гэтым злыднем. Ды ён такое ўтварыў, што яна не стрывала, уцякла да маці з дзецьмі. Памёр колішні кавалер ягонай нябожчыцы-жонкі, пахавалі яго побач з яе магілаю. Чорт, як дазнаўся пра гэта, ноччу выкапаў жонку і перахаваў яе ў іншым, дальнім кутку могілак.

Барбары, калі ўяўляла, як ён дакранаўся да прасмердлага трупа, рабілася блага, не магла ні есці, ні жыць, ні класціся ў адну пасцель з гэтым вылюдкам. Хоць і прыязджаў Чорт, прасіў Барбару вярнуцца, яна нават размаўляць з ім не захацела. Мусіць, за яе пакуты паслаў маладзіцы Бог яшчэ аднаго мужыка. Прыстаў да яе высокі і дужы старшына, з тых вайскоўцаў, што адступалі з-пад Брэста ў чэрвені 1941 года. Вяскоўцы адразу празвалі яго Грубасам за магутную паставу і моцны голас. Толькі Барбара, навучаная горкім вопытам першага замужжа, не спяшалася раскрываць душу перад чужым чалавекам. А яе суседка Вакуліха, якая рана аўдавела ды гадавала трох дачок, прывабіла пачастункамі і ласкаю старшыну, і ён перайшоў жыць да яе. Здавалася, не было шчаслівейшае жанчыны ў вёсцы, чым Вакуліха, зацвіла, закрасавала.

Калі немцы пачалі забіраць моладзь у Германію на прымусовую працу, Вакуліха з Грубасам паехала замест дачок. Вярнуліся стуль жывыя, мабыць, каханне ратавала іх на чужыне. Як трохі ачомаліся пасля вайны і абжыліся, дык нарадзіла Вакуліха Грубасу сына, здаровенькага і таўсманага, як бацька, хоць на той час ужо ўнукаў мела. Яшчэ адзін дарунак лёсу…

Аўдзей Барбару недалюбліваў і меў на гэта падставы. Перад тым, як атрымаў ён позву ў войска, у яго моцна балелі вочы. Дайшло ўжо да таго, што нічога не бачыў хлопец, зрэнкі гноем заплылі, сядзеў на прызбе, далёка ад хаты не адыходзіў. Міма шыбавала Барбара і здзекліва сказала:

— Аслеп зусім, хутка маці за руку па сяле будзе вадзіць!

Гэтыя словы так абразілі і абурылі Аўдзея, што ён хвілін колькі сядзеў, быццам агаломшаны, а потым, калі сцяміў, што баба здзекуецца з яго (ці ж ён вінаваты, што хвароба адолела?), кінуўся ўслед, дагнаў яе ўжо каля двара і такого даў грымака ў плечы, што яна паляцела потырч. Маці навучыла яго бараніцца самому, бо не было на каго спадзявацца. Бацьку ён трохі помніў, удзячна згадваў, як ездзіў з ім на кірмаш у Косава. Гэты былі шчаслівыя і цікавыя вандроўкі. А найбольш падабалася, што бацька купляў яму які-небудзь пачастунак. Можа і дарэмна крыўдаваў хлопец на Барбару. Гэта ж яна пракаркала яму пра ягоную хваробу, ад якой трэба пазбаўляцца. Доктар у ваенкамаце даў Аўдзею накіраванне ў раённую бальніцу лячыць вочы, каб потым можна было забраць яго ў войска.

— Мо не лячыся, сынку, а будзь дома? Забяруць цябе за свет, — маркотна сказала Малаша.

— Не, маці, чым быць сляпым, лепш я ў войска пайду, — цвёрда адказаў сын.

За месяц вылечылі Аўдзею вочы ў раённай бальніцы, а малады капітан завёз палешука з іншымі навабранцамі не абы-куды служыць, а ў Маскву. Аўдзей хутка асвоіўся ў вялікім горадзе, навучыўся ездзіць у метро і адчуваў сябе годна і спакойна. Быў ён сярэдняга росту, чарнявы, прывабнай знешнасці, лёгка сышоўся з хлопцамі ў роце, да таго ж з ім служыла даволі шмат землякоў. Захоплены новым жыццём, ён не надта сумаваў па вёсцы, дарэчы, і вяртацца туды не збіраўся. Пасля службы завербаваўся ў Растоў на будоўлю. Папрацаваў, агледзеўся, што на рыштаваннях заробкі малыя, а жыццё галоднае, перайшоў на працу на мясакамбінат. Там не галадаў, яшчэ і сяброў падтрымліваў скваркамі, хоць, вядома, вельмі рызыкаваў, выносячы з камбіната кавалкі свежыны. Шкода было хлопцаў, асабліва аднаго дасціпнага паэта, які не мог нідзе ўладкавацца на працу, сядзеў дома ды ўвесь час расказваў анекдоты ці напяваў смешныя прыпеўкі, накшталт такой:

Была она лакомый кусочек,
Хоть велики её года.
Сзади сыпался песочек,
С носа капала вода...

За сваю дасціпнасць пры Сталіне атрымаў паэт дзесяць гадоў турмы, па амністыі вызваліўся датэрмінова, а ўсё ніяк не мог знайсці сваё месца ў грамадстве. Аўдзей з цікавасцю пераймаў ягоныя песні, меў добрую памяць і прыгожы голас, часам спяваў з ім разам. Хораша атрымлівалася. Нарэшце таму паэту ўдалося вярнуцца дамоў у Ленінград, а сябрам засталіся на памяць ягоныя показкі, прыпеўкі ды песні.

Потым пазнаёміўся Аўдзей з Таісай, пераехаў да яе на радзіму ў невялікі гарадок, пайшоў зноў на будоўлю. Тут быццам усё спачатку добра складвалася, ды раптам у студзені яго і яшчэ дзясяткі два рабочых скарацілі. Застаўся Аўдзей без працы. Кінуўся туды-сюды, нідзе не бяруць, вось і падаўся дамоў, паказаць маці жонку ды падумаць, што рабіць далей. Ісці запісвацца ў калгас не было сэнсу. Там нічога не плацілі. Мужчыны і хлопцы на лета з’язджалі на заробкі ва Украіну, прывозілі адтуль пшаніцу, дзе-нідзе трохі грошай удавалася зарабіць, так і перабіваліся, як кажуць, з пустога ў парожняе. Аўдзей меркаваў, што давядзецца яму збірацца і ехаць разам з вясковым гуртам на заробкі. Заняты гэтымі думкамі, ён з сілаю забіваў цвікі ў плот, што ажно рэха разлягалася, і не заўважыў, як да яго пад’ехаў на санях ды спыніў каня калгасны брыгадзір Конан, якога ў вёсцы называлі Харунжым, з таго часу, калі ён служыў у польскім войску яшчэ недзе ў трыццатыя гады і вучыўся ў школе падхарунжых. Мянушка была не крыўдлівая і цалкам адпавядала асобе Конана, які сапраўды быў сярод вяскоўцаў заўсёды першы, як сцяганосец. Першы знаёміўся з раённым начальствам, частаваў яго, даведваўся пра ўсе навіны і трымаў у кулаку вёску, бо ад яго залежала, хто які пляц атрымае вясною. Сяляне тут спрадвеку былі пераважна малазямельныя. У дварах ставілі іншы раз браты па дзве ці тры хаты, на гарод зямлі не хапала. Пляцы выдзялялі калгаснікам недзе ў полі.

— Што, птушка пералётная, дамоў вярнуўся? Можа ў калгас пойдзеш? — спытаў прывітаўшыся Харунжы, невысокі, хударлявы, з маленькімі, учэпістымі вочкамі.

— Не, дзядзька Конан, пакуль я не гатовы ўлезці ў калгасны хамут.

— Куды дзенешся?

— Свет вялікі…

— Твая праўда, свет вялікі, ды нас нідзе не чакаюць. Як надумаеш, прыходзь…

— Дзякую, але, мусіць, не надумаю.

— Што, паспытаў лёгкага гарадскога хлеба, дык ад сялянскай працы нос вернеш?

— Не такі ён лёгкі гарадскі хлеб… Але ж задарма ў горадзе ніхто не працуе. А ў сяле — падаткі плаці, а за што? Было б з чаго, можна было б і плаціць. Несправядліва гэта…

— Ну-ну, пашукай праўду, калі такі разумны, — пасміхнуўся Конан. — У каго ўлада, у таго і праўда, падпарадкуйся і маўчы. Такая табе мая парада, хлопча…

Харунжы сцебануў каня і паехаў. Аўдзей з пагардай правёў яго позіркам і міжвольна падумаў, што гэты стары хмыр сам ніколі па праўдзе не жыў. У вёсцы казалі, што Конанаў бацька яшчэ пры цары ездзіў у Амерыку на заробкі і прывёз грошы, якія хаваў недзе на вышках. Харунжы ажаніўся і жыў з баць-

камі, але марыў займець уласную сядзібу. Перад тым, як прыйшлі саветы, пан Буслоўскі пачаў прадаваць зямлю. Тады высякалі і некуды вывезлі лес, які падступаў да самай вёскі з захаду. Конан украў бацькавы грошы і купіў сабе ладны кавалак зямлі ў гайку, дзе жыў панскі аканом Кубіцель. У хуткім часе паставіў там ладную хату. Зайздросцілі яму вяскоўцы: гэта ж займеў чалавек пры хаце агарод, а побач шырокі поплаў ды лес. Суседзяў побач ніякіх. Воля табе! Трымай плойму свойскага птаства! Карову нават у статак ганяць не трэба, пры хаце пасецца. Усё побач, усё на вачах!

Конанаў бацька здагадаўся, хто ўкраў ягоныя грошы, падаў на сына ў суд. Але даказаць віну Харунжага не ўдалося, сведкаў не было. Конан пакляўся на Бібліі, што бацькавых грошай не браў. А другі раз Харунжы, паклаўшы руку на Біблію, сведчыў, што яго сябра Макар Гімола, які забіў вясковага хлопца, невінаваты. Кожную вясну ў разводдзе лядчукі ставілі запруды ў канцы сваіх пляцаў ля возера. Разам з вадою прыходзіла туды рыба. А калі паводка спадала, збіралі рыбу, якая боўталася ў мулі.

Казалі, быццам Макар заспеў суседскага дзецюка, калі той збіраў ягоную рыбу, выцяў па галаве калком ды і абязвечыў. Знайшлі хлопца мёртвым каля Макаравай запруды. Ніхто нічога не бачыў, падазрэнні ўпалі на гаспадара. Харунжы выратаваў сябра, пакляўся, што ў тую ноч быў разам з Макарам, ён ні ў чым не вінаваты, нікога не забіваў, але ж за хлусню дорага заплаціў. Адзінаццаць дзяцей нарадзіла яму жонка. Трое першых памерлі. Тры наступныя дачкі аказаліся калекамі, пакручаныя былі ў іх пальцы на руках, бы карані старога дрэва. Толькі пяцёра астатніх дзяцей аказаліся здаровыя і раслі на радасць бацьку.

Аўдзей быў перакананы, што на няпраўдзе шчасце сабе не здабудзеш. Трэба жыць сваім розумам: Конан яму не ўказчык. Бач, які стаў адданы саветам, а спярша бунтаваў супраць іх. Помнілася, як пасля вайны прыехалі ў вёску з райцэнтра першыя ўпаўнаважаныя, каб стварыць калгас, заначавалі ў Якуба, дык нехта падпёр дзверы і падпаліў хату. Ветраная тая была ноч, трынаццаць хат занялося і згарэла ў вёсцы. Людзі казалі між сабою, што такое маглі ўчыніць толькі Конан з Макарам. Якубава сям’я разам з упаўнаважанымі з дымам узнялася на неба, прыязджала міліцыя, але вінаватых так і не знайшла. Калі калгас усё ж стварылі, Харунжы актыўна падтрамаў новы лад жыцця, падлізваўся да начальства, выбіўся ў брыгадзіры. І вось ён у літаральным сэнсе зноў на кані. Аўдзею ж даводзіцца саматужна вазіць дровы на санках, якія ён здабыў у пачатку вайны: адступаючы пакінулі чырвонаармейцы. Тады ён з маці па пяску валок тыя жалезныя санкі дахаты з Вайцехаў. А яшчэ знайшоў штук шэсць салдацкіх шапак з чырвонымі зоркамі. Якраз хапіла па дзве на кожнага з братоў. Калі прыйшлі немцы, давялося зоркі паадпорваці і чубы паадразаць, але ўсё роўна тыя шапкі добра ім паслужылі.

## 6

Стары пацук ноччу баляваў у Малашынай каморы. Гаспадыня яшчэ з вечара, калі налівала брагу з бочкі ў вялізны чыгун, распырскала гэты, як здавалася пацуку, найсмачнейшы на свеце і п’янкі напой. Ён вылізаў усю падлогу, адчуў насалоду і незразумелую весялосць. Цяпер можна было б зашыцца ў нару і адсвяткаваць бражны дзень, не дбаючы пра ежу. Але дарожка з пралітых кропель цягнулася праз сенцы ў пакой і пацуку карцела яшчэ і яшчэ лізаць гэтую п’янкую слодыч, напаўняць страўнік цёплай энергіяй, якая разлівалася па ўсім целе, расслабляла кожную мышцу, што нават хада ягоная стала

няўпэўненая, а хвост зрабіўся быццам чужы і ніяк не жадаў падпарадкавацца гаспадару.

Дзверы ў камору заставаліся прыадчыненыя. Пацук выслізнуў праз іх, нюхаў вусатаю пысаю падлогу і сквапна злізваў разлітыя кроплі. Мусіць, у ягонай галаве, калі дапусціць, што пацукі могуць думаць, у гэты момант жыла адна думка: напіцца, налізацца брагі дасхочу, каб ужо і сілы не было ні есці, ні варушыцца. Зрэшты, тое самае адчувае п'яніца, калі трапляе на вялікую гулянку, дзе ніхто не сочыць, колькі ты выпіў, а таму можна набрацца пітва да непрытомнасці.

З пакоя сыходзіў такі неверагодна моцны пах брагі, што пацук ледзь не самлеў пад парогам у цемры сяней. Дзверы адчыніліся, нехта ў цемры пераступіў праз грызуна і пайшоў на вуліцу, а няпрошаны госць прыпаў да шчылінкі, нюхаў і не мог наталіцца жаданым водарам. Калі дзверы зноў адчыніліся, пацук ускочыў праз парог у пакой, цьмяна асветлены лучынаю, агледзеўся, убачыў каля печы стол, на якім ўзвышалася вялізнае карыта, згледзеў старую і маладога мужчыну, што моўчкі снаўдаліся па пакоі.

Пацук сігануў у вілашнік, потым убачыў пляму пралітай брагі каля печы, пасунуўся туды, злізаў усё да кроплі. Ад цяпла і бражнага паху ў хаце адчуў неймаверную млявасць ва ўсім целе, неадольна захацелася спаць. Ён слізгануў за рог міма падпечча, з цяжкасцю ўскочыў на ляжанку, зашыўся ў нейкае рыззё і заснуў так соладка, як не спаў ніколі. Гэта быў сон шчаслівага і ўсім задаволенага пацука, які дасягнуў найвышэйшай асалоды, спасціг яе кожнаю клетачкаю цела і цяпер, калі прачнецца, да канца жыцця будзе згадваць гэтыя незабыўныя хвіліны і спадзявацца, што яны некалі паўторацца зноў.

Малаша з Аўдзеем усю ноч гналі самагонку, якая па тонкай ільняной нітцы кропелька за кропелькаю капала ў пляшку, напаўняла яе мутнаватай вадкасцю. Сын насіў снег з вуліцы, сыпаў яго ў карыта для ахаладжэння змеевіка. Гнаць самагонку зімой было вельмі зручна. Не трэба было насіць ваду з агульнага калодзежа, які стаяў за тры хаты на другім баку вуліцы. З напоўненай пляшкі Аўдзей лінуў трохі гарэлкі на стол, чыркнуў запалкаю — вадкасць успыхнула сінім полымем, пабегла да краю стала, пакуль не выгарала і не згасла.

— Пяршак! — задаволена сказаў Аўдзей, глытнуў з пляшкі і ажно крэкнуў ад нечаканасці, што занадта моцным аказалася пітво.

— Пакаштаваў і годзе, — спыніла сына Малаша. — Наліжашся раней часу, дык і справу не давядзеш да канца.

Да світання паспела гаспадыня з Аўдзеем перагнаць усю брагу, разабраць і схаваць самагонны апарат у камору, дзе бутэлькі з гарэлкаю таксама занялі сваё таемнае месца. Засталося ўпарадкаваць прыпечак, памыць чыгуны, памыі занесці свінні, няхай і яна паласуецца. Тут ужо за справу ўзялася Таіса, хутка і спрытна падмяла земляную падлогу, паставіла посуд на месца, усё лішняе вынесла ў сенцы і там ужо гаспадарыла на свой лад. Стомлены і сп'янелы Аўдзей, які нанюхаўся і накаштаваўся самагонкі, заваліўся спаць на запечак. Малаша, таксама зморaная дарэшты, прылегла на ляжанцы.

Таіса падаіла карову, працадзіла малако, пакарміла свінню, растапіла печ, пачала варыць сняданак і абед. Усе спалі, і ёй было добра адной рабіць адвечную жаночую справу без прыдзірлівага нагляду свекрыві і думаць пра цяперашняе ўласнае існаванне. Яна ўважліва прыглядалася да тутэйшых людзей і іхняга жыцця. Заробкаў не было ніякіх, у калгасе зімой працы таксама няма, каб хоць чым заняць людзей. Мужчыны і хлопцы збіраліся ў гурты, гулялі ў карты, жлукцілі самагонку. Ужо і яе Аўдзей, які раней ад кухля піва п'янеў, прывыкаў піць гарэлку, а сп'янелы рабіўся гняўлівы і жорсткі. Трэба было

нешта думаць, нешта мяняць у жыцці, але пакуль не магла яна зрушыцца з месца, бо пад грудзьмі варушылася дзіця, якое неўзабаве павінна было з'явіцца на свет, і дзеля гэтага трэба забыцца на ўсе свае мітрэнгі: малое павінна нарадзіцца здаровенькае. Ёй вельмі хацелася падараваць мужу сына.

Зварыліся салонікі на сняданак, капуста і боб на абед. Свякроў спала, Аўдзей хроп на ўсю хату. Нават Ліза, мусіць, нанюхалася за ноч бражнага паху, заспалася сёння, як ніколі. Маючы вольную хвіліну, Таіса села пісаць ліст сястры і бацьку, не надта скардзілася, але і пахваліцца не было чым. Апавядала яна пра дзіўныя звычаі тутэйшага люду, кожны з якіх нешта чаруе, каб пладзілася скацінка ды вялася гаспадарка, пісала пра іхнюю забітасць.

Малаша паварушылася на прыпечку, прамармытала нешта незразумелае, нездавалена памацала пад бокам, адчула штось жывое, адгарнула рыззё і ўбачыла пацука. Пачуццё агіды і гневу ўспыхнула ў вачах старой! У адно імгненне спакойная старая ператварылася ў страшную Маланку. Яна схапіла за хвост соннага пацука, які прыгрэўся каля яе бока, стукнула тры разы аб земляную падлогу і, толькі калі ўбачыла на ягонай пысе кроў, басанож вынесла і выкінула грызуна на сметнік. Таіса сцялася ад жудасці. Усё здарылася імгненна, яна нават ускрыкнуць не паспела.

— Трасца яго матары! І скуль ён узяўся? — абурана прамовіла свякроў, уваходзячы ў хату і выціраючы рукі ручнікам, мусіць, памыла іх на дварэ снегам.

— Я ледзь са страху не памерла, — прызналася Таіса.

— Няма чаго гэтай поскудзі баяцца.

— Можа, мама, снедаць будзеш? Дык усё гатова…

— Пачакаем Аўдзея, няхай прачынаецца, дык разам і паснедаем.

Сын не прымусіў сябе доўга чакаць, прачнуўся ад галасоў жонкі і маці, раскатурхалася нарэшце і Ліза. Сям'я села снедаць: Аўдзей на чырвоным куце, Малаша на ўслоне, побач з ёю Ліза. А Таіса села на другім канцы стала насупраць мужа. Елі сопкую бульбу з капустаю. Лізе далі шклянку малака. Бо есці капусту яна не магла. У дзяўчынкі хістаўся і балеў малочны зуб.

— Патрывай, вылечу твой зуб, — паабяцала баба Малаша малой, і тая ўзрадавана ўсміхнулася ў адказ.

Пакуль Таіса прыбірала са стала і мыла посуд, старая ўзяла моцную льняную нітку, паклікала да сябе Лізу і сказала:

— Хадзі, вырвем твой зуб…

— Рваць не хачу, мне будзе балець, — заўпарцілася дзяўчынка. — І як я буду без зуба?

— Не бойся, мы пачаруем, і ў цябе новы зуб вырасце, яшчэ прыгажэйшы… Сядай, разяўляй рот і трымайся мацней. Ліза паслухмяна падставіла малочны зуб пад пятлю з ніткі, але Малаша не паспела яшчэ як след тузануць, як малая сашчапіла зубы.

— Якая ты баязлівая! На вячоркі сёння не пойдзем…

Дзяўчынка не магла ахвяраваць вячоркамі, яна прыадкрыла рот, Малаша тузанула за нітку — зуб вылецеў з Лізінага рота і павіс на нітцы. Малая схапілася за шчаку ад болю, на вочы нагарнуліся слёзы.

— Вось знайшла па чым плакаць. Гондэ мы яго закінем за печ. На табе, мышка, зуб касцяны, а дай Лізе залаты, — сказала старая і шпурнула зуб за печ.

Пасля сняданку Аўдзей у хаце не затрымаўся, узяў пляшку самагонкі і сказаў, што пойдзе да хлопцаў. Гэтыя яго паходы Таісе не падабаліся, але яна трывала. На вуліцы зіма, усяго мужчынскае працы ў двары, што дроў

насекчы ды жыта намалоць раз на тыдзень на хлеб. Гэта ён зрабіў яшчэ пазаўчора. Трэба ж нечым мужыку займацца, няхай пабудзе сярод людзей. Малаша пайшла да Дамінкі па нейкай сваёй справе, а Таіса села дапісваць распачаты ліст. Яна расказала пра сённяшнюю ноч, якою ўсе былі занятыя, ды і яна не спала, а толькі драмала, назіраючы, як свякроў з Аўдзеем завіхаюцца каля свайго самагоннага апарата, пра пацука, якога Малаша забіла без ваганняў і страху.

Свякруха прыбегла з вуліцы босая, церла адна аб адну замерзлыя ногі, саграваючы іх, падсела да стала і спытала ў Таісы:

— Што пішаша?

— Ліст дадому, — адказала нявестка.

— Дык пачытай, — папрасіла Малаша, сама яна была непісьменная, але вельмі ж хацела дазнацца, што ж там нявестка напісала пра сваю свякроўку, ці пахваліла, ці зганіла.

Таіса здзіўлена зірнула на старую і адказала:

— Нядобра чытаць чужыя лісты.

— Хіба ж мы чужыя? — абурылася Малаша, калі пачула адмову.

— Хоць мы і не чужыя, але абыдземся без рэвізораў…

— Як ты сказала? Левізораў… — паспрабавала Малаша паўтарыць за нявесткаю незразумелае слова.

— Без правяральшчыкаў, — удакладніла нявестка.

У гэты час у хату ўвайшла суседка, Сымонкава Адарка, спытала з парога:

— Як маецеся?

— Гондэ напісала нешта бацькові, а прачытаць не хоча. Левізорам мяне назвала.

Таіса моўчкі, дэманстратыўна заклеіла канверт, апранула сваё прыгожае гарадское паліто шэра-блакітнага колеру з каракулевым чорным каўнерыкам, завязала квяцістую шаліноўку, апранула дачку, і падалася з ёю да паштаркі.

Свякроў і суседка правялі маладзіцу нядобрымі позіркамі.

— Ты, Малаша, не папускайся, бо нявестка табе на карак сядзе ды будзе паганяць.

— Выбрыкнула б яна ў маёй свякроўкі, дык зазнала б па чым фунт ліха, — адказала гаспадыня. — Бывала сядзем за стол, а старая возьме і шпурне маю лыжку ў парог. Я пайду падыму, абатру лыжку і зноў іду да стала. Ні слова супраць не скажу…

— Не той цяпер свет... Раней кожны трымаўся радні, а цяпер разбэсціліся…

Малаша толькі згодна ківала галавою, падтаквала, а сама тым часам думала: «І цябе, Адарка, гэты свет разбэсціў, інакш, як жа ты магла прыдбаць сабе байстручка ад упаўнаважанага Пастухова? Я ўжо колькі гадоў жыву ўдавою, а ў блуд не кінулася, захоўваю вернасць мужу. Прыгожы быў мой Аўдзей, не ў прыклад свайму брату даўганосаму ды хітраму Саўку…»

— Я за ўсё жыццё ні разу не запярэчыла ні Сымонку, царства яму нябеснае, ні ягонай радні. Каб яго вайна не забрала, ды вярнуўся ён, дык мо не было б шчаслівейшай пары на свеце, — мройліва прамовіла Адарка.

— Пэўна, што так… Але ж усё ў руках Бога, — адказала гаспадыня, а сама падумала, каб быў жывы Аўдзей, дык і яна красавала б, як ружа, і была б найшчаслівейшаю ў Лядах, але нічога нельга змяніць і паправіць, а трэба трываць тое, што лёс пасылае.

## 7

Непрыкметна пад вясновым цяплом сплыў зіхоткімі ручаінкамі снег, толькі пад плотам яшчэ ляжала апошняя ўчарнелая гурба, якая ўпарта не хацела раставаць. Малаша прайшлася басанож па двары, з прыемнасцю адчуваючы халодную вільгаць зямлі, і сказала Лізе, якая тупала ўслед за ёю:

— Сёння будзем праганяць зіму.

— А дзе яна? — здзівілася дзяўчынка.

— Скрозь… Бачыш гэты снег? Яна тут і на вуліцы…

— А калі пойдзем?

— Пад вечар…

Ліза з нецярплівасцю чакала канца дня і ўсё ўяўляла, якая тая зіма, як яна будзе ўцякаць, калі яе пагоняць. Хаця дзяўчынцы трохі было шкада мінулай пары, зімою было цікава. Алеся вазіла яе на санках. А яшчэ можна было хадзіць на вячоркі да суседзяў, разглядваць абразы, слухаць казкі, песні, розныя страшныя гісторыі, а цяпер гэта ўсё скончылася. Людзі заняліся вясновымі справамі, без патрэбы ім зіма.

Надвячоркам Малаша ўзяла кій, якім звычайна заганяла ў хлеў карову, нейкі дубчык знайшоўся і для Лізы. Разам яны падаліся ў сярэдзіну вёскі, дзе ўжо сабраўся ладны гурт людзей, пераважна моладзь. Вяскоўцы раздзяліліся на дзве раты і пайшлі ў процілеглыя канцы вёскі, стукаючы кіямі па платах і дружна выкрыкваючы:

Ідзі, зіма, да Кіева,
Бо ты ўжо нам наківала
Ідзі зіма да Кракава,
Бо ты ўжо нам накракала.

Ад стуку па вёсцы разносілася звонкае рэха, якое ўпершыню пачула Ліза. Яна не здагадвалася нават, што пустая прастора можа паўтараць гук, нібы пераклікацца з людзьмі. Адкуль ён далятае, хто яго носьбіт? Здавалася, што само неба нешта хоча сказаць людзям. А можа, зіма дражніцца, не хоча адыходзіць і нагадвае: «Яшчэ я тут! Яшчэ я тут!» Дзяўчынка нават адстала ад гурту, прыслухоўваючыся да дзіўных зыкаў, сама стукнула дубцом па плоце і таксама пачула лёгкі водгук. А над вёскаю зноў і зноў луналі зладжаныя моцныя галасы:

Ідзі, зіма да Кіева,
Бо ты ўжо нам наківала…

Звонка стукалі па платах кіі, і на кожны гук нехта невядомы і таемны падаваў з вышыні голас. «Можа, гэта Бог, якому маліліся мы штовечар з цёцяю Поляю?» — падумала дзяўчынка, успомніла дзедаву хату з двух пакояў з драўлянаю жоўценькаю падлогаю, вялікую печ, дзе яна любіла гартаць падручнікі дваюраднага брата Віці, сына цёці Полі. Яна дагнала Малашу, патузала за рукаў і спытала:

— Баба, што гэта?

— Дзе? — не зразумала старая.

— Што гэта стукае?

— А ты ніколі не чула? Гэта рэха…

— А што такое рэха? Дзе яно?

Старая з дзяўчынкаю трохі адсталі ад гарластага гурту, і баба сказала:

— Рэха жыве ў лесе. Калі ты хочаш яго пабачыць, дык ідзі ў лес і пакрычы. Рэха будзе ўвесь час адгукацца, а ты ідзі проста на ягоны голас, пакуль не

ўбачыш старэнькага дзядка. Гэта і будзе Рэха. Ён спытае цябе, чаго ты прыйшла. Што ты яму адкажаш?

— Не ведаю…

— А трэба ведаць. Нікога нельга турбаваць без асаблівай патрэбы. Зрэшты, можаш нічога не казаць. Яму варта зірнуць у вочы чалавеку, і ён адразу ўсё зразумее, хто і чаго да яго прыйшоў. Калі чалавек добры, дык Рэха выведзе яго з лесу, можа, і падарунак які дасць, а калі кепскі — дык пакіне сабе слугаваць ды перавыхоўваць.

Ліза раптам зразумела, чаму яна, жывучы ў дзеда, ніколі не чула рэха, бо там лес быў вельмі далёка, яго нават не было відаць. Скрозь былі палі, не тое, што ў Лядах, лес стаяў недалёка за вёскаю. І яна спытала:

— А хто ў полі жыве?

— Палявік, — з усмешкаю адказала Малаша.

— А ён што робіць?

— Сочыць, каб на полі быў лад. Калі гаспадыня абы-як збярэ ўраджай, дык палявік прыйдзе, забярэ рэшту збожжа ці бульбы з поля і занясе да дбайных гаспадароў. А тое поле зробіць няплодным. Глядзі, як мы адсталі ад гурту, — спахапілася старая, — пайшлі даганяць.

Ліза заўважыла нечыя вялізныя сляды на зямлі і пачала ступаць па іх.

— Не ўступай у чужыя сляды, набярэшся чужой бяды, — сказала старая і зноў пачала стукаць па плоце і выкрыкваць у лад з іншымі людзьмі:

Ідзі, зіма, да Кіева,
Бо ты ўжа нам наківала…

Ліза таксама малаціла дубцом па штыкетніку і паўтарала ўслед за бабай замову. Зіму прагналі далёка за вёску і задаволеныя вярнуліся дамоў.

На другі дзень раніца выдалася па-сапраўднаму сонечная і вясновая. І зноў здарылася вясёлая прыгода: у Ляды прыехаў фатограф. На хаце старога Кузьмы павесілі посцілку, на якой быў намаляваны куточак парку з дарожкаю, павернутаю ўлева. Дзяўчаты прыхарошваліся перад люстэркам. У гэтым гаманкім і вясёлым гурце апынуліся Малаша, Ліза і Алеся. Сёння Лізіны мама і тата пайшлі да нейкага татавага сябра Лапіцка на вяселле ў Малыя Ляды. Гэтая вёсачка была сапраўды малая, забудоўвацца пачала нядаўна, але туды Ліза яшчэ ніводнага разу не хадзіла.

Узбуджаныя дзяўчаты па адной бегалі фатаграфавацца, нарэшце дайшла чарга да Малашы. Яна папрасіла, каб ёй роўненька паставілі чубок хусткі, бо сама не магла дацягнуцца рукамі, пакручанымі каўтуном. Яе просьбу выканалі. І вось ужо стаяць перад фатографам новыя мадэлі: старая ў шэрым мужчынскім каптане, што дастаўся ёй ці не ад мужа, у белым вышытым фартушку, прыпнутым паверх паласатага андарака і па-гарадскому апранутая дзяўчынка ў зялёным каптурыку на галаве, з-пад якога выбіваюцца кучаравыя светлыя кудзеркі, у зялёным паліто з палярынкаю, аблямаванаю чорным аксамітам і ў зашнураваных чорных чаравічках. Адно імгненне — і справа зроблена. Алеся знялася сама. Яна сарамліва паглядвала на фатографа з-пад ілба, таму ён вымушаны быў падысці і прыпадняць за падбародак яе галаву, ад чаго дзяўчынка засаромелася і пачырванела.

Потым Малаша, Ліза і Алеся доўга назіралі, як фатаграфаваліся іншыя вяскоўцы, дамоў пайшлі толькі пасля таго, калі майстар сфатаграфаваў усіх жадаючых, згарнуў сваю размаляваную посцілку і паабяцаў неўзабаве прывезці фотаздымкі.

Паступова насунуўся вечар. Баба Малаша вячэру не варыла, ужо ў паўзмроку дастала з печы капусту, якая засталася ад абеду, наліла ў міску і ўтрох яны пасёрбалі тое варыва.

На дварэ было ўжо зусім цёмна, трэба было класціся спаць, але мама і тата ўсё не вярталіся з вяселля, таму Ліза спытала:

— Баба, калі мама вернецца?

— Халера яе ведае, — адказала старая абыякава.

Ліза, перакананая, што ў Лядах можна хадзіць скрозь, прапанавала:

— Давайце і мы пойдзем на вяселле.

— Нас туды не клікалі, — прамовіла Малаша.

— Я хачу да мамы, — запатрабавала малая.

— Ідзі, хто цябе трымае. На вуліцы ноч, мо цябе ваўкі з'ядуць.

Пра тое, што ваўкі жывуць у Лядах, Ліза не ведала ды і не вельмі іх баялася. Яны ёй уяўляліся падобнымі да сабак, якіх бачыла на малюнку. У дзеда таксама была рыжая сучка Пальма, з якою дзяўчынка сябравала яшчэ з таго часу, калі была ростам меншая за сабаку. Раней яе заўсёды палохалі толькі старцамі, якія забіраюць непаслухмяных дзяцей. Іх яна сапраўды баялася, бо добра ўяўляла, як непрыемна апынуцца ў брудным мяшку. Чамусьці ў тым канцы, дзе жыла баба Малаша, людзі не трымалі сабак. Не было чаго ахоўваць. Занадта бедны тут люд сабраўся. І дзяўчынка адказала:

— Тут і сабак няма. Скуль жа ваўкі возьмуцца?

— З лесу… Яны тым і карыстаюцца, што сабак няма, ды забіраюць непаслухмяных дзяцей, — сказала баба.

Ліза была перакананая, што яна паслухмяная і некапрызлівая, але цяпер ёй трэба было пабачыць маму, каб упэўніцца, што ўсё добра, усе дома, і можна класціся спаць. Раней, калі яна жыла ў дзеда, яны ўсе разам, цёця Поля, яе сын Віця і Ліза, слаліся на печы. Клалі ватоўкі і падушкі пад галовы, накрываліся посцілкамі. Цяпер яна спала з бабаю Малашаю на печы. Пасцель стуль не прыбіралася, таму і слацца не трэба было.

— Хачу да мамы, — зноў запатрабавала дзяўчынка.

— Нагуляецца твая мама, дый сама прыйдзе, — адказала Малаша.

— Завязіце мяне да мамы, — скрозь слёзы папрасіла малая.

Ні Алеся, ні баба не звярталі на яе ўвагі. Тады Ліза заплакала ўголас.

— Чаго равеш, як цялушка? — спытала Малаша і перадражніла. — А-а-а…

Ліза заплакала мацней, і тады ўжо і Алеся высалапіла язык і зараўла, перадражньваючы малую. Гэта была тая самая Алеся, якая яшчэ нядаўна вазіла Лізу на санках, разам з ёю размотвала клубкі, навівала цэўкі. Дзяўчынка ажно знямела, гледзячы на Малашу і Алесю, як яны дражняць яе, а потым заплакала на ўсю моц, калі зразумела, што тут ёй ніхто не спачувае, баба Малаша чужая і Алеся — таксама. Яны сядзяць насупраць і здзекуюцца з яе.

Раней, калі яшчэ Ліза жыла ў цёці Полі, і часам плакала ці скардзілася на нешта, ёй стараліся адразу дапамагчы. Цёця шкадавала яе, дзьмухала на выцяты палец, калі малая скардзілася, што баліць жывот, адразу несла да доктара ў суседнюю вёску. Ад адчаю Ліза заплакала яшчэ мацней, размазваючы слёзы па твары.

— Не люблю! Не люблю вас!.. — крыкнула яна, саскочыла з лавы і прыгорблена, бы прыціснутая горам бабулька, пайшла да печы, залезла на яе, усхліпваючы, умасцілася на рыззі і аціхла.

Ліза згадала іншы выпадак. З мамай і татам яны гулялі па горадзе, а потым у яе забалелі ногі, яна стала прасіцца на рукі, а тата сказаў, што яна ўжо вялікая і няхай ідзе сама. Дзяўчынка стамілася і села проста на тратуар. Тата раззлаваўся

і злосна сказаў маме, маўляў, няхай пасядзіць, потым сама дагоніць. Аднак мама ўзяла ўсё ж дачку на рукі і трохі паднесла. Лізе стала добра ад матчынай ласкі. І тады яна падумала, што гэта чужы тата, яе родны гэтак не казаў бы. Свайго тату яна помніла мала, ён некуды паехаў і не вяртаўся. Толькі на сцяне вісеў партрэт, дзе ён быў сфатаграфаны з мамаю, яны сядзелі побач, іхнія галовы хінуліся адна да адной. Потым з'явіўся новы тата. Аднойчы ён зняў рамку, разрэзаў партрэт, адрэзаў Лізінага тату і закапаў за гародам над Дняпром. Ліза пачала згадваць дзедаву хату, цёцю Полю, Віцю, старую дзічку і падумала, што некалі яна туды паедзе і будзе заўсёды там жыць. Ніхто яе не будзе абражаць і дражніць. Яна будзе стаяць на гары, глядзець на шырокую і прыгожую раку. А потым па вузкай сцежцы спусціцца ўніз, зрываючы сінія кіславатыя ажыны, якія цягнуцца галінкамі насустрач, міне калодзеж, падбяжыць да самай вады, сядзе ў лодку, прыпнутую да берага. Будзе глядзець на дзівосна прыгожыя белыя і жоўтыя гарлачыкі, на хуткіх вадамерак, якія слізгаюць па вадзе, быццам на каньках, на вялізных стракоз, што кружацца над заваддзю. Пад гэтыя ўспаміны яна заснула да раніцы і не чула, калі вярнуліся бацькі.

**8**

Ліза бачыла з печы, што касыя сонечныя промні прабіваліся ў акно, каля якога баба Малаша, седзячы на лаве, прала кудзелю, чула, як мама стукала дужкаю вядра, лыжкаю ці чыгунком. Дзяўчынка не спяшала пакідаць сваю высокую, як Алімп, схованку, бо помніла ўчарашнюю крыўду. Хавалася там да сняданку. Потым за сталом без ахвоты жавала салонік, не прамаўляючы ні да каго, пакуль не пачула, што тата збіраецца ехаць купляць сена ў Янавічы.

— Вазьмі і мяне з сабою, — папрасіла яна.

— Добра, вазьму, — адказаў ён.

— А калі паедзем?

— Хутка… Пойдзем на стайню, возьмем каня і паедзем.

Таіса насцярожана паглядзела на малую, нібы ўзважваючы, ці варта пускаць у такую далёкую вандроўку, але не запярэчыла. Ліза хуценька вылезла з-за стала, пачала абувацца. Яна яшчэ дрэнна адрознівала левы чаравік ад правага, але, здаецца, на гэты раз не памылілася, бо ніхто ёй нічога не сказаў пра абутак. Яна чула, як баба Малаша раіла тату прыгледзецца да таго сена, каб было добрае. Вядома, у дарослых свае гаворкі, няхай бы хутчэй яны скончыліся. Ліза надзела зялёнае паліто і каптурык і пайшла ў двор, каб пачакаць там тату. Нарэшце ён выйшаў. Разам яны накіраваліся ў канец вёскі, які быў недалёка, праз пяць хат, а далей дарога дваілася, адзін канец заварочваў да канюшні, а другі кіраваўся якраз у тую вёску, дзе належала купіць сена. Крайняя хата пуставала, там чамусьці ніхто не жыў, а насупраць стаяла нечая клуня. На скрыжаванні расло магутнае дрэва з круглаю верхавінаю. Ліза яго ўбачыла ўпершыню, бо ніколі не хадзіла на гэты край вёскі. Дрэва здалося ёй падобным на дзедаву грушу-дзічку, толькі значна большае.

— Што гэта расце? — спытала яна ў таты.

— Таполя, — адказаў ён.

Аўдзей ішоў шырока і хутка, і Ліза, каб паспець за ім, вымушана была рухацца подбегам, што ажно ўзмакрэла. Доўгі і няўклюдны будынак стайні, накрыты саломай, быў бачны здалёк, з-пад прадранай страхі бялелі рэбры кроквaў. Каля варот разлілася вялізная лужына, якая цягнулася ажно ў двор. Тата, абуты ў гумавыя боты, мог лёгка пераадолець гэтую перашкоду, а Ліза ў сваіх чаравічках тут прайсці не магла, таму засталася чакаць на ўскрайку

дарогі. Агледзелася. Позірк прыцягнуў поплаў, заліты вадою, яна нават падумала, што гэта нейкае азярцо. За ім радочкам цягнуліся шэрыя хаткі. У небе плылі бухматыя аблокі, якія пад ветрыкам увесь час мянялі абрысы, назіраючы за імі можна было разгледзець ці чалавечы твар, ці пысу якой жывёлы.

Рыжы рахманы конь вывез тату на возе з двара стайні, побач прымасцілася Ліза, і яны рушылі ў дарогу. Чатыры колы дружна каціліся ўперад і везлі вазакоў так хутка, што дзяўчынка ледзьве паспявала агледзець наваколле: старая таполя, голыя бязлістыя дрэвы абапал дарогі на вёску Янавічы, яшчэ адзін поплаў, заліты талаю вадой і круглую, як сподак, сажалку. Ліза чула, што недзе паблізу ёсць возера, скуль аднойчы мужчыны прыносілі рыбу, таму яна спытала:

— Гэта возера?

— Не, гэта балотца, а тая круглая сажалка называецца Цагэльня. Тут даўней капалі гліну для цэглы. Возера знаходзіцца ў тым канцы, за сялом, далекавата адсюль. Яно вельмі вялікае, — адказаў Аўдзей.

Вазок падняўся на ўзгорак — і наперадзе, удалечыні паказаўся вятрак, ён круціў крылы і, здавалася, зараз узляціць над зямлёю. А Ліза глядзела і глядзела на яго, спрабуючы зразумець таямніцу гэтага руху. Усё, што было звязана з палётам, з небам, зачароўвала яе. У тым горадзе, адкуль яны прыехалі да бабы Малашы, яна бачыла ў краме, якая называлася «Дзіцячы свет», зялёныя самалёты з чырвонымі зоркамі на крылах, якія лunалі высока пад столлю. Дзяўчынка разумела, што яны не прадаюцца, а існуюць асобна ад той мітусні, якая пануе ўнізе, таму ніколі не прасіла купіць ёй нейкую цацку, бо ў той краме нічога не бачыла, акрамя самалётаў. Разумела: самалёт — не цацка, гэта такая рэч, пра якую можна толькі марыць. Як і тыя недасяжныя самалёты, якія лётаюць у небе. Ліза ездзіла на цягніку, на грузавіках, на возе, але ўжо тады падсвядома ў яе душы нараджалася мара: лётаць на самалёце, кіраваць крылатаю машынаю, як тата канём. Яна мела вялікую ляльку і буквар, які ўжо прачытала не адзін раз, — вось і ўсё багацце ў шасцігадовай дзяўчынкі. І цяпер, калі Ліза ўбачыла вятрак, зямны і крылаты, ёй зрабілася неяк вельмі ўтульна і хораша. Яна падумала, як бы было добра жыць побач з гэтым млыном і сачыць за ягоным рухам.

Пакуль тата ў чужым двары нагружаў сена на воз, Ліза ўсё любавалася ветраком, потым пераводзіла вочы на высокія аблокі, якія паволі плылі, злучаліся, набывалі дзіўныя абрысы. Дамоў яна вярталася, седзячы высока на сене, а тата ішоў побач і паганяў каня. Зверху было вельмі добра ўсё відаць. Паціху аддалялася чужая вёска з шэрымі хаткамі і пазелянелымі платамі, з высокімі бярозамі на ўскрайку, наперадзе была вялізная купіна старой таполі на скрыжаванні, а далей цягнуліся Ляды, даволі вялікая вёска, стаяла быццам на ўзгорку. Справа ад яе цягнулася сіняя сцяна лесу, а злева было поле, якое таксама ўдалечыні акалялася лесам. Ліза азірала наваколле, запамінала дарогу і думала, што абавязкова прыйдзе, каб зблізку паглядзець на сажалку і балотца, а таксама наведае старую таполю. Ціхая радасць напаўняла сэрца маленькай вандроўніцы. Яна здзіўлялася, якая чыстая і блакітная вада разліта навокал, быццам гэта сама зямля расплюшчыла вочы і глядзіць на незнаёмую дзяўчынку. Сонца шчодра прыгравала і асляпляла, і следу не засталося ў душы ад учарашняй крыўды і слёз, хіба толькі ў памяці засела стрэмкаю адчуванне счужэласці да бабы Малашы і Алесі.

А дома Лізу чакала новая радасць. Пакуль яны з татам ездзілі па сена, мама атрымала пасылку ад цёці Сімы, якая прыслала пляменніцы казку пра залатую рыбку, новы сшытак і аловак. Атрымаць адразу такое багацце — было вялікім

шчасцем. Цёцю Сіму, малодшую маміну сястру, Ліза помніла мала. Згадвалася толькі, як яна ўпершыню ўзяла пляменніцу ў кіно. Ліза, калі зараз заплюшчыць вочы, дык бачыць тое залатое поле, якое красавала буйнымі каласамі на экране. Пры гэтым гучала песня:

Стеной стоит пшеница золотая,
И ни конца, ни края не видать.

За дзедавай хатаю расло такое высачэннае жыта, што Ліза баялася нават туды хадзіць, каб не заблудзіцца, а яшчэ там магла жыць гадзюка, якая церлася аб сцяблінЫ і скідала сваю старую скуру. Дзяўчынка ведала, што гадзюка можа балюча ўкусіць, пасля чаго чалавек памірае. Таму гадзюк не любяць і забіваюць.

Ліза адразу разгарнула тоненькую кніжачку, спачатку пагартала, разгледзела малюнкі, пачала чытаць пра тое, як жылі-былі на свеце дзед з бабаю і задумалася, чаму так атрымліваецца, што бабуля Хрысціна даўно памерла, а з яе дзедам жывуць толькі ягоная дачка Поля і ўнук Віця, а ў бабы Малашы няма дзеда, ён таксама даўно памёр. Чаму людзі паміраюць? Няхай бы жылі і жылі… Але тут жа забылася і пачала чытаць далей пра тое, як дзед злавіў залатую рыбку. Віця таксама браў з сабою Лізу на рыбалку. Хлопцы залазілі ў ваду з таптухамі, сплеценымі з лазы, заганялі ў іх рыбу, а дзяўчынка чакала на беразе. Малая так захапілася чытаннем, што нічога не чула і не бачыла. І раптам да яе даляцела песня бабы Малашы. Тая спявала пра нейкую раку Дунай. Ліза спыніла сваё чытанне і прыслухалася.

Ды рынула вада з Дуная,
З Дуная ціхага, з беражка крутога.
Там тры конюхі ды коней паілі.
Ды рынула вада з Дуная,
З Дуная ціхага, з беражка крутога.
Там тры дзевачкі ды ваду бралі.
Ды рынула вада з Дуная,
З Дуная ціхага, з беражка крутога.
Іваначка кажа, я Ганначку люблю,
Я Ганначку люблю і за сябе вазьму…

Ліза адразу згадала велічны і прыгожы Дняпро, які быў бачны з гары ў канцы дзедавага агарода, і зноў ёй захацелася перанесціся туды і жыць там заўсёды, нікуды неераязджаючы. Але тут жа падумала, а дзе той Дунай, пра які спявае баба Малаша. Я ж ехала на возе, ніякае ракі не бачыла. Яна спытала ў мамы, якая завіхалася ля печы, варачы вячэру:

— А дзе той Дунай?

— Дунай… Далёка, гэта за мяжою… Не ў нашай краіне…

«Дзіўна, — падумалася Лізе, — чаму баба Малаша спявае пра нейкую раку, якую ніхто не бачыў, няхай бы лепш пра мой Дняпро паспявала, а я б паслухала… Толькі, мусіць, няма такой песні, інакш усе б яе ведалі». Тата часам таксама спяваў розныя песні, асабліва Лізе падабалася, як хораша ён выводзіць пра васількі:

Ах, васильки, васильки,
Много мелькало вас в поле,
Помню у самой реки
Вас собирали для Оли.
Оля любила реку,
Оля рекой любовалась,
Поздней порою она
С милым на лодке каталась.

Песня была доўгая і жаласлівая, апавядалася ў ёй пра тое, як тая дзяўчына ўтапілася, а васількі збіралі ёй на магілу. Спявалася там пра нейкую безыменную раку, не пра Дняпро. А Лізе хацелася, пачуць песню менавіта пра сваю любімую раку, непаўторную і велічную, якая раскрываецца з гары такая спакойная, у зялёнай аправе вербалозу. Гара парасла бярозкамі, асінкамі, арэшнікам, а той бераг да самага гарызонту спрэс пакрыты сінім лесам. Як жа добра і радасна там жыць…

**9**

Вёска рыхтавалася да Вялікадня. Жанчыны выносілі з хат падушкі і посцілкі, каб яны прасохлі і праветрыліся. Усе платы былі абвешаны рознакаляровым сялянскім багаццем. У Малашынай хаце таксама кіпела праца. Нявестка пабяліла печ і сцены, памыла вокны, пашаравала лавы, ажно святлей стала ў пакоі. Ліза старалася не замінаць дарослым, назірала за працаю, выходзіла на двор, сядзела на прызбе, жмурылася ад яркага сонца і ўсё спрабавала ўявіць, якое ж яно будзе тое свята. З хаты раз-пораз выходзілі ці баба Малаша, ці мама, нешта рабілі на дварэ, пасля зноў ішлі ў хату. Вецер калыхаў прыгожы бабін андарак, ручнікі і посцілкі на плоце. Можна было доўга назіраць, як варушыцца і моршчыцца тканіна, быццам жывая. Потым дзяўчынка заўважыла мурашоў, якія бегалі каля прызбы, і доўга сачыла за іхняю мітуснёй.

А назаўтра быў Вялікдзень. Тут ужо і Лізіна дапамога спатрэбілася. Яна разам з бабаю падмяла вуліцу каля свайго двара і пасыпала жоўтым пясочкам. Гэтак зрабіла кожная гаспадыня. Потым усе вяскоўцы выйшлі на вуліцу з размаляванымі кошыкамі, напоўненымі рознымі прысмакамі і чакалі, калі з’явіцца бацюшка. Ён прыехаў на кані, апрануты ў каляровую рызу, спачатку памаліўся, а потым хадзіў і пырскаў з пэндзля на кошыкі святою вадою.

Пасля ўрачыстага сняданку са свянцонаю ежаю, Ліза дома не заседзелася, а выправілася на вуліцу. Ёй далі з сабою падарунак — яйка, фарбаванае цыбульнікам. З ім яна і пайшла ў другі канец сяла, дзе ўжо збіраліся ў гурт маладыя мужчыны і хлопцы, наладжвалі велікодныя гульні з рознакалёрнымі яйкамі, качалі іх па разорцы, білі яйка аб яйка, выбіраючы мацнейшае. Нехта махляваў, папярэдне заліваў яйка волавам або выточваў з дрэва. Але махлярства з ганьбаю для ўладара падробкі выкрывалася, ашуканца адлучалі ад гульні. Падлеткі пераймалі гульні дарослых, паводзілі сябе гэтак жа, хваліліся сваім багаццем. Каму ўдавалася сабраць па радні найбольш яек, таму зайздросцілі.

У Лізы было толькі адно яйка, яна яго трымала ў руцэ, але ніхто не звяртаў на яе ўвагі. І яна не імкнулася ўвязвацца ў чужую гульню, толькі назірала збоку, але чужою тут сябе не адчувала. Ёй падабалася назіраць за ўсім, што адбываецца навокал.

Па абедзе яна выправілася наведаць старую таполю, якую бачыла на скрыжаванні дарог, калі ездзіла з татам па сена. Зялёная шчэць травы пад магутным дрэвам яшчэ толькі прабівалася з-пад зямлі, а навокал валялася мноства шэрых кутасікаў, якія скідвала таполя са сваіх галін, мусіць, у падарунак Лізе да Вялікадня. Дзяўчынка назбірала гэтых суквеццяў, уявіла іх сваімі авечкамі і пагнала на пашу. Тых авечак, што адбіваліся ад статку, яна заварочвала, як гэта рабіла звычайна суседка Клемава Вера. Клема людзі за вочы чамусьці называлі Пеўнем. Ён сапраўды быў трохі падобны на гэтую самавітую птушку. Ганарыста пасаджаная галава на доўгай шыі з вострым кадыком стварала ўражанне, што яе ўладальнік калі і скажа нешта, дык вельмі важнае. Да Лізы,

захопленай сваім уяўным статкам, падышлі незнаёмыя вясковыя дзяўчаты, цікаўна разглядвалі, чым займаецца малая.

— Што ты робіш? — спытала адна.

— Гэта мае авечкі.

— Авечак пасе, — паведаміла сяброўкам дзяўчына, быццам пераклала словы Лізы з нейкай невядомай мовы. — І навошта Аўдзею было везці з-за свету жанчыну, калі ў сяле сваіх дзяўчат поўна? Ды яшчэ во з гэтаю авечкаю…

Дзяўчаты засмяяліся і пайшлі, а Ліза адчула нядобразычлівасць, нібыта была вінаватая ў нечым. У чым? Быццам яна ўзяла тое, што ёй не належыць. Здагадалася, таму што тата не яе, не родны. А чый? Ад дзявочых словаў не засталося ні крыўды, ні злосці, проста стрэмкаю засеў у памяці гэты выпадак. Лізе толькі споўнілася шэсць гадоў, яна яшчэ не здатная была рабіць нейкія высновы, проста фіксавала жыццёвыя факты, пакідала згадкі, прыберагала, каб потым пазней асэнсоўваць дзіцячы досвед, вылучаць больш важнае ў шэрагу другараднага.

Пасвіць авечак расхацелася. Ліза адпусціла іх на волю, а сама пайшла ў бок бабінай хаты. У двары Бузюміхі ўбачыла дзвюх яе малодшых дачок. Маня была трохі старэйшая за Лізу, Ніна — равесніца. Дзяўчынкі паклікалі Лізу ў свой двор.

— Давайце пагуляем у чыжыка, — прапанавала Ліза.

— Мы ўжо нагуляліся. Ці ёсць у цябе яйка? — спытала Ніна.

— Ёсць, — Ліза дастала з кішэнькі паліто і паказала сваю фарбаванку.

— Давай паб’емося! Чыё яйка мацнейшае, той забірае пабітае.

Лізе стала шкада свайго дарунка. Яна хацела адмовіцца ад гульні, але тут і Маня падахвоціла яе:

— Пабіцеся, пабіцеся…

Ліза падставіла яйка. Ніна моцна стукнула па ім вялізным зялёным яйкам, — Лізіна фарбаванка трэснула.

— Выйграла, выйграла, — узрадавалася Ніна, забіраючы ў Лізы яйка.

Шкада было Лізе свайго велікоднага падарунка, але нічога не зробіш, такія правілы гульні. Яна сумна накіравалася да варот, але тут яе паклікала цётка Бузюміха, якая працягнула ёй такое ж зялёнае, як у Ніны, яйка. Ліза падзякавала і радасна пабегла дамоў, пахваліцца новым дарункам.

**10**

Нехта пад’ехаў канём да двара. Малаша зірнула ў акно і ўзрадавана сказала нявестцы:

— Шворан прыехаў!

Таіса здагадалася, прыехаў Паўлюсь, сярэдні свякроўчын сын. Малаша сама дала мянушкі сваім сынам. Сярэдняга назвала Шворанам за тое, што ён быў худы і высокі, дакладна, як жалезная затычка ў возе, а самага малодшага Кандрата, інакш не клікала, як Бурсам, бо ўдаўся ён тоўсценькі і мардасты, якім ёй, вясковай маладзіцы, мог уявіцца адкормлены шкаляр, што нічога не робіць, а толькі кніжкі чытае. Старэйшаму сыну, улюбёнцу Аўдзею, вельмі падобнаму да бацькі, ніякае мянушкі не прыдумала, бо ён, як ёй здавалася, удаўся дасканалы ва ўсіх адносінах.

Паўлюсь прамільгнуў за акном, а маці толькі паспела здзівіцца:

— Чаго гэта ён са стрэльбаю заявіўся? Пахваліцца прыехаў, ці што?

А Шворан ужо стаяў на парозе, агледзеў хату мутным п’янаватым позіркам і закрычаў:

— Застрэлю!

Малаша ўстрывожана кінула позірк на цяжарную нявестку, якая сядзела на запечку і шыла шапачку будучаму дзіцяці, падбегла да сына, спытала:

— Чаго вызверыўся?

— Заб'ю яе! Людзі кажуць, яна цябе не слухаецца!

— Якія людзі? — спрабавала супакоіць Малаша сына. — Дзе тыя людзі?

— Ведаю, якія, — адказаў Паўлюсь і пачаў цэліцца ў нявестку.

Малаша схапіла за рулю, адвяла ўбок, пацягнула на сябе з такою сілаю, што Шворан падаўся да яе на няпэўных нагах і зваліўся на падлогу.

— Тая, уцякай! — крыкнула Малаша, прывальваючы сына і гнучы да зямлі, каб не паспеў падняцца.

Нявестка схапіла Лізу за руку, выслізнула з хаты, на дварэ на імгненне падумала, куды ж ёй бегчы, і кінулася да Малашынай братавой Дамінкі. На шчасце, гаспадыня і яе дачка Алеся былі дома. Таіса хуценька сказала, што прыехаў п'яны Шворан са стрэльбаю і хоча яе забіць. Дамінка толькі пляснула рукамі і загадала:

— Хавайся з малою пад запечак. Ад гэтага дурня можна ўсяго чакаць. А я пайду і замкну цябе ў хаце.

Гаспадыня з дачкою хуценька пайшлі з хаты, бразнулі дзверы, але, мусіць, Паўлюсь вылічыў, куды магла схавацца Таіса, і хутка з'явіўся пад акном. Стукаючы ў раму кулаком, ён зароў:

— Заб'ю!

Таіса калоцячыся ад страху, туліла да сябе Лізу, але калі ўбачыла, што Паўлюсь закладвае ў рулю каменьчыкі, каб страляць, трохі супакоілася. Яна перажыла вайну ў акопе пад гарою над Дняпром і добра ведала, як страляюць з аўтаматаў і зенітак, як узрываюцца міны і гранаты. Пад гарматным агнём поўзала з гары ды пад гару, ратуючыся ад смерці, калі нашы білі па немцах з процілеглага берага, а вяскоўцы апынуліся паміж двух агнёў гэтай зацятай барацьбы пры фарсіраванні Дняпра. Са злосцю і пагардай падумала пра тутэйшых людзей: «Праседзелі тут у балоце, вайны не бачылі…» Ліза не разумела, што адбываецца, але матчын страх перадаўся і ёй.

Шворан за акном усё сіліўся стрэліць са сваёй іржавай стрэльбы каменьчыкам, брудна лаяўся і ўсё крычаў:

— Выходзь! Ты маю маці зганьбіла! Усё роўна табе не жыць!

Таіса забілася ў самы куток, было страшна, раптам гэты боўдзіла разаб'е акно і ўваліцца ў пакой, як тады ад яго адбіцца? Хата ж замкнёная. Няма куды ўцякаць. А яна цяжарная на апошнім месяцы, яшчэ дзіцяці нашкодзіць. Які жах! Што за сямейка вар'яцкая…

Пачуліся яшчэ нейкія галасы. Таіса выглянула з-пад запечка і ўбачыла за акном Малашу і ўчастковага міліцыянера. Сэрца яшчэ шалёна калацілася, але ўжо прыйшла палёгка ад думкі, што самае страшнае мінула. Здагадалася, што свякроў прывяла ўчастковага, дзякуй і на гэтым, выратавала будучага ўнука ці ўнучку.

Паўлюсь, прыстрашаны міліцыянерам, уваліўся ў воз і паехаў дамоў. Дамінка адамкнула хату, увайшла з Малашаю ды Алесяю.

— Злякалася? — спачувальна спытала свякроў.

— Вядома… А чаго ён на мяне ўз'еўся? — спытала Таіса.

— Адарка Сымонкава расказала яму, як ты мне не захацела ліст прачытаць, што бацьку пісала. Ён і прыехаў помсціць…

— Дзе ён узяў стрэльбу?

— Дык жа сторажам працуе. Вось яму і далі гэтую ламачыну…

— І што цяпер будзе? Мо ён заўтра зноў прыедзе ваяваць?

— Не, мусіць, не… Міліцыянт сказаў, што пасадзіць яго ў турму, калі ён будзе са стрэльбаю па вёсцы без ладу ездзіць. Ён спалохаўся і кінуўся наўцёкі…

Таіса зморана паплялася дамоў. Пасля перапуду адчула млявасць ва ўсім целе, прылегла на запечку, занепакоена думаючы: «Дзе той Аўдзей? Чым займаецца? Усё з нежанатымі хлопцамі бавіць час. Не нагуляўся… Навошта я сюды ехала? І што мяне чакае? Ці не будзе тое, што і ў першым замужжы…"

Яна адчувала сябе ў варожым атачэнні. Нават малодшы Дамінчын сын Алёша не даваў спакою да апошняга часу, выцікоўваў, калі яна ішла ў хлеў, ускокваў туды і пачынаў ганяцца за ёю. Яна саромелася нават каму пажаліцца, трывала. А потым, калі аднойчы і Ліза паскардзілася ёй, што Алёша стаяў каля запечка і качаргою ганяў яе на печы з кутка ў куток, Таіса аднойчы не вытрымала, схапілы вілы, рушыла на яго і крыкнула:

— Ідзі прэч, бо прапару наскрозь .

Хлопец спалохаўся, ажно збялеў, выбег з хлява, і пасля таго разу больш не чапляўся.

Дзіця нездаволена варухнулася ў жываце. Стараючыся супакоіць яго, Таіса пагладзіла жывот і падумала, што трэба ўціхамірыцца і самой, каб не здарылася чаго благога.

## 11

Ноччу Ліза прачыналася некалькі разоў. Яе будзілі галасы: размаўлялі сямейнікі. Чамусьці кіравала ўсімі суседка, бабуля Настуся, якая загадвала падаць ручнік ці балею з цёплаю вадою. Потым дзяўчынка пачула, як моцна заплакала дзіця, і зноў заснула. А раніцаю даведалася, што ў яе з’явіўся маленькі брацік, ружовенькі і пісклявы. Тры дні мама ляжала на запечку хворая. Побач з ёю час ад часу папісквала дзіця. А Лізе была дадзена воля хадзіць дзе заўгодна. Яна выкарыстала гэтую магчымасць і зноў пайшла да старой таполі, якая ўжо акрылася маладым зялёным лісцем, а шэрыя кутасікі, якіх раней шмат было раскідана па зямлі, некуды зніклі. Ліза падумала, што статак яе авечак некуды разбегся, і рушыла далей, да балотца і сажалкі, якія яна бачыла, калі ездзіла з татам па сена. І як жа здзівілася, калі згледзела ў вадзе ярка-жоўтыя кветкі лотаці. Раней дзяўчынцы ніколі не сустракаліся такія кветкі. У Дняпроўскай затоцы раслі толькі белыя і жоўтыя гарлачыкі, таксама вельмі прыгожыя, з тонкімі, быццам фарфоравымі пялёсткамі. Ліза разулася, зайшла ў халодную ваду, нарвала букет гэтых дзівосных кветак. Потым пасядзела на маладой траўцы, пасушыла ногі і зноў абула чаравічкі. Агледзелася. Тут было хораша. Лёталі чырвоныя з чорнымі кропачкамі на крылах матылі і лупатыя стракозы. Зводдаль хадзіў бусел на цыбатых нагах, нешта вышукваў у траве. Потым узняўся і паляцеў у чыстым блакіце. Лізе таксама хацелася вось гэтак жа паляцець, але яна ведала, што ў яе не атрымаецца, бо ўжо не раз спрабавала, ды ўсё дарма. Каб вывучыцца на лётчыка! Тады б яна ўздымалася на самалёце высока-высока, куды і буслам не даляцець.

Ліза абышла поплаў па дарозе, узнялася на ўзгорак і ўбачыла круглы сіні сподак сажалкі, якую тата назваў Цагельняй. Берагі яе густа зараслі аерам і стрэлалістам. Дзяўчынка пастаяла на беразе, паўзіралася ў цёмную каламуць. У Дняпры вада была празрыстая, калі стаяць ціха, дык можна было ўбачыць, як падплываюць да берага вялізныя шчупакі. Тут у вадзе нічога не было відно, толькі чулася крумканне жаб. Дзяўчынка села на траву, доўга слухала спеў жаўрука над полем, якое падступала да сажалкі з боку вёскі. Мройлівы, невы-

казны спакой апанаваў яе душу, яна быццам заснула з расплюшчанымі вачамі, узіраючыся ў нерухомую цёмную ваду.

Вярнулася домоў недзе ўжо ажно пад абед. Яшчэ з вуліцы пачула, што баба Малаша з некім сварыцца ў гародзе. Ліза пайшла на голас і ўбачыла, што старая хапала прыгаршчы зямлі ад гарода Сымонкавай Адаркі і прыплясквала іх да сваіх радкоў, дзе была пасаджана бульба. Паміж гародамі не было плота.

— Баба, што ты робіш? — здзівілася Ліза.

— Гондэ цэлы мой радок да сябе прыаралі, — абурана адказала Малаша. — Каб ім вочы павылазілі! Каб іх яма пазавальвала, калі яны не бачылі, дзе мая зямля, а дзе іхняя! Мала ім! Мала! Ніяк іх Бог не ўкорміць!

На бабіны крыкі суседка не выйшла, і не стала даводзіць сваю праўду. Малаша суцешылася тым, што свой радок усё ж прыляпала да ўласнага гарода.

Пад вечар Таіса і Малаша ўскапалі, узбілі зямлю на градзе, як пярыну, і пачалі садзіць расаду капусты, якую дала Параска Рачычанка. У гэтай гаспадыні добра вяліся памідоры, гуркі і капуста. Агарод яна мела ў нізінцы, там добра ўсё радзіла. Малашына сядзіба стаяла на ўзгорку, тут расліны трэба было асабліва даглядаць ды паліваць, на што ў гаспадыні не хапала ні жадання, ні цярплівасці. Таму толькі ў дажджлівы год яна магла назапасіць капусты ды гуркоў на зіму. Ліза ўважліва назірала за працаю, вельмі хацелася і самой што-небудзь зрабіць. Мама дала ёй два каліўцы капусты і сказала:

— Пасадзі тут і тут. Гэта будзе твая капуста.

Пакуль Таіса садзіла расаду, Малаша прынесла вялізны камень, паклала на граду.

— Навошта ён тут? — здзіўлена спытала нявестка.

— Каб капуста расла такая ж вялікая і тугая, як гэты камень, — раздражнёна адказала свякроў, дзівячыся, чаму Тая не ведае такіх простых рэчаў.

У Малашынай душы ўсё больш спела незадаволенасць нявесткаю, таму што яна не такая, як вясковыя маладзіцы, не ведае звычаяў і не цікавіцца імі. Упарта трымаецца нейкіх сваіх пераканнняў і не надта прыслухоўваецца да свякрухі, не пакорная і не паслухмяная. Праўда, Малаша ў вочы старалася незадаволенасць сваю не выгаворваць, а ўмела сказаць мімаходзь, напрыклад, праз песню. Калышучы ўнука, яна спявала:

Вазьмі, сынку, драцяну нагайку,
Счарні жонку на чорную галку.

Спяваць Малаша любіла і ўмела, песень ведала шмат, на кожны выпадак жыцця. Гэта быў яе невычэрпны скарб, якім яна магла падзяліцца з кожным, каму было цікава. Наогул была перакананая, што чалавечая душа павінна мець час для працы і для адпачынку, тады і прыходзіць на дапамогу песня, каб вызваліць чалавека ад будзённасці, даць волю ягонаму голасу, пачуццям і завалодаць душамі іншых людзей. Яна крыўдавала, што нявестка яе песень не пераймае, а калі і спявае, дык нейкія нечуваныя, свае. Малаша яе спевы пераймала, праўда, не ўсе словы разумела, вымаўляла не так:

Эх, паўным-паўна каробачка,
Ёсць і сіцец і тарчак…

Спявала Малаша і не разумела, што гэта за такі тарчак, для чаго ён? Які дурань прыдумляе такія мудрагелістыя словы? У песні ўсё павінна быць проста, каб кожнае слова да душы дападала, хвалявала, радавала ці засмучала. Нават смутак у песні — прасветлы, калі і выкаціцца сляза, дык не ад болю, а ад спачування.

## 12

З надыходам вясны хлопцы, дзяўчаты і маладыя сямейныя мужчыны ў Лядах пачалі збірацца на заробкі. Аўдзей таксама меў намер ехаць з гэтым гуртам. Разам доўга вырашалі, куды падацца, выбралі Палтаўскую вобласць. Летась нехта з лядчукоў там быў, казалі, няблага ўдалося зарабіць.

Раніцай увесь вандроўны гурт сабраўся ў Сені Голубава. Адвезці на чыгунку вяскоўцаў паабяцаў Мікола Ленінка, Аўдзееў сябар і сусед. Мянушку гэтую атрымаў дзяцюк яшчэ падлеткам. Аднойчы ў лесе ўбачыў на яліне шышкі — і падалося яму, што яны неяк гэтак склаліся, быццам стварылі бронзавы бюст правадыра пралетарыяту. Ён радасна крыкнуў сябрукам, маўляў, глядзіце: там Ленін, Ленін. Хлапчукі паглядзелі, але нічога, акрамя шышак не ўбачылі, не былі яны надзелены такім мастацкім уяўленнем, якое меў Мікола. З тае пары і замацавалася за ім мянушка Ленін, або ласкава Ленінка. Пакуль чакалі машыну, пілі самагонку, гаманілі, згадвалі леташнія паездкі на Украіну, якія здараліся далёка не заўсёды ўдалыя.

— Эх, хлопцы, там добра, дзе нас няма, — сказаў Сеня, праводзячы позіркам маці, якая паставіла на стол міску з квашанаю капустаю і адышла да печы.

— Чаму ж, летась мы някепска з’ездзілі ў Днепрапятроўскую вобласць. Антось Самота збіраецца туды з сям’ёй, — заўважыў Піліп Машынка, які атрымаў сваю мянушку за тое, што вельмі хутка прамаўляў словы, як і ягоная маці Ладзіха. Наогул у вёсцы надта гаваркіх людзей называлі ладамі, з націскам на другім складзе.

— Дык мо і нам туды рушыць? — спытаў Аўдзей.

— Не, усе кажуць, што ў Палтаве лепш, — запярэчыў Машынка.

У хату ўвайшла Таіса з немаўлём на руках, агледзела вясёлую кампанію. Ля стала сядзелі хлопцы і дзяўчаты. Аўдзей незадаволена зірнуў на жонку, маўляў, што ёй тут трэба, яшчэ пачне плакаць ды ўсчуваць. Дома ж ужо развіталіся. Сеня на правах гаспадара запрасіў маладзіцу да стала, а малое прапанаваў пакласці на падушку на запечку. Таіса сціпла прысела на край услона, ад чаркі адмовілася, сказала, што нельга ёй піць, бо дзіця корміць цыцкаю.

— Дык хоць закусі што-небудзь, — гасцінна прапанаваў Сеня.

Яна ўзяла кавалачак сала з хлебам, пачала жаваць, жаласліва паглядваючы на Аўдзея. А той, каб развеяць сумоту, голасна заспяваў, памахваючы правай рукой, быццам дырыжор: «Распрагайце хлопцы коней…»

Песню падхапілі, але тут жа і абарвалі, бо ў хату ўвайшоў Ленінка, дык наспеў час не распрагаць, а запрагаць коней. Новага госця таксама запрасілі да стала, але ён піць адмовіўся, сказаў, што за рулём піць забаронена і часу расседжвацца няма, трэба ехаць, пакуль старшыня не спахапіўся, што на калгаснай машыне калгаснікі дэзірціруюць з вёскі ў час палявах работ. Хлопцы і дзяўчаты пачалі ўставаць з-за стала, браць свае торбы, складзеныя ля парога ды выходзіць з хаты. Таіса падхапіла сына на рукі і пайшла ўслед за Аўдзеем, які не збіраўся доўга развітвацца, сказаў толькі:

— Жывіце тут…

Палез на машыну. Ужо было відно, што ён на добрым падпітку, бо ягоная нага саслізнула з кола, калі караскаўся ў кузаў. П’яны Аўдзей рабіўся злосны і жорсткі, таму Таіса нічога не казала, толькі моўчкі глядзела на яго і жадала яму шчаслівай дарогі. Загадзя ведала, што жыццё са свякрухай чакае яе несалодкае. Але куды падзенешся з малымі дзецьмі на руках. Яна згадала, як раніцай Малаша развітвалася з сынам, снедалі, пацягвалі самагонку. Свякруха сказала Аўдзею, ківаючы ў бок нявесткі:

— Не ведаю, сынку, як буду з ёю жыць? Яна ж не пакорная.

— Не бяры, маці, да галавы. Што тут вам дзяліць? — усмінуўся Аўдзей.

Гаварылі пра Таісу так, быццам яе няма ў хаце, хоць яна сядзела каля калыскі на запечку, нібы яна не жывы чалавек, а так, нейкая жывёла прыблудная. Гэта яе абурала, але яна моўчкі трывала, баялася, каб на развітанне не ўсчалася непатрэбная сварка.

Аўдзей адзін сядзеў у кузаве машыны, паглядваў зверху, дарэмна спяшаўся, астатнія падарожнікі ўсё яшчэ развіталіся з роднымі, марудзілі, размаўлялі ўзбуджана і голасна. Мусіць, не надта хацелася сялянам пакідаць родную вёску, ехаць за свет, дзе іх чакае цяжкая праца і невядома якая за гэта будзе плата…

Аўдзей паездзіў па свеце, таму не любіў доўгіх развітанняў і размоў. Яго раздражняла, што жонка прыцягнулася сюды. І ён заспяваў гледзячы на яе, худзенькую і самотную, першае, што прыйшло ў галаву:

Ой, саджуся на машыну,
На зялёну лавачку,
Пакідаю сваю мілку
Хлопцам на забавачку.

Не чуў, як усхліпнула раптам Таіса, толькі ўбачыў, як слёзы пакаціліся па твары і нездаволена падумаў: «Толькі гэтага не хапала. Баба ёсць баба…»

Заведзеная машына зараўла, моладзь кінулася займаць лаўкі ў кузаве. Праз колькі хвілін грузавік рушыў у дарогу, пакідаючы пасля сябе хвост пылу. Следам за ім пайшла Таіса дамоў, да свякрухі, да нямілага бяспраўнага жыцця без грошай, дез дастатку, з ціхай і слабой надзеяй, што аднойчы ёй усё ж удасца вырвацца адсюль. Вунь жа з’язджаюць людзі цэлымі сем’ямі на цаліну ці яшчэ куды. Яна паездзіла ўжо трохі па вярбоўцы і з уласнае ахвоты, але нічога добрага не выездзіла. Скрозь, куды клічуць ды прываблiваюць, адзін падман — ні заробкаў, ні жытла, ні шчасця. У вартае месца клікаць не трэба, туды разумныя людзі самі прыбягуць.

Машына павярнула направа і знікла з вачэй, а Таіса падумала пра Аўдзея: «Няхай едзе, няхай яму шчасціць, няхай усе яны заробяць грошай і пшаніцы. Дай Божа, каб усе вярнуліся жывыя і здаровыя. А мне трэба жыць. Свякруха настойвае сыночка пахрысціць. Мо так і трэба. Ліза вунь няхрышчаная. Першы муж называў дачку сталінскаю, так яно і атрымалася, што родны бацька за чатыры гады не пацікавіўся нават, як яна жыве. А мог бы праз маіх родзічаў адгукнуцца. Як паехаў, дык ніводнага ліста не прыслаў. Кумою возьмем Алесю. Добрая дзяўчынка, спагадлівая. Каго ж узяць за бацьку хрышчонага? Мо Анісіма Бузюмішынага? Добры сусед і чалавек зычлівы… Але, мусіць, выйдзе па-свякрушынаму. Хоча маім кумам зрабіць нейкага свайго родзіча. Ат, няхай робіць, што хоча…» Таіса ўжо не раз адзначала сама сабе, што лёс яе быццам знарок зноў паўтараецца. З першым мужам яна пяць гадоў таму таксама паехала да ягоных бацькоў у глухую сібірскую вёску, дзе адзіным месцам працы была свінаферма. Аднак галоўная прычына, чаму яна вырашыла вяртацца дамоў, у Беларусь, была ў тым, што яе Гаўрыла, ці як усе яго называлі Ганя, стаў гуляць. Штовечар браў гармонік пад паху, ды ішоў на вячоркі, вяртаўся далёка за поўнач, а яна заставалася дома ціха плакаць у самотным ложку. Свякруха, Ганева маці, маладой нявестцы спагадала, таму сказала неяк, маўляў, чаго ты сядзіш дома, ідзі разам з ім. Яна і пайшла, але недалёка. Муж злосна зыркнуў на яе і сказаў, калі яна не вернецца зараз жа дамоў, дык утопіць яе ў снезе. Снегу ў той год у сібірскім селішчы выпала

шмат, вузкая сцежка была пракапаная паміж высокімі снежнымі сценамі, па ёй і хадзілі нешматлікія вяскоўцы. Таіса ўявіла сябе ўмураванаю ў халодную гурбу, заплакала і вярнулася дамоў. Даўно гэта было, але і цяпер ад крыўды ажно перахоплівае горла.

Міжволі падумалася ёй, што, мусіць, і на яе лёг праклён бабулі Аксінні. Некалі ў маладосці Таісін бацька Цімох, які толькі вярнуўся з Першай сусветнай вайны, закахаўся ў Хрысціну, якая, на думку будучай свякрухі, не падыходзіла яе сыну, бо была сірата, бедная, жыла пры старэйшай сястры Куліне, да таго ж яшчэ і старэйшая была за каханага гадоў на пяць. Што ні рабіла Аксіння, але не здолела адвадзіць сына ад Хрысціны. Мінулі гады два — і нявенчаная нявестка нарадзіла дачку Полю, а Цімох пачаў будаваць сабе хату. Каб перашкодзіць сыну, Аксіння падгаварыла мужа Мацвея таксама будавацца. Упартая была маці, але і сын, здаецца, у яе ўдаўся. Удзень працаваў на бацькавай хаце, а ўвечары ішоў будаваць хату для Хрысціны, так ён тлумачыў бацькам.

Пакуль хата будавалася, Хрысціна нарадзіла яшчэ і сына Рыгорку. Не магла стрымаць гневу Аксіння, паклялася, што прыгне ёй рукі і ногі, калі яна пойдзе ў сынава жытло. У новай хаце нарадзілася трэцяе дзіця, Таіса. Нічога не заставалася Аксінні, як змірыцца ды пайсці да Цімоха і Хрысціны, каб пабабіць новую ўнучку ды паглядзець, як жыве яе сын з нявесткаю. Паглядзела, быццам засталася задаволеная пачастункам, чысцінёю ў хаце і прыгожымі ўнукамі, а вярнулася дамоў і раптам захварэла. Прыгнула ёй рукі і ногі, скурчыла ўсю, так і праляжала гадоў дзесяць, не маючы магчымасці нават муху адагнаць непаслухмянымі рукамі. Улетку дзед клікаў унукаў абіраць вішні. Таіса бачыла ў хаце хворую бабу Аксінню, якая скурчаная ляжала на ложку і прасіла пачухрыць ёй галаву, на якой валасы збіліся на лямец. Унучка паслухмяна выконвала просьбу, шкадавала бабулю, якую так і пахавалі са скурчанымі нагамі і рукамі, нават смерць не дапамагла іх разагнуць. Няма шчасця ў каханні Аксінніным унукам. Полін муж загінуў на вайне, засталася яна ўдавою ў дваццаць гадоў. Рыгор двойчы ўжо жаніўся, ды пакідаюць яго жонкі. Таіса вось таксама другі раз замужам…

Закрактала, заварушылася на руках дзіця, нагадала пра сябе, і маладая маці прагнала вярэдлівыя думкі, загаварыла з сынком, супакойваючы малое:

— Прачнуўся, мой маленькі, естачкі захацеў… Цішэй, цішэй, зараз прыйдзем дадому, я цябе пакармлю.

Але дзіця заплакала галасна і патрабавальна. Таіса села на скрыжаванні пад старою таполяю і дала сыну грудзі. Міма праходзіла незнаёмая старая, спынілася і з дакорам сказала:

— На скрыжаванні толькі чэрці сваіх дзяцей кормяць…

— Я не ведала, — сумелася Таіса, а сама раздражнёна падумала: «Усе тут кіруюцца ў жыцці нейкімі прымхамі і забабонамі, пра якія ў нас ніхто не чуў, дзікія людзі.»

Яна паднялася і пашыбавала дамоў. Малаша сустрэла яе пытаннем:

— Правяла?

— Паехалі, — з уздыхам адказала Таіса.

— Дык будзем палуднаваці…

«Як ёй тая ежа ў горла палезе? — злосна падумала Таіса, кладучы дзіця ў калыску. — Сын паехаў, невядома, што яго там чакае, а ў яе расклад непарушны!» Маладзіца пачала завіхацца ля печы, а старая прынялася калыхаць унука ды спяваць:

Куды, воран, ляціш,
Куды адлятаеш?
Куды, мілы, едзеш,
Куды ад'язджаеш?
Мяне маладую
Кідаеш самую.
А я маладзенька
Гуляці радзенька…

Таіса, дастаючы гаршчок з крупнікам, скоса зірнула на свякруху і падумала: «Знарок такую песню спявае, каб я сумавала. Не дачакаецца! Буду жыць, як набяжыць… Аўдзей жа не адзін паехаў. Што міру, тое і бабінаму сыну. Дасць Бог, дачакаюся, і ўсё ў нас будзе добра. Шкада толькі, што сыночка паўгода яму не бачыць. Нічога, пасля нацешыцца, цэлую зіму будзе дома сядзець. Дрэннае жыццё ў вёсцы. Трэба нешта думаць, варушыцца, выбівацца з гэтай глухамані, дзе можна зарабіць толькі выгнаўшы ды прадаўшы колькі пляшак гарэлкі. Ды і той спосаб супрацьзаконны. Адзіна гарэлка для тутэйшага люду — і лекі, і заробак, і сродак узвесяліць душу…»

**13**

Пасля нараджэння брата на Лізу зваліўся новы абавязак: калыхаць малога. Мама палола грады, мыла бялізну ці варыла абед, а Ліза абавязана была сядзець на запечку і сачыць за гэтым ружовым камячком, які час ад часу пачынаў варочацца, крактаць або нават плакаць, тады яна клікала каго-небудзь са старэйшых. Не было цяпер у яе часу пагуляць з лялькаю, пагартаць кніжку ці збегаць да Бузюмішыных дачок. Толькі па нядзелях ды ў святочныя дні вясковы люд не працаваў. Звычайна па абедзе жанчыны збіраліся на чыйнебудзь прызбе ці на лаўцы, размаўлялі пра надвор'е ды агароды, нешта згадвалі, нечым дзяліліся. Адну толькі справу дазвалялі сабе лядчукі ў нядзелю — хадзіць у лес у ягады, бо гэта лічылася адпачынкам.

У той дзень маладзіцы і старыя кабеты сабраліся каля хаты Параскі Рачычанкі. Таўклася побач і малеча: Ліза ды Бузюмішыны дочкі Маня з Нінаю. Клемава Вера хораша спявала, жанчыны падцягвалі, не заглушаючы яе моцны і чысты голас, за які пакахаў яе некалі Аверка, ды ўсё не вяртаўся да сваёй нарачонай з турмы. А яна цярпліва чакала, спяваючы сумныя песні пра разлуку і каханне.

— Глядзіце, Бабця з Луцяю ідуць, — сказала Дамінка.

— Мусіць, з лесу, — здагадалася Параска.

Да гурту падышла стараватая, шырокая ў крыжы кабета з вельмі падобнаю на яе дзяўчынаю ці маладою жанчынаю. У абедзвюх былі светлыя валасы, якія маляўнічымі кудзеркамі выбіваліся з-пад белых хустак. Неслі яны ладны кошык, сплецены з лыка і сціпла ўпрыгожаны ружовымі кветачкамі.

— У ягады хадзілі? — спытала Дамінка.

— Ага, — адказала старэйшая жанчына і пачала раздаваць малым дзяўчаткам галінкі з чорнымі ягадамі.

— Што гэта? — здзівілася Ліза.

— Чарніцы, — адказала Бабця і ўсміхнулася радасна ад таго, што змагла здзівіць і парадаваць чужое дзіця.

Сваю дачку Луцю яна не адпускала ні на крок ад сябе, баялася страціць. Гэта была адзіная яе найвялікшая каштоўнасць. Усе ў вёсцы ведалі, што некалі яна, Матруна Шумук, сімпатычная вясковая дзяўчына, служыла ў нейкага падпанка, даглядала ды няньчыла дзяцей, якія называлі яе бабцяю. Гэтае слова

так прыліпла да яе, што стала мянушкаю. Ад гэтага самага падпанка нарадзіла яна дзве дачкі Эвеліну і Люцыю. Падпанак сам даў дзяўчынкам імёны, аднак Эвеліну ў хуткім часе ў Матруны забраў, бо яна з твару была падобная на яго, і аддаў сваёй бяздзетнай сястры, а Бабці заплаціў нейкія грошы, хоць яна і не згаджалася. Ды падпанак настрашыў яе, што і Луцю забярэ, калі яна не дасць згоды. Матруна вымушана была саступіць, суцешылася тым, што мела магчымасць наведваць дачушку. Аднак у 1939 годзе падпанак выехаў у Польшчу і вывез з сабою Эвеліну. Засталася Бабця з Луцяю. Ніхто не ведае, колькі начэй яна праплакала, сумуючы па малодшай сваёй дачушцы, прадчуваючы, што больш ніколі яе не ўбачыць. Так яно і атрымалася.

Ліза абрывала смачныя ягадкі з чарнічніка і ўяўляла, што яны растуць высока на дрэве, як вішні, і ўжо марыла, што аднойчы сама пойдзе ў лес, сустрэне там дзядулю Рэха, а ён пачастуе яе чарніцамі.

— Ці шмат сёлета ягад? — спытала Параска.

— Даволі, толькі зеленаватыя яшчэ, — адказала Бабця.

— Прысядзьце, адпачніце з дарогі.

Жанчыны пасунуліся, Бабця з Луцяю селі. Старэйшая ягадніца адгарнула хустку, якою быў абвязаны кошык, па жменьцы пачаставала ўсіх прысутных жанчын чарніцамі. Тыя смакавалі ды нахвальвалі пачастунак.

Ліза, задаволеная, што пакаштавала смачных чарніц, вырашыла наведаць улюбёную сваю мясціну — балотца і сажалку. За некалькі тыдняў поплаў расцвіў мноствам ружовых, жоўтых і белых кветачак, дробных, ды ўсё ж прывабных і прыемных для позірку. А на ўзгорку, за якім знаходзілася сажалка, раслі іншыя кветкі: ліловыя, фіялетавыя. Ліза не ведала, як яны называюцца, бачыла іх упершыню. Прыглядалася да лісцікаў і пялёсткаў, радавалася, здзіўлялася, любавалася хараством кожнай расліны, нават простай травы, якая выганяла ўгору каласкі, што калыхаліся пад ветрам і ажно паблісквалі на сонцы. На Дняпроўскай кручы раслі іншыя зёлкі і кустоўе. Там можна было нарваць арэхаў і груш-дзічак, нават сустрэць падбярозавіка, надыбаць якую ажыніну. А з кветак раслі толькі дробныя блакітныя званочкі, белыя рамонкі ды духмяная мацярдушка.

У ручаіне назірала Ліза за маленькімі чорнымі апалонікамі, асобныя з якіх падраслі ўжо і ператвараліся ў жабянят. Дзяўчынка магла гадзінамі сачыць за жыццём у вадзе. Вясковыя дзеці, у асноўным, як і яна, дашкольнікі, таксама часам прыходзілі сюды. Аднак падлеткам было не да лайдачання, усе яны былі занятыя справаю разам з дарослымі на полі ці ў агародзе.

Дамоў Ліза вярнулася з вялізным букетам. Дробныя яркія кветкі пахлі травою, але ўсё адно яны былі прыгожыя і радавалі вока. Каля Бузюмішанай хаты ўбачыла грузавік, а каля яго мноства людзей. Яна падышла, зазірнула ў кузаў з адкрытым бортам: там ляжаў скрываўлены дзядзька Анісім, Бузюмішын муж. Лізе стала страшна і моташна ад убачанага. Чалавек стагнаў. Людзі маўчалі. Бузюміха з сынам прынеслі пярыну і падушку, падклалі пад хворага. Дзядзька Ленінка падняў борт, замацаваў яго, сеў у кабіну і машына паехала. Людзі ў натоўпе загаманілі:

— Гэта ж трэба такому здарыцца, — скрушна сказала Вера, — на вайне чалавек выжыў, а тут на сваёй ферме бычок да паўсмерці змалаціў.

— Ніхто не ведае, дзе каго бяда чакае, — адказала Параска Рачычанка.

— Шкода чалавека.

— Дзіва, што шкода, — адказаў нехта з натоўпу.

Ліза ўбачыла сярод людзей маму, падышла да яе і спытала:

— Што здарылася?

— Хадзем дадому, раскажу, — прашаптала маці ў адказ.

Прыйшлі ў хату, Ліза ўсё чакала, калі ж маці пачне расказваць, а яна ўжо і забылася, што паабяцала.

— Дзядзька Анісім захварэў? — спытала дачка.

— Бык на рогі падняў, паламаў рэбры і ногі. Ты вось ходзіш на поплаў, дык трымайся далей ад кароў і коней, калі яны там пасуцца, — адказала маці, кладучы сына ў калыску. — Пакалышы браціка, а я тату ліст напішу.

Таіса ўчора атрымала ліст ад Аўдзея. Паведамляў ён, што ўладкаваліся яны ў калгасе. Нехта з хлопцаў узяўся пасвіць авечак, нехта працуе ў полі, а яму далі каня, каб вазіў фураж на ферму. Абяцаюць нешта заплаціць. Але ніхто тут асабліва беларусаў не чакаў, сваіх людзей удосталь. Сяло прыгожае, хаткі беленькія стаяць, нібы цацачныя. У дварах шмат кветак. А сонца, здаецца, нашмат гарачэйшае, чым у нас. За дзень так галаву напячэ, што ажно срэбныя іскрынкі перад вачамі лётаюць. Яна яшчэ раз перачытала мужаў ліст і села пісаць адказ. Хоць навін асаблівых не было, адно, што Анісіма Бузюмішанага бык паламаў, мусіць зляжа чалавек у бальніцу на некалькі месяцаў, таму не зможа пахрысціць нашага сыночка, давядзецца некага іншага браць хросным бацькам. Як быццам нічога асаблівага і не пісала, аднак тэксту набралася на цэлы ліст са сшытка. А на зваротным баку ліста Таіса абвяла сынаву далоньку, няхай тата паглядзіць, як хутка ягонае дзіця расце. Ліза папрасіла:

— І маю руку тату пашлі.

Таіса абыякава абвяла даччыну далонь на яшчэ адным лісточку. Стала падпісваць канверт. У гэты час увайшла ў хату свякруха, сказала прыгнечаным голасам:

— Няма Анісіма… Не давезлі да больніцы… Пяцёра дзяцей пакінуў…

— І што цяпер Бузюміха?

— Рыхтуецца да пахавання.

Пакуль мама з бабаю гутарылі, Ліза выслізнула з хаты, пабегла да Бузюміхі. Двор яе быў абсаджаны вішняком, а каля весніц у гародчыку рос вялізны куст бэзу з лісточкамі, падобнымі да сэрцайкаў. Дакладна такія самыя па форме лісточкі-сэрцайкі з фольгі на чорным фоне красаваліся ў рамцы на сцяне ў хаце Бузюміхі. На дварэ стаялі людзі, маўчалі. Ліза не адважылася ўвайсці ў памяшканне. Прысела на прызбе, спрабуючы зразумець, што там адбываецца. Нехта амаль шэптам сказаў, што старыя бабы, Параска Рачычанка і Настуся, абмываюць нябожчыка.

Ліза вярнулася ў свой двор, убачыла, што ў гародзе мама і баба Малаша пололі грады, пасунулася ў хату, выконваць свае абавязкі, калыхаць брата. На прыпечку заўважыла змятую паперыну, разгарнула яе і згледзела адбітак сваёй далоні. На стале ляжаў заклееены канверт. З горыччу зразумела: «Мама пашле тату толькі брацікаву руку, мая яму не патрэбная і не цікавая, бо я не яго дачка.» Гэтая горкая думка засталася, як засечка ў памяці, што яна падчарка і ні на што тут прэтэндаваць не можа: ні на любоў, ні на разуменне, ні на ласку.

На другі дзень хавалі дзядзьку Анісіма. Сабрася ўсё сяло, ішло ўслед за труною, якую вёз на машыне Ленінка. Бузюміха галасіла:

— Засталіся дзеці сіротамі навекі!

І ўсё прысутныя разумелі, што і Бузюміха больш не выйдзе замуж, а давядзецца ёй самой гадаваць сына і чатыры дачкі ў нішчымніцы і нястачы. У што абуць і апрануць дзяцей? Чым накарміць? Добра, што бульба вядзецца на сотках, дык мо з голаду не папухнуць. Галена Бузюміха некалі служыла ў пана, шмат чаму навучылася, умее з нічога зварыць абед. Разумная яна баба і

хітрая. Нездарма ж здолела такога маладога хлопца прыручыць, але няма ёй шчасця. Першага не ўтрымала і другога страціла.

Лізу мама на могілкі не пусціла і сама не пайшла з малым, маўляў, няма чаго дзецям рабіць сярод мерцвякоў. Пасля абеду нечакана здарылася навальніца. Сярод яснага неба раптам разгарнуліся цёмныя сувоі хмар, загрымела, заблііскалі маланкі. Ліза баялася грому. Яшчэ калі жыла ў цёці Полі аднойчы так спалохалася грымотаў, што пачала заікацца. І цяпер, калі спрабуе хутка гаварыць, дык можа спатыкнуцца на нейкім складзе. Баба Малаша зачыніла юшку ў коміне, каб маланка не ўляцела праз печ у хату, моўчкі сядзела на лаве. Мама прымасцілася на запечку, схілілася над сыночкам, нешта шаптала яму. Дзіця ў калысцы ўсміхалася і матляла ручкамі.

— Вой папрэла паміж ножкамі ў малога. Трэба прысыпка, а дзе яе ўзяць? — у роспачы сказала Таіса.

— Знайшла бяду. Гондэ парахна надзяры, — адказала Малаша і пачала калупаць раму, паедзеную шашалем, скуль пасыпалася жоўтая труха.

Гром пагрозна ляскаў раз за разам, успыхвала белае святло маланак, лінуў моцны дождж, што ажно бурбалкі заскакалі па лужынках. Навальніца хутка скончылася, сціхлі грымоты, вызірнула сонца і Ліза выбегла на вуліцу, азіралася на свае сляды, якія адбіваліся на пяску. Потым крутнулася на пятцы адной нагі і намалявала прыгожы круг. Такімі кругамі ўпрыгожыла вуліцу насупраць сваёй хаты. Яна была ў тым мілым узросце, калі ні крыўды, ні смутак надоўга не селяцца ў сэрцы, а для радасці знаходзілася мноства прычын, хоць бы такая: маляваць кругі на мокрым пяску, крутнуўшыся вакол пяткі, ці збіраць кветкі на лузе, ціназіраць за жвавымі чорнымі пранікамі на балотцы. Гэтую радасць дарыла навакольная прырода, нічога не патрабуючы, а між тым забіраючы, палонячы душу сціплай і цнатлівай прыгажосцю. Лужок нават са скошанай травой застаецца прывабным са сваімі матылькамі і стракозамі, з крумканнем жаб у твані і спевамі жаваранка высока ў неба. А яшчэ ж былі першыя васількі ў жыце, а потым — жніво, калі мама брала з сабою брацiка ў калысцы і жала сярпом жыта...

**14**

Лета праляцела хутка. Аднойчы Ліза прыйшла да Бузюмішыных дачок пагуляць і ўбачыла, што Маня збіраецца ў школу. Гэтая навіна вельмі ўсхвалявала юную госцю. Хоць яна была равесніцаю з самаю малодшаю Нінаю, але вырашыла таксама ісці і запісвацца ў першы клас, бо чытаць ужо ўмела. Пабегла дамоў, пачала хуценька збірацца. Паспрабавала абуць чаравікі. Яны аказаліся цесныя: за лета на волі ступні выраслі. Ліза абула бліскучыя гумавыя боцікі. Узяла пад паху буквар і выбегла з хаты. Аказалася, што Маня яе не дачакалася і пайшла ў школу са старэйшымі сёстрамі. Ліза не разгубілася, а выправілася ў другі канец вёскі, дзе былі па хатах раскіданыя класы школы. Яшчэ здалёку ўбачыла, як хлопчык прабег па вуліцы са званком, склікаючы дзяцей на першыя ў навучальным годзе заняткі. Першакласнікаў паставілі ў радок. Ліза ўбачыла Маню Бузюмішыну і стала побач з ёю. Новых вучняў павіншавалі з пачаткам новага жыцця, раздалі букеты кветак. Лізе дастаўся вялікі прыгожы букет з аксамітак і рамонкаў. Потым малых павялі ў клас і дазволілі сесці за парты. Малады і прыгожы настаўнік агледзеў новых сваіх выхаванцаў і ўбачыў, што адна маленькая дзяўчынка плача, спытаў у яе:

— Што здарылася?

— Мне кветак не далі, — усхліпваючы, адказала малая.

Настаўнік узяў Лізін букет, які яна паклала на парту, і аддаў плаксе. Лізе было шкада кветак, але яна не стала плакаць. На поплаве кветак поўна, можна колькі хочаш нарваць. Галоўнае, што яе прынялі ў школу. Цяпер яна навучыцца пісаць і пашле ліст цёці Полі, дзеду і дваюраднаму брату Віцю.

Настаўнік сказаў, што яго завуць Вячаслаў Уладзіміравіч, паўтарыў некалькі разоў, а дзеці — услед за ім. А пасля пачаў называць па прозвішчах і імёнах вучняў, а яны адгукаліся і ўставалі з-за парты. Лізы ў тым спісе не было. Настаўнік спытаў, як яе завуць.

— Селіч Ліза, — адказала дзяўчынка.

Настаўнік дапісаў яе прозвішча ў вялікі тоўсты сшытак, пагутарыў з дзецьмі, спытаў, якія гарады яны ведаюць. Ліза назвала найбольш гарадоў, бо нягледзячы на свой малы ўзрост, ужо шмат паездзіла. Настаўнік пахваліў яе, а пасля адпусціў дзяцей дамоў, папярэдзіў толькі, каб заўтра прынеслі з сабою сшыткі і алоўкі.

Шчаслівая Ліза вярнулася дахаты і сказала здзіўленай маме, што яна запісалася ў школу, заўтра раніцай ёй трэба ісці на заняткі, а для гэтага неабходны сшытак і аловак. Аловак знайшоўся, сшытак — таксама, хоць ён быў ужо распачаты, бо Таіса выдрала з яго два лісты, калі пісала пісьмо Аўдзею, а торбы не было. Маці знайшла маленькую вышытую навалачку, якую ёй некалі падаравала прыяцелька, прышыла дзве ручкі — і праблема вырашылася.

Два дні хадзіла Ліза ў школу, і кожны раз настаўнік усё пытаў, як яе завуць і нешта пазначаў у сваім сшытку, быццам прозвішчы ўсіх іншых дзяцей ён ведаў, а Лізіна ніяк не мог запомніць. А ўвечары завітаў да іх дамоў. Спытаў, чаму Лізы няма ў спісе першакласнікаў. А калі дазнаўся, што дзяўчынцы толькі шэсць гадоў, здзівіўся:

— Навошта малую выправілі ў школу?

— Яна сама пайшла, — адказала Таіса.

Тады настаўнік спытаў:

— Ці хочаш ты, Ліза, вучыцца?

— Хачу.

— Што ж, няхай пакуль вучыцца, а там пабачым, — адказаў настаўнік. — Разумееце, дзяўчынка малая, можа не справіцца з праграмай, давядзецца адлічваць. Гэта будзе непрыемна ўсім: ёй, вам, мне.

— Справіцца, яна ўжо і чытаць даўно навучылася. Вось яе буквар і кніжкі, якія мая малодшая сястра прыслала. Ліза іх ужо шмат разоў прачытала.

— Ну, калі так, дык мне ўсяго працы застаецца, што навучыць яе пісаць.

Размаўляючы з Таісай, Вячаслаў Уладзіміравіч пачуў знаёмы дыялект, і спытаў, скуль яна родам. Высветлілася, што яны землякі. І тут паплылі згадкі пра радзіму, а Ліза тым часам выслізнула з хаты, каб расказаць Бузюмішанай Мані, што настаўнік сядзіць у іх у хаце, размаўляе з мамай, што ён прыехаў таксама з вёскі, якая стаіць на Дняпры.

На наступны дзень настаўнік больш не пытаў у Лізы яе прозвішча, яна сапраўды стала вучаніцаю першага класа, старалася пісаць, як паказваў Вячаслаў Уладзіміравіч, і маляваць. Калі пасля заняткаў Ліза з Маняю вярталася дамоў, іх перастрэў Банадысін індык, вялізны, ростам з першакласніц, страшны, з чырвонаю галавою і барадою. Калі ён выцягнуў шыю, пайшоў у наступ на Лізу і наважыўся дзюбнуць яе, тая адбілася торбаю. Тады індык кінуўся ў атаку на Маню, яна спалохалася, заенчыла, затуляючыся торбаю. Ліза кінулася на дапамогу сяброўцы і адбіла яе ў разгневанай і зламыснай птушкі. Індык павярнуўся і пачаў пагражаць Лізе. Зноў дзяўчынка размахвала торбаю, баронячыся ад нахабнага драпежніка. Індык убачыў, што Ліза не баіцца яго, кінуў-

ся палохаць Маню. Так-сяк разам яны адбіліся ад лютага індыка і пашыбавалі дамоў, разважаючы, што ў наступны раз трэба хадзіць асцярожней, каб зноў не ўвязацца ў непатрэбную бойку.

Дома Ліза нікога не застала. Дзверы былі на замку. Яна села на прызбе і стала чакаць, малюючы дубчыкам на зямлі кветкі. У двор увайшоў худы і высокі міліцыянер у шапцы з чырвоным аколышкам, даўганосы, як той індык, з якім давялося сёння біцца Лізе.

— Дзе твае ўсе? — спытаў ён

— Не ведаю. Я толькі са школы прыйшла…

Міліцыянер уцягнуў паветра носам, патузаў за замок, пазаглядваў у занавешаныя вокны, плюнуў пад ногі і пайшоў з двара. Ліза недаўменна правяла яго позіркам і зноў пачала маляваць на пяску, раздумваючы, чаго гэты дзядзька прыходзіў. Хвілін праз колькі з'явілася баба Малаша, сказала, насцярожана выглядваючы за вароты:

— Пайшоў міліцыянт…

— Ага, — адказала Ліза.

— Халера яму ў бок.

Малаша пастаяла ў двары, нарэшце супакоілася і паклікала Лізу.

— Папалуднуеш і будзеш вартаваць, каб міліцыянт зноў не вярнуўся.

Ліза ўвайшла ў хату, убачыла ля печы самагонны апарат і здагадалася, чаму баба баялася міліцыянта. Ён забараняў людзям гнаць самагонку. Звычайна самагонку гналі па начах, а баба чамусьці вырашыла зрабіць гэтую справу ўдзень, і ледзь не папалася. На запечку сядзела мама і калыхала брацiка.

— Цябе баба замкнула? — спытала Ліза.

— Замкнула. А што ў цябе міліцыянер пытаў?

— Дзе ўсе?

— А ты што?

— Нічога… Я нічога не ведала.

— Ты ж нікому не кажы, што баба самагонку гоніць. Нам гарэлка трэба, каб ахрысціць брацiка, куму з кумам пачаставаць.

— Добра, дабра, — пагадзілася Ліза, а сама падумала, ці ж яна не разумее, што міліцыянту нельга праўду казаць, магла б і не папярэджваць.

## 15

Аўдзей вярнуўся з заробкаў толькі ў лістападзе, прывёз паўтоны пшаніцы ды трохі грошай. Усё ж лепш чым нічога. Відно было, што засумаваў па сям'і. Гэта цешыла Таісу. Першыя дні яны амаль не разлучаліся. Нават калі спатрэбілася намалоць жорнамі мукі, ён сабраўся памагаць жонцы.

— Ідзі яшчэ і за хлеў за яе, — злосна сказала Малаша сыну.

Яна сама не бачыла спачування ад свякрухі, не мела дапамогі ад хворага мужа, таму не спачувала нявестцы. Была перакананая, што ў гаспадарцы, кожны валачэ свой воз сам на колькі стае моцы.

Жорны мела Дамінка, да яе і накіраваліся Аўдзей з Таісаю. На замес цеста трэба было перамалоць два вядры зерня. Хлеб пяклі раз на тыдзень і захоўвалі ў каморы, каб чарсцвеў і меней з'ядаўся. Павіталіся з гаспадыняю, перакінуліся словам ды заняліся справаю. Круцілі ўдваіх цяжкія жорны, размаўлялі. Яна расказвала пра дзяцей, пра тое, як хрысціла сына, што баба Параска дала памідораў і гуркоў, дык стол атрымаўся, як на яе думку, прыгожы і быццам багаты. Не мела чым аддзячыць добрай суседцы, дык аддала Лізіну ляльку яе ўнучцы.

— Вой, а яшчэ было мне бяды, — успамінала Таіса, — гэта ж свіння апарасілася, ды прывяла дванаццаць парасят. А потым пяцёра пагрызла, мусіць, не здолела ўсіх пракарміць. Дык маці ўкінула іх у чыгун, дзе свіная бульба варылася, а сама пайшла да сястры. Як пачала я таўчы тое варыва, дык ад агіды мяне ледзь не вывернула. Добра, што Адарка забегла ды давяла тую справу да ладу, а так я і не ведаю, што было б…

Ён слухаў, усміхаўся. Гэта быў светлы час узаемаразумення і любасці.

— Ты не звяртай увагі на розныя плёткі. Табе будуць казаць, што я з даяркаю там гуляў, — сказаў Аўдзей. — Не вер. Не да гуляння там было. Нага балела моцна. Напрацуюся за дзень, дык ледзьве прывалакуся ўвечары. Гэта яны знарок будуць нагаворваць, каб мы з табою пасварыліся. Яны яшчэ ў цягніку дамовіліся нас развесці.

— Чым я ім замінаю?

— Не тутэйшая ты.

— Ну і што? Сам ведаеш, што беларуска…

— У нас чужых не вельмі любяць…

— Цесна ім, ці што? Вунь і Піліпа Машынкі жонка з'ехала, не вытрымала тутэйшага раю. А ён і ў вус не дзьме, знойдзе новую. Паламаў дзяўчыне жыццё…

— Піліп — ветрагон, чаго ад яго чакаць?

— Вой, я ж табе не расказала яшчэ, як мне машыну лёну старшыня прысылаў, каб я церла ды часала, — спахапілася Таіса. — Яшчэ і гэты Харунжы пад’ехаў, маўляў, пара табе брацца за працу. А я кажу, што ў ваш калгас не запісвалася. Згніе ваш лён, перш чым я пальцам варухну. Бабы збегліся, слухаюць ды дзівяцца, чаму я начальства не баюся.

— Людзі нашы цёмныя, запалоханыя. Баяцца, што пляц пад бульбу не дадуць, або які пясок выдзеляць, што падаткамі задушаць. Некалькі сем’яў самых багатых наогул выслалі адразу пасля вайны. Данілава хата, што насупраць таполі, да гэтага часу пустуе. Ды што казаць, жыццё ў вёсцы не цукар…

— А твая маці таксама не надта каго баіцца. Сабралася сярод белага дня самагонку гнаць, а тут бачыць: участковы прыехаў у вёску. Яна мяне з малым замкнула, а сама схавалася ў некага з суседзяў ды назірала. Участковы мае добры нюх, адразу зразумеў, што ў нашай хаце брагай пахне. Зайшоў у двор, а хата на замку. Якраз Ліза са школы вярнулася. Спытаў у яе, дзе хто. Яна нічога не ведала. Так і пайшоў ні з чым…

— Як з бульбаю ўправіліся?

— На полі канём выаралі, а ў гародзе я сама пакапала. Смяяліся з мяне, што не ўмею, як усе, копачкаю выграбаць бульбу. Гэта ж яны проста на зямлі сядзяць, можна ўсё застудзіць. Ты ж бачыў, у нас капаніцамі капаюць.

— А ты як капала?

— Рыдлёўкаю…

Намалолі вядро мукі, вярнуліся дамоў. Малаша калыхала ўнука і спявала:

Вазьмі сынку драцяну нагайку
Ды бі жонку з вечара да ранку.

Таіса абурана падумала: «Лепшае песні не знайшлося для калыханкі. Вые і вые, як воўк у піліпаўку. Што ні заспявае, усё на адзін матыў.» Але нічога не сказала, узялася гатаваць вячэру. У гэтыя дні позняй восені рана цямнела, ды сёлета лядчукі перасталі хадзіць на вячоркі, сядзелі па хатах. Для такой пера-

мены ў паводзінах людзей з'явілая важная прычына. Яшчэ з вясны ў вёсцы пачалі ставіць драўляныя слупы, а тыдняў колькі таму правялі радыё, якое людзі слухалі ў кожную вольную хвіліну. Ліза і баба Малаша таксама любілі пасядзець ды паслухаць песні.

— Хто гэта спявае? — спытала дзяўчынка.

— Маленькія чалавечкі ў гэтай скрыначцы жывуць, — адказала старая.

Прыёмнік стаяў на стале. Ліза зазірнула з другога боку ў круглыя дзірачкі, але ніякіх чалавечкаў не ўбачыла.

— Не, баба, няма там нікога. Калі мы жылі ў горадзе, і хадзілі ў госці да цёткі Капы, у яе таксама было радыё. Такая вялікая чорная талерка.

— Тыя чалавечкі хаваюцца, баяцца яны нас, такіх вялікіх у параўнанні з імі. Мы ж іх задушыць можам, як мурашоў.

Ліза ўявіла чалавечкаў і падумала: «Не пашанцавала чалавечкам. Я некалі вырасту, Маня вырасце і ўсе з нашага класа некалі стануць вялікія, а бедныя чалавечкі заўсёды будуць маленькія…»

Раптам у сенцах нехта зашкроб рукою па дзвярах, шукаючы клямку. Мусіць, ішоў нехта чужы. Малаша адчыніла дзверы, і ў хату прасунуўся стары чалавек з двума кіёчкамі ў руках і торбамі праз плечы. Госць павітаўся, а гаспадыня запрасіла:

— Заходзь, Раманка, заходзь. Даўно не бачыліся.

Ліза адразу здагадалася, што гэта старац. Яна насцярожана сачыла за тым, што будзе адбывацца далей, бо старцаў баялася. Імі яе страшылі, казалі, што старац забярэ ў торбу. Стары паставіў кіёчкі ў парозе, скінуў торбы з плячэй, зняў старую, усю на латках світу, сеў на лаву.

— Павячэрай з намі і заначуй, — гасцінна прапанавала гаспадыня.

— Дзякую, Малашка, добрая ў цябе душа, — таропка сказаў стары, размаўляў ён хутка, як усе няўпэўненыя ў сабе людзі, таму мова ягоная была невыразная, а часам незразумелая.

Ліза залезла на печ і назірала за старцам.

— Што чуваць на свеце, — спытала Малаша.

— Дрэнныя весткі ходзяць. Кажуць, недзе, у нейкім горадзе ў царкве зрабілі клуб. Моладзь весялілася, скакала, а адной дзеўцы не хапіла пары. Яна ўзяла ікону святога Міколы і хацела закружыцца ў вальсе дый аслупянела. Кажуць, і цяпер стаіць. Пад ёю нават спрабавалі падлогу высекаць, каб зрушыць з месца. Ды пачынае кроў цячы…

— Гэта, мусіць, кроў нашага Хрыста Збавіцеля, — сказала гаспадыня.

— Напэўна, — згадзіўся госць. — А яшчэ кажуць, што хутка павуцінне затчэ ўсё неба, і толькі жалезныя птушкі будуць лётаць уверсе і па сваёй прыхамаці забіваць людзей.

— Гэта ўжо, мабыць, будзе перад канцом свету.

Нявестка з сынам слухалі і ў гаворку не ўступалі. Але Раман сам першы звярнуўся да Таісы, дастаючы з кішэні жменю капеек:

— На, маладая, палічы, што тут мне людзі надавалі.

Пакуль Таіса лічыла грошы, Раман дастаў з торбы некалькі яек і сказаў Малашы:

— Падсмажце на вячэру.

— Навошта, Раманка? Нёс бы дахаты, — запярэчыла гаспадыня.

— Ці ж я іх данясу, — усміхаючыся ў бараду, адказаў старац, потым дастаў некалькі кавалкаў хлеба, паклаў на стол. — Шмат хлеба надавалі. Насушу сухароў і не буду хадзіць па людзях, як пачнуцца моцныя маразы.

Таіса паставіла на стол вараную бульбу, аздобленую льняным талакном, патэльню са смажанымі яйкамі, запрасіла ўсіх да стала. Ліза спусцілася з печы. Сёння яна раптам адкрыла для сябе, што старцы зусім не цікавяцца дзецьмі. Раман нават не спытаў ні пра брацiка, які спаў у калысцы, ні пра Лізу. Зразумела, што дарослыя падманвалі і запалохвалі яе. Пасля вячэры Раману паслалі на лаве, і ён лёг задаволены, амаль шчаслівы, што знайшоў прытулак на гэтую ноч, бо ніколі не ведаў, ці дажыве да раніцы.

## 16

Тою восенню, калі ўсё пажалі ды пакасілі, раптам заўважылі лядчукі, што кожную раніцу прыязджаюць на машыне нейкія людзі, нешта робяць на полі, а пасля ўвечары з'язджаюць. Што за людзі, каб чаго не начаравалі часам, меркавалі паміж сабою жанчыны. Мужчыны наогул не ведалі, што думаць, таму пайшлі ў сельсавет пытаць, што гэта робіцца? Ніхто нічога пэўнага сказаць ім не здолеў. Спыталі ў старшыні калгаса — таксама нічога не ведае. Да бацюшкі звярнуліся, выказалі меркаванне, мо святы калодзеж будуць капаць, але і яго не спадобіў Бог ведаць намеры прыхадняў.

Таіса, якая ўвесь час пакутавала ад безграшоўя, упарта думала пра тое, як і куды адсюль з'ехаць, пайшла да тых невядомых людзей і спытала:

— Што вы тут, хлопцы, робіце?

— Бяром пробы глебы на аналіз. Плануецца пабудаваць тут электрастанцыю.

Таіса адразу сцяміла, калі будуць будаваць электрастанцыю, дык з'явіцца праца.

— А калі ж вы будзеце яе будаваць? — спытала маладзіца.

— Калі ўсё будзе добра, дык спачатку трэба зрабіць праект, на гэта пойдзе гады два-тры, а потым і будоўля распачнецца, — адказаў чарнявы чалавек, мусіць, галоўны тут над людзьмі.

— А ці не знойдзецца ў вас якой працы для майго мужыка?

— Няхай прыходзіць, возьмем падсобнікам.

Так Аўдзей пачаў працаваць з геадэзістамі і геолагамі, якія прыехалі сабраць неабходныя дадзеныя для праекта будучай электрастанцыі. Яму выдалі новае рабочае адзенне, кірзавыя боты і ватоўку, а галоўнае — плацілі грошы за працу. Таіса была шчаслівая. Яна старалася нічога не траціць, збірала сродкі на тое, каб некуды пераехаць. Калі яшчэ тая станцыя будзе будавацца, а тут абнасілася ўся сям'я, няма чаго ні абуць, ні апрануць. Трэба некуды ехаць. З гэтаю думкаю яна засынала і прачыналася. Куды ехаць, пакуль не ведала. Казалі, што Антось Самота, які яшчэ вясною паехаў з сям'ёю некуды на Украіну, няблага ўладкаваўся. Калгас хату даў. Зарабляюць там людзі, прынамсі, такой нястачы і галечы, як тут, не ведаюць. Трэба распытаць у ягоных сваякоў, куды менавіта яны паехалі, дык на першым часе можна было б у яго спыніцца. Там жа ніхто нас не чакае, белых булак не падрыхтаваў для сустрэчы. За такімі думкамі заспела ў хаце Таісу Параска Рэчычанка.

— Што ты, Таечка, так задумалася, што нават не чула, як я ў хату ўвайшла? — спытала старая.

— Ай, цётачка, вось усё думаю, як тут жыць, што чыніць, як ратавацца ад галечы. Пакуль у горадзе жылі, працавалі, нешта зараблялі. А тут, як у яму ўлезлі, ні працы, ні заробкаў.

— Мы, вясковыя, звыклыя, ніколі не раскашавалі, а вам маладым, дык, мусіць, цяжка. Але ж няма куды падзецца ад гэтага жыцця, — адказала Парас-

ка. — А ў мяне радасная навіна. Мой сын жэніцца, дык я прыйшла запрасіць вас усіх на вяселле. Як і з чаго тое вяселле рабіць, адзін Бог ведае. Але неяк зладзім…

— Віншую вас з гэтаю падзеяю, а маладым няхай шчасціць ва ўсім.

— Дзякую, Таечка, але ў мяне і просьба. У майго маладога няма нават касцюма, каб на вяселлі пакрасавацца. Мо Аўдзей яму свой даў бы? Гэта ж штодня ходзіць у калгас на працу, а заробкаў ніякіх. Усяго і радасці, што на машыне ездзіць.

— Дасць, безумоўна, — паабяцала Таіса.

Вестка, што Ленінка жэніцца, хутка абляцела вёску. Малаша і Аўдзей жылі ў прадчуванні вясёлай прыгоды. Яны былі перакананыя, што чалавек мусіць не толькі цяжка працаваць, але і калі-нікалі добра весяліцца, даваць душы адпачынак, насычаць яе радасцю, тады і цела будзе моцнае і нястомнае. Што датычыць Аўдзея, дык у яго на вяселлі намячалася ганаровая пасада, сябар маленства браў яго за дружку. А гэта павага ў вачах аднавяскоўцаў і прыемная справа сабе самому. Праўда гарнітур давялося аддаць маладому, а сам ён абыдзецца і без пінжака, вып'е сто грамаў і сагрэецца душою і целам.

Таіса пазбягала хадзіць на розныя гулянкі ўжо толькі таму, што Аўдзей напіваўся і рабіўся жорсткі і непрадказальны. Але бабе Рачычанцы не магла адмовіць, вырашыла хоць на трохі паказацца ў хаце маладога. Яна ўзяла маленькага сына на рукі і выйшла на двор. Хата Ленінкі стаяла наўскасяк. Сюды ўжо сходзіліся госці. Гралі музыкі.

Да Таісы падышла маладзіца, муж якой разам з Аўдзеем ездзіў на Украіну.

— Мой казаў, што Аўдзей хадзіў да нейкай даяркі.

Таіса грэбліва пасміхнулася і адказала:

— Аўдзей казаў, што гэта твой гуляў ды яшчэ яго зводзіў, а ён не паддаўся. Не, не такі Аўдзей, каб мяне на нейкую самадайку памяняць.

Маладзіца злосна падцяла вусны і пашыбавала міма. Таіса засталася задаволеная, што адпомсціла пляткарцы, і пайшла ў хату паглядзець на маладых. Вяселле гуло. За сталамі людзі елі, пілі, спявалі, гутарылі. Маладыя красаваліся ў цэнтры стала. Ленінку вельмі пасаваў Аўдзееў цёмна-шэры гарнітур з гальштукам у блакітную і сінюю палоску. Маладая з твару была вельмі падобная на маладога, бываюць жа такія супадзенні. «Мусіць, шчаслівыя будуць. У што б гэты малады апрануўся, каб нас не было? — сама ў сябе спытала Таіса.

Таіса пашукала вачамі Аўдзея, усміхнулася яму. Нейкі незнаёмы чалавек, мусіць, родзіч з дальняй вёскі бабы Рэчычанкі, пасунуўся, даў Таісе месца за сталом, наліў чарку. Піць яна адмовілася, патлумачыла, што корміць дзіця, але пакаштавала жур з вялікай міскі, вінегрэт, смажаную рыбу, падзякавала за добрую кампанію ды і зноў падалася на вуліцу. Ад свякрухі яна ведала, што тутэйшы люд часта займаецца чараўніцтвам. Каб людзі шмат не елі, пад стол утыкаюць іголкі. Смажаную рыбу пырскаюць сырою вадой, тады абжораў прабіраў панос. Мусіць, цётка Параска такога паскудства не рабіла, бо ўсе госці спраўна елі.

На вуліцы па-ранейшаму натоўп цешыўся з пудзіла, выстаўленага на высокай тычцы. Малаша стаяла ў гурце, смяялася разам з усімі. Яна паспела ўжо выпіць і закусіць, а цяпер мела намер выканаць заўсёдную сваю місію. На кожным вяселлі, куды яе запрашалі, яна пераапраналася ў ведзьму і ганялася за дзецьмі. Яе твар, вымазаны сажаю, распушчаныя валасы, вывернуты

кажушок і памяло ў руках станавіліся ўвасабленнем магчымага зла, якое ў сапраўднасці можа напаткаць чалавека. Трэба быць заўсёды гатовым сустрэць яго, няхай лепш так ва ўяўным вобразе, чым на самай справе. Спачатку Малаша спудзіла дзяўчат, якія скакалі каля Ленінкавай хаты, потым пабегла ўздоўж вуліцы, бо ўдалечыні ўбачыла, што дзеці вяртаюцца са школы. Кінулася ім насустрач. Разагнала, бы куранят. Адны са страхам уцякалі, іншыя спрабавалі падражніць старую, трохі адбягалі, паказвалі языкі, крычалі:

— Ведзьма! Ведзьма!

— Зараз злаўлю! Вы ў мяне будзеце ведаць! — пагражала Малаша і гналася за нахабнымі хлапчукамі.

Ліза, вяртаючыся са школы, таксама ўбачыла бабу Малашу. На душы зрабілася прыкра і сорамна. Дзеці дражнілі старую, шпурлялі каменнем, ставіліся, як да блазна. Ліза не стала ўцякаць, пайшла сваёю дарогаю. Ведзьма таксама зрабіла выгляд, што не заўважыла яе.

Таіса здалёку ўбачыла пераапранутую старую і не адразу пазнала свякроў. Калі ж тая наблізілася, дык Таіса ажно здрыганулася і злосна падумала:

«Не баба, а чортава маці. Гэта ж трэба дадумацца да такога паскудства…»

## 17

Аўдзей працаваў два месяцы, а пасля геадэзісты і геолагі з’ехалі. Цяпер у яго з’явілася шмат вольнага часу. Ён зноў уліўся ў гурт маладых хлопцаў і мужчын, якія ад няма чаго рабіць збіраліся ў якой-небудзь хаце, выпівалі, гулялі ў карты, планавалі, куды ім паехаць на лета на заробкі, па-мужчынску бавілі час. Аўдзей не прыходзіў дамоў на абед і вячэру, бо там, дзе пілося, там знаходзілася і такая-сякая закуска. На каляды вярнуўся дамоў моцна п’яны пад ранне, спяваючы розныя брыдкія прыпеўкі. Таіса, колькі было сілы, трывала, а потым паскардзілася свякрусе, на што тая адказвала:

— Схавай сабе яго пад спадніцу!

Паўтаралася ўжо аднойчы пражытае, толькі ў значна горшым варыянце. Як жа так магло здарыцца, што яе Аўдзей, які раней п’янеў ад кухля піва, цяпер без усялякай меры жлукціў гарэлку? Хто вінаваты? Жыццё? Доля? Праклён бабулі Аксінні? Ужо ў які раз Таіса дакарала сябе, што згадзілася прыехаць сюды, дзе за ёю быццам зачынілася пастка, з якой немагчыма выбрацца. Ды хіба Таіса адна такая? Вунь і Піліп Машынка прывёз аднекуль маладую і прыгожую дзяўчыну, гарадскую, казаў, у цягніку пазнаёміўся. Угаварыў, паехала з ім. А цяпер ходзіць яна, бы ў ваду апушчаная. Не ўяўляла нават, што можна раптам трапіць у такую галечу ды нішчымніцу. Адна радасць, што слухаць, як Машынка на гармоніку грае. Ёй лягчэй, яна дзяцей не мае. Казала па сакрэце, што, мусіць, з’едзе адсюль вясною. Бяда жанчынам, вераць падманшчыкам, спадзяюцца на шчасце. А ці існуе яно наогул?

Добра, што Малаша сабралася ў госці да сястры ў іншую вёску, хоць сёння можна адпачыць ад яе спеваў, падобных на воўчае выццё. Але, адыходзячы загадала выкідаць гной з хлява. Хіба ж гэта жаночая справа? Паспрабавала Таіса з віламі падымаць тыя ўтрамбаваныя пласты ды і зразумела, што адной ёй гэтую справу не зрабіць. Аўдзей яшчэ зранку падаўся да Марціна, дзе звычайна збіраліся хлопцы. Дарэмна чакала да абеду, а потым вырашыла пайсці ды паклікаць яго дамоў. Яшчэ з сяней Таіса пачула спевы, пастаяла, прыслухалася.

Ой, прыйдзе Ладзька, Ладзька кульгавы насміхаецца:
— Ой, за што, за што гэта басота напіваецца?

Яна ведала, што Ладзька — тутэйшы заможны гаспадар, які своечасова ўступіў у калгас, таму не быў вывезены, трымаў пасеку. У ягонай прасторнай хаце размясцілася школьная канцылярыя.

П'емо гарэлку, п'емо наліўку, будзем піць віно,
А як хто прыдзе з нас насміхацца, будзем біць таго.

Даляталі з хаты дружныя галасы. Песня абарвалася, але тут жа нехта зацягнуў прыпеўку:

Бегла мышка па дарозе.
Няма хлеба у калхозе.
У амбары трохі е,
Ладзькаў Вася не дае.

«Даўся ім гэты Ладзька, зайздросціць галыцьба багатаму чалавеку», — падумала Таіса. Яна ведала, што той Вася, пра якога спявалі, працаваў кamорнікам у калгасе. Адчыніла дзверы. У хаце было моцна накурана, здавалася, што нават сцены вылучалі агідны тытунёвы пах, шмат хлопцаў масціліся вакол стала на лаве і ўслонах.

Таіса прывіталася і сказала мужу:

— Пойдзем, Аўдзей дахаты. Маці сказала, каб гной выкідалі…

— Добра, ідзі, зараз дагуляю і прыйду, — адказаў ён.

— Дык я буду чакаць…

— Пасядзі гондэ, — запрасіў Марцін, Аўдзееў равеснік, але яшчэ пакуль не жанаты, паказваючы на вольнае месца на лаве.

— Не, дзякую, пайду, дзіця адно дома пакінула. Пакуль спіць, вырашыла збегаць ды паклікаць…

— Ідзі, ідзі, — сказаў Аўдзей.

Таіса выйшла, а падслепаваты Якім, дваюрадны Аўдзееў брат, абурана сказаў:

— Гэта каб мною баба кіравала, я з ёю невядома што зрабіў бы.

— Спачатку ажаніся, а потым будзеш іншых вучыць, — адмахнуўся Аўдзей.

— Правучыў бы так, што яна і носа не высунула б з хаты, без майго дазволу.

Іншыя хлопцы падтрымалі Якіма, маўляў, бабе волю нельга даваць, бо на галаву сядзе, а дурноту трэба своечасова выбіваць, каб адчувала моцную руку. У Аўдзея ў душы паступова пачала закіпаць злосць на Таісу, якая ўнадзілася сачыць за ім, хадзіць на вячоркі, клікаць дамоў, быццам ён малое і неразумнае дзіця. Ён яшчэ не ведаў, што з ёю зробіць, як будзе вучыць розуму, але ўжо гняўліва падшукваў кару. Да ўсяго гэтага дадалася яшчэ адна прыкрасць. Думаючы пра жонку, страціў пільнасць у час гульні ў карты і застаўся дурнем. Адгульвацца не стаў, ведаў, што ўжо не выйграе, трэба было ісці дамоў і разабрацца з жонкаю. Таісу ён знайшоў у хляве, яна няўмела калупала віламі гной, не хапала сілы, каб падняць моцны пласт, утаптаны кароваю. Аўдзей, не кажучы ні слова, схапіў рыдлёўку, якая стаяла ў кутку хлява і з размаху цюкнуў жанчыну ў бок. Яна войкнула, спалохана зірнула на яго і, трымаючыся за бок, выбегла з хлява. Пакуль ён, хістаючыся выйшаў услед за ёю, пачуў, як бразнулі дзверы хаты.

— Нічога, я цябе і там знайду, — пагрозліва прамармытаў ён.

У сенцах прадбачліва прыхапіў таўкача, што ляжаў у чыстых начоўках, у якіх таўклі свінні бульбу. Таіса была ў хаце, расшпіліла ватоўку, і аглядала прасечаны бок. Ён моўчкі, толькі цяжка сапучы стукнуў таўкачом па нагах, разлічваў зваліць яе і потым добра адмалаціць, але яна ўтрымалася, кінулася ў сенцы і ўжо на двары ён пачуў яе крык.

— Хутка вернешся, я табе дадам, — гнеўна крыкнуў ён і сеў аддыхацца да стала.

Дзверы ў хату расчыніліся, на парозе з’явілася цётка Параска Рэчычанка, маці Ленінкі, яго сябра маленства, закрычала з парога:

— За што ты яе? За што? Яна дзяцей гадуе, тваю маці даглядае! Заб’еш яе, хто сірот будзе гадаваць?!

Рэчычанка шуляком наляцела на Аўдзея, біла яго па галаве, па плячы, быццам перад ёю сядзеў не дарослы мужчына, а паскудны падлетак. Яна яго так і ўспрымала, бо гадаваўся і рос на яе вачах. Наогул, у вёсцы так прынята, дзе не паспяваюць выхаваць бацькі, там дапамагаюць суседзі. Аўдзей трываў, нават не адбіваўся, толькі пасунуўся далей у кут, болю не адчуваў таксама, толькі сорам паліў яго, што Ленінкава маці дазналася пра ганебную ягоную справу. Нарэшце старая Параска адступілася ад Аўдзея, выйшла ў сенцы і прывяла Таісу, прымусіла яе зняць ватоўку, запэўніла маладзіцу, што Аўдзей яе болей не кране.

У Таісы быў не моцна прасечаны бок.

— Трэба рану гарэлкаю памазаць, — сказала яна Таісе. — Чым гэта ён цябе?

— Рыдлёўкаю…

— Скаціну рыдлёўкаю не б’юць, а ён чалавека, жонку родную! Ганьба! — абурана зірнула Параска на Аўдзея.

Той маўчаў, толькі пазіраў з-пад ілба.

— Што яшчэ баліць? — спытала Рэчычанка.

— Ногі, калені, — жаласліва адказала Таіса.

— Здымай панчохі.

Калені былі ў сіняках і апухлі.

— Вось гэта дык гэта, — толькі і сказала Рэчычанка. — Як на такіх нагах хадзіць будзеш? Вой, доля мая цёмная!

Яна пабегла дамоў, прынесла нейкую мазь, змазала пухліны, уздыхнула і сказала:

— Няма нічога горай, чым калі мужык сваю бабу не шкадуе. Няма ладу ў хаце — няма сям’і, няма нічога. Як тая талерка, што разбілася, дык не склеіш. Кладзіся ў пасцель, хварэй ды лячыся. Няхай здаровыя працуюць.

— Не, нельга мне, — запалохана запярэчыла Таіса.

— Кладзіся, кажу! Ён цябе болей не кране. Гэта ўсё па дурноце п’янай. Я пасяджу побач, павартую…

Калі Малаша вярнулася з гасцей, Таіса ўжо ляжала ў пасцелі. Пад вечар у нявесткі паднялася тэмпература, таму Рэчычанка паслала сваю нявестку па фельчарку Бабкову. Чакалі медыцынскай дапамогі.

— Твой дурань ледзь не забіў маладзіцу, — сказала Рэчычанка.

Малаша роблена здзівілася, а ў душы яе засмяялася, заскакала радасць, што нарэшце сын абламаў рогі жонцы.

— Што ж ён зрабіў? — спытала Малаша.

— Ногі паперабіваў, цяпер сама будзеш ля печы таўчыся…

— Пакажы…

Малаша ўбачыла распухлыя Таісіны калені і паківала галавою, думаючы сама сабе, што біць трэба ўмеючы. Яе Аўдзей занадта часта стаў яе расчароўваць. Усё не так рабіў, як хацела маці.

Прыйшла фельчарка Бабкова, агледзела рану на баку і пабітыя калені, зрабіла тры ўколы ад слупняку, тэмпературы і болю, пакінула нейкія парашкі і таблеткі. Калі ўсе сышлі, у хаце ўсталявалася гнятлівая цішыня. Нават малы сын не капрызіў, не плакаў, ляжаў побач з Таісаю на запечку, сам з сабою бавіўся, а потым і заснуў. Ліза, якая звычайна любіла пасядзець за сталом пасля вячэры, гартаючы кніжкі, прыціхла на печы.

Малаша патушыла лямпу. Усе паснулі, толькі да Таісы не прыходзіў сон, ляжала і бязгучна плакала ад болю і крыўды. Слёзы плылі па твары, мачылі падушку, яна іх не выцірала, каб лішні раз не паварушыцца і не пабудзіць Аўдзея, які пасопваў побач. Усё яе жыццё праплыло перад вачамі. Яна прыходзіла да высновы, што ніхто яе ніколі не любіў і не шкадаваў. Бацькі занадта аберагалі адзінага сына, старэйшага ў сям'і. Самую малодшую дачку таксама не вельмі нагружалі працаю. Таіса была сярэдняй, яе змалку пасылалі няньчыць чужых дзяцей ці ў пастухі. Пасля вайны, калі ўсчаўся голад, бацька сказаў, маўляў, ратуйцеся дзеці, хто як можа. Яна пайшла вучыцца ў фабрычна-заводскае вучылішча, практыку праходзілі на шклозаводзе. Ад голаду кружылася галава, а ёй трэба было стаяць ля гарачай печы і кідаць абрэзкі шкла ў полымя. Здавалася, што і сама аднойчы ўваліцца туды. Ваеннапалонныя немцы дапамагалі юным фэзэвушніцам, ад гэтага рабілася яшчэ маркотней. Яна пакінула вучобу і вырашыла падацца ў нянькі на Палессе. Тры дні ў сакавіку ехала на адкрытай платформе да гаспадароў. Добра, што была не адна, а з гуртам людзей, якія туліліся адно да аднаго, так і грэліся. Прыйшла ў хату, дзе ёй належала служыць, убачыла пад услонам кош бульбы, узрадавалася: «Багата людзі жывуць. Галадаць не буду.» Два гады працавала толькі за ежу. Там і сустрэла першага свайго мужа Ганю, Гаўрылу Васільевіча Норыкава, які таксама не доўга песціў і адорваў увагаю. Пасля вайны было шмат вольных жанчын і мала мужчын. Ганя не прапускаў ніводнай спадніцы, абы за кім не ўвіваўся, найчасцей шукаў жанчын недаступных, інтэлігентных. Было ў яго такое хобі, ён нават вёў улік, колькі жанчын спакусіў. Пра гэта сказала аднойчы Таісе яе супрацоўніца, якая падслухала гутарку Гаўрылы з нейкім сябрам. Але што ўжо цяпер пра гэта думаць? Што было, тое сплыло. У цяперашніх умовах, маючы дваіх дзяцей на руках, не з'едзеш, як раней яна паехала з тае сібірскае вёскі, дзе яе Ганя сустрэў сваю колішнюю палюбоўніцу, з якою мілаваўся яшчэ да таго, як яго забралі на фронт. Расказвала адна сваячка, як сабраліся бацькі і родзічы праводзіць навабранцаў, дык Ганя са сваёю мілкаю (больш не было куды схавацца) пад возам цешылі грэшныя целы. Ніхто не асудзіў юнака, бо ішоў ён на вайну, мо гэта была яго першая і апошняя шчаслівая сустрэча. Сапраўды, Ганю пасля цяжкага ранення ў галаву ледзьве адратавалі. Цэлы год праваляўся ён у шпіталі. Сталая жанчына, што працавала санітаркаю, дапамагала яму выкарасквацца з нядужасці. Каб выжыць ды адкарміцца, ён нават узяў з ёю шлюб. І не прагадаў, ачуняў, стаў амаль здаровы, толькі часта моцна балела галава. Пра сваю выратавальніцу ён хутка забыўся думаць. А Таісу ўбачыў упершыню, калі ёй было ўсяго пятнаццаць гадкоў. Тады яна служыла нянькаю ў сям'і раённага пракурора. Настала лета, а маладзенькай няньцы не было чаго абуць, тады знаёмы гаспадара, дырэктар мясцовага райпо, гэта і быў Ганя, прынёс белыя парусінавыя тапкі. Дзяўчына радасна мерала новы абутак, а мужчыны, як ёй здалося, з замілаваннем глядзелі на яе тоненькую постаць, на заплеценыя косы і замацаваныя кошыкам на патыліцы.

Праз два гады Таіса атрымала пашпарт, пайшла шукаць якую працу. Дзіўным чынам звёў яе лёс зноў з Гаўрылам Норыкавым, які ўзяў яе да сябе касірам. У яе службовыя абавязкі ўваходзіла забіраць выручку ў сельскіх крамах і здаваць на пошту або прывозіць у райцэнтр. Праца гэтая была па тым часе вельмі небяспечная. У лесе хаваліся зламысныя людзі, якія рабавалі крамы. Не раз даводзілася ў райцэнтр вяртацца пешкі праз лес з грашыма. Гаўрыла Васільевіч на правах начальніка апекаваўся дзяўчынаю, нават занадта, называў дачкою, стараўся паехаць з ёю ў якую далёкую вёску, каб там разам заначаваць. Але Таіса, прадбачачы ягоную асаблівую зацікаўленасць, не звяртала ўвагі на залёты начальніка і ніколі не заставалася нанач, старалася любым спосабам вярнуцца дамоў. У адну з такіх начовак, калі яна пайшла дамоў адна, а Гаўрыла заначаваў у вёсцы разам з упаўнавжаным з раёна ў хаце старшыні калгаса, лясныя людзі абрабавалі тутэйшую краму, пастралялі ўпаўнаважанага і старшыню, а Ганя ўцёк праз акно. Потым яго яшчэ шмат разоў дапытвалі, але доказаў яго вінаватасці не знайшлі, таму адпусцілі. Паколькі на Норыкава ўпалі падазрэнні праваахоўных органаў, ён палічыў за лепшае памяняць месца працы, але папярэдне накіраваў Таісу на бухгалтарскія курсы ў Брэст. Яму вельмі падабаўся яе почырк, наогул лічыў яе здольнаю да навукі, аднак пасля курсаў не дазволіў вярнуцца на ранейшае месца працы, а тым больш працягваць вучобу, прымусіў узяць з ім шлюб. Пачалося яе новае жыццё. Хоць два гады яна працавала побач з гэтым чалавекам, а, як аказалася, зусім не ведала яго. Ён не біў яе, як Аўдзей, але ўмеў паставіць на калені, прынізіць, схлусіць, схаваць заробак. Ды і наўрад ці яна, маладая, магла здагадвацца пра ягонае двайное жыццё. Хаця, мусіць, кожны мужчына ўмее адваяваць сабе права на пэўную частку вольнага і незалежнага ад сям'і жыцця. Ды Бог з ім, тым Ганем. Што здарылася з Аўдзееем? Быў жа такім шчырым і добры хлопцам… І раптам азвярэў, страціў сябе… Усё гарэлка вінаватая… І беспрацоўе. Ад няма чаго рабіць чалавек губляе розум і ўсё лепшае ў сабе…

**18**

Тры дні Таіса хварэла, увесь гэты час у хаце панавала цішыня. Яна не папракала Аўдзея, думала, што ён і сам зразумеў сваю віну. Малаша прытрымлівалася нейтралітэту. Часам толькі малы сын капрызіў ці пачынаў штонебудзь прасіць:

— Нянь кука! — прамаўляў ён, і ўсе разумелі, што дзіця просіць цукру, самага найвялікшага ласунку па тым часе.

Ліза таксама нікому не назаляла. У свае шэсць гадоў яна была даволі самастойная, сама спраўлялася з хатнімі заданнямі, моўчкі нешта чытала ці пісала, а пасля вячэры ўсе рана клаліся спаць. Аднойчы ноччу Ліза абудзілася ад спеваў, калі прыслухалася, а потым падняла галаву і зірнула з печы, дык у святле лямпы ўбачыла дзецюка, які хадзіў па хаце і спяваў:

Наш Канстанцін бярэ гітару
І ціхім голасам пяе…

Па тым, як да яго звярталася баба Малаша, Ліза здагадалася, што гэта прыехаў Кандрат, малодшы татаў брат. Апрануты ў вайсковую форму і абуты ў кірзачы ён стараўся маршыраваць па хаце быццам на вайсковым пляцы, але, мусіць, быў п'янаваты, бо хіліўся ў адзін ці ў другі бок. Ноздры шырокага носа раздуваліся, як у каня, выгляд ён меў даволі ваяўнічы. На стале стаяла

пустая пляшка з-пад самагонкі і талерка з закускаю. Сям'я святкавала вяртанне роднага чалавека, а гэта была радасная падзея.

Нарэшце ўсе Малашыны сыны былі дома, даўно яна не пачувалася так спакойна і ўпэўнена. Радавалася, што Кандрат вярнуўся з войска раней належнага тэрміну, зламаў руку, і яго камісавалі. Да вайны Малаша наракала на лёс, што рана засталася ўдавою, а пасля, калі амаль усе мужчыны палеглі на чужыне, а мноства жанчын аўдавела, яна перастала крыўдаваць на долю. Выгадавала дужых і здаровых сыноў, тым і была задаволеная.

Раніцай, калі яшчэ было цемнавата на дварэ, Ліза выправілася ў школу. За ноч намяло яшчэ больш снегу. Дзяўчынка пакрысе сунулася па цаліку, правальваючыся па калена, што нават і ў валёнкі набілася снегу. Ён памалу раставаў і мачыў панчохі і ногі. Пасля недаспанай ночы яна пачувалася млява, пабойвалася, што спозніцца на заняткі, але ісці хутка не магла, не было сіл. Яшчэ заставалася прайсці хат пяць, як яна пачула гукі званка, нейкі хлопчык бег па вуліцы і абвяшчаў пачатак заняткаў. Каля школы была пратаптаная сцежка, па ёй Ліза подбегам кінулася ў тую хату, дзе размяшчаўся першы клас. Аднак спяшалася дарма, настаўніка ў класе не было. Потым прыйшла бабуля Анішчыха, у чыёй хаце займаліся дзеці, і сказала, што заняткаў, мусіць, не будзе. Моцна перамяло дарогу, таму настаўнік не здолеў прыехаць, але параіла пачакаць трохі. Узрадаваныя першакласнікі, не апранаючы світак, пабеглі на вуліцу. Хлопчыкі закідалі дзяўчынак снежкамі, і тыя разбегліся, пахаваліся, хто куды. Ліза з Маняю прытаіліся ажно за Анішчышынай клуняю, спыніліся аддыхацца ля агароджы з жэрдак. Адсюль былі добра відаць могілкі, парослыя высокімі дрэвамі. На ўскрайку сядзела жанчына.

— Хто гэта там ? — спытала Ліза, прымхліва паглядваючы ў бок могілак.

— Мар'яся! Мусіць, вошы б'е, — адказала Маня.

— А чаму яна тут?

— Дурная яна, не з нашай вёскі. Ходзіць па старцах... Холадна, пабеглі ў хату.

Баба Анішчыха сядзела на печы і вязала шкарпэткі, вакол яе, бы кураняты вакол квактухі, сабраліся дзяўчынкі. Нешта пыталі, нешта расказвалі. Ліза з Маняю таксама ўскараскаліся на цёплую печ, грэліся, пазіралі ўніз, дзе мітусіліся хлопцы, якія ўжо добра прамерзлі, але не адважваліся ўбівацца ў дзявочую кампанію.

Ліза шкадавала, што настаўнік не прыйшоў. Яна любіла глядзець на яго, калі ён тлумачыў заданні ля дошкі, калі вучыў маляваць, а асабліва, калі браў у рукі балалайку, схіляўся над ёю, пасма валасоў прыгожа падала на лоб, а ягоныя пальцы выцінаді дзівосныя гукі. Лізе і ўсім дзецям таксама хацелася вось гэтак жа аднойчы зайграць, каб увесь свет заскакаў ад радасці. Яна ўяўляла, як Вячаслаў Уладзіміравіч спяшаецца па высачэнных гурбах да іх і спачувала яму.

— Баба, раскажы казку, — папрасіла Маня.

— Якую казку? Хіба такую: жыў чалавек Івашка, была ў яго чорная рубашка, на галаве белая шапка. Ці добрая мая казка?

— Добрая, — сказалі дзеці.

— Калі добрая, дык слухайце зноў: жыў чалавек Івашка, была ў яго белая рубашка, на галаве чорная шапка. Ці добрая мая казка?

— Не! Благая! — нездаволена закрычалі дзеці.

— Калі вам мая казка не спадабалася, дык і расказваць больш не буду, — заўпарцілася бабуля.

У гэты час прыбег вучань са старэйшага класа і адпусціў першакласнікаў дамоў. Хлопцы пахапалі свае світкі і торбы, ды пабеглі дахаты. Дзяўчынкі таксама не затрымаліся, толькі Ліза ўсё сядзела ля бабы Анішчыхі і назірала, як шпарка рухаюцца пруткі, на якіх яна вязала шкарпэткі, нават не азвалася, калі яе паклікала Маня, каб ісці разам дахаты. Тут, на чужой печы, было цёпла і ўтульна, можна было назіраць за старою Анішчыхаю, яе шэрым катом, а для Лізы гэта быў самы цікавы занятак.

Дамоў яна вярнулася пазней, чым заўсёды. Яшчэ ў двары пачула крыкі, якія далятаі з хаты. Калі ўвайшла ў пакой, убачыла, што тата і баба Малаша стараюцца ўтрымаць п’янага Кандрата. А ён узняўся, бы свечка, уніз галавою паміж лаваю і сцяною ў куце. Яго ўсё ж пакацілі на падлогу, звязалі рукі і ногі, пакінулі ляжаць на лаве.

— Ох, і дурань жа наш Бурса, — з палёгкаю ўздыхнуў Аўдзей.

Малаша нічога не адказала, толькі моўчкі палезла на печ. Свайго Кандрата яна добра ведала. Рос ён задзірысты, часта з хлопцамі біўся, а калі сам не спраўляўся, ратавацца заўсёды бег да маці. Цяпер ёй самой давялося ўтаймоўваць яго, неспакойны хлопец, але ва ўсім гарэлка вінаватая, надае чалавеку дурноты. Трэба мець меру, п’ючы, не губляць галаву, тады не будзе турбот. Але ж мужчыны не ведаюць меры, ім здаецца, што могуць мора выпіць, ды памыляюцца. Што зробіш, без гарэлкі чалавеку ніяк не пражыць. Яна лекамі служыць для цела і весяліць душу. На ёй можна зарабіць, прадаўшы колькі пляшак. Не, без гарэлкі людзі наогул загінуць. Так думала Малаша, лежачы на печы і дрэмлючы пасля перакалочанай ночы.

З гэтага дня ў яе хаце ніколі не было ні спакою, ні цішыні. Штодня да Кандрата прыходзілі сябрукі, а потым яны разам ішлі на вячоркі, пасля якіх ён вяртаўся пад ранне, мокры, вымазаны ў гной. Ягоны салдацкі шынель не паспяваў высахнуць, і тады Кандрат прасіў у Таісы на вечар новую ватоўку, якую Аўдзей атрымаў, працуючы з геолагамі. Маладзіца, даючы апратку, папярэджвала хлопца, каб не вымазаў. Ён кляўся і бажыўся, што прынясе рэч такою, якою ўзяў, аднак пад ранне зноў вяртаўся п’яны і брудны.

— Што ты рабіў? — абуралася і здзіўлялася Таіса.

— Любіўся са Стэпаю Сабакароваю ў хляве, — пасмейваючыся, адказваў Бурса.

— Якая дзеўка — такое і каханне…

Стэпа ўрадзілася не вельмі разумная і знешне брыдкая. Па прыроднай наіўнасці ні аднаму хлопцу не адмаўляла ў любошчах, бо верыла, што і для яе Бог падрыхтаваў пару, трэба толькі сустрэць нарачонага ды пакахаць. Тыя дзецюкі, якім занадта карцела зведаць асалоду з жанчынаю, пераступалі праз сумленне і прыстойнасць, запэўнівалі Стэпу, што кахаюць, карысталіся даверлівасцю, а потым пакідалі яе. Мусіць, нездарма маці-прырода пасылае на вёску адну такую неразумную дзеўку, каб моладзь спасцігала, што добра, а што дрэнна. Калі ты папускаешся, што цябе абдурваюць, дык і сам ты дурань.

— Чаму ж ты якую добрую дзеўку сабе не падбярэш? — пыталася Таіса.

— Мая дзеўка яшчэ не вырасла, — адказваў Кандрат і хітравата падміргваў ёй, а сам думаў: «Куды я прывяду жонку, калі тут поўная хата люду, бы прусакоў? Але ж ёсць завядзёнка, што малодшы сын застаецца ў бацькавай хаце, дык гэта хата мая. А розныя чужынкі няхай едуць туды, скуль прыехалі…»

***Працяг будзе.***



## Анатоль ЗЭКАЎ

### БАБУЛІНЫ БЛІНЫ

Ляцяць гады, бы хто прышпорыў,
ды помніцца з часоў дзіцячых:
бліны бабуля мажа здорам,
а болей мазаць іх няма чым.

Карова ў запуску, а значыць —
ні малака ў нас, ні смятаны,
і ў паўсядзённай той нястачы
здор для бліноў — такі жаданы.

Бліноў бабуліных чакалі,
як найшчаслівейшы міг самы.
Мы іх за дзве шчакі ўміналі —
ажно трашчала за вушамі.

…Гады нішчымніцы мінулі,
аднак, бывае, прыгадаю
часы, калі жыла бабуля —
о, як бліноў тых не хапае!

---

*__Зэкаў Анатоль Мікалаевіч__ нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», у камсамольскіх арганізацыях, рэдакцыях газет «Чырвоная змена» і «Книга и мы». Рэдагаваў газету «Добры вечар», штотыднёвік «Сталіца» і «Беларускую лясную газету», быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», рэдактарам аддзела прозы часопіса «Полымя», літаратурным рэдактарам часопіса «Вясёлка». Цяпер — у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

*Выдаў кнігі паэзіі «Боль сумлення» (1989), «Аварыя сумлення» (1996), «Лісты да цябе» (2005), «Чарнобыльскі вецер» (2006), «Промнік позірку твайго» (2008), «Пад кронай белых аблачын» (2013), сатыры і гумару «Дуэль» (1994), «Дуэль-2» (1995), «Кругі ў галаве» (2007), «Каханне на снезе» (2011), прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» (2000), «Генеральскі нумар» (2011), для дзяцей «Чатыры зярняткі» (2000), «На арэхавым кані» (2003), «Мянтуз сярод мядуз» (2007), «Зязюля Гулюля» (2011), «Не казкі пра Сашку» (2013).*

## МОЙ РАДАВОД

Наташа — мама,
бацька — Коля,
і дзед Цімох,
і баба Марфа.
Імёны гэтыя ніколі
у памяці маёй
не спрахнуць.

А ёсць і прадзедаў імёны,
і іншых «пра»,
якіх нямала.
Яны мацуюць, нібы звёны,
ствол радаводны мой
трывала.

Яны адтуль,
з глыбінь стагоддзяў,
дзе — і загадкі, і адгадкі.
І я — звяно ў тым радаводзе
для будучых сваіх нашчадкаў.

## КРЫНІЧКА

Дарога без канца —
гравійка ці брусчатка.
Крынічка ля Сяльца
глядзіць на нас украдкай.

Крынічцы і няўцям,
і ўцям як быццам трохі,
што́ тут патрэбна нам,
зняможаным дарогай.

Каб мы змаглі папіць
вады і ўдзень і ўночы,
яна бруіць-журліць
сярэбраным званочкам.

* * *

Перахрышчуся тройчы
і ў свет пайду,
                    куды
глядзяць хіба што вочы
паперадзе хады.
Хоць мушу і старацца
прыспешыць крок,
                              аднак

за позіркам не ўгнацца
маёй хадзе ніяк,
бо, як таго ні хочаш,
інакш не павярнуць:
спачатку бачаць вочы,
а потым ногі йдуць.

## ЗЯЗЮЛЯ

Кувае з раніцы зязюля,
гады адлічвае вяскоўцам.
Аднак не лічаць іх бабулі,
што грэюцца ля хат на сонцы.

У тым зязюльчыным куванні
бабулям больш няма патрэбы.
Вось дажылі, маўляў, да рання,
дажыць да вечара цяпер бы.

Не да зязюлі больш бабулям —
даўно ёй верыць ператалі.
Кувала ж і мужам зязюля,
як на вайну іх адпраўлялі...

## ПАСЛЯЧАРНОБЫЛЬСКАЕ

***Стрыечнай сястры Ніне***

Выязджаюць мае землякі
са сваіх звек наседжаных гнёздаў,
і сумуюць таполі, з якіх
ападае лістота, як слёзы.

Уцякаюць мае землякі
ад бяды, што чарнобыльскі вецер
нечакана прынёс з-за ракі,
у якой так гарэзілі дзеці.

З вёскі роднай у край той, які
іх паклікаў насуперак волі,
выязджаюць мае землякі,
каб назад не вярнуцца ніколі...

## ПАЛЯВАЯ ДАРОГА

Поле неабсяжнае.
Нікога
не відаць і поблізу зусім.
Толькі нехта ўсё ж праклаў дарогу

палявую
некалі па ім,
што бяжыць,
віхляючы,
удалеч,
быццам кроіць поле папалам.
Мы па ёй таксама праязджалі,
і свой след пакінулі мы там.
След на след —
і торыцца дарога,
і праз поле напрасткі бяжыць.
Хоць як глянеш —
быццам бы нікога,
а яна жыве.
І будзе жыць.

* * *

Гляджу на сад і на траву,
што яблыкі ў прыпол прымае,
нібы апошні дзень жыву,
хоць колькі жыць яшчэ — не знаю.

Ды колькі б Бог ні адпусціў,
згадаю перад смерцю з болем:
зрабіў, на жаль, не ўсё ў жыцці.
І мог зрабіць,
аднак не здолеў...

* * *

Вятрамі лес прадзьмуты
у восеньскім сутонні
стаіць, як сыч, надзьмуты
і нават не гамоніць,

бо й зябка без лістоты,
і голым быць — няўтульна.
Глядзіць вакол самотна,
хоць да грудзей прытульвай.

Ды як лес абагрэць мне
і акрыяць прымусіць,
калі даўно на свеце
і сам жыву я ў скрусе.

* * *

Калі шарэе ўвосень неба
і днямі напралёт дажджыць,

адчую вострую патрэбу
усе залевы пераЖыць
і дачакацца снегу потым
і той іскрыстай белізны,
калі ў палях і агародах
усё сцішэе да вясны.

* * *

Як у адну раку не ўвойдзеш двойчы,
так і каханне тое не вярнуць,
што прамільгнула, нібы сон уночы,
і, як касцёр, яго ўжо не раздзьмуць.

Вугельчыкі, бадай, і засталіся,
якім на донцы сэрца доўга тлець.
А як яно ўзнімала нас у высі!
Здавалася, што век яму гарэць.

Не век, як аказалася, — імгненне!
Бы знічка ярка ўспыхнула ўначы.
І ўжо шукаць не варта паўтарэння —
былое не паўторыцца ні ў чым.

## ЯК ЖЫЦЬ?

Жыццё ідзе, жыццё бяжыць,
імчыцца без аглядкі часам.
І як на свеце век пражыць,
каб быў заўсёды розум ясны?

Як жыць і радавацца тым,
што і здаровы, і жывы ты,
і кожны дзень твой — не пусты,
а штосьці ў ім усё ж набыта?

Як жыць, каб у сям'і быў лад,
а на душы — супакаенне,
каб, азірнуўшыся назад,
згадаць шчаслівыя імгненні?

Як жыць не так, як набяжыць,
а так, каб выраслі крылы?
Як жыць? Як жыць?
Ды кінуць ныць —
і стане свет і любы, й мілы!



Уладзімір СЦЯПАН

# НЯЎЛОЎНАЕ

*Аповесць*

## Рака

Яна ляжала ўнізе, як бінт. Доўгая, на ўвесь выстылы вясновы краявід, з краю ў край, колькі бачылі вочы. Снегу даўно не было. Растаў. Знік. Снегу не было нават у лагчынах, нават пад дрэвамі. Белым у змрочным вясновым краявідзе быў толькі бінт нешырокай звілістай ракі. З пагорка, на якім я стаяў, мне была бачна амаль уся зямля, як і амаль усё неба. Дзьмуў сцюдзёны паўночны вецер, гнаў папяловыя хмары. Трыснягі ўздоўж ракі хваляваліся, купкі дрэваў, балота, поплаў, пагоркі, чорныя плямы згарэлых трыснягоў і травы… Ні дарог, ні сцежак, ні вёсак, ні людзей…

Краявід нагадваў чорны хлеб, пасыпаны соллю… Дзе больш упала, дзе менш. Так было тут і сто гадоў таму, так было тысячу, а можа, і дзесяць тысяч гадоў таму. Я стаяў на пагорку і цяжка дыхаў, бо доўга ішоў праз цёмны і змрочны лес да гэтага бязлюднага месца. Бетонныя слупы — адзіныя знакі часу на тым, на далёкім беразе. Але гэтыя маленькія, шэрыя штрышкі-рысачкі не псавалі ні велічнасці, ні маўклівай засяроджанасці прыроды. Сеў на алюмініевую рыбацкую скрыню. Радаваўся, што я самотны, што тут мне не трэба ні сябры-таварышы, ні бацькі, ні сям'я… Дастаткова і таго што ёсць.

Лёд урос у берагі. Гэта здалёк ён здаваўся белым, а насамрэч на ім былі цёмныя прамыіны, хваравітая жаўцізна, сінявaтыя разводы… Зблізку ён нагадваў хворы пазногаць. Я свідраваў лёд і востры калаўрот выкідаў белую шкляную крупу, а потым на лёд выплёхвалася вада і ён рабіўся цёмным.

Я не злавіў ні рыбіны. Ні разу не адчуў радасці і хвалявання, калі напінаецца жылка, а пад ільдом торгаецца нябачная рыбіна. Рака не прыняла мяне, не пазнала. Я не пакрыўдзіўся, бо ведаў, што ў мяне яшчэ ёсць чатыры дні, чатыры доўгія ночы, каб прахопліваццa, глядзець у чорна-сіняе акно і думаць пра раку, пра лёд і пра тое, што я амаль не магу жыць без гэтай замерзлай ракі, падобнай на бінт, здзёрты з маёй раны…

---

***Сцяпан Уладзімір (Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч)*** *нарадзіўся 22 студзеня 1958 года ў гарадскім пасёлку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў Мастацкае вучылішча імя Глебава і тэатральна-мастацкі інстытут (1983). Служыў у войску. Працаваў мастаком, рэдактарам на тэлебачанні, займаўся кніжнай графікай.*

*Аўтар кніг прозы «Вежа» (1990), «Сам-насам» (1990), «Адна капейка» (2012). Піша таксама вершы, п'есы, сцэнарыі дакументальных і мастацкіх фільмаў.*

## Глыбіня

Цяжка знайсці параўнанне «непараўнальнаму». Шчупак, вагой кілаграмы чатыры-пяць, на шасціметровай глыбіні, хапае блешню… Ты спрабабаў выцягваць з глыбокага калодзежа поўнае вядро? Падняў на колькі метраў, а яно ў ваду… Калаўрот круціцца, ланцуг грыміць, вядро сыходзіць пад ваду, апускаецца на дно, ланцуг правісае… Прыкладна так бывае са спінінгам, са шчупаком… Толькі разам з моцнай і важкай рыбінай адрываецца і выскоквае сэрца рыбака…

Шчупака не злавіў, але ёсць што ўспомніць.

## Кніжка

Калі напісаць кніжку пра рыбалку, то яна будзе пра адзіноту. Салодкую, горкую… А калі пра нешта іншае, то гэта не пра рыбалку.

## Слупы ў тумане

Бачыў зоры, памножаныя люстрам возера. Бачыў аблокі, якія хутка ляцяць у ваду і рыб, якія плывуць скрозь аблокі…

Але найчасцей прыгадваецца сціплы бела-шэры краявід з нізкім і шчыльным туманам. Раніца, шаша, возера разлілося і па-над вадой туман. З гэтага туману вытыркаецца некалькі тэлеграфных слупоў. Прагінаецца дрот. Ніжніх частак слупоў не відаць, іх закрывае туман. Але слупы адлюстроўваюцца ў вадзе.

Кідаеш ровар на беразе, пад адхонам шашы, скідаеш гумовыя боты, бо ведаеш — кароткія, штаны здымаеш. Бярэш абутак і адзежу ў адну руку, вуду ў другую. Ступаеш у ваду, адчуваеш, як яна апякае холадам, і ціха ўваходзіш у вільготны туман, брыдзеш да другога слупа. Ідзеш, ціхая вада пачынае рухацца, адлюстраванне слупа выгінаецца… Акрамя вады, туману і слупа нічога не бачыш. Яшчэ трохі і дабрыдзеш па глыбокай вадзе да наступнага слупа, да пагорка, на якім ён стаіць. Падыходзіш і бачыш, а той пагорак, тваё сакрэтнае месца — занятае. Пад слупам незнаёмы дзядзька, а тры яго доўгія вуды ляжаць веерам, нацэленыя ў бок возера. Дзядзька абарочваецца і паказвае, каб не падыходзіў, каб ішоў далей.

А куды далей? Ну, хіба не крыўдна?

## Зялёная канава

Мужчына ехаў на ровары, я ішоў. Мужчына — Мікола Пігулеўскі. Ён прыпыніўся побач са мной. Мне адзінаццаць, а яму за сорак. Але ён выбраў мяне, можа, таму, што бачыў з кніжкай у руках. Дзе рама, там прывязаны пук жоўтых бамбуковых трохкаленак, на рулі дерманцінавая торба. У торбе сем ладных карасёў, такіх, як мужчынская далонь, але таўсцейшых. Карасі яшчэ хліпалі жабрамі. Пігулеўскі сказаў, каб я не лавіў на возеры, а лавіў на канаве. Але туды трэба ісці рана, нават вельмі рана. Папрасіў, каб я нікому не расказваў пра патаемнае месца насупраць нахіленага чорнага слупа. Як кожны шчаслівы чалавек, ён аддаў мне бляшанку з чорна-чырвонымі, вяртлявымі чарвякамі.

Яшчэ і чатырох не было, а я ішоў па бязлюдным гэпэ да возера з вудай. У кішэні старога школьнага пінжака ляжаў кавалак батона, у другой ножык, у лацкане запасны кручок.

Канава за возерам. Яна хоць і нешырокая, але не пераскочыш. Трава вакол зялёная, высокая, сакаўная. Аер, чарот, канюшына і такая, з мяцёлачкамі, якія карціць сашморгнуць, каб даведацца пеўнік ці курачка. Вада ў канаве па грудзі, цёплая, як какава, над ёй шэрая пара, бо цячэ вада са шклозавода, з усходу на захад. Я знайшоў месца насупраць слупа, там трава пакамечаная, прытаптаная. Разматаў вуду, уздзеў чарвяка, ціха закінуў. Паплавок, зроблены з корка і пёрка, боўтнуўся і лянiва паплыў. Праз паўгадзіны надакучыла закідаць, чапляць свежага чарвяка і я вырашыў пайсці на возера, бо падумаў, што кульгавы Пігуля падмануў. Зрабілася зябка, ногі ад расы змоклі. Я еў батон, злаваўся, вуда ляжала на траве. Камяк батона захрас у роце, не паспеў пражаваць, бо паплавок плыў супраць плыні і даплыў амаль да таго месца, дзе я стаяў. Я схапіў вудзільна і пацягнуў, яно выгнулася. Вялікі карась узняўся па-над вадой. Паспеў заўважыць яго рот, чорны хвост і прыціснутыя да белага пуза плаўнікі. Карась пляснуўся гучна і цяжка, бокам… І я паваліўся ў зялёную траву. Ляжаў, як забіты, але ўваскрос, падняўся. Мой першы карась адарваўся разам з кручком. Пальцы калаціліся, не слухаліся, кручок з пінжака не выдзіраўся і я адчайна выразаў яго ножыкам. У той дзень зловіліся два карасі, а потым парвалася жылка, і я застаўся без кручка і грузіка, але з рыбай.

На наступную раніцу, яшчэ сонца не ўзышло, прыбег на зялёную канаву з сябрам. Мы злавілі восем карасёў, тоўстых, цяжкіх. Кручкі больш не адрываліся…

Трэцяга разу не было, мяне завезлі ў вёску на ўсё лета.

А сябар схадзіў. Пахваліўся злоўленай рыбай. На канаву прыйшлі дарослыя хлопцы з сакам і за два дні пералавілі ўсіх карасёў. Яны не баяліся, што ад жоўтай і цёплай вады пад пахамі павыскокваюць болькі, якія нясцерпна свярбяць і доўга не гояцца.

Канава засталася. Вады ў ёй амаль няма, а тая, што цячэ — смярдзючая. Трава па берагах па-ранейшаму зялёная-зялёная: аер, канюшына, і гэтая, у якой мяцёлачкі. Я сашморнуў адну — курачка, расцёр у пальцах, і пайшоў дамоў.

## Каб потым снілася

Вецер то падхопліваецца, і тады даводзіцца адварочвацца, нагінаць галаву, бо твар, вочы сякуць кроплі ледзянога дажджу, то раптам вецер аціхае і ў бязгучнасці робіцца ніякавата, адчуваеш сябе безнадзейна згубленым у варожым бязлітасным свеце. Пасохлы трыснёг мокры, счарнелы, як поўсць дзіка, а вада ракі змрочная, цямнейшая за свінец, а хвалі чорныя. Ногі грязнуць і правальваюцца, я паслізгваюся і колькі разоў падаю на калені, адно паспяваю ўзняць спінінг, каб не зламаць. І спінінг, і катушка, і блешня выглядаюць экзатычнымі, нетутэйшымі, амаль касмічнымі, бо няма вакол ні бліскучага металу, няма пластыка, і адзіная яркая плямка ў змрочнай шэрасці — блешня, расфарбаваная хімічнымі колерамі. Рака, чорны лес, голыя пагоркі, ні дарог, ні людзей, ні пташак… Замахваюся, кідаю, свішча вудзільна, блешня падае пад той бераг, пачынаю круціць. І так некалькі разоў, а потым ізноў прадзіраюся праз сцяну трыснягоў, пераскокваю глыбокія канавы, пракапаныя бабрамі …

Нарэшце дабіўся да патрэбнага месца. Да яміны, да віра. Ведаю, што старая вярба на тым беразе развалілася і частка яе ўпала ў раку. У камлі, а можа, у

суках той вярбы я пакінуў не адну блешню. Вядома, шкадаваў, але не палезеш у ледзяную ваду, прычэпіш новую і кідаеш. Так было і пазамінулы год, так было гэтай вясной, так будзе і надалей. Там, дзе пад вадой дрэва, віркі круцяць рудое вузкае лісце. Туды і кідаю. Упарта паўтараю: замах, блешня ляціць, усплёск і адразу кручу катушку. На пяты, а можа, на сёмы раз выцягваю шчупака. Так хутка ўсё адбываецца, што і асалоду атрымаць не паспяваю. Калі спрабую зняць рыбіну з кручка, шчупак пракусвае палец, выціраю кроў аб калашыну і без шкадавання выдзіраю з пашчы блешню. Цалую рыбіну ў слізкую і цвёрдую галаву, ламаю хрыбетнік. Жывога, але нерухомага шчупака хаваю ў заплечнік.

На павароце лаўлю яшчэ адну рыбіну. Яна дастаецца без асаблівых высілкаў. Заплечнік робіцца цяжкаватым. Вецер сцішыўся, неба прыціснулася да зямлі, зрабілася цямнейшым за мокрыя трыснягі.

Раптам, у цішыні і холадзе, пачынае ісці снег. Вялікія сняжынкі з цёмнага неба растаюць на цёмнай вадзе. Свет цямнее, сінее, змрачнее. А мне падабаецца. У мяне ёсць яшчэ адна яміна, і я спяшаюся да яе. Што мяне туды гоніць і цягне? Што не дазваляе спыніцца і глядзець на ваду, ці няспешна пайсці дамоў? А што прымушае паляўнічага сабаку бегчы і задыхвацца, гнаць і гнаць казулю, лісіцу, зайца?.. Па лесе, па раллі, па пожні, балоце... Жарсць!

На душы спакой, у мяне ёсць дзве рыбіны.

Месцы дзікія, калі што здарыцца, то доўга будуць шукаць. Яміна вялікая, глыбокая, але да яе цяжка далезці, бо трыснёг такі, што толькі вар'ят праз яго папрэцца. Я — вар'ят, пруся, лезу, адно спінінг, як снайпер стрэльбу, берагу. Даходжу да ракі. Паперадзе, у вадзе, пахілены трыснёг. Да яго пару крокаў. Вецер дзьме ў твар. Сняжынкі мільгацяць хутка. Замахваюся, прымерваюся, кідаю за трыснёг, што тырчыць з вады, а калі дацягваю блешню да яго, кручу хутчэй і перакідаю блешню сабе пад ногі. Іншых варыянтаў няма, бо лаўлю з берага, а не з лодкі. Пакуль атрымліваецца.

Блешня ляціць супраць ветру, падае зусім не туды, куды меўся пацэліць. Спахопліваюся і спрабую круціць катушку. Жылка напялася — катушка не праварочваецца. Лаюся сам на сябе, бо разумею, што зачапілася моцна. Апускаю спінінг, кідаю на траву, выціраю мокры твар. Зноў бяру спінінг і разумею, што там вялікі шчупак. Такі, пра якога можна марыць, але так і не злавіць. Катушка вішчыць, а жылка размотваецца, сыходзіць і я не магу даць рады… Не спыніць, не стрымаць!

Двойчы дацягваю цяжкага шчупака да трысняговай сцяны, а на трэці раз ён захрасае ў траве… Магчыма, каб рыбіна была меншая, то я не стаў бы скакаць у ваду. Магчы-ма-ма… Скачу, вада па грудзі. Падбіраюся да травы, спінінг трымаю над вадой. Бачу залаты бок, белае пуза. Шчупак зусім невялікі, ну, можа, на тры кілаграмы. Рука ідзе ў ваду, пальцы сціскаюць шчэлепы. І я цяпер разумею, чаму ён так супраціўляўся. Блешня зачапіла яго за пуза, пад галавой…

Вылезці з ракі нашмат цяжэй, чым залезці. Я мокры і брудны.

Бягу па балоцістай пожні, па палеглай, блытанай-пераблытанай траве. Бягу ў лес, бо там ёсць дарога. Бягу па гразкай каляіне, па калюгах. Снег, дождж, цёмна, халодна, цяжка, мокра. Не, ёсць на мне і сухія месцы, у ботах, там, дзе пальцы…

Думаеш я пра рыбу? Не, гэта пра звычайнае шчасце.

## Падман

Ёсць такія людзі, да якіх адразу ўзнікае давер і сімпатыя. Мужчына быў на выгляд старэйшы за мяне. Ішоў дождж, мы стаялі пад дрэвамі, чакалі калі

ён скончыцца і можна будзе далей лавіць рыбу. Я лавіў з лодкі спінінгам, а ён з берага вудамі…

Я сказаў, што раней на гэтым возеры не было столькі сетак, а цяпер праз раз блешня за сетку чапляецца. І ён сказаў сумна, што браканьераў не паважае. Пакурылі, папілі гарбаты з яго тэрмаса, а потым кавы з майго. Дождж не сунімаўся. Ён сказаў, што гэта возера яго любімае, бо тут заўсёды ціха і прыгожа.

На вадзе з'явіліся белыя пухіры, а потым дождж скончыўся. Віталь, так яго звалі, пайшоў да сваіх вудаў, а я выліў з лодкі ваду і паплыў кідаць спінінг. Той восенню, на тым жа лясным возеры яшчэ двойчы сустракаў свайго знаёмага. Гаварылі, як быццам ведалі адзін аднога ад нараджэння. Ён хваліўся сваімі дзецьмі, я сваёй дачкой. Нават аднойчы трохі выпілі, каб сагрэцца.

Мінулай восенню Віталь патануў. Мясцовы малец, калі я здзівіўся сумнай навіне, заўважыў, што большага мярзотніка, чым той Віталь, ён ва ўсім раёне не ведаў. Гадоў пятнаццаць не працаваў, а жыў з таго, што лавіў рыбу ўсімі забароненымі прыладамі. Лавіў, прадаваў, будаваўся, дзяцей гадаваў. Пасля яго на мясцовых азёрах рыбы не заставалася. Выграбаў усю чыста. А патануў позняй восенню, на лясным возеры. Лодка кульнулася, рукі трапілі ў сетку. Цёмна, ветрана, вада халодная…

Возера тое я ведаў…

## Той бераг

Ведаю, што калі прыйдзе мой час, калі паплыве малым і хісткім чаўном труна, то першымі на тым беразе сустрэнуць яе мае сябры-рыбакі. Не мастакі і пісьменнікі, не вайскоўцы і сваякі, а рыбакі. Яны і пададуць мне руку, дапамогуць выйсці на бераг. Можа, спытаюць, а ці прывёз я добрых кручкоў? Бо тут з імі праблема, адрываюцца — такая рыба… Усё да маёй сустрэчы будзе падрыхтавана: вуды і спінінг, крыга і таптуха, вопратка, боты і, можа нават ровар будзе ляжаць на траве і пабліскваць спіцамі… Рыбакі пачнуць расказваць пра чароўныя і патаемныя месцы на рацэ і на возеры, пра копанкі і сажалкі, поўныя белых і жоўтых карасёў, пра ляшчоў і шчупакоў… Можа, пачнуць прапаноўваць, каб я хутчэй пераапранаўся, збіраўся, каб выпраўляўся з кім-небудзь з іх. Але я адмоўлюся.

Пайду адзін. У кожнага свая рака, свая вада і кожнаму свая рыба. Так было, а інакш і быць не можа. Цень мой пойдзе паперадзе, ляжа на ваду, скалане яе.

І як толькі дакрануся да той вады, як толькі празрыстая жылка разрэжа хвалю, так адразу вуда мая фірмовая зробіцца дубцом з ляшчыны, а паплавок каляровы стане крываватым гусінам пёркам, колеру пазногця.

Вось тут я пра ўсіх вас і забуду, бо час спыніцца назаўсёды.

## Нёман

Чым большыя грошы гатовы выдаткаваць на рыштунак рыбак, на новую вуду ці спінінг, тым больш пераборлівым той рыбак робіцца. Капрызліва выбірае, адкладае, прыглядаецца, прымерваецца, кратае, узважвае, крывіцца, моршчыцца, перажывае… А потым раптам бярэ ў руку спінінг, узмахвае ім, робіць ледзь заўважны рух, як падсякае нябачную рыбу, і на твары з'яўляецца задавальненне. Ён ідзе з гэтым спінінгам праз краму, быццам берагам ракі.

У вачах туман і чаканне. Лёгка аддае грошы, бо спінінг сам «лёг у руку», бо рыбак у яго паверыў, а гэта, ці не самае галоўнае — паверыць у прыладу і даверыцца ёй...

Бачыў, як на высокім беразе Нёмана наракалі сталічныя рыбакі на свае фірмовыя спінінгі, бо не злавілі ні рыбіны. А мясцовы падлетак са сваім прымітыўным, можа, тым спінінгам яго бацька некалі лавіў, выцягваў рыбіну за рыбінай. Мужчыны хадзілі за падлеткам, як вучні за настаўнікам, паўтаралі яго дзеянні, а ён, як ні стараўся, а так і не змог растлумачыць сакрэт свайго ўмельства. І спінінг абы-які, і катушка прымітыўная, і жылка блыталася праз раз, і блешня ніякая, а шчупакоў малец выцягваў і выцягваў.

Ведаю, што ён верыў у свой спінінг, у сваю раку, у свой бераг і сваю ўдачу.

## Палкоўнік

Можа, тыя, хто даўно бегае, ці гуляе ў парку па-над Свіслаччу, яшчэ памятаюць старога. Ён стаяў з вудай і каля шэрай ратонды, і насупраць другой бальніцы, побач з Траецкім, і недалёка ад плаціны, у дзіцячым парку, дзе шумлівы вадаспад. Шмат дзе ён стаяў і глядзеў на раку. Гарадскія рыбакі казалі, што гэты драбнатвары, сівенькі дзядок — палкоўнік. Ён прыходзіў да ракі рана, сыходзіў у другой палове дня. З рыбакамі амаль не размаўляў, адно вітаўся. Ніколі я не бачыў яго з рыбай.

Калі ішоў дождж, то гэты дзядок стаяў побач з ракой у доўгай вайсковай плашч-накідцы. Стаяў спінаю да ветру, а па калянай тканіне бегла вада, цёмны плашч здаваўся жалезным. Кавалак батона размякаў на шурпатым парапеце. Гады тры і я сустракаў Палкоўніка ці не штодня ў парку, але ні разу не бачыў яго са злоўленай рыбінай, хаця торба заўсёды была пры ім.

У Палкоўніка была тайна, якую я раскрыў і пра якую не расказаў знаёмым рыбакам. Пра тайну дазнаўся выпадкова, а потым двойчы пераконваўся, што не памыляюся. Хаця, якая гэта тайна? Ён глядзеў на раку. Зяблікі і вераб'і дзяўблі ягоны хлеб. Паплавок гайдаўся на хвалях, вуда ляжала на парапеце. Кручка на ягонай вудзе не было.

Палкоўніка збіла машына, на скрыжаванні Камуністычнай і Багдановіча, калі раніцай ён ішоў да ракі. Ён лавіў адзіноту…

## Чорны лінок

Чым глыбей залазілі ў багну, тым лепш лавілася рыба. Чым далей залазілі ў багну, тым больш на нагах было чорна-карычневых, пругкіх, як гума, і слізкіх п'явак. Некаторыя, якія не паспелі прысмактацца, аддзіраліся лёгка, а тых, якія не хацелі аддзірацца, даводзілася прыпякаць запалкай. Занятак, скажу табе — не з прыемных. Падносіш адну запалку, а другую напагатове трымаеш. П'яўка ад полымя падсыхае, сціскаецца, чарнее, а потым пачынае выгінацца, курчыцца, як пластмаса. Нарэшце адвальваецца. На скуры застаецца след — чырвоная плямка, з дробных кропак-дзірачак і пухліна. Пасля запалкі, нават калі і моцна была прысмакталася п'яўка, кроў не цячэ. Здаралася, што пакуль зловіш дзясятак карасёў, да ног прылепіцца столькі ж і тлустых п'явак. Мы падцягвалі трусы, завязвалі з бакоў вузламі, стаялі ў штанах, але п'яўкі лезлі пад тканіну, у пах… Не было тады ні ў мяне, ні ў сябра Валодзькі высокіх гумовых ботаў, а жаданне налавіць карасёў, далезці да самых патаемных месцаў на закінутых тарфяных кар'ерах, якія ператварыліся зноў у балота, было.

Я адпальваў п’явак Валодзьку, а ён мне, бо самому рабіць гэта нязручна, цяжка выкручвацца. Адпальваеш і лічыш: «Адна… Трэцяя… Сёмая… Цяпер ты мне...» Запалкі падаюць, падхапіць не паспееў… Скрыначка і запалкі мокрыя. Даводзіцца чорны і пругкі пухір зразаць ножыкам, а гэта зусім кепска і доўга.

Але карасі трапляліся на тых кар’ерах добрыя, здаралася і большыя за далонь. Аднойчы мне пашчасціла і я зlavіў ліня. Ён быў слізкі, як п’яўка, і чорны, як мокры торф.

Менавіта на тым балоце, у 1935 годзе, здымалі фільм «Палескія рабінзоны».

## Кропля

Мне не пашанцавала, бо пасля другога разу, толькі прыплыў на патрэбнае месца, вялікая залаціста-чырвоная блешня адарвалася. У тую блешню я верыў і ў швагра верыў. Памятаю краму, у якой давялося набыць вялікі набор толькі дзеля яе адной — залацістай і важкай. Цяпер яе не было. Возера было, лодка-надзіманка, маленькі тэрмас з кавай, цыгарэты і запальнічка, цёплае травеньскае надвор’е было… Чаромха на берагах возера, яе пах прыносіў цёплы вецер, а блешні не было… Я прывязаў белую і каламутную, якая мне зусім не падабалася, да якой душа не ляжала. Пакурыў, тытунёвы сіні дым з’явіўся па-над вадой і знік, выпіў кавы, памыў накрыўку, і пачаў кідаць спінінг. Але той травеньскі дзень — быў мой. На цьмяную і непрывабную блешню злавіў трох ладных шчупакоў, два адарваліся побач з лодкай… Задаволены, выплыў на бераг, перакуліў лодку, каб высахла, а сам, з тэрмасам і цыгарэтамі пайшоў на пагорак, каб пасядзець, адпачыць і дачакацца швагра з машынай (жоўтая блешня, лодка і спінінг належалі яму). Вечар цёплы. Я прылёг на ватоўку і заснуў. Пахла маладой травой, вадой, чаромхай, а рукі пахлі рыбай. Калі я расплюшчыў вочы, то швагер сядзеў побач. Ён з восені не курыў, але трымаў мой пачак у адной руцэ, а запальнічку ў другой. Ён глядзеў на возера. Так глядзеў, як глядзяць у апошні раз. Ціха дыхаў. Потым сказаў, што хоча пакідаць спінінг, калі я не супраць і згодны пачакаць. Я прызнаўся, што ўтапіў яго любімую блешню, а ён не стаў ні сварыцца, ні здзіўляцца. Цяжка падняўся і пайшоў да лодкі. Перакуліў яе і паплыў, але хутка вярнуўся. Кожны ўзмах спінінгам прыносіў боль…

Гэта ён — старэйшы брат маёй жонкі — паказаў мне гэтае і ўсе іншыя азёры ў наваколлі. Гэта ён навучыў мяне лавіць на малой і вялікай рэчках. Паказаў, як трэба абводзіць блешняй купкі трыснягу і аеру, паваленыя дрэвы, як выкідаць праз траву на бераг рыбіну, як пераходзіць азёры па першым і апошім лёдзе, як правяраць яго трываласць чорнай дзюбай пешні…

Летам Пятра Іванавіча Марковіча не стане, але той яго развітальны позірк ці забудзецца?

…возера ляжала ў цёмных берагах выцягнутай светлай і жывой кропляй. Яно не было роўным, яно нагадвала вока. Вялікае светлае вока. Бачыць Бог, я хацеў тады і хачу цяпер паверыць, што магчыма ўзяць ад вялікай кроплі гэтага святла — маленькую кроплю. Што вялікае можа пераліцца праз вочы. І трапяткую кроплю можна перанесці з сабой туды — у цемру таго свету. І з кропляй гэтага святла там будзе лягчэй. Я хацеў паверыць. Паверыць у звычайную кроплю святла, хацеў і не верыў.

А можа, дарма не веру?...

## Лёс і рыба

Ведаю шмат рыбакоў, ведаю і браканьераў.

Сашка, па мянушцы Карась, жыў праз вуліцу. Жыў з жонкай Мальвінай і сынам Віцькам. Карась здабываў рыбу па-рознаму. Гэта ён, калі ў нейкай сварцы яму нагадалі, што па яго віне загінула ў малой рэчцы дзіцянё, сказаў, задраўшы ў неба ссівелую калматую бараду: «А што? Пажыў малец трохі — хопіць!» Сказаў і зарагатаў. Ведалі вяскоўцы, што цягнуў Карась ад сваёй лазні да малой рэчкі драты. Ведалі, што біў рыбу токам, але доказаў следчыя не знайшлі, Сашку не пасадзілі.

Потым, гадоў праз восем, ці дзевяць, ягонаму сыну Віцьку ў суседняй вёсцы адбілі нутро. Віцька памёр на аперацыйным стале, у раённай бальніцы. І жонка Мальвіна праз год раптоўна памерла, сэрца парвалася. Так пра няшчасную вяскоўцы казалі. А Карась жыў. На рыбу не хадзіў, бо на руках пальцы пазакручваліся і не разгіналіся. Памёр ён пазалетась, у доме для састарэлых. Два гады праляжаў спаралізаваны.

Васіль, па мянушцы Будулай, з вудай на рыбу не хадзіў. Ток і сеткі былі асноўным рыштункам. Аднойчы я прыехаў на невялікае возера, за лясной вёскай, у якой жыло дзве сям’і. У берагах плавала здохлая рыба. Такой колькасці я ніколі не бачыў. Можа, праз тыдзень Васіль пахваліўся, што на тым возеры былі такія шчупакі, што ён ніколі не думаў, як бярвёны…

Будулая шмат разоў лавілі з сеткамі, але адпускалі. Нарэшце пасадзілі на тры гады. Мне здаецца, што за тыя тры гады рыбы ў рэчцы і азёрах паболела. Васіль згарэў у сваёй хаце, якую яму далі пасля турмы. І ніхто яго не пашкадаваў.

Можа, гэта мне здаецца, а можа, так супала, але браканьеры, якіх ведаў, паміралі і гінулі цяжка, лютай і пакутлівай смерцю.

Як не паверыць у казкі пра чароўную рыбу?

## Срэбная лыжка

Спачатку пра срэбную лыжку і яе гаспадара пачуў ад вясковых рыбакоў, а потым і пабачыў.

Мужчына гадоў шасцідзесяці прыязджаў да возера на чорным матацыкле з люлькай. Падрульваў да самага берага і нетаропка злазіў. Здымаў белы шлем, акуляры, надзяваў кепку. Даставаў з люлькі чорную гумовую лодку. Разварочваў яе і чорным аўтамабільным насосам надзімаў. Потым падцягваў да вады. Лодка старая, лапленая. Мацаваў вёслы. Пераносіў у лодку руды заплечнік і дзюралевы спінінг з вялікай катушкай. Клаў упоперак лодкі дошку і адплываў. На вадзе на патрэбным месцы выцягваў з кішэні насоўку, у якой была загорнута блешня, няспешна і акуратна прывязваў яе да тоўстай жылкі. Блешня тая была зроблена з сапраўднай срэбнай лыжкі. З вялікай, якой суп ядуць. Блешня тая была не яркая, цьмяная, з чарнатой і жаўцізной. Мела яна сакрэт. Шмат хто яе бачыў, у руках трымаў, разглядаў-вывучаў. Некаторыя спрабавалі зрабіць такую ж, са срэбных і мельхіёравых лыжак. Рабілі… Здавалася, што можа быць прасцей, адрэж у лыжкі тое, чым суп з талеркі зачэрпваюць, напілкам край зараўняй, прабі дзве дзіркі, адну насупраць другой. Прымацуй у шырокай частцы кручок-трайнік, а там дзе вузейшая, то колца з карабінчыкам, і лаві сабе шчупакоў. Так і рабілі, але марна. Не хапалі тыя блешні шчупакі, не хапалі.

А дзядзька на чорным матацыкле заўсёды быў з рыбай. Полацкія, віцебскія, мінскія рыбакі прапаноўвалі за тую самаробную блешню грошы, скрыню гарэлкі, дзве скрыні, лодку новую зялёную, але блешня не прадавалася, радавала адно гаспадара. Бывалі выпадкі, што дзесяць рыбакоў на возеры спінінгамі размахваюць, а рыба толькі ў аднога, зразумела ў каго… Паловіць, блешню здыме, пакладзе ў насоўку і ў кішэнь, гузік зашпіліць…

І я таму дзядзьку колькі гадоў зайздросціў. Марыў пра яго срэбную блешню, ад якой шчупакі вар'яцеюць. Але гаспадар тую незвычайную блешню адарваў, страціў, пакінуў у возеры. Ён сядзеў у лодцы і сцябаў сваім жалезным спінінгам ваду, сек, лаяўся, плакаў…

Некаторыя рыбакі радаваліся яго бядзе, а я не радаваўся. У той дзень я злавіў чатырох шчупакоў, адзін — вялізны, ледзь выцягнуў. Большыя шчупакі мне на тым возеры ніколі не трапляліся.

## Чужая вада

Чатыры летніх месяцы я пражыў у Карэліі, на баразе вялізнага, берагоў не відаць, Анежскага возера. Вядома, лавіў рыбу. Аднойчы на пяць дзён трапілі на Ямб-возера. Краявіды зусім бязлюдныя, дзікія. Белыя ночы, цішыня, выспы на цьмянай, як срэбра, вадзе, вялізныя светлыя камяні, крывыя, нізкія, цёмныя сосны… На далёкіх берагах маўклівыя, кінутыя гаспадарамі высокія паўночныя дамы. Часам не разумееш, дзе пачынаецца неба, дзе заканчваецца вада. Рыбы ў тым далёкім возеры шмат. Той выпадак, калі яна ловіцца амаль на голы кручок. Вялізныя акуні, плоткі, ляшчы…

Мы заплылі на выспу і пражылі на ёй чатыры дні. Цяжка, бо мяжа паміж ноччу і днём няпэўная, размытая. Глядзіш на гадзіннік і не разумееш, ці дзесяць раніцы, ці яшчэ дзесяць вечара. Ранне, вечар, ноч такія падобныя, што пачынаеш блытацца, губляцца ў часе і ў бясконцасці вады і неба…

Дзіўна, але мне Карэлія не сніцца. Не дамы на нізкіх берагах, ні Анега, ні Ямб-возера. А вось маленькая рэчка Вушачка сніцца. Зімовая, ранішняя, вясновая, калі ўсё вакол рудое і шызае, як попелам прыцярушанае, калі яшчэ няма зеляніны нават на вербах, калі вада сіняя-сіняя і хуткая, ці калі сыпле летні дождж, важкія кроплі разбіваюцца аб ваду… Маленькая рэчка, не параўнаць з Анегай, а сніцца, хвалюе, кліча…

Сон пачынаецца так. Набіраю ў далоні ваду. П'ю. Іду па беразе па толькі мне бачнай сцежцы і прападаю ў ранішнім тумане…

## Бакеншчык

Мой стрыечны дзед Кірыла працаваў бакеншчыкам. Запальваў у бакенах ліхтары, каб светлыя параходы-прыгажуны, буркатлівыя буксіры і чорныя нізкія баржы маглі плыць па рацэ Сож ноччу. Пальцы мезенцы ў бакеншчыка былі, як мае вялікія, бо штодня ён плаваў па рацэ на доўгай чорнай лодцы, гнаў яе цяжкімі вёсламі. Ноччу на рацэ, а ўдзень дома.

Гэта ён — стрыечны дзед, аднойчы закінуў сетку на «маё шчасце» і выцягнуў рыбу. Столькі, што я дзесяцігадовы, ледзь дамоў у кашы прынёс. Гэта ён дазволіў мне плаваць па рацэ на сапраўдным чоўне, выдзеўбаным з камля старой асіны. Човен той хісткі і хуткі, завецца — «душагубка». Дзед Кірыла хаваўся за баржай і глядзеў, як я плыву, каб калі што якое, то дапамагчы. Але я плыў. Баяўся, але плыў…

Некалькі разоў плаваў з дзедам-бакеншчыкам на яго работу. Баба Куліна прымушала мяне тады цёпла апранацца, давала бутэльку малака, яйкі, сала, хлеб і цыбулю. Дзед Кірыла, як сапраўдны марак, не казаў, што «паплывём», а казаў — «пойдзем».

Сож пад Лоевам шырокі і моцны. Бакеншчык веславаў, а я сядзеў задаволены і трымаў то адну, то другую руку ў пругкай і цёплай вадзе. Мы пазапальвалі ліхтары — упрыгожылі раку і прыплылі на бераг, каб дачакацца світання, а потым усе ліхтары патушыць. Расклалі цяпельца, павячэралі. Я доўга глядзеў на начны Сож. На бакены, на неба, слухаў, як плёхаецца рыба, чуў галасы мужчын на баржах. Што везлі тыя доўгія баржы, не разгледзеў. Памятаю, што на адной грала музыка. Баржа павольна плыла ўніз па рацэ. Дзед Кірыла спаў на сене, а я сядзеў і глядзеў на раку.

## Чарвякі

Сівавалосы дзядзька падыходзіў заўсёды ціха. Ківаў вітальна, здымаў кепку, сядаў, калі трава была сухая, а кепку клаў на калена. Мне падабаўся Бязрукі тым, што мог сядзець гадзіну і маўчаць. Не люблю тых, якія трындзяць на рацэ... А я мяняў на кручках аб’едзеных і абсмоктаных чарвякоў, перазакідваў вуды і чакаў сваю рыбу. Бывала, што і шчасціла — браўся ладны падлешчык. Тады Бязрукі смяяўся, але бязгучна і задаволена. Пасядзіць і пойдзе. Рукі яго чорныя, як у пальчатках, але пальцы не гнуцца — драўляныя ці пластмасавыя, я так і не даведаўся.

22 чэрвеня 41 года, яшчэ на досвітку, ён пайшоў на Бярэзіну. Хацеў налавіць рыбы. Пашчасціла яму, як ніколі. Нацягаў поўную палатняную торбу, ледзь прынёс. Рыба бралася, як дурная, як апошні раз. Каб не скончыліся чарвякі, то і яшчэ б гадзіну цягаў ладных падлешчыкаў і плотву. Яму тады было без трох месяцаў васямнаццаць гадоў. У сорак другім ён — шафёр. Ездзіў на «Студэбекеры», вазіў людзей і снарады. Даехаў да Польшчы. Там і адмарозіў рукі, праўда, я думаў, што рукі яму гранатай, ці мінай адарвала. Але ўсё аказалася прасцей. Адмарозіў, гангрэна, ампутацыя.

Жывы, але чарвяка на кручок не ўздзенеш.

Сядзеў, маўчаў, глядзеў, як я выбіраю з бляшанкі самага лепшага, самага вёрткага і пругкага, самага чырвонага, працінаю джалам кручка, плюю і закідаю ў зацішок, пад паваленую чорную асіну.

Ведаю — Бязрукі мне моцна зайздросціў...

## Дождж пад лодкай

Пачаўся дождж. Я хутка склаў вуды, парадаваўся, што не паспеў заплыць далёка і пачаў веславаць да берага. Выцягнуў сваю зялёную лодку-надзіманку. Перакуліў дагары чорным дном, падставіў вёслы і схаваўся пад яе. Сядзеў, курыў, піў каву і глядзеў на шэрую ваду, на пухіры. Вяскоўцы на тым беразе возера таропка накрывалі цэлафанам стажкі сена. Да іх сцяна дажджу яшчэ не дайшла. Калі падхопліваўся вецер, прытрымліваў лодку рукамі. Вада цякла ў рукавы. Халодная. Я нагадваў сабе слімака. І стажкі на тым беразе нагадвалі ракавінкі… Гэта было ў чэрвені 1985-га. Я колькі тыдняў як вярнуўся з войска і радаваўся, што цяпер не ў Маскве, а дома. Што сяджу пад лодкай «Нырок», што над галавой гумовы дах — чорны, бліскучы і надзейны.

Калі скончыўся дождж, то рыба не бралася. Але хіба гэта самае галоўнае ў жыцці?

## Пірат. 1970 год

Мы з Воўкам прыехалі на кар’еры яшчэ і пяці не было. Перанеслі ровары праз дрыгву. Потым яшчэ праз адну і яшчэ. Пападзе бліснэла вада нашага сакрэтнага кар’ера. Пакінулі ровары і торбачкі з ежай пад кустамі вярбы, надралі галля, насцялілі пад ногі, каб не правальвацца ў твань па грудзі. Уладкаваліся і пачалі лавіць карасёў. Нас поедам елі камары. Смакталі нашу кроў, але карасі так лавіліся, што было не да камароў-крывасмокаў. Вады ў кар’еры мала. Вада празрыстая. Карасі хапалі чарвякоў адразу, паплаўкі скакалі, зніналі…

Трэба было перапыніцца і папалуднаваць, паадзіраць п’явак, пасядзець на цвёрдай зямлі, якая не прагінаецца, не хістаецца, не булькае. Адпачыць. Мы гэта абмяркоўвалі, але зрабіць не паспелі. Пад кустамі з’явіўся вялізны руды сабака. Вялізны, як мядзведзь. Мы размахвалі вудамі, крычалі на яго, праганялі, але ён пагрозліва гыркаў, глядзеў налітымі крывёй вачыма і не дазваляў выйсці на бераг. Ён растрыбушыў нашы торбачкі, з’еў батон з кілбасой і маслам, патрушчыў вараныя яйкі, толькі шкарлупіна сыпалася з пашчы, і лёг пад кустом. Можа, сабака праляжаў бы ў цяньку да вечара, а можа, і да наступнага дня, каб з балота не пачуліся галасы: «Пірат, Пірат!? Сюды!» Пірат брахануў, страціў да нас цікавасць, і пабег на голас гаспадара.

Нам засталося два яблыкі, бутэлька з кампотам і гурок. Да дому, ад тых кар’ераў было кіламетраў восем.

Але карасёў мы тады нацягалі. Я злавіў восемдзесят сем, а Валодзька яшчэ больш, бо яго вуда была трохі даўжэйшая.

## Паэт

Мікола Пігулеўскі ездзіў на ровары, без рамы. Шчыткі на ягоным ровары зайздросныя, храміраваныя, бліскучыя. А сам ровар звычайны — бабскі. Мне было дзесяць гадоў, а дзядзьку Міколу сорак пяць. Ён круціў колы адной нагой, а другую трымаў прамой, бо яна не згіналася. Парыпваюць колы, патрэскваюць і пстрыкаюць каменьчыкі… Пігулеўскі цяжка дыхае і едзе спярша па Кастрычніцкай, потым па Школьнай, і на шашу. Ён коціць на сваім бабскім ровары да цагельні. Пакуль ён праедзе побач са старым калгасным садам я абганю яго. Перанясу свой ровар праз чыгунку і паімчу з гары па ўтрамбаванай сцежцы да цагельні. А ён будзе круціць адной нагой, будзе цяжка дыхаць і мармытаць сабе пад доўгі і тонкі нос нешта незразумелае. На той час, калі Пігулеўскі даедзе да цагельні, то я ўжо закіну сваю вуду ў непразрыстую, як какава, ваду кар’ера, сцішэю ў чаканні рыбы. Пігулеўскі спыніцца кроках за дзесяць ад мяне. Няспешна адвяжа ад свайго бабскага ровара пук бамбуковых тохкаленак. Разбярэ і складзе вуды, начэпіць на кручкі вяртлявых чарвякоў і закіне ў маўклівую і нерухомую ваду. Далёка закіне — вуды ў яго доўгія. Як тры травіны стануць тырчэць яго аднолькавыя чырвоныя паплаўкі. Пігулеўскі сядзе на раскладны зэдлік і пачне чакаць вялікую рыбу.

Гэта я згодны на любога карасіка, а яму трэба толькі вялікі. Ён сядзіць нерухома. Выцягнутая, як палка, нага, доўгі брэзентавы плашч з башлыком. Кепка, папяроса. Побач цыратавая торба, а ў ёй біклажка з вадой.

Ты не ведаеш, што будзе далей, а я ведаю. Пігулеўскаму надакучыць глядзець на паплаўкі, курыць надакучыць, ён дастане з кішэні маленькія, як нататнічак, шахматы і пачне гуляць. Зрэдку стане паглядаць на паплаўкі. Праз гадзіну памяняе чарвякоў, на весялейшых і жвавых. Узыдзе і спыніцца над калгасным садам пякучае летняе сонца. Высахне раса на траве, а Мікола Пігулеўскі будзе весці гульню з бела-чорнымі маленькімі коньмі і пешкамі…

Аднойчы Пігулеўскі склаў маленькія шахматы і схаваў у кішэнь плашча. Паклікаў мяне да сябе. Я падумаў, што ён мяне цукеркай пачастуе. Пігулеўскі ж выцягнуў з торбы газету. Беражліва разгарнуў і паказаў некалькі слупкоў вершаў, пад якімі я прачытаў яго прозвішча і імя. «Гэта мае вершы, — няўпэўнена, як мне падалося, прамовіў дарослы мужчына і тыцнуў пальцам у слупкі словаў. — Пра прыроду».

Вось так, на беразе кар’ера з нерухомай, як нежывой, вадой, я ўпершыню пагаварыў з паэтам. Было горача. Паэт Пігулеўскі даў мне напіцца са сваёй жалезнай біклажкі. Самая звычайная вада з-пад крана.

Але сёння мне здаецца, што менавіта тады я і глынуў атруты.

## Галаўні

Шмат разоў пераходзіў раку па гэтай доўгай кладцы, зробленай з пяці абчасаных і змацаваных жалезнымі скобамі бярвёнаў. Нават калі спяшаўся, то абавязкова прыпыняўся і трохі стаяў, каб паглядзець на раку зверху. Вада чыстая, дно відаць. Водарасці жоўта-зялёныя, як валасы расчасаныя, рыбкі дробныя мітусяцца. Рака, як у каньёне, бяжыць, заціснутая высокімі берагамі. Я спыніўся на кладцы, паставіў вуду, зрабіў крок, абапёрся на парэнчыну і пачаў глядзець на ваду, праз ваду…

На рацэ ляжаў цень берага. На мяжы святла і цемры стаялі чатыры вялізныя рыбіны з чорнымі спінамі, стаялі на струмяні, толькі плаўнікі трымцелі, а бакі цьмяна зіхцелі. Такіх вялікіх галаўнёў я на свае вочы бачыў упершыню. Самы вялікі, які мне аднойчы трапіўся, быў большы за кілаграм, я злавіў яго насупраць могілак, і тое ледзь выцягнуў. Гэтыя ж былі разы ў чатыры большыя. У мяне сэрца сціснулася. Вуда мая стаяла побач, за крок ад мяне. Я пачаў цягнуцца да яе рукой, як маньяк да зброі. Не хацеў, каб рыбіны мяне заўважылі. Ведаў напэўна, што такі галавень парве маю жылку, як павуту, зломіць вудзільна, як запалку… Але гэта мяне не хвалявала. Няхай парве, няхай зломіць, галоўнае, адчуць яго моц, адчуць, як рыбіна ірванецца…

Асцярожна, аднымі толькі пальцамі, паправіў коніка на замалым кручку і пачаў ціха апускаць яго на ваду. Калі конік дакрануўся да паверхні, зварухнуў яе ледзь бачна, то чатыры рыбіны так імкліва кінуліся пад трыснёг, што толькі аблачынка са жвіру закруцілася на тым месцы, дзе толькі што стаялі галаўні-волаты…

Я з расчараваннем і палёгкай уздыхнуў. І сам не ведаю чаму, але пачаў шкадаваць гэтых вялізных і моцных галаўнёў, бо падумаў, што ўваб’юцца дзе-небудзь у сетку, заблытаюцца і нават на вочы больш ніколі мне не трапяцца… Зняў з кручка коніка, кінуў у раку, прасачыў, як яго схапіла плотачка. Сабраў вуду. Рыбу лавіць расхацелася.

Калі на душы бывае скрушна, то супакойваю сябе згадкай пра вялікіх і моцных галаўнёў, і пра той жнівеньскі дзень на рацэ Вушачка.

## Не забываецца

Бліскучы вужык сцякае, як звілісты чорны струмень, з берага, з травы ў раку, і плыве. Па ружовых ранішніх аблоках, па сінечы, побач з месяцам, паміж цёмных, як цыратавых, лістоў гарлачыкаў. Ён так годна трымае над вадой маленькую галаву з жоўтымі плямкамі, ён такі спрытны, што я дарую яму той халодны сполах, які адчуў, калі ён праслізгацеў побач з маімі нагамі, побач з бляшанкай, з якой я даставаў чарвяка. Вужык плыве на той бок ракі…

## Злоўленая рыба

Сядзеў нерухома, рукі трымаў пад пахамі. І вуды мае стаялі нерухома. Начны туман ператвараўся ў кроплі, якія віселі на напятых жылках, на павуце, на траве. На тым беразе, крокаў за дваццаць ад мяне, захрабусцеў трыснёг. З яго высунулася галава казулі з высокімі вушамі. Яна паглядзела на мяне, падумала, а потым нязграбна зайшла ў раку. Хваля дабегла да майго берага, хіснула жылкі, абсыпаліся кроплі. Казуля пераплыла раку, выскачыла на бераг, зірнула на мяне і пайшла поплавам у блізкі лес, які хаваўся за туманам. Я падняўся, выпрастаў рукі, працёр вочы. Мне было зябка і весела.

Злоўленая рыба існуе ў мінулым часе, як скончаная карціна, як надрукаваны верш.

## Жабкі

Чаму рыбакі лезуць на крыгі, пруцца па першым і апошнім лёдзе, які няпэўны, які ў любы момант можа захрабусцець і праламіцца? Чаму адплываюць у непагадзь, не спяшаюцца да берага пад халоднай залевай? Мерзнуць, мокнуць. У мяне ёсць адказ…

Жабак там шмат. Яркія жоўта-зялёныя, колеру какавы, з цёмнымі рыскамі, большыя і меншыя. Яны глядзелі на мяне дванаццацігадовага з раскі, з купак травы. Быццам не верылі, што ў мяне хопіць смеласці. Але я ўзяў торбачку з ежай, вуду з новым каленам, і ступіў у твань. Пругкія жабкі пачалі скакаць, як гумовыя. Мне трэба было далезці да выспы, да пагорка, за якім пачынаўся глыбокі кар’ер. Хоць і боязна, але сунуся. Твань робіцца глыбокай, булькае, пускае пухіры. Чым далей, тым халадней. Расказвалі, што адзін рыбак тут патануў, яго засмактала дрыгва. Можна вярнуцца, але мяне цягне на той пагорак з чорнай сухой вольхай. Твань па грудзі. Я ведаю, што паплыць не атрымаецца, твань густая, ліпкая і халодная.

Да пагорка тры крокі. Іх лёгка зрабіць на зямлі, на асфальце, на лёдзе, на даху… Я шпурляю торбачку, потым вуду, перабіраю нагамі. Дацягваюся рукой да галіны, якая хрубасціць і абломліваецца. Мяне адцягвае ў твань… Але я выпаўзаю на пагорак. Мокры, стомлены, брудны… Пагорак доўгі і вузкі. Мыю адзежу, выкручваю, чапляю на сухую алешыну. Гляджу на ваду, думаю, што я — малайчына, і зусім не думаю, як буду вяртацца.

У той дзень я злавіў чатырох карасёў. Вялікіх і важкіх, з бронзавымі бакамі. А вяртацца праз дрыгву не давялося. Незнаёмы дзядзька перавёз мяне на гумовай лодцы. Праўда, давялося доўга абыходзіць балота, і дамоў я прыцягнуўся, калі сцямнела. Суседзі прыходзілі глядзець і дзівіцца на маіх карасёў. І мама дала меншага цётцы Ніне.

Мне часам здаецца, што кожны рыбак, калі пажадае, можа ператварыцца ў паэта, ці мастака.

## На беразе

«Нашто рыбаку жонка, калі ў яго ёсць рака? Яна і накорміць, і памые, і супакоіць… У кожнай ракі свой пах, не пераблытаеш, як у жанчыны… Рака не здрадзіць, не кіне, а калі і падмане, то ёй даруеш…» — гаварыў Антон Порах і глядзеў на Бярэзіну.

Прайшоў дождж. Па рацэ плылі сувоі вечаровых тumanoў. Мне было цёпла побач з вогнішчам. Цёпла ад выпітай гарэлкі. І неяк маўкліва, так бывае, калі самому і слова прамовіць цяжка, бо нешта адбываецца вакол, і не ведаеш добрае яно, ці кепскае.

«У мяне была жонка… Але я кінуў яе, калі яна прапанавала выбраць яе, ці раку…» — Голас у Антона быў ціхі, але ўпэўнены.

Ён зацягнууся, шпурнуў недапалак у вогнішча і лёгка падхапіўся. Басаном заспяшаўся да сваіх вудаў-донак. На адной бомкаў званок, зроблены з латуннай гільзы. І я пайшоў да вады, каб, калі што, то дапамагчы, падхапіць падсакам ляшча.

Той восенню мне было трыццаць два, а Антону Пораху шэсцьдзясят пяць.

## Вераб’і

Каб потым не губляць час, мы заносілі ровары ў кватэры, пакідалі іх начаваць у калідорах. Я жыў на трэцім, а Валодзька паверхам вышэй.

У тры гадзіны раніцы, мы выносілі свае «лайбы» ў двор. Прывязвалі да рамаў вуды, прымацоўвалі на багажнікі торбачкі і выпраўляліся. Вуліцы пустыя, гараць ліхтары, але з кожнай хвілінай іх святло губляе яркасць і пачынае зліваецца з колерам неба. Наш гэпэ патанае ў прахалодным бэзавым паветры. Лісце каштанаў здаецца вільготным. Рыпяць ровары, пстрыкаюць з-пад колаў каменьчыкі. Мы моўчкі праязджаем побач з паркам, паварочваем, і выязджаем на шашу. Яна хоць і цёмная, але на ёй светла.

А потым, калі праязджаем завод, прыпынак, сады, то трапляем пад агромністыя таполі, якія растуць уздоўж дарогі.

Таполі прачынаюцца, ажываюць. На гэтых старых дрэвах тысячы вераб’ёў — столькі ж, як лісця. Здаецца, што гэта лісце ціўкае, хрубасціць, рыпіць, сіпіць, патрэсквае, пішчыць… Усе вераб’і шэрыя, як пыл, надзьмутыя, круглыя. Яны пырхаюць вакол нас, круцяцца, палохаюцца, разлятаюцца ў бакі, як вялікія мятлікі…

За спінамі ўстае сонца. Мы блямкаем у званкі, смяёмся і круцім педалі з усёй моцы. Пачынае здавацца, што вераб’і дакранаюцца да нас то цвёрдымі дзюбамі, то вострымі кіпцямі, а найчасцей мяккімі крыламі…

Калі вяртаемся з рыбы, то на тополях крэкчуць вароны, жоўтае сонца свеціць у спіну, і мы з Валодзькам ледзь круцім педалі.

Трыццаць гадоў таму ўсе старыя таполі спілавалі, шашу зрабілі шырокай. І цяпер той шчаслівы кіламетр пралятаеш на машыне за мінуту. Усяго за мінуту...

## Мост

Тарфяныя буры прыносіў усходні вецер. Неба рабілася цёмна-бэзавым, а балота пачынала хваляваецца і хістацца. Здавалася, што вада ў кар’ерах закіпае. Якая тут рыбалка? Трэба ўцякаць. На роўным балоце, на карычневым полі, якое вакол балота — няма дзе схавацца.

Трэба паспець даехаць да чыгункі, да моста. Вецер збівае, валіць, здаецца, што падхопіць разам з роварам, закруціць, падкіне і потым шпурне… Вецер распранае, здзірае пінжак, замятае карычневым торфам сцежку. Баюся азірнуцца, бура мяне даганяе.

Мост. Сяджу на кукішках пад бетоннай сцяной, далонямі закрываю твар, затыкаю вушы. Карычневы туман. Торф лезе ў вочы, вушы, цяжка дыхаць. Карычневая цемрадзь пануе вакол і вецер скуголіць пад мостам, але пашанцавала. Паспеў схавацца. Я зусім адзін і мне страшна…

Вецер сціхае. Пачынае ісці карычневы дождж.

Калі праз гадзіну прыязджаю дамоў, то торф у шкарпэтках, у кішэнях, у вушах… Уражанне такое, што я злеплены з торфу, як брыкет.

На балоце была бура, а ў гэпэ вецер толькі бялізну з балконаў паскідаў, шыфер і бляху паздзіраў з дахаў, колькі дрэваў паваліў… А дажджу — ні кроплі…

Пасля тарфяной буры рыба не ловіцца тыдзень.

## Павута

Дні кароткія, вада празрыстая і яркая, быццам фарбы ў яе налілі, не пашкадавалі. Рака адлюстроўвае неба, і калі ўглядацца, то можна ўбачыць рыскі павуты, якая ляціць, а можна сказаць і плыве, бывае за жылку чапляецца. Але павуцінкі такія бязважкія, што тонкая жылка і не хістаецца, быццам і не заўважае тых дотыкаў…

А рыба, выцягнутая з глыбіні неба кастрычніцкім празрыстым днём, здаецца халоднай, як поўня, амаль ледзяной…

Пералётныя птахі, як радок напісаны на шкле, бязгучна з'яўляюцца на паверхні, побач з паплаўком. Але гэтыя запісы знікаюць так хутка, што прачытаць не паспяваеш… Восенню рыбакі шкадуюць, што светлыя дні кароткія, што пралятаюць, як павуцінкі…

## Рэкі

Сож, Прыпяць, Волма, Бярэзіна, Нёман, Бесядзь, Віхра, Ушачка, Свіслач, Днепр, Дзвіна, Ліпа, Іслач… Прамаўляю і хвалююся. Словы цякуць і пераліваюцца, бо жывыя.

## Віцька

Віцька, мой вясковы прыяцель, ловіць рыбу сеткамі. Сеткі старыя, з шэрых нітак, з каменнымі грузкамі, з паплаўкамі з бяросты. Добра «абсаджаныя». Віцька ўвесь час іх рамантуе, папраўляе, наводзіць, мые шампунем, сушыць у двары на штыкетніку, старанна перабірае. Ён ловіць столькі, каб рыба была на стале. Не больш і не менш. Я з вудай, ці спінінгам магу налавіць больш, чым ён сваімі шэрымі сеткамі.

Другі год Віцька спрабуе злавіць вялікага сома, я ведаю пра таго сома, чуў, як ён плёхаецца. Аднойчы думаў, што брыла высокага берага ў раку абрынулася. Але берагі там нізкія, топкія… Віцька яго на свае вочы пару разоў бачыў. Кажа, што рыбіна пуды на два з паловай. Віцька адмыслова ставіць сеткі на шляхах вялізнай рыбіны, сварыцца, калі сом прабівае ў старых сет-

ках дзіркі, блытае, ірве іх, зацягвае ў траву, скручвае… Віцька расказвае пра сома-саперніка, як капітан Ахаў пра свайго Мобі Дзіка. Расказвае з павагай і з мацюкамі…

Мінулым летам у адну з сетак трапіўся сомік. Невялікі, большы за кілаграм, чорны, вусаты і трохі пачварны, галава як палова тулава. Віцька акуратна выблытаў яго і выпусціў у раку, на глыбокім месцы.

У той цёплы жнівеньскі вечар я лавіў галаўня, але няўдала. Віцька даў мне шчупака, каб я не ішоў дамоў з пустымі рукамі.

## Рэчка Ліпа

На Ліпу мяне васьмігадовага прывялі старэйшыя стрыечныя браты. Каб не замінаў ім, пакінулі на беразе, загадалі ў раку не лезці, бо тут плёс, тут глыбака, з галавой, а самі пайшлі купацца за паварот. Мне засталася вуда — дубец з ляшчыны, і бляшанка з ружовымі даджавымі чарвякамі.

Я закінуў вуду і стаў чакаць. За паваротам, за высокай травой і кустамі алешніку браты купаліся, смяяліся, крычалі, а я чакаў… Падлеткі купаюцца доўга. Мой паплавок-бомбачка плаваў-плаваў, а потым знік. І вудзільна пасунулася, да вады дакранулася, ледзь паспеў схапіць. Рыбіна цяжкая і вялікая сагнула вуду і хадзіла пад вадой. Я цярпеў, спрабаваў даць рады, а потым пачаў крычаць, клікаць на дапамогу. Спачатку прыбег адзін брат, той, які маладзейшы, а потым, з адзежай у руках, старэйшы. Шчупака мы выцягнулі.

Як ён злавіўся, зразумець не змаглі. Ён ляжаў на зялёнай траве. Прыгожы і бліскучы, хліпаў зебрамі, біў хвастом, выгінаўся.

Браты, якіх я любіў і люблю, угаварылі мяне малога таго шчупака адпусціць. Я вагаўся, адмаўляўся, але яны ўгаварылі. Пераканалі, а за згоду дазволілі пакупацца.

Я заплакаў ад крыўды і шкадавання толькі тады, калі плыў па-сабачы на нізкі бераг Ліпы. А што, у вадзе слёз не відаць…

## Касцюкоўскае возера

Касцюкоўскае возера я пераплыў гадоў у адзінаццаць. Дзе на спіне, дзе па-сабачы, але пераплыў і выпаўз, лёг на далёкім беразе. А вось бацька майго аднакласніка не здолеў, хоць і быў мараком, хоць і насіў цяльняшку. Праўда, былы марак-чарнаморац перад заплывам віна напіўся. Ён ішоў да вады, пахістваўся і распранаўся, кашулю кінуў на траву, саколку сцягнуў праз галаву, потым, каля вады чаравікі зняў і штаны-клёш…

Летні вечар задушлівы, гарачы, цёмны. Вось марак і вырашыў паказаць сваім сябрам, як трэба плаваць. Ён забег у ваду і адразу паплыў. І яго сябры, і мы — падлеткі, бачылі, як марак размахвае рукамі і хутка аддаляецца. Потым плёханне сціхла… Колькі часу ўглядаліся ў цемру, у алейны спакой чорна-бэзавай вады, у кроплі ліхтароў, на тым беразе, за полем…

Пошукі тапельца пачаліся раніцай. Спрабавалі злавіць невадам. Цягалі-цягалі, але марна. Адно некалькі карасёў улезла ў сетку. Людзей на беразе сабралася, як на базары. Расказвалі, як марак ішоў, як плыў, напрамак паказвалі. Апоўдні прыехалі гомельскія вадалазы. У іх шэрыя балоны з кіслародам, чорныя ласты, маскі, ліхтарыкі… Але праз дзве гадзіны вадалазы змерзлі, кіслард скончыўся, тапельца не знайшлі.

Адзін з сяброў марака працягваў пошукі, бо быў п'яны. Казалі, што неўзабаве і ён не ўсплыве. Але раптам ён закрычаў, каб хутка падалі прасціну, бо ён стаіць на назе тапельца. Падалі стракатую радзюжку, бо прасціны не было. Выцягнулі не тапельца, а чорную слізкую пакрышку. Хоць і стаяла спёка, але ў возеры не купаліся, рыбу не лавілі.

Тапельца знайшла цётка, якая павяла на той бераг казу, бо там трава нестаптаная. Марака гайдалі хвалі пад самым берагам у маладым трысьнягу.

Праз два дні пасля пахавання тапельца на возеры пачалі купацца, лавіць рыбу. Вось тады я і пераплыў яго. Дзе на спіне, дзе па-сабачы…

Карасёў, злоўленых у касцюкоўскім возеры, дзеці, можа, з год называлі «чарнаморцамі».

## Летні дождж

Дождж пайшоў ноччу. У чатыры, нават крыху раней, я выйшаў на ганак. Дождж шапацеў, а ганак быў слізкі і халодны. Калі ідзе дождж, то рыба ні на рацэ, ні на возеры не ловіцца. Неба аднолькава шэрае, што на ўсходзе, што на захадзе. Крыўдна… У мяне ўсё падрыхтавана, рыбацкі рыштунак, заплечнік і боты чакаюць на верандзе. Кляну гідрамет, які абяцаў навальніцу, з кароткачасовым начным дожджом.

Праходзіць гадзіна, за ёй другая. На вуліцы светла. На калюгах з'яўляюцца бурбалкі. Крычыць певень, ціўкаюць пташкі… Хутка апранаюся, іду да ракі. Дажджу амаль няма. Радуюся і спадзяюся, бо пасля дажджу рыба павінна брацца. Рака ціхая, сонная, каламутная. Раскладаю вуды, чапляю чарвякоў, закідаю. Тут зноў пачынае церушыць дождж. Спадзяюся, што ён кароткачасовы. Праз гадзіну чарвякі распаўзаюцца з бляшанкі, выслізгваюць з мокрых пальцаў… Рыба не ловіцца. Хаваюся пад дрэвы. Пад асінай кроплі буйныя, і пад елкай буйныя. Разумею, што гэты кароткачасовы дождж не скончыцца да вечара, ніколі не скончыцца. Мокра сядзець, мокра стаяць, і цыгарэты вільготныя ў мокрых пальцах… І што я раблю на рацэ, пад дажджом?

Той дождж скончыўся вечарам, а палове дзявятай. Я ў гумовых ботах, з рыдлёўкай, пайшоў капаць чарвякоў пад суседаў хлеў. Калі накапаў і вярнуўся, то дачка з жонкай радасна паведамілі, што ноччу зноў чакаюцца кароткачасовыя дажджы.

## Размовы

Не сакрэт, што рыбакі размаўляюць з рыбай, з ракой, возерам, вудай, з чарвяком, конікам, кручком, паплаўком… Без гэтага не атрымліваецца.

«Сама і вінаватая. Торгалася, кідалася, вось рот падрала. Ну, давай плыві, малая. Скажы сваім старэйшым, што чарвяк дужа смачны і свежы…» — кажу маленькай плотачцы, апускаю яе ў ваду і расціскаю пальцы. Плотачка знікае ў глыбіні.

«Што ты так закруціўся? Супраціўляцца пачаў, пальцы мне выварочваеш? Я цябе з сабой не для гэтага ўзяў, каб ты тут звіваўся… Там, у вадзе, выгінайся, выпружвайся. Ідзі, папрацуй вадалазам!» — кажу чарвяку, разглядаю, як ён трымаецца на кручку, а потым закідваю пад ліст гарлачыка.

«Ты чаго, што не так? Другі раз жылку блытаеш. Дарма за цябе грошы аддаў. Працуй, лаві рыбу. Вось так. Зноў драбяза… — звяртаюся да спінінга і закідваю ў лодку маленькага шчупачка. — А ты што робіш? Кату цябе сорамна несці. Плыві, жаўтапузы».

З вялікай рыбай размовы сур’ёзныя, але заўсёды шчырыя. Да вялікай рыбіны і павага вялікая. Нават, калі яна адрываецца, і дазваляе толькі ўбачыць сябе на некалькі імгненняў. А калі атрымліваецца дакрануцца, то можна і мацюкнуцца. Вядома, рыбіна не адкажа. Але тут не на рыбіну, а на сябе крыварукага. На няўдачу…

Выхапіў з ракі галаўня. Сціснуў у руцэ, пачаў кручок выцягваць, і ў гэты момант адчуў, а можа, толькі падалося, што ў рыбінкі б’ецца, калоціцца сэрца… Доўга не трымаў, кінуў у раку… Няхай падрасце. Калі не я, то хто іншы зловіць, радасць адчуе.

Але, бывае, што безгалосым рыбам расказваеш тое, у чым і сабе не заўсёды можаш прызнацца…

## Фота

Ніколі не любіў фатаграфаваць злоўленую рыбу. І фоцік пад рукой, і рыбы злавіў, прынёс, побач з калодзежам, у місе ляжыць… Бяры і здымай… А я не раблю гэтага.

Ёсць у фотаздымках рыбацкіх трафеяў падабенства з картачкамі забітых, расстраляных, тых, што на шыбеніцах вісяць, пад сцяной побач з долам ляжаць… Разумею, што перабольшваю, але, напісаў шчыра.

## Тэма

Новыя валёнкі, тоўстыя ваўняныя шкарпэткі, сінія ватнікі, кашуля, два швэдры, кажух, шалік, шапка, рукавіцы, пальчаткі з адрэзанымі пальцамі, шарабан, цыгарэты, сала, цыбуля, хлеб, тэрмас з гарбатай, скрыначка з матылём, дзве вуды, чатыры мармышкі, чырвоны калаўрот — усё гэта ў мяне было. Але… Бывае такое беларускае надвор’е, якое я называю абразіўным. Не, яно мяне не абражае, яно бярэ і здзірае скуру на твары і руках, як наждачная папера з буйной крошкай.

Менавіта такім і было студзеньскае надвор’е ў тую пятніцу 1981 года. З бліскучай снежнай крупкай, з рэзкім ветрам, з папяловым небам. На градусніку — мінус васямнаццаць. Жончын дзед глядзеў-глядзеў на мае ваганні, а потым сказаў, каб не думалася потым, то лепш схадзіць на рыбу. Я і пайшоў.

Цвецінскае возера нагадвала стол, засланы белым абрусам, ні зморшчынкі, ні складачкі. Лёд цвёрды. Дзве гадзіны хадзіў з месца на месца. Рыбы не было ні на дне, ні пры дне, ні пад самым лёдам, ні на глыбіні, ні на плыткіх месцах. І рыбакоў не было, а старыя лункі даўно і надзейна замерзлі. Перайшоў на раку. Свідраваў у траве, пасярэдзіне ракі, бліжэй да берага, далей… Гарбату выпіў, з’еў сала з хлебам, пакурыў. Ногі, рукі і нос мерзлі. Калі міргаў, то бачыў свой бэзава-шэры нос. Расплывіста, але бачыў. Калі на гадзінніку было без чвэрці тры, то пачаў марыць пра самагонку, грубку, гарачую капусту, мяккі ложак і коўдру…

Пакуль лез праз сумёты — крыху адагрэўся. Збочыў з шашы, бо на ёй дзьмуў пранізлівы вецер, і працерабіўся праз кусты да маленькага азярца. Яно хавалася ў яміне, а вакол пагоркі і лес. Там было зацішна, там думаў пакурыць і адпачыць. Азярко звалася «Пярылы», і акрамя вялізных карасёў іншая рыба там не лавілася. Але карасі — летам, а цяпер канец студзеня. Пасля глыбока-

га снегу ісці па лёдзе лёгка і прыемна. Каб адагрэцца — прасвідраваў тры дзіркі ўзапар. Ведаў, што рыбы тут не будзе, але начапіў далікатнага матыля і апусціў у ваду. Паклаў вуду і пачаў прыпальваць цыгарэту. Вуда тарганулася кіўком, я не паверыў, а потым і падскочыла. Большая за далонь краснапёрка заскакала на лёдзе. Я нават перахрысціў лунку, вуду і пенапластавую скрыначку з барвовым матылём.

За першай другая, а за ёй трэцяя, пятая, дзясятая… Лічыць перастаў. Усе рыбіны былі аднолькавыя, як мераныя, грамаў па дзвесце пяцьдзясят.

Чапляў матыля, апускаў, ківок торгаўся, выцягваў рыбіну… Прыемная, аднастайная праца… Што сцямнела заўважыў па тым, як джала мармышкі ўсе часцей знаходзіла не матыля, а палец… Кляваць пачало слабей. Рыба не змясцілася ў бляшаны шарабан. Рэшту давялося спакаваць у торбу.

Дзед хваляваўся. А калі ўбачыў, што я прынёс поўны з коптарам таз яркай рыбы, пачаў смяяцца.

У восем вечара, калі я ляжаў у ложку, а ўваччу торгаўся ківок вуды, прыехаў жончын брат. Спытаў, ці быў я на рыбе. Адказаў, што быў і нават трохі злавіў. Ён пайшоў у сенцы глянуць. Прыбег спалоханы і здзіўлены. Раніцай падняў мяне, калі яшчэ было цёмна.

На «Пярылах» мы не злавілі і нават не бачылі, каб ківок варухнуўся. Пайшлі на раку, потым на возера, потым зноў вярнуліся на «Пярылы». Надвор’е было абразіўнае. У той дзень я і прыдумаў тэму дыпломных палотнаў.

## Паводка

Свет блакітна-жоўты, колеры перамешваюцца, зліваюцца, а таму ён падаецца зялёным. Вёска на высокім беразе, на строме, узімку з гэтага берага лётаем на лыжах і санках. У канцы красавіка ад берага да самага далягляду — блакітная вада. Там, дзе далягляд, Сож.

На чорнай лодцы плывём са стрыечным братам. Побач з кустамі, побач з дрэвамі, па адлюстраваннях аблокаў, па бліскучых хвальках. Палохаем качак, і яны ляцяць, а іхнія крылы рассякаюць блакітнае паветра са свістам. Мы заплылі далёка, берага амаль не відаць. У вадзе, пад вадой, як прыціснутая павелічальным шклом, яркая трава.

Мой брат забыўся, дзе паставіў мярэжы. Ён падняўся і паказвае, куды плыць. Я вяслую, гляжу, як ад лодкі разбягаюцца хвалі, як хістаюцца адлюстраванні дрэў, кустоў і мне хочацца спяваць. Але я не спяваю, а толькі сваруся на брата, на яго кепскую памяць. Брат злуецца… Нарэшце знаходзім першую мярэжу. Уцягваем у лодку, сыплюцца кроплі, у лодцы падскоквае некалькі плотак. Плаваем яшчэ дзве гадзіны, але самую вялікую, новую мярэжу не знаходзім. Вінаватым аказваюся я, бо малодшы, і не туды, і не так вяслую…

Калі прыплываем да берага, то ў мяне ад зіхцення вады, ад сляпучага красавіцкага сонца, ад зыркіх пырскаў баляць і слязяцца вочы. Твар і рукі чырвоныя, а на далонях пухіры мазалёў.

Ляжу на цёплых дошках кладкі, на вачах кепка, мяне хістае, гайдае, быццам я ўсё яшчэ ў лодцы, быццам яна плыве па вялікай блакітнай вадзе побач з купкамі жоўта-зялёных кустоў з мяккім і ліпкім лісцем…

Сёння на тым месцы, дзе мы некалі плавалі між кустоў і дрэў, мікрараён горада. Не верыцца…

## Знак

Я плыў да берага і стомлена, але ўсё яшчэ са спадзяваннем кідаў спінінг. Вечар ціхі, цёплы, павута павольна ляціць, за спакойную ваду чапляецца...

На беразе, дзе я пакідаў лодку, стаяў легкавік. Побач з ім поркаўся рыбак. Потым ён падцягнуў надзіманку да вады. Ад мяне да яго было крокаў дваццаць. Ён спытаў пра мае поспехі? Паказаў яму большага шчупака, які і да кілаграма не дацягваў, сказаў, што пялёхаюся паўдня, а вынік слабенькі.

Верасень, да цемры гадзіны паўтары, а можа, і менш. Падумаў, што дзіўны гэты рыбак, відаць, гарадскі, калі так позна на ваду выплыў. Ён быццам прачытаў мае думкі. Сказаў, я запомніў яго словы: «А мне быў знак, каб ехаў на рыбу менавіта на гэтае возера і лавіў на белы вібрахвост...» Я засмяяўся, сказаў, што і на белы, і на жоўты, і на чырвоны спрабаваў, а злавіў на маленькую блешню-круцёлку. Мужчына прывязваў да жылкі вялікі, большы за далонь, белы вібрахвост.

Мне захацелася адпачыць. Паклаў спінінг, выліў у накрыўку тэрмаса рэшткі астылай кавы, глынуў і пачаў глядзець, як незнаёмец кідае спінінг. Лодка мая стаяла ў лісці гарлачыкаў. Лісце парудзелае, бруднае, краі няроўныя... Вібрахвост плюхнуўся побач з маёй лодкай. Я падумаў, што зараз зачэпіцца за доўгія сцябліны гарлачыкаў, збярэ пук травы... Так і адбылося. Рыбак пачаў торгаць вудзільнам. Мне засталося толькі задаволена пасміхацца…

Але тут я ўбачыў рыбіну! Яна ішла на глыбіні. Вялікая і цёмная, як тарпеда. Мужчына пачаў крычаць і спрабаваў круціць катушку, але рыбіна размотвала жылку. Я падхапіўся, каб лепш бачыць. Рыбіна ішла ад зараснікаў травы ў глыбіню возера, цягнула за сабой лодку-надзіманку. Можа, з паўгадзіны рыбак змагаўся са шчупаком і крычаў. Потым змоўк. Шчупак выскачыў побач з яго лодкай, нарабіў пырскаў, напалохаў і здзівіў сваімі неверагоднымі памерамі. Нарэшце рыбак даў яму рады, уцягнуў у надзіманку.

З рыбаком здарылася істэрыка. Ён то смяяўся, то крычаў на ўсё возера, то мацюкаўся, а потым заспяваў...

Вядома, я яму зайздросціў... Шчупак важыў больш за дзесяць кілаграмаў. Большай рыбіны ў гэтым возеры мне бачыць не даводзілася.

Трэці год шкадую, што ад зайздрасці і сціпласці не спытаў тады рыбака, які ж знак яму быў?

## Чаканне

Бываюць такія дні, калі ведаеш, што ні на возеры, ні на рацэ рыбу не зловіш, як ні старайся, як ні высільвайся. Ведаеш, а ідзеш да вады. Стаіш на беразе, сядзіш і глядзіш, і маўчыш, і слухаеш, і дыхаеш халодным ветрам, празрыстым водарам вады…

Ведаеш, што гэтыя дні сыдуць, як вада, як хмары… А потым будуць шчаслівыя імгненні, калі будзеш зачаравана глядзець на кропку, ці рыску паплаўка, на спружынку-лівок, і сэрца будзе заходзіцца ад іх нечаканых рухаў. Будзеш торгацца, уздыхаць, падхопліваціца і пяшчотна гладзіць халодны і мокры бок злоўленай рыбіны.

## Чароўнае люстэрка

Пра маленькае азярцо, што за вёскай Дубраўка, расказаў аднагрупнік Пётр Прохараў. Ён і эцюд паказаў. Маленькі светлы авал у цёмнай лашчыне. Эцюд той быў невыразны, недароблены. Але пасля дажджу мы з другім аднагрупнікам схадзілі. Берагі там топкія, хістаюцца, доўга на адным месцы не пастаіш, бо пачынаеш грузнуць. Але і адным спінінгам мы здабылі пару невялікіх шчупакоў. Праз тыдзень я падгаварыў Сяргея Асапрылку, і мы выправіліся на азярцо з маім спінінгам. Мясцовы малец за свой партрэт (атрымаўся падобным) даў нам лодку.

Першы шчупак, які схапіў блешню, быў тоўсты і кароткі, важыў кілаграмаў шэсць-сем. Я падцягнуў яго да лодкі, а Сяргей спрытна, быццам усё жыццё гэтым займаўся, схапіў рыбіну за галаву, перакінуў мне пад ногі. Шчупак скакаў і яго давялося доўга біць вяслом па галаве. Сяргей аберуч трымаў, а я лупіў. Шчупак супакоіўся, адно хвост уздрыгваў. Пакурылі, аддыхаліся, адхваляваліся і пачалі лавіць далей. Праз паўгадзіны спінінг так тарганууўся, што «Неўская» катушка здзёрла з вялікага пальца скуру. Пацякла яркая кроў. Кроплі сыпаліся, але я спрабаваў падцягнуць рыбіну да лодкі. Сяргей кідаўся ад борта да борта, як не перавярнуліся. Шчупак трос галавой, выскокваў, плёхаўся, але ўпарціўся і да лодкі не падыходзіў. Але і яго Сяргей пераваліў, увалок у лодку. Я ледзь дыхаў.

І гэтага супакоілі вяслом. Ён быў яшчэ большы і жаўцейшы. Пакуль я завязваў палец, а потым курыў, Сяргей узяў спінінг і пачаў няўмела кідаць. Палец пабольваў, лавіць мне больш не хацелася. Хацелася хваліцца…

Сяргей злавіў свайго шчупака. Падцягнуў, а я ўкінуў у лодку. Трэці быў такі, як першы. Азярцо мы абплылі двойчы, яно зусім малое. Сяргей надраў белых лілей, гарлачыкаў. Кінуў кветкі на рыбу і мы пачалі разглядаць нацюрморт з вялікай рыбай і гайдацца… Вада на дне лодкі плёхалася, і неба хісталася…

Мы ішлі па дарозе да школы. Я нёс на паўсагнутых руках дзве рыбіны, а мой сябар адну, кветкі і спінінг. Хвасты шчупакоў цягнуліся па траве і зямлі, да іх клеіўся каляровы пыл кветак, пыл сцежкі, сухая трава… Шчупакі, яны аказаліся такімі, як стальніца на звычайным школьным стале, а ў большага брудны хвост звісаў.

Наш выкладчык — мастак Май Данцыг, аматар усяго вялікага, доўга глядзеў на рыбу, пракаўтнуў першае слова, здагадацца не цяжка якое. Зноў хапануў паветра і выдыхнуў: «Ну й, гіганты!» Сказаў з націскам на першы склад.

Гэта было на практыцы, тым летам, калі памёрлі Высоцкі і Дасэн… «Salut, c'est encore moi! Salut, comment tu vas?...» А далей прыпеў: «Тада-тада-та-да…» Тады мне здавалася, што там нешта пра Парыж і дождж…

## Чорны агонь

Лёд на возеры адарваўся ад берагоў. Падняўся, усплыў, высах. Ён цвёрды і белы, як цукар, роўны, як асфальт. Ад берага да вялікай крыгі метры тры. Не пяройдзеш, бо глыбака. Мы знайшлі дзве сухія алешыны, прыцягнулі, зрабілі кладку, перабраліся на крыгу.

Накруцілі дзірак, начапілі матыля, чакаем. Вядома, накідалі ў лункі прыкормкі. Вуды «маўчаць». Спадзяванняў, што гэтым красавіцкім і сонечным днём рыба будзе лавіцца — няма. А таму я скінуў ватоўку, шалік, а потым і стары швэдар сцягнуў праз галаву. Грэюся, краявіды разглядаю. Швагер нервуецца. Ён выцягнуў мяне на крыгу, а рыбы няма.

Над галавой порханне і на цукровы лёд садзіцца чародка шпакоў. Яны чорна-бэзавыя, нават чырвань ёсць у чарнаце пёраў. Шпакі ходзяць, пазіраюць на мяне, я на іх. Кідаю ім хлеб, некалькі матылёў, але пташак мой пачастунак не цікавіць. Я гляжу на пагорак, на сіняе неба, адварочваю твар ад сонца, каўняром кашулі шыю прыкрываю, бо згарыць. Нават калі не зловім рыбы, то мне і так добра — светла, цёпла і ціха. Дзіўна, але ёсць у шпаках на белым лёдзе вогненнасць. Не, яны не чорныя галоўкі згарэлых запалак нагадваюць, а чорны агонь. Шпакі паляцелі на другую крыгу.

Жылка з лункі пачынае вылазіць, яе выпірае, а ківок, раней нахілены чырвонай бубкай да вады, падняўся… Праз колькі імгненняў я клічу на дапамогу швагра, бо рыбіна, вядома, лешч, не пралазіць у замалую лунку. Швагер нервова дае парады і раскладае багор, зроблены з парасона. Ляшча выдзіраем на лёд. Мармышка адрываецца. Я шукаю, дзе яна зачапілася, а швагер бяжыць да сваёй вуды і пачынае цягнуць свайго ляшча. Мая дапамога яму не патрабуецца.

Да вечара шпакі прыляталі тройчы. Былі на лёдзе і чайкі. Яны сядзелі на самым краі і глядзелі ў ваду. Падплывалі качкі. Матыля і хлеб здзяўблі маленькія каляровыя пташкі.

А рыбы больш не было. Шыю, рукі і твар я спаліў. Ноччу не мог заснуць, думаў, што дарма на шпакоў так доўга глядзеў…

## Ставок, поўны рыбы

Марыў, калі быў падлеткам, палавіць карасёў і карпаў у рыбгасаўскіх стаўкаў. Аднойчы лавіў.

Больш не хачу. Сядзіш на беразе, закідваеш вуду і выцягваеш цяжкую рыбіну. Добра, што хутка сцямнела, паплавок не разгледзіш, і дождж пачаў церусіць... Пайшоў я ў машыну спаць, а мае спадарожнікі засталіся. Для іх уключылі на слупе ліхтар. І яны цягалі, цягалі, цягалі.. А яшчэ я і вудай чужой лавіць не люблю.

## Скумбрыя

Па вечарах, калі доўгі пляж робіцца бязлюдным ад тых, хто адпачывае, да мора выходзяць мясцовыя рыбакі. Спачатку яны выносяць пластыкавыя сталы і крэслы, а потым доўгія вуды, скрыні з лёдам, ліхтары, радыёпрыёмнікі, пляшкі з віном.

У скрынях з лёдам — нажыўка. Рыбак чапляе яе на кручок і закідвае далёка ў мора. Вуду ўбівае ў пясок, падкручвае катушку, нацягвае жылку і сядае ў крэсла. П’е віно, курыць, слухае радыё. Калі рыба не ловіцца, то рыбакі ходзяць адзін да аднаго, частуюцца, гавораць пра надвор’е і рыбу. Глядзяць на мора, на неба. На адпачыннікаў, якія швэндаюцца па праменадзе, не глядзяць, бо мясцовых рыбакоў яны мала займаюць.

Я ішоў па вільготным пяску, пад нахіленымі вудамі, пад напятымі жылкамі, слухаў, як дыхае мора, музыку слухаў і незразумелыя размовы рыбакоў. Думаў пра тое, як ім добра. Выйшаў з дому, да вады паўсотня крокаў, вынес стол і крэсла і лаві сабе рыбу. Адна з вудаў, побач з якой праходзіў, пачала торгацца, уздрыгваць, гнуцца, дзілінькаць званочкам, а гаспадара не было…

Нельга хапаць чужую вуду, але я схапіў, не стрымаўся. Пачаў круціць катушку. Рыбіна ўпіралася, торгалася, але я памалу падцягваў яе да берага.

Адчуў, як падбег запыханы гаспадар. Хацеў аддаць яму вуду, але ён паказаў на мігах, каб я сам паспрабаваў выцягнуць рыбіну, каб давёў справу. Рыбіну выцягнуў, у пяску перапэцкаў. Доўгая, круглая з хвастом, як у ляшча, падобная да крамнай скумбрыі.

На пясчаным беразе Міжземнага мора, у маленькім каталонскім гарадку, мы выпілі з рыбаком віна. Пасміхаліся, курылі, я трымаў ліхтар, а ён спрытна начапіў маленькую, як наша верхаводка, рыбінку на вялікі чорны кручок. Потым ён закінуў нажыўку так далёка, што нават усплёску я не пачуў. Мора было цёмнае, як чорны цэлафан, і шамацела…

Выпілі яшчэ віна. Я расказваў, што прыляцеў з Беларусі, што ў нас там толькі азёры і рэкі, але і рыба ёсць. Каталонец казаў: «Сі-сі, фіш!» Я паказваў рукамі, якія вялізныя шчупакі жывуць у нашых азёрах. Каталонец смяяўся і паўтараў: «Сі-сі, фіш!»

## Грошы і вяртанні

У барселонскім порце, калі глядзіш у зеленкаватую, як падфарбаваную акварэллю, ваду, то бачыш імклівыя статкі рыбы. А вось ні дзяцей з вудамі, ні дарослых рыбакоў не бачыў…

Я кідаў манеткі ў тую зеленкаватую ваду Міжземнага мора. Манеткі круціліся, падалі, працягвалі зіхцець, а рыбы з цёмнымі спінамі хапалі іх і знікалі ў глыбіні. Ляцелі ў мора песеты, потым еўрацэнты. Кідаў манеткі, каб вярнуцца ў Каталонію. І вяртаўся. З жонкай, з сябрамі, з дачкой.

Ніколі не кідаў грошы ў беларускія рэчкі, рачулкі, азёры, тарфяныя і глiністыя кар’еры, стаўкі… І не таму, што няма беларускіх манет, ці мне шкада. Не кідаў, бо кручкоў, грузікаў і блешняў пакінуў у нашых рэчках і азёрах столькі, што не пералічыць. Некаторыя адрываліся разам з рыбінай, некаторыя адкусвалі шчупакі, але большасць чаплялася за карчы, за карані дрэў, за чараты, сцябліны гарлачыкаў і лілей, за галлё кустоў, за бярвенне, за палі мастоў, за незразумелае ламачча…

У мяне нават была адна блешня, зробленая з сапраўднай срэбнай манеты. Тая зграбная блешня засталася на дне Цвецінскага возера, на Ушаччыне.

Можа, таму я ўвесь час да таго возера і вяртаюся?

## Адвакат

Ён сапраўдны адвакат. У яго дарагія фірмовыя вуды, як і ўвесь рыбацкі рыштунак. Да ракі ён прыязджаў на таксоўцы і яшчэ з машыны тэлефанаваў і пытаўся, ці ловіцца? Потым прыходзіў, радасна вітаўся, казаў, што мінулы раз яму спадабалася. Запальваў ліхтарык і ў перадсвітальным змроку займаў сваё месца побач з парапетам, раскладваў, а потым закідваў вуды.

Ён быў гаваркі, расказваў пра свае справы, пра цыганак, якіх бараніць, пра крымінальнікаў, пра бацькоў, якія судзяцца з дзецьмі… Рыбу адвакат лавіў кепска. Праз паўгадзіны, а, бывала, і хутчэй, выцягваў з камуфляжнай рыбацкай торбы фірмы «Кармаран» вялікую бутэльку таннага віна і піў з рыльца. У сем раніцы ён ледзь трымаўся на нагах. Найчасцей сядзеў пад парапетам і драмаў. Калі ўздоўж ракі павольна ехала палівальная машына, то даводзілася хапаць адваката пад рукі, адцягваць. Асфальт рабіўся чорным і мокрым. Пахла бензінам і ракой.

Мы аддавалі адвакату частку сваёй рыбы, складалі яго вуды, пакавалі торбу, выклікалі таксоўку, даводзілі да моста праз Свіслач, садзілі ў машыну і адпраўлялі дамоў.

Адвакат марыў, што зловіць у Свіслачы вялізнага сазана, зробіць з яго пудзіла і паставіць у кабінеце, дзе ў другой палове дня прымае кліентаў.

## Хрушчы

На тым месцы, на паварoце ракі, дзе я звычайна сяжу з вудамі, незнаёмы мужчына злавіў ладнага галаўня. Потым, праз чвэрць гадзіны, яшчэ аднога. Злавіў ён іх на хрушча. Я вярнуўся дамоў, расказаў дачцэ, і мы пайшлі шукаць хрушчоў. Яны лёталі па вёсцы, побач з домам, па-над садам, але не трапляліся. Мы зайшлі на пагорак. Вакол невялікай сасонкі, на светлым вечаровым небе хрушчоў круцілася мноства. Назбіралі поўную скрыначку. Назабаўляліся. Скрыначка была з накрыўкай, на маленькіх завесах. Я пакінуў яе ў гаражы, на паліцы, побач з вудамі.

Раніцай зайшоў у гараж. Узяў вуду, заплечнік, скрыначку. Падняў накрыўку. У скрыначцы, акрамя пачарнелага лісця, пакінутага хрушчам дачкой, нічога не было. Пайшоў з вудай на пагорак да сасонкі, але на ёй каб хоць адзін хрушч быў… Як яны змаглі падняць накрыўку, не разумею… Але хрушчоў запаважаў.

## Дэталь

Ёсць старажытная рыбацкая прылада, цяпер лічыцца браканьерскай, завецца — крыга. У мяне ў пуні старая ёсць, жончыным дзедам зробленая, а новую ў цешчы мальцы пазычылі і не вярнулі. Ловяць крыгай утрох. Адзін у дзядку стаіць, а два па краях, цягнуць крылы, якія на вялізныя літары «Г», на доўгія бакі пакладзеныя, падобныя. Ловяць крыгай як па берагах рэчак, так і на азёрах. Разводзяць крылы, ідуць па траве, а потым крылы сціскаюць. Разгорнутая крыга метраў шэсць-сем бывае. Ловяць ёй з вясны да восені, пакуль вада цёплая.

Крыга — прылада рыбакоў беларускай поўначы, Віцебшчыны, на Гомельшчыне рыбакоў з крыгай не бачыў...

Жончына баба расказвала, што ў час вайны і адразу пасля жанчыны хадзілі з крыгай, бо мужыкоў не было. Казала, што не маглі дачакацца, калі лёд на рэчцы сыдзе. Лезлі маладзіцы ў ледзяную ваду, цягнулі крыгу, радаваліся, калі буйная рыбіна ў дзядок убівалася. Дзяцей не было чым тады карміць. Ні бульбы, ні мукі, ні малака, ні крапівы — снег толькі-толькі растаў.

Каб з крыгай рыбу лавіць, то трэба апранацца і абувацца. Так і лазіш па рацэ ў ватоўцы, штанах, чаравіках, цягаеш праз і па траве цяжкую крыгу. Бывае, што толькі галава з вады тырчыць. На галовах рыбакоў шапкі старыя. Выгляд у шапак — дзіўны. Рыбакі з крыгай вялікагаловых алігафрэнаў нагадваюць. Бо ў шапках хаваюць папяросы-цыгарэты, ды запалкі. У шапцы адзінае сухое месца.

Мінулым летам угаварылі мяне вясковыя прыяцелі схадзіць з крыгай. Прайшлі па малой рэчцы. Стаміліся, ледзь на бераг ускараскаліся. А калі рыбу на трох расклалі, то я смяяўся. Кожнаму па сем рыбінак атрымалася.

Чаму крыгу забараняюць, я не разумею?

## Пётр і Андрэй

Апосталы Пётр і Андрэй былі патомнымі рыбакамі. Закідалі свае сеткі, а потым выцягвалі і выбіралі рыбу. Бывала, шчасціла, а бывала, вярталіся і без рыбы. Перабіралі сеткі, рамантавалі, сушылі, а потым зноў выпраўляліся ад берага… Сустрэлі Хрыста і зрабіліся «лаўцамі душ чалавечых».

Рыбацкае мінулае братоў Пятра і Андрэя мне блізкае і зразумелае… Нават хочацца думаць, што калі-нікалі апосталы згадвалі свой човен, вёслы, адпаліраваныя далонямі, хвалі, і тое, як сыходзіць з рук у ваду сетка, сплеценая з суворых нітак…

## Дарога з рыбы

На карычневым і бясконцым, роўным, як стол, тарфяным полі мелася адна звілістая зялёная лінія. Гэта была старая вузкакалейка. Па ёй ездзіў малы і брудны паравозік з адным зялёным вагонам без дзвярэй і адной іржавай платформай. У вагончыку ездзілі рабочыя, а на платформе вазілі featureознае жалеззе для дымных незразумелых трактароў, якія шнуравалі па тарфяным полі. За імі, як дым, цягнуўся карычневы тарфяны пыл. Невялікі і ціхі паравозік звалі «кукушкай».

Аднойчы, калі мы з сябрам цягнуліся па зялёнай вузкакалейцы з далёкіх кар’ераў, паравозік спыніўся і падвёз нас з Валодзькам амаль да Цэнтралкі, да чыгуначнага моста. Цэнтралкай мы называлі галоўную міліярацыйную канаву. Ад яе да нашага дома, калі наўпрост, тры кіламетры. Мы з сябрам адчувалі сябе шчаслівымі, быццам на самалёце пакаталіся.

Дзе-нідзе на зялёным полі, на ранейшым тарфяніку засталіся кавалкі той дзівоснай чыгункі. Ідзеш-брыдзеш па ёй, а яна раптам абрываецца, як жыццё…

## Мой бераг

Не памятаю той момант, калі ўзяў у руку аловак і накрэмзаў на паперы першы малюнак. Не памятаю, калі ўзяў пэндзлік і дакрануўся да фарбы, а потым да паперы. Не памятаю і першы «літаратурны» тэкст. Калі, як, што напісаў і пра што? Шмат разоў кляў сябе і абяцаў, што не буду маляваць, кіну пісаць, хопіць складаць словы. Усё не так, не тое, кепска, крыва-коса… Абяцаў-абяцаў, але потым абяцанні не выконваў…

Але добра памятаю той дзень і момант, калі першы раз узяў у рукі бамбуковую вуду з тоўстай жылкай. І першую, выхапленую з вады, рыбіну, чорнага лінька, памятаю. Тая рыбіна, з яе дзіўным балотным пахам — торфам, травой, дрыгвой, цёплай рудой вадой кар’ера — стаіць у вачах, адбілася ў памяці… Засталася, як і ўвесь той шчаслівы дзень. Ніколі, нават калі вяртаўся дамоў без рыбы, галодны, мокры, замерзлы і стомлены парожнім швэнданнем па рацэ, ніколі не казаў сабе, што хопіць цягацца з вудай, досыць марнаваць час.

Бывае, думаю, што, можа, лёсам мне было наканавана зрабіцца рыбаком, а я пайшоў насуперак? А потым думаю, што я стаміўся і трэба паехаць да вады, прыйсці на бераг, закінуць вуду і ўсё будзе добра.



## Алена БАГАМОЛАВА

### ЦІШЫНЯ

Пад парасонамі клёнаў
У зялёна-летнім цяні
Мы з табой памаўчым…
Паўзіраемся ў аблокі…
На краі цішыні
Не кранi цішыні,
Нават словам сваім
Ані не крані.
…І які ж у нябёсы шлях высокі-высокі…
І які ж ад мяне ты далёкі-далёкі
Пад парсонамі клёнаў.

* * *

Нешта снілася мама…
Нешта сніўся мне тата…
І прыснілася хата…
А ў той хаце
Сонца сядзіць на куце!..
Верыце вы мне
Ці не… ве-ры-це?!.
Поўніцца хата шчасцем…
А тое нянасце,

---

*__Багамолава Алена Міхайлаўна__ нарадзілася 20 сакавіка 1966 года ў вёсцы Лучазарная Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1988), аспірантуру пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка (1994). Кандыдат філалагічных навук. Працавала ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава. Цяпер — прафесар кафедры беларускай філалогіі і сусветнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Рэха сустрэчы» (2008).*

Што душу маю рабавала
І яе захапіла, —
Адступіла!..
Абуджаюцца самаробныя крылы…
Імчуся!..
Імчуся за вецер хутчэй…
Зараз я дакрануся
Да родных дзвярэй!
…А ў хаце маёй — пуста.
…І ля хаты маёй — пустка.
…Жыві доўга, мама!..
Мы ў іншых краях
Пазвівалі гняздзечкі,
А па хаце і па бацьку
Я пастаўлю свечкі…

* * *

Я бачыла, я чула:
Маланка яблыкі збівала ўначы,
І мы тады
Хацелі з таго саду ўцячы…
Але сады накрыў імгненна лівень —
Вось так жартуе зорны жнівень…
Як пры-ту-лі-лі-ся мы
Пад няўдалым парасонам —
Тваёй кашуляй, —
Я ў думках прабачэнне
Папрасіла ў матулі…
…Мы ўшчэнт тады з табой намоклі:
Спыніліся пад грушай нашы крокі…
Цяпер я ведаю:
І ў дождж лятаюць на аблокі…

## ВІТАЮ ЦЯБЕ, НАТХНЕННЕ…

Палюю...
Палюю штогод і штомесяц,
штодзённа і штогадзінна...
Палюю ўдзень і ўначы,
палюю наяве і ў мроях...
Зачыняю шчыльна
дзверы ў сваім пакоі.
Зачыняю вокны.
Слухаю цішыню.
Углядаюся ў святло настольнай лямпы —
блішчастага ліхтарыка...

Штучныя промні...
Назіраю за жывой кветкай —
сінявокай пралескай...
Спалоненыя крылы!
Перабіраю вачыма
думкі ў пярэстых пераплётах —
мае старыя і новыя кнігі.
Чужыя імёны, словы,
іменасловы, іменалёсы...
Белая прасціна,
як стомлены ветразь,
спыняе маё паляванне...
Трэба класціся спаць...
Я шукаю тое, што ёсць,
але там, дзе яго няма.
Я шукаю так — і ашукваю сябе...
Я ўжо ведаю, што натхненне там,
за акном, там, за ноччу, там, за табой...
Я пераадолею раніцай цішу і сны,
я пакіну ў пакоі сваім штучныя промні,
спалоненыя крылы, чужыя думкі, стомлены ветразь...
Я выйду за межы цябе...
Я спыню свае ловы...
Вітаю цябе, Натхненне!

## ГАРАЧЫ ЛІПЕНЬ

Гарчы ліпень — ліпень-кіпень…
Вечар позні і зорны…
Смяецца бераг азёрны.
Смяецца ў жоўтых гарлачыках.
Не трымай мяне, любы, за пальчыкі.
Прытулі-абдымі горача,
Каб расстанне было без горычы…
І тады (не бяды!),
Калі і згарым мы.
…Нас спакусяць з табой праз гады
Успамінаў ліўні…

* * *

Безнадзейна-надзейны
Мой сябра крылаты,
Паляцім у далё-ё-ёкую далычынь!
Там, дзе ціха асвер рыпіць каля хаты,
Дзе таполі трымаюць нябёсаў сінь,
Дзе вясною плачуць-смяюцца

Капяжы святлістых надзей;
Дзе азёры ў белых карунках лілей,
Нібы нявесты,
Дзе лугі ва ўбранні яркім,
Пярэстым;
Там, дзе восенню жоўтай плачуць
Лістам бярозы;
Дзе зімою ў вечар марозны
Мы сядзім каля печы,
П'ём з вішнёвым варэннем гарбату…
Паляцім ў дзяцінства,
Мой сябра надзейны, крылаты!

* * *

…Якая прага
Наведаць Прагу!..
Разгайдалі вятры мае сны —
Да вясны
Толькі два ўзмахі крыла…
Я была без цябе
Ці з табой я была
На беразе Влтавы?
Ты ў мроях маіх
Ці наяве
Быў са мной там сумна-ласкавы?..
Ці з табой я на Карлавым мосце
Загадала жаданне
На адвітанне?
Божа! Няхай тое стане!
І няхай спатоліцца прага
Разам наведаць Прагу…



Ганад ЧАРКАЗЯН

# АПАВЯДАННІ

## Іспыт дабрынёю

Нарэшце лёгка ўздыхнулася: вясна! Скончылася доўгая, халодная, надакучлівая зіма. Пацяплела не толькі ў паветры, але і ў вачах людзей. Нават у размовах дабавілася цяпла і лагоды. Свет адразу патануў у сонцы і зяляніне.

З лёгкім святочным адчуваннем на душы я ішоў уздоўж трамвайнай лініі, набіраючы ў грудзі цёплага веснавога паветра, а побач прабягалі грымлівыя вагоны, падбіралі на прыпынках гаманлівы люд і тут жа знікалі ў сонечнай далечыні.

Я пераходзіў мост з цёмнымі, ажурнымі парэнчамі, што яшчэ пахлі свежай фарбай, з левага боку ўжо добра бачыў абрысы дома, дзе мяне чакала сустрэча з чалавекам, які падрадзіўся звадзіць мяне на замежную выставу і нават быць на ёй гідам. Так шмат наабяцаў ён мне цікавага, што я зараз не ішоў, а бег у нецярплівым чаканні яго. Здавалася, ногі самі нясуць мяне на тую незвычайную выставу.

Мне заўсёды падабаўся гэты дом, дзе жыў са сваёй сям'ёй, пры сваіх сямейных праблемах мой сябра. Дом яшчэ старой, паваеннай пабудовы. Тоўстыя цагляныя сцены, вельмі сціплыя металічныя балконы, але затое якія высокія столі. Я часта жартаваў, што за кошт той вышыні можна зладзіць

---

*__Чарказян Ганад Бадрыевіч__ нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность» (1980), «Цвет доброты» (1986), «Пространство и время» (1990), «Плач» (1994), «Караваны гор» (1996), «Чаргаві» (2001),«Дом дождя» (2001), «Тоска по дому» (2003), «Зорная глыбіня» (2005), «Мелодия разлуки» (2006), кнігі прозы «Шамдзін» (1998), «Камни печали» (1999), «Белая вежа» (2010), раман «Опередить смерть» (2005) і інш; кнігі для дзяцей «Казкі дзеда Ганада» (1996), «Пумпур у калясцы» (2004).*

яшчэ столькі ж не такіх і цесных пакояў. Але гэта быў толькі жарт, які мой сябра ўспрымаў як нейкую пахвалу сваёй удалай кватэры.

І вось я ўжо бліз дома свайго сябра. Цесны, але акуратны зялёны дворык, нізкія драўляныя лаўкі для адпачынку. Сябра жыве на пятым, апошнім паверсе. Ліфта ў яго пад’ездзе няма. Пакуль мы маладыя, нам і не патрэбны гэты грымлівы памочнік. Відаць, як пастарэем, ён і надта спатрэбіцца. Але гэта будзе потым, а да таго «потым» трэба яшчэ дажыць. З вясёлым настроем, у прадчуванні самых нечаканых падзей, а, можа, і адкрыццяў, я заходзіў у пад’езд. Перад гэтым, праўда, заўважыў, што на лаўцы ўважліва сочаць за мной дзве гаманкія кабеты. Гамоняць і нават рукой паказваюць на тую палавіну дома, куды я зайшоў. Гэты пад’езд здзіўляў мяне заўсёды сваёй акуратнасцю і чысцінёй. Усё тут цешыла вока: і гаршчэчкі з вазонамі на металічных падстаўках, і малюнкі з жывёламі на сценах, і чысціня саміх сцен і вокнаў. Калі я аднойчы выказаў сябру сваё захапленне такім незвычайным парадкам у доме, ён неяк абыякава зазначыў:

— У двары заўсёды ёсць дзяжурныя кантралёры. Яны за ўсім сочаць… — І позіркам паказаў на лаўку, дзе сядзелі яны, ці не тыя ж самыя кабеты.

Хапаючыся за парэнчы, я лёгка адолеў па прыступках лесвіцы другі паверх. Глянуў яшчэ на гадзіннік і пахваліў сябе, што не спазняюся. Праз акно трэцяга паверха зноў убачыў тых дзвюх жанчын, што сядзелі на лаўцы. А прыпадняўшы галаву на чацвёртым, заўважыў нібыта ў акне штосьці мільганула. Можа, кошка ці голуб, падказвала думка. Акно было расчынена, і лесвіцу абдавала лёгкім веснавым свежаком. Зірнуў я на акно — і на здзіўленне сваё ўбачыў пару рук, мёртва сашчэмленых на аконнай раме. Далей — яшчэ страшней: за акном вісеў чалавек. У разгубленасці самі вырваліся словы:

— Ты што, адпачываеш?..

На мой недарэчны жарт ён нічога не адказаў, толькі бліснуў вялізнымі спалоханымі вачыма, якія, здавалася, вось-вось выскачаць з арбіт. Яго паўсагнутыя рукі паступова, відаць, пад цяжарам цела выпрамляліся. Я схапіў яго адной рукой за каўнер курткі, а другой, на ўсялякі выпадак, за правую руку. Але куртка па-здрадніцку слізганула ўверх, і я зразумеў, што прыём гэты не надзейны. Вось тут і давялося пашкадаваць, што ў доме такія шырокія падаконнікі. Яны не дазвалялі падстрахавацца, і я мог сам вельмі лёгка паляцець уніз галавой услед за тым, каго зараз ратаваў.

Страх скаваў мяне самога, і я адчуў, што не ўтрымаю бедалагу. Куртка ўжо схавала яго з галавою, але я яшчэ бачыў праз яе яго вялікія спалоханыя вочы…

— Памажы, братка, — плачучы крычаў ён, ліхаманкава скрабучы нагамі аб гладкія сцены.

Яго канвульсіўнае тузанне яшчэ больш ускладняла маю задачу. Я адчуваў, што ён паступова выслізгвае з маіх рук. Чамусьці падумалася, што ён зможа падняцца сам, без маёй дапамогі, а маё страхаванне тут нічога не вырашае. Але незнаёмец проста вісеў на выцягнутых руках. І мне было страшна глядзець на гэтыя рукі. Вось-вось яны адарвуцца ад падаконня — і тады ўсё. На маіх вачах здарыцца трагедыя. Бо вышыня немалая, добрых некалькі дзясяткаў метраў. А ўнізе — бетон. Я адчуваў, што не змагу яму дапамагчы. Сіл маіх не хапала. А секунды беглі, напружанне нарастала. Зноў у маіх вачах мільганулі тыя дзве жанчыны, што сядзелі на лаўцы. Здаецца, яны не звярталі ўвагі на тое, што дзеецца ўверсе. Ды і чым бы яны нам дапамаглі? Зараз усё вырашалі нейкія хвіліны. Не мог жа я доўга трымаць гэтага бедалагу. Я адчуў, як яго рука адарвалася ад падаконня, але я яшчэ моцна трымаў яе сваёй правай.

— Памажыце! — само вырвалася з маіх грудзей.

Недзе ў двары спынілася легкавушка. Як праз сон, я чуў глухаваты стук яе дзверцаў. Сілы пакідалі мяне, вочы наліліся слязамі, рукі зусім адзервянелі. На нейкае імгненне я згледзеў, што незнаёмца трымаю толькі я адзін, а ён ужо вісіць у паветры.

— Памажыце-е-е!!! — крычаў я і не чуў свайго голасу.

Вось-вось здарыцца самае страшнае. І ў гэтым, магчыма, будзе і мая віна. У наступную секунду, якая магла быць апошняй, я ўбачыў вяровачную пятлю, якая ахапіла руку бездапаможнай ахвяры. І я адразу адчуў, што цяжару на маёй правай руцэ паменшала.

— Адпусці яго руку! — пачуў я за спінай рашучы голас. — Адпусці і спускайся ўніз, там падхопіш яго.

Нейкі трасун ахапіў усё маё цела, галава ішла кругам, і я ледзьве намацаў патрэбную прыступку лесвіцы. Акрамя прыступак я нічога не бачыў перад сабой. Не памятаю, як я апынуўся ў двары. Выратаваны марудна апускаўся на вяроўцы ўніз. Твару яго не было бачна, ён патануў у куртцы, на якую тут жа апусціўся і канец вяроўкі.

— Ну як ён? — пачуў я за спінай голас таго, хто быў ужо і маім выратоўцам.

— Не ведаю, — працягнуў я сваю дрыжачую руку. — Дзякуй вам, Бог своечасова паслаў нам вас. Яшчэ б пару секунд і…

— Пару секунд — гэта многа, — сказаў хлопец. Цяпер я добра разгледзеў яго атлетычную фігуру.

— Наогул я — альпініст, — дадаў ён потым.

Пацярпелы паволі падымаўся з таго месца, дзе прызямліўся. Ён вінавата церабіў рукамі, праціраў вочы, нібыта спаў і толькі што прачнуўся. Быў гэта сярэдніх гадоў мужчына, з тварам яшчэ не надта кранутым маршчынамі.

— Мужыкі, дык, можа, я ў магазін збегаю?

— Ты ўжо збегаў, — паляпаў яго па плячы альпініст, які назваўся Аляксандрам. — Ідзі дамоў і больш так не рабі…

На пяты паверх, дзе мяне чакалі, я так і не патрапіў. Калі сабраўся пакідаць двор, дарогу нечакана перагарадзіла адна з кабет, што сядзелі на лаўцы.

— Навошта вам трэба было ратаваць гэтага дурня?.. Хай бы здох. Чысцей было б на зямлі. П’яніца, ён жа мне жыцця не дае…

Мне стала не па сабе ад пачутага. Крыху супакоіла другая кабета:

— Ды не слухайце вы яе. Яна ўжо даўно жадае яму смерці. Нібыта не чалавек гэта. Ідзіце з Богам, вы выратавалі чалавека…

І я пайшоў, згадваючы добрым словам Аляксандра і стараючыся забыць словы, якія пачуў ад той, першай кабеты…

## Негр

Я здалёк заўважыў машыну Адамавіча. Як заўсёды, яна ззяла свежым бляскам сваёй фарбы, з любога боку ў яе можна было глядзецца, як у люстэрка. Надта ўжо акуратны чалавек наш Адамавіч, і машына ў яго дагледжаная, як уласны твар. Нават барада ў яго надзвычай акуратная, бо даглядае ён яе са стараннасцю заклапочанага цырульніка, пастаянна падстрыгаючы, то кароцячы, то падаўжаючы. На маё пытанне, навошта яму гэты лішні клопат, ён зусім не крыўдліва жартуе:

— Зімой, бачыш, з ёй намнога цяплей.

А пасля дадае:

— Наогул, усе рыбакі павінны быць пры барадах… Чаму? Не ведаю. Але адчуваю. Можа, гэта ідзе і ад начытанага. Бараду насіў Хемінгуэй, барадатымі я памятаю многіх мараплаўцаў, піратаў, ды яшчэ Маркса з Энгельсам. Многія начальнікі зараз не грэбуюць барадамі. Мода такая пайшла ці што. А з модай не жартуюць.

Я ўхваляю яго аргументацыю, хоць сам, кажу яму, да барады пакуль што не гатовы, можа, нават не дарос. Але ягоная барада зусім не перашкаджае нашаму сяброўству, а наадварот, толькі спрыяе яму.

Я здалёк памахаў Адамавічу, ён гэта заўважыў і абрадаваўся. Мы некалькі дзён не бачыліся, і кожнаму было што расказаць з пражытага, магчыма, і не здзівіць чымсьці неверагодным, а ўсё ж нечым новым, уласна сваім, па-сяброўску падзяліцца. Ён усё той жа, якім я ведаю яго ўсе пятнаццаць гадоў нашага знаёмства і сяброўства. Худы, лёкі, рухавы. Згадваю, як рыбак Адамавіч паказваў мне свае запаветныя грыбныя мясціны, як рэзалі мы з ім крамяныя апенькі, і нарэзалі іх столькі, што ледзьве валаклі дадому, а потым да раніцы не маглі пачысціць. Мы павіталіся добрым поціскам рук і паколькі пара была не грыбная, а расказаць кожнаму было што, адразу прыселі за стол і тут жа на ім з'явілася тое самае, што заўсёды падагравае любую зацікаўленую размову. Па вачах і па ўсім выразе твару Адамавіча было бачна, што ёсць у яго ў запасе тое, што не церпіцца распавесці тут жа, без нейкага там падрыхтоўчага ўступу.

— Ты ведаеш, такі фільм днямі паглядзеў, — пачаў ён адразу. — Не тое, што гэтыя мыльныя серыялы…

Гэта было сказана з такім унутраным узрушэннем, што адразу зацікавіла і мяне. Не памятаю, каб калі мы абмяркоўвалі сур'ёзна нейкія фільмы. Грыбы, рыба, свежыя навіны… Гэта ўсё было. А вось фільмы…

— Мне хочацца расказаць табе сюжэт таго, што ўчора пабачыў. Ты ведаеш, так засела ў галаве, так кранула сэрца.

Пасля гэтых слоў я адразу навастрыўся слухаць тое, што не цярпелася расказаць Адамавічу.

— Сам сюжэт, можна сказаць, і не займальны. Адзін чарнаскуры трапляе на стажыроўку ў цэнтр падрыхтоўкі, дзе служаць адны белыя. Свая, даўно згуртаваная каманда, якая жыве толькі па сваіх законах. А навічок-чужак для іх як быццам з іншага поля ягада. Ён, як гэта часта бывае, не жадае прымаць новыя ўмовы. Ён не плача, не панікуе, сам Бог не пашкадаваў яму вынослівасці, старання і той жа знаходлівасці. Ён даўно ведае, што цярплівасць, упэўненасць у сабе, хай нават пакорлівасць, заўсёды мацнейшыя за чыюсьці грубасць, нечалавечнасць і здзек. Над ім здзекуюцца, нават зневажаюць тое, што належыць да нацыянальных і рэлігійных каштоўнасцей. А негр, каўтаючы крыўду, цытуе ім пранікнёныя словы мудрацоў пра айчыну, пра ўсё роднае і чалавечае ў чалавеку, пра агульналюдскія каштоўнасці. Чым больш невыносным робіцца ўціск, тым большае супрацьстаянне дабром. Усе гэтыя штодзённыя інтрыгі, здзекі і прыдзіркі ў адносінах да негра-стажора добра бачыць камандзір, аднак ніяк не рэагуе на ўбачанае, значыць, згаджаецца з усім. Над неграм у адкрытую здзекуюцца, зубаскаляць, зневажаюць, а ён — усе кулі ў дзясятку. У марш-кідку на яго чапляюць безліч цяжару, а ён прыбягае першым. У яго чысцейшая, як у іншых, зброя. На ім найзграбней, чым у іншых, сядзіць форма, найярчэй blішчаць чаравікі. Аднойчы, зусім нахабна, на вачах негра крышаць на часткі яго сціплы, склееены скотчам, радыёпрыёмнік. Часам у вольныя хвіліны ён слухаў старыя негрыцянскія песні, магчыма, адтуль і чэрпаў так патрэбную чалавеку мудрасць. Сцярпеў і гэта. І ў час кароткага

передыху зноў сабраў і склеіў і вярнуў да жыцця той старэнькі прыёмнік. І той зайграў.

Служба ішла, уся чорная работа клалася на чорныя плечы негра, а белая каманда праводзіла час з куфлем піва… А потым абмяркоўвалі паказчыкі. Усіх узнагародзілі, а пра негра забылі. Як быццам яго там і не было.

Як ні доўжыліся пакуты негра, але стажыроўка завяршалася. Высокая камісія прымала кантрольны экзамен. Негр тут быў першым і перамог. І атрымаў адразу адзінае прэстыжнае прызначэнне. Белыя байцы кусалі локці, але ад гэтага разумнейшымі не сталі. Яны так і не зразумелі, што не колер твару і не разрэз вачэй робяць чалавека чалавекам, а толькі ўменне цярпець, да знямогі працаваць, заставацца самім сабой і не крыўдзіць іншых… Ёсць і яшчэ шмат іншых магчымасцей заставацца чалавекам і насіць яго імя.

Тут Адамавіч зрабіў паўзу, уважліва вывучаў маю рэакцыю на ўсю гісторыю з неграм, а потым працягваў:

— Мяне ўразілі пытанне камандзіра і адказ на яго негра.

А камандзір запытаўся, як гэта той цярпеў усе гэтыя жахі і здзекі сабе падобных і не зусім падобных сутаварышаў, на што негр, з уласцівым яму спакоем, адказаў, што некалі ў дзяцінстве яго бацька ці раз нагадваў, што ён у гэтым супярэчлівым свеце, як чалавек чорнаскуры, зможа выжыць толькі тады, калі па-сапраўднаму будзе не горшы за іншых. Гэта закон выжывання. Вось ён і робіць так, як вучыў некалі бацька. Якіх бы гэта яму намаганняў ні каштавала. «Я надта паважаю свайго бацьку, — казаў негр. — І не магу яго не паслухацца. А пачуццё самазахавання жыве ў маёй свядомасці, у маёй крыві. Ні на хвіліну не забываю я пра гэта. Памылюся, не паслухаюся — тут жа і заклююць, як залётнага птаха. Вось і ўвесь сакрэт…»

Адамавіч закончыў сваю гісторыю яшчэ нейкімі пабочнымі эпізодамі і малюнкамі з жыцця невядомага негра, зноў запытальна глядзеў на мяне, нібыта чакаў і майго адказу на ўсё пачутае. Я доўга маўчаў, а сказаць нешта сваё ўсё ж карцела. Пазней, калі глынулі яшчэ па адной чарцы за ўсёцярплівага негра, тое, што хацеў, сказалася:

— Дарагі Адамавіч. Дзякуй за тваю павучальную гісторыю. Ведаю, што добрая палова яе — гэта твая фантазія. Бо ты думаеш і разважаеш, як сапраўдны філосаф. Але ты і не здагадваешся, наколькі крануў мяне твой расповед. Нібыта я тваімі вачыма глядзеў на ўсё гэта. Думаў я, як ты і як той няскораны негр, што вытрымаў мужна ўсе выпрабаванні. Ты змусіў мяне прыгадаць і пройдзены мной жыццёвы шлях. Гэтым неграм быў я… І сёння яшчэ яскрава адчуваю той неверагодны цяжар, які давялося несці на сваіх плячах кожны дзень, кожны месяц, кожны год, кожнае дзесяцігоддзе… І лягчэй не стала і не стане… Я не скарджуся. Але адчуваў гэта ўсё жыццё. Пачуццё самазахавання негра спадарожнічала мне ўсё жыццё. Як у тваім фільме. Я гэты фільм глядзець не буду, я глядзеў яго ўсё сваё жыццё…

У той вечар Адамавіч, мой далікатны сябар, больш не згадваў пра негра і яго цяжкі лёс. Была ўжо поўнач, а мы ўсё сядзелі перад яго светлым узорыстым камінам і расхвальвалі каменні. А самі заварожана глядзелі, як скачуць загадкавыя языкі полымя, марудна падымаючыся ўверх і гэтак жа марудна потым прысядаючы. Чараўніцтва агню заўсёды развярэджвае душу, робіць яе цяплейшай. Мы светла згадвалі тыя самыя апенькі, што раслі на старой падсохлай бярозе, і сыходзіліся думкамі на тым, што бяроза, паміраючы, робіць яшчэ адну добрую справу, — дорыць нам грыбы. Вось бы і людзям так!

Мы гаварылі, што ўся гісторыя чалавецтва круціцца вакол месца і часу, калі людзі ішлі адзін да аднаго не для таго, каб дапамагчы, падзяліцца

дабром, а каб знішчыць сабе падобнага. Мы заўтра забудзем пра негра. Але ён застанецца ў кожным з нас, таму што ёсць белыя малайцы, якія прагнуць падзяліць свет на слабых і моцных, на чорных, белых, жоўтых, багатых і бедных… А кошт жыцця — нябачная бясконцасць трупаў, што пакінула пасля сябе чалавецтва. Жахліва згадваць. Так і жыве чалавецтва, дзелячыся на тых і гэтых, ствараючы адзін аднаму перашкоды, спачатку нараджаючы, а потым знішчаючы. А тое, што мы час ад часу, прачнуўшыся, жадаем камусьці дабра і здароўя — гэта апошняе, што засталося ад лепшага…

## Сом

Дзед Гаўрылка слыў некалі заядлым рыбаком. Але гэта было некалі. Ён даўно ўжо не трымаў у руках гнуткага вудзільна. А старыя вудачкі, што калісьці падараваў унук, ён акуратна схаваў за крокву павеці, і яны маўкліва і неяк сіратліва паглядалі цяпер на свайго гаспадара. А дзед і сам нібыта хаваў ад іх свае вочы, каб не вярэдзіць старое, добра разумеючы, што яго ўжо не вярнуць. Усё, як хуткі цягнік, адляцела ў мінулае і даўно ўжо сціх у вушах знаёмы перастук калёс. Тое, што адляцела разам з часам, ужо не вяртаецца. Ён некалькі разоў кідаў курыць, потым пачынаў зноў. І ў рэшце рэшт тытунь адышоў у мінулае, застаўся толькі адзін муштук. Дзед яго беражліва хаваў, толькі зрэдку выцягваў з камоды і, прысаджваючыся на стары, як сам ён, ганак, прытвараўся, што курыць. Так яму было лягчэй. Потым гэта імітацыя надакучала, рабілася смешнай, і дзед зноў хаваў старую рэч у камоду, да наступнага разу, калі зноў нахлыне настальгія.

Дзед Гаўрылка ўсё роўна хадзіў зрэдку на рыбу. Гэта была звычайная прагулка вакол возера з доўгай палкай у руцэ. Часам плёхаў ёю па вадзе, з цікавасцю слухаў усплёскі вады, што рэхам аддаваліся на воднай гладзі. На гэта возера мясцовыя жыхары не хадзілі. Нехта пусціў чутку, што там нібыта падчас вайны зімой партызаны прыстрэлілі тузін падвыпітых немцаў, якія так і засталіся пахаванымі на дне, і ніхто іх адтуль не даставаў. Было гэта праўдай ці не, сведкаў ужо не знайсці. Але мясцовыя жыхары гэтай страшылкі-прыдумкі баяліся. Ды і падобных азярын навокал хапала. А вось дзеда Гаўрылку старая байка зусім не палохала, можа, таму, што сам ён даўно стары. Дык чаго яму баяцца?

Відаць, возера на сярэдзіне было глыбокім. І яшчэ адна яго асаблівасць — яно замярзала пры беразе, а сярэдзіна да самых вялікіх маразоў заставалася без лёду. Вясной дзед абыходзіў круга бераг і без асаблівага намагання набіраў даволі шмат буйной рыбы. Знямоглая, знясіленая адсутнасцю кісларода, рыба шукала паратунку ля берага і гэтак трапляла ў хітрыя рыбалоўчыя рукі. Дзед ведаў гэта, і вясной часта снаваў ля знаёмага берага. Гэтым разам, калі рыба, здавалася, удала перазімавала, дзед знянацку наткнуўся на вялізнага сома. Той лена адкрываў і закрываў вялізарны рот і нібыта прасіў дзеда: «Ну, забяры мяне!..» Дзед спачатку спалохаўся. Такіх рыбін ён раней не сустракаў. Сом нагадваў дзеду яго даўняга суседа Палікарпа Паўрыбнага. Гэтак падсмейваўся ён над суседам, які пасля выпітага ледзьве варушыў галавой. Палікарп тады ляжаў, а вусны самі па сабе нешта шапталі. І гэта было сведчаннем таго, што ён балазе жывы. Ніхто не чапаў грузнага суседа, пакуль той не праспіцца. Ацверазеўшы, Палікарп марудна падымаўся, атрасаў рукамі адзенне і, мармычучы, ішоў па новую здабычу… Дык вось гэты сом быў надта падобны да Палікарпа. Дзед палкай пакратаў доўгія вусы сома — і той нават не зварух-

нуўся. У гэту хвіліну дзеда дагнала глыбокая і самотная думка. Ён чамусьці падумаў, што яны з сомам, магчыма, равеснікі, і сому, напэўна, надакучыла цяжкая ноша пражытых гадоў. Можа, састарэў сом. Сілы ўжо не тыя, і перазімаваць у гэтым паўзамерзлым возеры ўсё цяжэй і цяжэй… Дзед недарэмна параўноўваў сома з сабой. Хоць з Палікарпам, магчыма, і дарэмна. Штосьці падобнае сабе нагадваў старому той загадкавы сом. Нават тады, калі дзед Гаўрылка зачапіў палкай галаву сома, той нават не міргнуў вокам. Вочы неяк жаласліва глядзелі на дзеда, нібы хацелі нешта сказаць. У халоднай веснавой вадзе, як здагадваўся Гаўрылка, даўно растварыліся і сомавы слёзы…. Дзед разумеў, што з сомам у рост чалавека яму не саўладаць. Хто ведае, што той можа выкінуць у любую хвіліну. Ды прамачыць у непагадзь свае хворыя ногі таксама не хацелася старому. Ён укленчыў, асцярожна пакратаў рукой сомавы вусы, галаву. Той неахвотна адкрываў і закрываў рот, без намеру пакідаць бераг. Дзеду здалося, што сом хітруе і дражніцца з ім і ў любую хвіліну можа праглынуць яго руку. Паўдрымотны стан, як у Палікарпа, схіляў да думкі, што час для сома спыніўся. І вінаваты тут той самы недахоп кіслароду. Падобны стан для Палікарпа — рэч неабходная. А вось, што тычыцца невядомай азёрнай істоты, тут яшчэ як сказаць. Тут варта ўсяго чакаць. Аднаму, зразумела, яму не ўправіцца. І самае галоўнае, што дзед Гаўрылка не быў упэўнены наконт пакорлівасці тае істоты. Хто ведае, што варыцца ў яе вялізнай галаве. Думаў дзед і вось яшчэ пра што: неўзабаве падымецца сонца, нагрэе сомаву галаву, той пачне кумекаць, што да чаго, і дасць дзёру. Але дзед нездарма прайшоў доўгую жыццёвую дарогу. Вырашыў ён усё проста. Тут жа зняў з портак старую, ношаную-пераношаную дзягу, якая за гады нялёгкай сваёй службы, хоць і была скураная, а сталася падобнай да падатлівага матузка, абвёў ёй галаву сома так, каб пярэднія плаўнікі засталіся па-за пятлёй. Дзяга была малаватай, але доўга не думаючы стары засунуў палку паміж дзягай і галавой сома і ткнуў яе ў ілістае прыбярэжнае дно. Пры гэтым яшчэ сказаў:

— На такой прывязі ўжо шмат гадоў жыве мой верны Пушок. І задаволены. Так што, шаноўны мой сом, патрывай, а я схаджу за падмогай…

Адной рукой падтрымліваючы прастарнаватыя порткі, дзед падаўся ад берага. Ішоў ён, прыспешваючы сябе, але старыя ногі слухаліся слаба. Ды і порткі можна згубіць незнарок ад такой спешкі. Недзе блізка хата старой Палагеі, за ёй жыве Палікарп, толькі б іх не разбудзілі чэрці раней часу. Дзед ужо ў думках дзяліў на кавалкі таго сома. Дзялянку абавязкова трэба адшкадаваць Палагеі, якраз ёй па зубах будзе. І на закуску Палікарпу не пашкодзіла б, зусім жа не чужы чалавек. Кавалак трэба даць Барбары Грушы, яна, казалі, зусім занемагла. Пухам зямля яе мужу Сіму. Добры быў чалавек, праўда, меў свае конікі: ніколі ні ў кога нічога не прасіў і сам нікому нічога не даваў. Але хіба гэта дрэнная якасць?! Сіма казаў, што спачатку самому трэба ствараць сваё дабро, і толькі потым прасіць дапамогі. Па яго перакананні толькі інвалід варты спагады і міласэрнасці, усе астатнія гультаі ды нядбайнікі. І ўсё ж ён быў добрым чалавекам.

Дзед Гаўрылка ў думках прайшоўся па ўсіх знаёмых і суседзях і быў задаволены і расчулены. Ён вітаўся з усімі, хто трапляўся яму на вочы, хаваючы пры гэтым руку, якая трымала порткі. Так непрыкметна і ступіў у свой двор. Славік, унук, зноў недзе гойсаў на ровары. Пушок ад радасці, што з’явіўся гаспадар, стаў на заднія лапы, адскакаў нейкі свой танец.

— І табе, Пушок, будзе пачастунак, — пагладзіў яго дзед. — Усё будзе добра. Тольк вось дзе Славіка знайсці?..

Нарэшце з’явіўся і Славік. Яму, гарадскому, у вёсцы ўсё ў навіну, усюды свае прыгоды. Нават у лесе знаходзіць яшчэ нейкія ваенныя цацкі. Вайна тут параскідала іх нямала, хопіць на некалькі пакаленняў. Дзед Гаўрылка нейкай вяроўкай падмацаваў свае порткі і ўсё прыспешваў Славіка:

— Пайшлі хутчэй, унучак, пакажу табе дзіва, якое ў горадзе і за тысячу гадоў не ўбачыш.

Слаўка ўжо маляваў у галаве дзіўнаватую агромністую пачвару, што з’явілася ў таямнічым возеры, якога цураецца ўся вёска. Малявалася яна то падобнай на магутную карову, то на двухгаловую рыбіну, наколькі ў хлопца хапала фантазіі. А дзед прысеў на ствол старой бярозы, паваленай нядаўнім ураганам і суцяшаў Славіка:

— Ты, унучак, не бойся, пачвар у жыцці не бывае. Гэта людзі ўсё прыдумваюць, каб адвесці ад сябе падазронасць. І возера наша зусім не таямнічае і не страшнае. Вада як вада. Нехта проста пусціў чутку пра тых самых забітых немцаў. Хоць у вайну было ўсяго, і ў калодзеж людзей кідалі… Дай бог такога не бачыць. А тое, што возера на сярэдзіне зімой не замярзае, дык там пульсуе дужая крыніца. Тут і ўвесь сакрэт. Вось узяў бы ты свой фотаапарат, такі б здымачак выйшаў…

— Зламалася, дзед, мая «Змена», — апраўдваўся ўнук.

А дзед падумаў раптам, што можа здарыцца так, што яны не знойдуць таго сома. Хай бы так і здарылася. Сом не вінаваты, што ён нарадзіўся сомам. І не абавязкова з’есці яго. А можа, ён хворы і прыплыў да берага, просячы дапамогі? А можа, і стаміўся несці цяжар сваёй старасці? Хто ж яго ведае. Сам не скажа. Ды зыходзячы з памераў, мы з ім ці не равеснікі. А равеснікаў трэба паважаць. Ён, магчыма, пражыў не менш ад майго. І мы сталіся аднолькава адзінокімі. Праўда, у кожнага сваё, свой свет, але ў кожным свеце аднолькава невыноснай бывае старасць, калі марудна і паступова гасне свечка жыцця. Нават калі заецца, што ўсё вакол ззяе ад дабрыні, свечка жыцця ўсё адно дагарае…

І хіба разумна ў гэтай сітуацыі прыспешваць час гарэння свечкі?..

Мае суседзі, знаёмыя, нават Пушок, мой гарадскі ўнучак Славік, — усе яны нічога не страцяць, калі і не з’ядуць старога сома. Хай ён жыве і далей. Я дам яму волю, адпушчу ў возера….

Тым часам яны падыходзілі да возера, да таго самага месца, дзе дзед Гаўрылка пакінуў на прывязі сома. Ужо бачны быў канчур палкі, пры якой заставаўся сом. Дзед нават і не здзівіўся, калі не ўбачыў на сваім месцы жаданай здабычы.

— Вось і здарыўся цуд… Ён, напэўна, разгадаў мае думкі?.. Ён на волі… Малайчына, сом…

Дзед апусціў руку ў халодную ваду і разам з палкай выцягнуў сваю дзягу, потым доўга маўкліва стаяў ля берага. Маўчанне парушыў Славік:

— Гэта і ёсць тваё дзіва, дзед?

— Не, дарагі ўнучак, ты не бачыў галоўнага. А галоўны сэнс усяго ў нашых галовах… Калі холадна, мы шукаем цяпла, калі цёпла — хочам прахалоды. А сэнс жыцця — берагчы на зямлі ўсё, і людзей, і жывёл…

І стары, і малы дамоў вярталіся ў задуменні. Славік ішоў і падзрона паглядваў на дзеда, думаючы, што той усё ж пажартаваў над ім. Жарт дзеду ўдаўся.

А дзед Гаўрылка так не думаў. Ён пражываў гэтыя хвіліны так, як пражываюць усё жыццё.

Кожны — па-рознаму…

## Імітацыя бою

Упершыню я трапіў у Хатынь у 1969 годзе. І доўга не мог змірыцца з тым, што людзі здольныя на такія нечалавечыя злачынствы. Раней, вядома, чуў і чытаў у кнігах пра тое, да якой мяжы можа апусціцца чалавек у адносінах да сабе падобнага. Кожны па-свойму ўспрымае чалавечае гора. Мне нават жахліва і вусцішна было ўсведамляць, што на гэтым зялёным лясным кавалачку зямлі некалі тварыўся неверагодны жах — жывымі гарэлі ў агні дарослыя і дзеці. Гарэлі толькі што народжаныя і тыя, хто іх нараджаў. Усё гэта нябачным жахлівым агнём гарэла ў маіх вачах, у маім сэрцы.

Я і потым неаднойчы наведваўся ў Хатынь, ды ўсё роўна тое першае ўражанне было самым моцным і самым страшным. Хатынскія званы білі проста па маім сэрцы. Трагедыя Хатыні была і застаецца самым пераканаўчым абвінавачваннем тым, хто і зараз прагне войнаў, а то і распальвае іх. Пагроза новых войнаў яшчэ ўсё не пакідае чалавецтва.

Вяртаўся я тады з Хатыні пешшу — хацелася пабыць аднаму, пераварыць, асэнсаваць гэты боль, якога мне хопіць на ўсё астатняе жыццё. Ішоў я доўга, не зважаючы на лясное прыволле, якое гуло машынамі, спявала птушкамі, шумела маладой збажынай. І пачуўшы нават здалёк трывожлівыя званы, я разгубіўся перад гэтай бядой, яна адразу сталася маёй цяжкою ношай.

Тады я доўга ішоў лясной дарогай. Праязджалі машыны, сігналілі, спыняліся, прапаноўвалі падвезці. Падзякаваўшы, я ішоў далей, пакуль не ўбачыў прыдаржны «Партызанскі бор». Гэта быў утульны па тым часе лясны рэстаранчык, дзе спыняліся госці. Адны з іх толькі ехалі, іншыя ўжо вярталіся з Хатыні. Добрыя, светлыя, ветлівыя людзі. Беларуская кухня паўставала тут ва ўсёй сваёй красе. Я прысеў за столік, заказаў дранікі і яшчэ штосьці ды пайшоў памыць рукі. Калі крутнуў кран, да майго слыху данесліся сапраўдныя гукі бою. Чуліся вінтовачныя стрэлы, трашчалі аўтаматныя чэргі. Быццам у трубах прытаіліся нейкія людзі са зброяй. Адны абараняліся, а другія наступалі. Няўжо пастараліся будаўнікі?.. Я, выпадковы падарожны, слухаў і ўспрымаў усё як імітацыю бою, як удала спланаваную акцыю. Каб кожны, хто адчыняў дзверы «Партызанскага бору» мог чуць і тую трагічную страляніну, што забірала жыцці тысяч і тысяч нявінных людзей. Каб хоць на адну хвіліну людзі зразумелі, на якой хісткай мяжы стаіць сам чалавек. І ёсць немінучая верагоднасць, што на адлегласці палёту кулі можа апынуцца любы з нас, жыхароў планеты.

Калі я вярнуўся за стол, адразу падумалася, якія малайцы беларусы, што прыдумалі такі эфектны спосаб уздзеяння на тых, хто наведваецца ў Хатынь. Нават калі я пакідаў рэстаран, стрэлы яшчэ ўсё гучалі ў маіх вушах. І дамоў я цвёрда вырашыў вяртацца пешшу. Ужо недзе за лесам у сутонлівай цяністасці хтосьці прыпыніў машыну.

— Чаму пешшу? — бадзёрым голасам спытаў пажылы мужчына.

— Я там быў, — адказаў я, стрымліваючы слёзы.

— Паехалі, — прапанаваў ён. — Я быў на той вайне…

Тады я зразумеў, што болю чужога не бывае. Калі трагедыя вырастае да такіх маштабаў, тады баліць усім. Боль заўсёды застаецца болем. Мы ехалі амаль моўчкі. Мужчына давёз мяне да аўтавакзала і на развітанне сказаў:

— Людзі чамусьці не могуць засвоіць простую ісціну. Можна спыніць любую пагрозу і, вядома, перамагчы, калі ўсе разам аб’ядноюцца. Але людзей часта падводзіць памяць, ці самі людзі ёй здраджваюць… Столькі ўжо навукі было, а яны так нічому і не навучыліся…

Мужчына не ўзяў з мяне грошай, а яшчэ запрасіў да сябе ў госці. Шкада, што не памятаю ні імя, ні адраса простага чалавека, што падабраў мяне некалі ля Лагойска і вярнуў у рэальнасць.

Потым, адслужыўшы ў арміі, працуючы на суднарамонтным заводзе, паездзіўшы шмат па краіне, я пры кожным зручным выпадку хваліў беларусаў, што стварылі такі ўражлівы комплекс, як Хатынь, які не толькі ўвекавечвае тых, хто загінуў у вайну, а хутчэй за ўсё звернуты да жывых. Сённяшніх і будучых. Не прамінаў і згадаць пра лясны рэстаранчык «Партызанскі бор», дзе пакруціўшы кран, чуеш адгалоскі далёкага бою. Доўгі час я быў перакананы, што тую незвычайную імітацыю прыдумалі самі будаўнікі. Але аднойчы са здзіўленнем даведаўся, што ніхто ніколі і не думаў імітаваць тыя далёкія падзеі. Усё атрымалася выпадкова. Тут ва ўсім вінавата мая творчая фантазія. Усё вельмі проста, прымітыўна і наіўна.

Людзі, пазбаўленыя фантазіі, але дасведчаныя ў сантэхніцы, ведаюць, што такое здараецца, калі ў трубы трапляе паветра. Тады яны пачынаюць страляць. Сантэхнікі называюць гэта «паветраным хітруном» і яшчэ неяк. А мне падабаецца і мая фантазія наконт імітацыі.

## Дарога на Слонім

***Памяці Алега Лойкі***

Доўгі час я ўзначальваў прадстаўніцтва Слонімскай фабрыкі «Гасцінічная мэбля» ў Мінску. Не ведаю, пад якой назвай застанецца гэты час у гісторыі, а тады яго называлі ўсе мы перабудовачным. Гэта слова было нават сугучным маёй будаўнічай прафесіі. Хоць ніякай перабудовай, як разумеў я і тады, тут нават не пахла. Хутчэй за ўсё гэта быў час самых неверагодных выпрабаванняў, якія шалёным ліўнем абрынуліся на галаву зусім знянацку, выпрабаванняў у вытворчасці, культуры, літаратуры, ды і ва ўсім астатнім. Для простых людзей усё, што дзеелася на самым версе і крыху ніжэй, было проста незразумелым. Народ пакуль што не стагнаў, усё трымалася на энтузіязме, якога заўсёды хапала ў вялікай краіне. Ніхто і падумаць не мог, што кіраўнік дзяржавы, камуніст нумар адзін, дойдзе да таго, што пачне рэкламаваць піцу нейкай замежнай фірмы дзеля тых жа грошай. Яго паводзіны ў многім нагадвалі ўцёкі з поля бою, дзе бітва завяршалася перамогай. Вось у такі сумбурны і незразумелы час і адбылася наша першая сустрэча з Алегам Лойкам, Алегам Антонавічам…

Аднойчы мне патэлефанаваў дырэктар фабрыкі Астап Сцяпанавіч Вырвіч і сказаў, што будзе ў мяне спадарожнік са Слоніма. Прасіў захапіць яго з сабой. Не доўга ўдакладняў, што гэта за чалавек, сказаў толькі, што мне будзе з ім цікава. Наш грузавы ціхаход адолеў адлегласць да Слоніма за тры гадзіны. Дзякаваць богу, машына была чэшскай вытворчасці і ў кабіне ніякага цяснoцця не адчувалася. У гэтай дарожнай замкнутай прасторы мы і пазнаёміліся.

Прызнацца, я ўжо добра ведаў, хто такі ёсць мой спадарожнік, але чамусьці хацелася нейкага розыгрышу, дык чаму б не папрытварацца. А таму і пачаў з тэмы, якая цікавіць кожнага дарослага чалавека. Ну, вядома ж, пачаў з яе, палітыкі. Я жартаваў, і так і гэтак манеўраваў сваім пунктам гледжання. Ён прымаў мой жарт і таксама жартаваў. Думаю, ён адразу здагадаўся, што тут да чаго.

— Мяне завуць Алі Паша Ібі Хаттабыч Ганад, — усміхаючыся, называў я сваё прыдуманае імя. — Гэта поўнае маё прозвішча.

Ён на некалькі хвілін збянтэжыўся, відаць, асэнсоўваючы ўсю складанасць нязвыклага прозвішча, потым паправіў акуляры і прыязна ўсміхнуўся:

— А я Лойка, сын Антона Алега Слонімскага.

Мне яго адказ спадабаўся.

— Вы хацелі сказаць — прафесар Слонімскі? Вы выкладаеце ва ўніверсітэце, пішаце вершы, прозу, крытычныя і літаратуразнаўчыя матэрыялы. І самая ваша значная праца — гэта кніга пра Францыска Скарыну. Яна ў мяне дома ёсць. Дочка-студэнтка яе зараз чытае.

Ён здзіўлена паглядзеў на мяне, зноў звыкла паправіў акуляры і шырока ўсміхнуўся:

— Вы — шпіён, не ведаю якой разведкі…

— Магчыма, прафесар, і гэта паездка азначае выкраданне. Гэту пастку для вас рыхтавалі даўно і вы трапілі ў яе. А за рулём капітан Дрозд…

— Ну так ужо і Дрозд! Яму хутчэй падыходзіць — Дзятлаў… А ваша, паважаны, прозвішча пачынаецца з гэтага…

І ён палез у сумку і выцягнуў з яе пляшку:

— Апошні талон аддаў. Пляшка ёсць, а чаркі няма, — уздыхнуў прафесар. — Вось з чаго ваша прозвішча пачынаецца — з чаркі, шаноўны Чарказян...

Я вымушаны быў здацца. Давялося рабіць змушаны прыпынак. Гэта было ўжо за Баранавічамі. «Капітан» Дрозд ці Дзятлаў адразу знайшоў чаркі і закуску. І тады Алег Антонавіч прызнаўся, што таксама ведае сёе-тое пра мяне. Праўда, не здагадваўся, што я таксама рыхтаваўся да сустрэчы. За чаркай размова пайшла весялей. Дайшло і да паэзіі, нават да чытання вершаў.

Тут жа разам адшукалі і нейкіх агульных знаёмых. Вечарам мы вярталіся з Алегам Антонавічам у Мінск. Не прамінулі зноў спыніцца на старым месцы.

Потым мы неаднойчы ездзілі разам па той самай дарозе. Ён з радасцю паказваў мне свой цагляны дом на беразе Шчары ў Слоніме, агромністы дуб і сцяжыну да яго. Ці раз мы спускаліся ў падвал дома і налівалі чаркі з сувенірнай бочкі. Пры бочцы была прымацавана дошка, падобная на Дошку гонару, і кожны, хто апускаўся ў падвал, абавязкова пакідаў на ёй свой аўтограф. Вясной даводзілася бачыць, як Шчара разліваецца да самага дуба, захопліваючы ў свае абдымкі і яго, і як потым яна зноў вяртаецца ў свае звычныя берагі…

Ён часта дзяліўся са мною сваімі задумамі. Было ў яго і надта іх многа. Хапіла б і на некалькі жыццяў. Вершы, эсэ, пераклады… На ўсё не хапала часу. А яшчэ ж даводзілася шмат чытаць. Ён амаль нікога не крытыкаваў. Відаць жа, не было ў яго нядобразычліўцаў. Яго выхаванцы вырай за выраем выпырхвалі ў жыццё, кожны будаваў свой лёс і ніхто ніколі не забываў далікатнага, заўсёды ўсмешлівага прафесара. Простага і прынцыповага, чалавекалюба і наіўнага рамантыка. Ён любіў жыццё і калі ў яго ўзніклі праблемы з нагамі, бянтэжыўся, ведаючы, што людзі ўжо заўважаюць яго цяжкасці.

Апынуўшыся ў цяжкім, нават безвыходным становішчы, ён рабіў усё, каб не надакучаць іншым сваімі цяжкасцямі. У імклівым і тлумным жыцці ён часта не звяртаў увагі на сваё здароўе. Варта было б своечасова звярнуцца да ўрачоў і, магчыма, ён быў бы яшчэ і сёння з намі. На першым месцы была літаратурная праца, а ўсё астатняе адкладвалася на потым.

Цяжка перажываў Алег Антонавіч страту жонкі. Пасля яе смерці як быццам адчуў сваю безвыходнасць. А ўсё адно не ўяўляў сябе без працы. Яна, як той вір, засмоктвала яго з галавой.

Ён напісаў прадмову да маёй кнігі «Плач», збіраўся напісаць эсэ, але не паспеў. Пераклаў толькі вялікую нізку маіх вершаў. Ужо ў бальніцы, нібы апраўдваючыся, сказаў, што ўжо, відаць, не паспее напісаць, што задумаў. Прадчуваў, напэўна… І я таксама прадчуваў…

У апошні раз я наведваў яго ў лечкамісіі. Ён страціў адну нагу, потым ампутавалі другую… Я намагаўся хаваць вочы, каб не выдаць сваіх слёз. Але ён усё роўна гэта заўважыў. Паклаў руку мне на плячо і сказаў:

— Памятай, Генад (так ён па-свойму называў мяне). Я шмат не паспеў зрабіць, многае не зрабіў. Сілы не маю змагацца. Нейкі імклівы паток нясе мяне, а хочацца зачапіцца за бераг, а ён выслізгвае з рук…

— Можа, што-небудзь трэба, Алег Антонавіч, — спытаўся я, каб памяняць крыху тэму размовы, — можа, лякарства якое, а, можа, што яшчэ?..

Ён паглядзеў на мяне і, нібы адчуваючы сябе вінаватым, ціха прамовіў:

— Чарку б, як тады ў першы раз па дарозе на Слонім…

Яму было нельга, але яму, напэўна, было і ўсё роўна. Праз нейкі час я вярнуўся ў палату з бутэлькай армянскага каньяку. Ён паказаў мне, дзе яе схаваць — у тумбачку.

— Я потым, калі будзе менш людзей…

Мы тады развіталіся, каб больш не сустрэцца. Я вяртаўся дамоў і па дарозе плакаў. Я памятаў яго жыццярадасным, вясёлым, здольным на добры гумар чалавекам. Той, з кім мы развітваліся, быў ужо зусім іншым, сумным і знямоглым чалавекам, які ўжо ніколі не ўстане на ногі, не пойдзе сваёй звыклай сцяжынай да асірацелага дуба на беразе Шчары. Бераг яго жыцця абрываўся тут, у сумнай бальнічнай палаце.

У яго было шмат сяброў. На пахаванне ў Слонім прыехала нас трое пісьменнікаў з Мінска. Калі выносілі з хаты труну, нечакана спыніўся дождж, які ліў некалькі гадзін, не перастаючы. З'явілася сонца, і доўгая чарада машын пацягнулася да могілак пры лесе. Там хмары зноў густа сышліся, і пасыпаў снег, які неўзабаве стаўся суцэльнай белай сцяною. Калі труну пачалі апускаць долу, зноў выглянула сонца. Снег апамятаўся зноў, калі быў насыпаны магільны грудок. І ўсё навокал адразу сталася белым.

Я вяртаўся ў Мінск, а ў вачах маіх паўставала жывой тая наша першая сустрэча з Алегам Антонавічам. Ніхто ўжо не верне мне тых вясёлых хвілін, якія падаравала нам дарога. Тады б мы нікому на зямлі не дазволілі сумаваць. А зараз было не да весялосці. Нечага адразу паменшала на гэтай зямлі. Менш стала цяпла, дабрыні, надзеі. І ніхто не запоўніць гэты прабел. На вялікі жаль, прабелаў з кожным днём усё большае і большае. І нічога тут ужо не паправіш. Толькі варта памятаць, што нішто з мінулага проста так не знікае. Гэта трэба памятаць тым, хто яшчэ жыве і ходзіць па гэтай зямлі. Рабіце больш дабра, і людзі будуць памятаць вас, як памятаю я Алега Антонавіча Лойку, таленавітага паэта, настаўніка, перакладчыка, даследчыка…Чалавека, маці якому была родная беларуская зямля, а сястрою — ціхая Шчара…

## Палата № 7

Калі чалавек хоць аднойчы трапіць у бальніцу, ён ніколі ў жыцці не забудзе гэтага. Калі ў яго там усё было добра —толькі па гэтай прычыне не забудзе. Ну а калі было не добра — таксама не забудзе. Хто з гэтым будзе спрачацца?! А калі табе пашанцавала і замест калідора ты патрапіш у палату № 7, тады ўжо не толькі не забудзеш, а нават пачнеш яшчэ і сніць. Па-першае, палата № 7 — гэта палата для ветэранаў і ўсіх іншых заслужаных людзей, якім часам нагадваюць, што яны недарма стараліся ўсё сваё доўгае жыццё, што сумленны і прыстойны чалавек ніколі не застанецца без увагі. А тут выпісаўся з 7-й палаты ветэран, засвяціла шчаслівая магчымасць заняць яго месца. Хоць, шчыра кажучы, не ў палаце была справа. Проста кружылася галава і

было ўсё адно куды легчы — ці ў калідоры, ці ў іншай палаце на пяць чалавек, абы быў ложак. Ну, пашанцавала. Чалавек, што ляжаў у 7-й палаце, адчувалася, быў не задаволены, што пайшоў адзін хворы і тут жа прыйшоў другі. Па логіцы ён павінен бы праявіць зацікаўленасць. Тым, хто выпісваецца, заўсёды зайздросцяць. Як у войску. Той, хто застаецца, бярэ на сябе правы старaслужачага. І на самай справе хворы, суседам якога я мушу быць, паўстаў перада мною не зусім звычайным чалавекам. Ён нешта расказваў пра сябе, жартаваў, з прычыны і без прычыны рагатаў. І мне здалося, што кругоў маёй узбуджанай галаве зараз толькі дабавіцца. Але я заручыўся сваёй цярплівасцю і толькі са страхам кідаў позірк на маўклівы пакуль яшчэ тэлевізар. На шчасце, хворы з сёмай палаты ніяк не быў зацікаўлены ўключаць тэлевізар. Пакуль я раздумваў і гадаў, што мяне чакае, краем вуха знаёміўся і з маім загадкавым суседам. Аказалася, што ён зусім не ветэран і ў прэстыжную палату трапіў за грошы. Але калі ён назваў сам кошт яе, галава мая закружылася ў два разы мацней, як было да гэтага.

Тут зазваніў яго тэлефон. Ён доўга не хацеў браць мабільнік. Потым, калі палата напоўнілася музыкай з кінафільма «Сямнаццаць імгненняў вясны», ён прыклаў мабільнік да вуха:

— Палкоўнік Самаедаў слухае!..

І на сваё няшчасце я атрымаў поўны досвед пра палкоўніка. Па-першае, ён быў не зусім палкоўнік, а ўсяго старшына, ды і то былы. Да рангу палкоўніка яго ўзвялічвалі сябры, што рэгулярна хадзілі з ім у лазню і сустракаліся на святы, каб падняць чарку.

Усё, што гаварыў і чым хацеў здзівіць мяне Самаедаў, нагадвала зусім не цікавы спектакль. Не спрачацца ж з ім за тое, што чалавек ва ўзросце застаўся вольным ва ўсіх сваіх праяўленнях жыццярадаснасці нават у бальнічнай палаце. Трэба цярпець, пакуль не з’явіцца іншы ветэран. Хоць і неразумнаму павінна быць зразумела, што бальнічная палата мае свае няпісаныя законы, парушаць якія нікому не дазволена. Але з гадамі людзі мяняюцца. Робяцца сентыментальнымі і часта ўяўляюць сябе зусім не тымі, кім ёсць на самай справе.

Праз нейкую гадзіну, калі ў вачах маіх пачало цямнець ад голасу Самаедава, я ўжо ведаў, што яго сабаку завуць Чапа і што пасля дваццаці пяці гадоў сумеснага жыцця сусед мой збег ад сваёй жонкі да больш маладой жанчыны, якая вельмі хоча мець ад Самаедава дзіця, але ён ужо на такое не здатны, узрост усё ж… Але маладая жонка ведае, напэўна, чаго хоча. Яна нядрэнны псіхолаг… Несапраўдны палкоўнік Самаедаў быў сапраўднай знаходкай для шпіёна. Шкада, што я не быў шпіёнам. А Самаедаў акрамя ўсяго не ўмеў трымаць язык за зубамі, слыў балбатуном. Ужо за поўнач тэлефон Самаедава замоўк, і ён замоўк таксама. Як толькі я змог пераадолець дакучлівае бяссонне і пасля ўсіх дзённых і вечаровых трывог звёў вочы, мяне тут жа падняў голас Самаедава:

— Стой… Стой, страляць буду!!!

Я зірнуў на гадзіннік. Было тры гадзіны ночы. Самаедаў сядзеў на ложку і цяжка, з надрывам дыхаў… Тут я і даведаўся, што ён служыў на граніцы ў пагранічных войсках. Сыпануўшы порцыю інфармацыі пра сакрэты граніцы, тут жа пахваліўся:

— Мне штоночы сніцца мая служба. Прачынаюся і разумею, што гэта рэха далёкіх дзён нагадвае пра сябе.

У пяць гадзін раніцы Самаедаў выдаў серыю армейскіх анекдотаў, хоць смяяцца мне ўжо не хацелася. У мяне было жаданне заткнуць вушы і не чуць майго суседа. Заўтра абавязкова пашукаю ваты, зраблю для вушэй глушыл-

кі і буду абараняцца ад назойлівага голасу «палкоўніка». Я ўжо думаў пра тое, што бальнічная палата зусім супроцьпаказана Самаедаву. З яго энергіяй можна варочаць горы, а не ляжаць у ложку.

Калі ў палату ўвайшла дзяжурная медсястра, Самаедаў абуваў спецыяльна падкарочаныя чорныя валёнкі. Я тады падумаў, што мне ў гэтай палаце рабіць няма чаго. Калі наступнай ноччу паўторыцца ўсё тое самае, мне ўжо спатрэбіцца зусім іншая бальніца ў раёне сталічных Навінак. Давай, думаю, схаджу да начальства і папрашуся ў іншую палату, хай сабе ў ёй і больш людзей, ці ў той жа калідор. Толькі там, магчыма, маё выратаванне… Не хачу я ветэранскай палаты, ні прывілей для заслужаных людзей. І ўсё ж я ўдзячны Самаедаву, што ён не ўключаў тэлевізар. Бо, як я потым даведаўся, ён у дадатак да ўсяго быў слабаватым на слых. Наогул, мной авалодвалі сумныя думкі, што справы мае безнадзейныя, жыццё пайшло на перакасяк і ўжо няма ніякіх шляхоў да выратавання. А ў суседа нібы з'явілася другое дыханне, і ён ужо даваў новыя ўказанні маладой жонцы, як карміць сабаку, як і якія купіць шторы, электрачайнік, каву… Два разы я выходзіў з палаты № 7, прайшоўся па пустым калідоры, ледзь не спатыкнуўся аб чыйсьці ложак, і адразу ж вярнуўся ў палату на сваё месца. Самаедаў ужо настаўляў на правільны шлях будаўніка, які рамантаваў яго новую кватэру. Шум у вушах і палаце дасягаў таго ўзроўню, калі абрываюцца правады, гасне святло ці пачынае бушаваць раптоўны аблудны ўраган.

Я прысеў на ложак, абхапіў галаву рукамі, якая, здавалася, перастае мяне слухацца. Я ўжо дакладна ведаў, што наступную ноч мне тут не спаць. Хоць бы дацягнуць да світання. Было самотна і балюча. Гула галава, і думкі мае схіляліся да таго, што гэта нябесныя сілы наладзілі супраць мяне змову… За мае старыя і новыя грахі… Хоць і лічыў я сябе чалавекам зусім бязгрэшным.

Калі я падняў галаву, Самаедава ў палаце не было. Не мільгалі яго падкарочаныя чорныя валёнкі, круглы жывот і лысая галава. Яго проста не было ў палаце. Цяпер я маліў Бога, каб толькі не адчыняліся дверы і парог не пераступалі чорныя валёнкі. Я згаджаўся на ўсе самыя нечаканыя працэдуры працэдурных кабінетаў, на самыя балючыя ўколы, на самыя людныя палаты, хай нават без ложка, толькі б не чуць голасу гэтага Самаедава-Усёедава. О, як хацелася мне зараз дамоў, дзе чакае не толькі сям'я, але сумуюць без мяне мае справы, якія просяць свайго неадкладнага завяршэння.

За ўсё гэта я маліўся Богу і чакаў яго дапамогі, хоць мяне і вучылі ў школе не верыць нябесным сілам. Даруй мне, Божа, калі ты мяне чуеш. Засцеражы ад гэтага шумлівага Самаедава, а вылечуся я ўжо неяк сам. Вунь і ўрачы суцяшаюць, што балячкі мае не такія ўжо страшныя ў параўнанні з тым жа Самаедавым. Хай, урэшце, ён жыве сваім жыццём. Навошта мне ведаць, колькі ён з кім і дзе піў, калі адключаўся і калі цверазеў і як звалі сабаку, з якім ён вартаваў граніцу…

Рыпнулі дзверы палаты, і ў яе ціха зайшоў Самаедаў. Ён змяніўся з твару. Вочы патухлі і знік голас. У мокрых руках ён трымаў мабільнік, з якога сцякала вада. Ён ступіў некалькі крокаў і прысеў, нават асунуўся на ложак.

— Мне капец, — пакутліва сказаў ён. — Усё цяпер...

Ён страціў сувязь з навакольным светам.

Я не знайшоў сілы запытацца ў яго, чым ён так устрывожаны. Ён сядзеў, апусціўшы вочы і маўчаў. Маўчаў і я, гледзячы ў акно, абводзячы позіркам заснежаны двор, не прамінуў і варону, што сядзела на вентыляцыйнай трубе, нават зайздросціў ёй. Хто-хто, а яна разумее сутнасць сваіх паводзін, таму, відаць, і жыве доўга. Але чаму часам такімі легкадумнымі бываюць людзі, якія робяць усё, каб ускладніць сабе і сабе падобным гэта жыццё?

Калі я павярнуўся да Самаедава, ён ляпаў далонямі па голых каленях і ні то сабе, ні то мне са шкадаваннем, упершыню так мякка казаў:

— Я ўтапіў мабільнік… ва ўнітаз упаў… Вось бяда…

Не, я не радаваўся, мне стала яго шкада. Ён умомант з уладнага «палкоўніка» ператварыўся ў няшчаснага чалавека, які ведаў, што яму тут ніхто і ні чым не дапаможа…

Вароны ўжо на трубе не было. А снег не думаў раставаць. Прыціскаў марозік. І раптам я падумаў: «Супадзенне гэта, ці што, але ж Бог мяне пачуў. Я прасіў і выпрасіў сваё…»

Мараль: калі вы апынуліся ў асроддзі, дзе яшчэ ёсць людзі, акрамя вас, не імкніцеся займаць як мага больш прасторы, каб пазбавіць яе іншых. Гэтым самым вы парушаеце баланс агульнажыцця. Трэба памятаць, што ты нідзе не адзін. А зверху яшчэ сочыць і ўсёбачнае вока Справядлівасці. Трэба заўсёды памятаць пра гэта.

## Свалата

Ліфт з крэктам і бразгатам, відаць, такім чынам выказваючы сваю незадаволенасць, спыніўся на маім паверсе. Я моўчкі выйшаў з кабіны, разважаючы пры гэтым, што ліфт, у адрозненне ад мяне, мае больш падстаў быць незадаволеным, чым я сам. І ўявіў, як пасля няўдалай наладкі цэлымі днямі неадушаўлёны і зашпілены ў жалезнае адзенне, бегае ён туды-сюды, уніз-уверх, то зусім пустым, а то і пад завязку загружаным. Мой настрой часта бывае вельмі падобны да настрою нашага старога ліфта.

У нашым канторскім доўгім калідоры на гэты раз было пуста. Звычайна ў такі час бегае, грыміць вёдрамі ўвішная прыбіральшчыца. Цяпер жа было ціха. Зніклі кудысьці і ўсе мае калегі-супрацоўнікі. Толькі потым дайшло да мяне, што сёння дзень перадсвяточны і ўсе, напэўна, ужо даўно дома. А я ў адрозненне ад маіх калег жыву па прынцыпе — ніколі не адкладвай на заўтра тое, што можна зрабіць сёння. За гэта часта сам і расплачваюся. Вось і сёння — усе даўно пакінулі гэтыя шумлівыя сцены, а я яшчэ нават не сабраўся ў дарогу. Але што тут збірацца? Апрануў куртку, схапіў дыпламат і бягом дамоў. Бягом, вядома, сказана занадта. Бягом не атрымаецца, бо сёння нават не паспеў паабедаць, а таму не маю сілы. Не спяшаючыся, зачыняю дзверы і кіруюся да пакорлівага і вечна незадаволенага ліфта. І тут заўважаю прыадчыненыя дзверы ў кабінеце дырэктара. Гарыць святло, галасоў не чутно. Звычайна ён пакідае кантору раней за астатніх. Раней за астатніх у яе і з'яўляецца. Такая ўжо начальніцкая завядзёнка. Стукаю ў дзверы — ні гуку, адчыняю шырэй дзверы — бачу свайго дырэктара. Ён сядзеў за сталом, паклаўшы галаву на складзеныя рукі. Чулася, як ён неспакойна дыхае, часам пераходзячы на стогн. Тое, што начальнік нецвярозы, я зразумеў адразу. І гэта было так не падобна на яго, заўсёды важнага, упэўненага ў сабе.

Папярэдні мой дырэктар выпіваў штодня. Ён на нарадах сядзеў як бы здалёку, прыкрываў даланёй рот, думаючы, відаць, што ніхто яго, злёгку прыхмеленага, не заўважыць. Але ўсе ўжо загадзя ведалі, што шэф узяў нейкую там дозу. Другі начальнік піў таксама і тады ператвараўся ў маньяка. Ён садзіўся паміж супрацоўніцамі, хіхікаючы, абдымаў іх, а пасля даваў волю рукам. Тады каардынацыя парушалася, дваіх супрацоўніц ён прымаў за адну і здзіўляўся потым, чаму адна рука не даганяе другую. Віскату і смеху пры гэтым было шмат. Але тым усё і канчалася, супрацоўніцы, хіхікаючы, збягалі.

Яшчэ адзін начальнік быў разумнейшы ад гэтых, піў мала. Але ўсе ведалі

адзіны шлях, як спакусіць яго. Трэба было знайсці прычыну і запрасіць яго на шыкоўнае застолле, хай сабе гэта будуць імяніны цешчы. Застолле з прычыны тоіць у сабе элемент чагосьці паўафіцыйнага. Гэта нават разумеюць жонкі начальнікаў.

Быў неахвочым да пітва і новы дырэктар. Але ўсюды бываюць свае выключэнні. Як не вып'еш, калі, скажам, дзень нараджэння ў галоўнага бухгалтара?! У іх, кажуць, былі адносіны. Хоць цяжка зразумець, якія тут маглі быць адносіны, калі яна ўдвая старэйшая ад яго. Але прыбіральшчыца цётка Клава была ўпэўнена, што дзеля грошай і выгады чалавек здольны на ўсё. Можа, яно і так. Ды я ведаў жонку дырэктара. Галоўбух саступала ёй не толькі гадамі, але і ўсім іншым.

…Я, нарэшце, паспрабаваў разбудзіць дырэктара. Ці мала што, можа, яму дрэнна стала. Але на тое не выглядала. Ён паспрабаваў падняцца, але не змог.

— Хачу падняцца, а не магу, — з цяжкасцю прамовіў ён, і яшчэ ніжэй апусціў галаву.

Не было часу гадаць, якія напоі ўжываў мой начальнік. Такое бывае хіба што пасля ўжытку спірту. Думаю, да такой моцы ён апусціцца не мог. Можа, самагонка? Можа, віскі? А, можа, і мешаніна якая ўсяго гэтага? Якая розніца?.. Чалавека трэба было культурна ратаваць. Вось і ўзнікла перада мною праблема, як дапамагчы майму начальніку дабрацца дахаты. А да яе добрыя два кіламетры. Як уявіў, што мне, хто застаўся без абеда, прыйдзецца на сабе валачы яшчэ добрых шэсць пудоў дырэктарскага цяжару, стала не па сабе. Дацягнуць адно. А як жонцы здаць?..

Самае цяжкае было апусціцца ў ліфце, які сёння быў асабліва незадаволены. Мала таго, што надыхалі ў ім самымі рознымі перагарамі, натапталіся самымі рознымі падэшвамі, дык яшчэ і ношай падазронай абцяжарваюць. Самае галоўнае, толькі б не наткнуцца на нейкія пабочныя цікаўныя вочы, а ліфт няхай сабе пабурчыць. Што яму, жалезнаму, зробіцца?..

Пашанцавала, на шляху нікога са знаёмых не сустрэлася. Па дарозе начальнік маўчаў. Ён ішоў, ледзьве перастаўляючы ногі, часам апераджаючы мяне, трывожліва закатваючы вочы. Калі прайшлі палавіну шляху, прыцямнела. Людзей навокал паменела. Ён з самага пачатку не пазнаваў мяне. І я, смеючыся, часам праз слёзы, дапякаў яго нейкімі ўшчуваннямі, з кімсьці нават параўноўваў яго. І тут чамусьці згадаліся даўнія канторскія плёткі, узяла верх мужчынская цікаўнасць. Стрымліваючы смех, запытаўся:

— Спіш з бухгалтарам?

— Сплю...

— І даўно...

— Даўно…

— А дзе спіш?..

— Дзе-дзе… На падлозе… А ты хто?..

— Я, дарагі, падатковы інспектар. І праз дваццаць хвілін здам цябе ў рукі правасуддзя… Цябе чакае самы суровы суд… Па ўсіх артыкулах савецкай маралі…

Ён раптам прыпыніўся і прамармытаў:

— Не трэба… Сам здамся ў палон…

Неўзабаве паказаўся яго дом. Не даходзячы да яго, мы прыпыніліся перадыхнуць. Ён цёпла, як жанчыну, абняў узорысты асвятляльны слуп, ці не пераблытаўшы яго з бухгалтаршай.

— Ты аддасі сябе ў палон, а што будзе потым?

Роля следчага мне ўдавалася.

— Я абяцаў жонцы футра. А гэта старая карова патрабуе ажаніцца з ёй, грошай не дае. Увесь час давала, а зараз не дае.

Мне стала шкада дырэктара. Я нават не зайздросціў яго дырэктарскай пасадзе. Уліп, як кажуць, папуас. Апошнія метры мы пераадолелі без аніякіх прыгод.

Як на маю бяду, ліфт у ягоным пад'ездзе быў нямым, і на ягоны высокі паверх мы падымаліся ў настроі нашага канторскага ліфта, крэкчучы, стогнучы ды лаючыся.

Калі мы стаялі ля дзвярэй дырэктарскай кватэры, ён, мой дырэктар, то бялеў, то чырванеў, але стаяў на сваіх нагах. Пасля доўгага званка дзверы расчыніліся. Два зласнаватых промні падведзеных вачэй уперамеж са слязамі касянулі на мяне, потым на яго. А далей пачулася гэта:

— Ты, Іваноў, вялікая свалата… Напаіў майго мужа…

Дырэктар здаўся ў палон, зачыніліся дзверы. Калі я спускаўся па лесвіцы, пачуў, як нешта цяжкае грымнула. Можа, і не ён…

Пасля свята ніхто з нас, ні ён, ні я, нават не заікнуліся пра тое цяжкае вяртанне дахаты. Але калі мы сустракаліся з ім, у вушах маіх гучала тое:

— Ты, Іваноў, вялікая свалата…

Думаю так, нават калі вас назавуць свалатой, не трэба пакідаць чалавека ў бядзе.

## Моня і Джын

***(Амаль казка)***

Баба Моня асцярожна адчыніла старыя, скрыпучыя ад часу дверы, і… анямела ад здзіўлення. Малюнак, які яна ўбачыла, цяжка было і прысніць.

На градзе, зусім побач ад хаты, стаяла яе любімая каза Клава і спакойна, а можа, і неспакойна, хрумстала капусту. Прычым, самы вялікі качан, які вырасціла баба. Думала, нашаткуе на зіму, будзе потым смакаваць ды частаваць рэдкіх гасцей. Схапіла яна дзяркач і давай лупіць казу, праўда, шкадуючы, хоць і прыгаворваючы:

— Ах, ты, такая-сякая…. Хіба я цябе не кармлю? За што мне ўсе гэтыя напасці: то кот прапаў, нямаведама куды занесла, то ты, збродлівая, шкодзіш… Сілы маёй больш няма… Вось табе, вось табе…

А Клава, нічога не разумеючы, нічога благога не прадчуваючы, вінавата паплялася ў хлеў. Не хацелася ёй крыўдзіць Моню. Яна ж так клапоціцца пра яе, Клаву… Можа, цяпер век не бачыць ёй волі, так і згавее тут, у змрочным хляве, не знайшоўшы свайго казінага шчасця…

А Моня ўсё не магла зразумець, як гэта Клава апынулася ў гародзе. Быццам бы і дзверы ў хляве былі зашчэплены на засаўку. Яна жаласліва глядзела на пашкумутаны качан, потым абыякава махнула рукой: так, відаць, і трэба, вечарам яна абавязкова аддасць Клаве астаткі таго качана, яна ж у рэшце рэшт яе карміліца.

У гэты самы час за сваёй спінай баба Моня пачула нейкі дзіўны шум. А калі азірнулася, дык абамлела. Перад ёй стаяў барадаты, увесь у лахманах з вялікай і лысай галавой чалавек.

— Я, даруйце, шаноўная, ваш госць. Гэта я Клаву пусціў у гарод… Не здзіўляйцеся… Проста я добра ведаю цану свабоды… Думаў, зраблю дабро... Ужо тры тысячы гадоў не рабіў гэткага. Ага, забыў, даражэнькая, адрэкамендавацца. Я, Джын, з племя непакорлівых джынаў… Усум-Бусум…

Моня паматала галавой. Сніць яна гэта ўсё ці што? А калі апамяталася, усклікнула:

— Ну, чорт лысы! Трэба ж так напалохаць старую! — тут жа заплюшчыла вочы. Можа, калі расплюшчыць іх, падумалася Моні, гэты дзікабраз знікне. І яшчэ падумала, што трэба схадзіць да доктара, хай выпіша якое лякарства ад перапалоху. Але калі яна расплюшчыла вочы, то ўбачыла недаедзены качан, і тое, што называла сябе Джынам. Джын стаяў, укленчыўшы перад Моняй, і плакаў.

— Мая цудоўная пані, — прасіў Джын. — Не праганяй мяне, сіраціну… Я чакаў гэтай сустрэчы тры тысячы гадоў… Твая Клава выпадкова адкапала маё сховішча капытамі, і я, наіўны рамантык, выпырхнуў у гэты свет. Я не ведаў нават, у які Час патрапіў… Але паколькі вучылі мяне далёкія даўнія настаўнікі, усе навіны падаўся я шукаць на кірмаш. І што там убачыў, шаноўная пані? Убачыў усю чарнату душы чалавечай. Людзі страцілі сумленне і забылі, што такое спагада, дабро, любоў… Усе падманваюць усіх, і ўсе пра гэта ведаюць. Галава пайшла кругам, калі пабачыў, як дзеці тузаюць за бароды, а дарослыя смяюцца…

Баба Моня спалохалася. Яна моцна трымалася за дзяркач, спадзеючыся, што ім давядзецца адбівацца… Але Джын плакаў і прасіў дапамогі… Ён нават ёй зараз падабаўся.

— Мая пані, памажы-памажы мне вярнуцца ў сваю цямніцу… Я ўжо стары і не магу не тварыць дабра, не ўчыніўшы зла… Страчана ўсё, што я ўмеў… Памажы… На вуліцы чэпяцца нейкія людзі, патрабуюць рэгістрацыі. Не ведаю, што гэта такое. Кажуць, калі рэгістрацыі няма, можна плаціць… Усе нечага хочуць… У вачах у людзей пустэльна, няма святла. Вакол, сорамна глядзець, снуюць голыя і паўголыя жанчыны, а мужчыны адурманены напоямі і травой… Паўсюль гучыць музыка Д'ябла… Д'яблавы слугі снуюць па вуліцах у бліскучых кальчугах… Ад іх разбягаюцца дзеці... Усюды страляніна і кроў… Не магу я так… У наш час такога не было… Джын быў патрэбен, калі тварыліся вялікія справы… Мае продкі дапамагалі толькі сумленным і бедным людзям. А тут Клаўка ваша. Выходзіць, я ваш раб… Дапамажыце…

— Не, даражэнькі, мы так не дамаўляліся. І тваёй рэгістрацыі, напэўна, не будзе. Падобных галодных джынаў сёння хоць пруд прудзі. Ну а што тычыцца рабства, я ведаю, што гэта такое. Усё жыццё была ў рабстве ў тырана, то ў кукурузніка, то ў цалавальніка, то ў балбатуна… Такія прайшла народныя ўніверсітэты!.. Потым доўга служыла ў свайго алкаша суджанага… Усё жыццё так. Зараз — я і Клава… Так лепш.

— Мая неацэнная пані, дапамажы вярнуцца ў цямніцу, у мяне сэрца баліць ад вашых бед. Ва ўсе часы ў жыцці было так. Адны працуюць, а другія адпачываюць. Адны служаць, а другія камандуюць. Адны багатыя, а другія бедныя. Адны слабыя, а другія моцныя. Ніколі не было і не будзе роўнасці. І нічога тут не зменіш. Усе беды чалавека вось тут.

І Джын стукнуў кулаком па сваім ілбе.

Баба Моня слухала і думала пра сваё. Гэты Джын хоць і чужак, але разумнік, кажа разумныя словы, і слёзы быццам не прытворныя. Дзе ж я яму тую цямнушку знайду, можа, склеп прапанаваць…

— Добра, можа, ты ў склепе спачатку пажывеш? А там бачна будзе. Быццам не падобны ты на хлуса.

— Воля ваша, пані… Проста мне, як і вам, не пашанцавала нарадзіцца гэтым часам. Мае старыя чары ў гэтым часе не дзеяздольныя, і тут нічога не парадзіш. Гэта іншы свет, чужы, не мой… Мне хоць у хляве з Клавай, хоць у склепе…

Перапыніла баба Моня слёзныя модлы Джына:

— Шкада цябе, паспрабую дамовіцца з участковым. Давядзецца зноў гнаць самагонку, каб яна згарэла… Але скажы, ты хоць што-небудзь умееш? Ну… плот гарадзіць ці гарод капаць?

— Магу, магу, магу…

Потым Джын жыў у склепе, правіў плот, капаў і палоў гарод, часам хадзіў з Клавай за гарод, на поплаў. Але аднойчы прыйшоў з праверкай участковы. Відаць, яму не хапіла самагону.

— Грамадзянка Моня, атрымалі сігнал, што вы ў сябе хаваеце таджыка… Трэба праверыць дакументы. Разумееце, рэжым парушаць нельга. Парадак такі…

І ўчастковы, і сігнальшчык сусед алкаш Пеця ў прысутнасці бабы Моні адправіліся шукаць… У склепе панаваў ідэальны парадак. Прадуктаў было больш, чым нарыхтавала Моня. Плот стаяў як новы. У гародзе — ні пустазелінкі. Цвіў гарод бабы Моні заморскімі кветкамі. А на шыі ў Клавы вызвоньваў прыгожы званочак, каб не згубілася дарагая бабуліна пястушка. Участковы і алкаш Пеця пакінулі двор, і тады баба Моня абняла Клаву і заплакала. А Клаўка, падняўшы святлістую бародку, шапнула гаспадыні:

— Ён не вытрымаў і збег у далёкі свет. Ён знайшоў свой збанок і вярнуўся туды. І ніякі ён не таджык. Ён быў Джынам. Нават ён не вытрымаў вашых парадкаў. Падарыў мне званочак і збег… Шкада Джына.

І тут у казы Клавы зусім адняло мову, яна толькі нешта невыразнае бляяла…

Баба Моня падняла край фартуха, выцерла ім слёзы на вачах і сумна мовіла:

— Адны п'юць, таму што маюць усё — значыць ад няма чаго рабіць. Другія — ад безвыходнасці. Вось бы знайсці, дзе тая залатая сярэдзінка. Тады людзі, што ладзяць плот і капаюць гарод, не будуць нагадваць нам таджыкаў ці некага іншага. Людзі не захочуць цікаваць праз плот і даносіць участковаму….

Нават каза Клава здагадвалася, што словы тыя адрасаваліся суседу Пецю, а, можа, і яшчэ каму, але сказаць пра гэта яна ўжо не магла…

## Цяжкая ноша

Валянцін Андрэевіч быў цудоўным чалавекам. Пашукаць такіх трэба. А як любіў сваіх дзяцей! І ўсё, што мог, рабіў для сям'і. Але, як заўсёды, бяда прыходзіць, адкуль яе не чакаеш. У паспяховага ваеннага раптам узніклі праблемы са здароўем. І лёс чалавека пачаў абрушвацца на вачах. Жонка цяпер ужо дакладна ведала, што генеральшай ёй быць не давядзецца, што спадзяванні яе не апраўдаліся, а таму сваімі прыдзіркамі ды дапяканнямі забірала апошняе здароўе ў няўдачніка-мужа. Яна так балюча ўспрыняла нечаканую праблему, што нават суседзі і родныя не маглі ўлагодзіць яе ўзбунтаваную душу. Як быццам ён, Валянцін Андрэевіч, быў тут у чымсьці вінаваты. Але жонка, якую ён яшчэ не так даўно насіў на руках, думала менавіта так, ці амаль так. А сам Валянцін Андрэевіч, чалавек, які дасканала вывучыў усе жыццёвыя калізіі свайго лёсу, проста разумеў, што дзесьці штосьці зламалася, і ківаць на некага проста несумленна. Трэба трымацца, падымаць дзяцей, а там жыццё пакажа ці падкажа. Пра сваё сямейнае жыццё Валянцін Андрэевіч расказваў мала і неахвотна. І наогул імкнуўся абыходзіць гэту тэму.

— Сямейныя адносіны і сямейнае жыццё, — казаў ён, — гэта рэчы недатыкальныя. Гэта асабістае, не для чужых людзей. Гэта — скарб, які можа знайсці любы чалавек. Галоўнае, як ім потым распарадзіцца. Сям'ю ён яшчэ параўноўваў з калодзежам, дзе вада павінна быць заўсёды чыстай. Для гэтага яе патрэбна пастаянна чэрпаць.

У кожнага чалавека сваё разуменне сям'і. У нашага героя было сваё. На вачах мужа яго жонка, невядома чаму, ператваралася ў дамашняга дэспата, крыклівага і няўступлівага. Валянцін Андрэевіч браў усё гэта глыбока да сэрца, але цярпеў. Пасля арміі ён застаўся практычна ні з чым. Пенсіі, якую яму прызначылі, на нармальнае жыццё не хапала. Жонка называла яго няўдачнікам, недарэкам, казала яшчэ шмат чаго непрыемнага, вельмі абразлівага хоць і для былога, але афіцэра.

Перажываў свае праблемы Валянцін Андрэевіч, хоць урачы катэгарычна раілі яму берагчы сябе, пазбягаць фізічных нагрузак, жыць спакойным умераным жыццём. Не курыць і не піць. Калісьці вясёлы і жыццярадасны, ён стаўся раптам самотным і бездапаможным. Увесь свой час ён цяпер аддаваў малым дзецям. Але паступова яго жонка ўзмацняла свой наступ на падатлівага мужа, змушаючы яго апраўдвацца, вінавацісца перад ёй немаведама з-за чаго. Нарэшце ён зразумеў, што так працягвацца больш не можа і аднойчы прапанаваў ёй разысціся. Ён гатовы быў пакінуць яе, каб яна змагла па-новаму наладжваць сваё жыццё і жыць прыстойна. А сам збіраўся пайсці да бацькоў, там яму месца знойдзецца, а заадно хацеў забраць з сабой і дзяцей. Дзе там… Яго палавіна закаціла такую істэрыку, што збегліся суседзі, падазраючы, што ў кватэры дзеецца самае страшнае.

А жонка з кожным днём павялічвала свой націск, наступала на безабароннага мужа. Былы афіцэр быў пазбаўлены сродкаў абароны. У яго скончыліся аргументы ў сваю абарону. Ды і не разумеў афіцэр тактыкі сваёй жонкі. Яна заўсёды мянялася. І абарона яго губляла сэнс. Ён ужо думаў здацца канчаткова. Можа, і ў палон.

Аднойчы Ваялянцін Андрэеевіч забраў са школы дзяцей, потым згадаў, што мае ад жонкі заданне схадзіць у магазін, папоўніць прадуктовы запас. Калі ён вярнууўся з прадуктамі, жонка ўжо была дома. Яна ўважліва вывучала змесціва пакета і, зласнавата зірнуўшы на мужа, зашыпела:

— Ты ўжо зусім стаў бездапаможным, нават бульбы купіць не можаш…

І шпурнула пакет у кут. Пакет разарваўся, паляцелі на падлогу клубні, заплакалі дзеці.

Ён стаяў і маўчаў і ў гэту хвіліну вырашаў, напэўна, самае важнае для сябе пытанне.

Ён разумеў, што ўладкаваца на працу, якая б не шкодзіла яго здароўю, ён ужо не зможа. Ды і няма такой працы. Часы даўно памяняліся. Ён зараз папоўніў шэрагі тых, хто больш не можа прыносіць карысці — вось і ўсё. Ён проста разумеў, што кола яго жыцця закруцілася ў іншы бок. І памяняць яго накірунак ён ужо не зможа. Ён, вядома ж, па натуры сваёй быў сляпым рамантыкам. Магчыма, гэтак жа рамантычна некалі закахаўся ў сваю будучую жонку. Было такое. Тады яму здавалася, што жыццё і светлае заўтра ўзнясуць іх на самую вялікую вяршыню, якую ўсе называюць шчасцем, зусім не ведаючы, што гэта такое. Нават у страшным сне Валянцін Андрэевіч не мог уявіць сабе свой сённяшні дзень.

…Ён марудна апранаў свой армейскі мундзір, што самотна вісеў у шафе сведкам бурнага і цікавага армейскага жыцця. Прышпіліў начышчаныя ваенныя ўзнагароды, якія ў яго меліся і лёгка выйшаў з дому. Ішоў і адчуваў, як у грудзях яго робіцца пуста і самотна. Нібыта з кожнай хвілінай чагосьці рабілася ўсё менш і менш. Ужо не засталося ад рамантыкі і жыццялюбства Валянціна Андрэевіча амаль нічога. Акрамя, вядома, прыгожага мундзіра з адзінай зоркай. Гэта зорка з часам магла павялічыцца, стаць вялікай — той самай, пра якую марыла яго жонка. З гэтымі думкамі ён зірнуў на неба і не ўбачыў там

ніводнай зоркі. І зразумеў, калі на чыстым небе не бачна зор, неба не перастае быць небам… І наогул зоркі тут не пры чым…

Валянцін Андрэеевіч заўважыў непадалёку магазін на колах. Гэтыя машыны сталі звычнымі ў нашых дварах. З іх прадаюць самыя розныя дары прыроды, тое, што вырасцілі вяскоўцы на сваіх гародах. Ён заплаціў за мяшок бульбы, узваліў яго на плечы, чым здзівіў прадаўца. Той пашкадаваў, што не можа дапамагчы яму з дастаўкай. Пашкадаваў, напэўна, і мундзір, які трэба пэцкаць.

Як ён зайшоў у пад’езд, потым у ліфт, як адчыняў сваім ключом дзверы, ён ужо не памятаў. Убачыў сябе ў прыходжай перад люстэркам з мяшком на плячы.

— Во нарэшце ў доме мужык з’явіўся! — з гумарам сустрэла яго жонка.

З плеч Валянціна Андрэеевіча марудна спаўзала ноша і тут жа бухнулася на падлогу. Мяшок разарваўся на прошве, і па калідоры пакаціліся клубні…

— Гэта мой апошні падарунак, — з цяжкасцю прамовіў ён і, хістаючыся, пайшоў да канапы. Галава кружылася. Унутры было зусім пуста. Нічога не балела. Раптам стала лёгка-лёгка. Ён лёг на канапу проста ў мундзіры, чаго раней ніколі не дазваляў сабе…

Потым урач хуткай дапамогі скажа:

— Яму цяжкасці падымаць было строга супрацьпаказана. Што ж вы яго не зберaглі?

Валянцін Андрэевіч нічога гэтага ўжо не чуў. А жонка на цяжкое пытанне ўрача адказаць не змагла.

## Сумленны

На працы Кацярыну чамусьці называлі Кэці. На замежны лад. Яна заўсёды і ва ўсім была прыкладам, той яшчэ спецыяліст. Разумніца і пры гэтым прыгажуня. Якасці, якія не заўсёды суадносяцца. Кажуць, удала выйшла замуж і пачувае сябе шчаслівай.

Нядаўна выпадкова сустрэліся на вуліцы. Кэці яшчэ папрыгажэла ці, можа, мне так здалося. Жанчынам такое часта ўдаецца. Разгаварыліся, згадалі ўсіх нашых калег, калектыў, мінулыя шчаслівыя гады. Яна згадала нават тых, хто яе не далюбліваў. Яна магла гэта сабе дазволіць у адрозненне ад мяне. У мяне псіхалогія іншая. Проста не звыкся называць чорнае белым ці белае чорным. Усе рэчы звыкся называць сваімі імёнамі. З-за гэтага і маю непрыемнасці ўсё жыццё. Я, напэўна, такі не адзін. Перарабляць сябе не магу і не хачу. Хоць усе адкрыта называюць нягоднікаў нягоднікамі. Кожны яшчэ, напэўна, не можа змірыцца з тым, што белая варона мае сваю думку. Як кажуць, цяпер час такі — час нягоднікаў.

На развітанне Кэці-Кацярына згадала свайго трохгадовага сына:

— Закончыўся мульцік, а мой малы глядзіць далей. Перадача пра жанчын, але не для дзяцей. Вось і прапаную яму асцярожна пераключыцца на іншы канал. Кажу, што там будзе харошая і вясёлая перадача.

«Не, мама, я гэту перадачу пагляджу», — кажа малы. «Чаму?» — пытаюся.

«Мама, мне падабаюцца прыгожыя жанчыны…я тут буду глядзець», — адказвае.

Кэт пайшла шчаслівая. У тым, што дзеці адкрытыя і праўдзівыя, верыцца ёй, ёсць пэўная надзея. Галоўнае, што чалавек, дзіця не хлусіць. У праўдзе намёк на надзею, што дзеці выратуюць будучае…

***Пераклад з курдскай Казіміра КАМЕЙШЫ.***

# МАХТУМКУЛІ

## ПАМЯЦЬ ВЯЛІКАГА СЭРЦА

*Махтумкулі (каля 1733—1780 гг.) — імя, якое абуджае сэрца туркмена ў хвіліны шчасця, хвіліны трывогі, хвіліны бяды... Пражыўшы колькі гадоў у Туркменістане, я заўсёды трымаю ў памяці імя гэтага легендарнага паэта. А што ж казаць пра туркменаў... Нават пра тых, хто на гады пакідае родную старонку? Ці наадварот: што ўжо казаць пра туркменаў, якія ў іншыя краіны проста «забіраюць» з сабою радкі і самога Махтумкулі!.. Трымаюць вялікае сонца Паэзіі і Шчырай Улюбёнасці ў родны край з імем паэта, з яго радкамі ў сваіх сэрцах.*

*З Махтумкулі ў беларускіх пісьменнікаў, паэтаў даўняе пабрацімства. Яшчэ ў XIX стагоддзі шырокаму свету Фрагі адкрыў наш зямляк — Аляксандр Ходзька. Чытаем у «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі»: «Ходзька (Барэйка) Аляксандр (30.8.1804, г. п. Крывічы Мядзельскага р-на — 27.12.1891). Паэт, фалькларыст, славіст, усходазнавец... Першы апісаў эпас пар Кёр-Аглы, вершы туркменскіх паэтаў Махтумкулі і Кемінэ, фальклор туркменаў і інш.». Праз гады да творчасці Махтумкулі, яе спасціжэння спрычыняюцца і новыя пакаленні. Махтумкулі перапўвасаблялі на беларускую мову такія майстры паэтычнага слова, майстры паэтычнага перакладу, як Максім Танк, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Артур Вольскі, Алег Лойка, Пятрусь Макаль і інш.*

*Яшчэ адзін «беларускі сцяжок» у сувязі з Махтумкулі — згадка пра яго ў «ашхабадскім дзённіку» Барыса Мікуліча. Толькі скінуўшы світку вязня сталінскага ГУЛАГа, наш зямляк прыходзіў у сябе, жывучы ў ашхабадскай кватэры роднай сястры. І, спатолены смагай па літаратуры, адкрываў для сябе класіка туркменскай паэзіі ў перакладах на рускую мову Шэнгелі. Пра што і напісаў у дзённіку...*

*Махтумкулі і сёння саграавае душу туркмена, прыцягвае да сябе ўвагу ўсяго свету. І гэта адбываецца не толькі таму, што адтуль, з глыбіні часін, прыйшоў у нашу свядомасць, каб расказаць пра сваю эпоху, толькі ён. Не, вядомасць маюць і іншыя імёны. Але ў выпадку з Махтумкулі адбылося нешта іншае, відаць, сонца перадалося толькі з яго радкамі, толькі з яго адкрыццямі, толькі з яго вершаванымі, філасофскімі высновамі. І сэрца сваё паэт праз выкладзеныя словы перадаў, падзяліў на ўсе наступныя пакаленні.*

*...Часам сустракаю ў Мінску туркменскіх студэнтаў. Зараз іх асабліва шмат вучыцца ў Беларусі. Недзе каля сямі тысяч юнакоў і дзяўчат. Авалодваюць самымі рознымі спецыяльнасцямі. І, канешне ж, гуляюць па вуліцах Мінска, знаёмяцца з нашым сталічным горадам. Здараецца завесці з кімсьці з іх размову. Называем адзін аднаму знаёмыя імёны пісьменнікаў. Гавару пра сучаснікаў, пра тых, хто нядаўна пайшоў з жыцця. Згадваю Керыма Курбанняпесава, Каюма Тангрыкуліева, Агагельды Аланазарава, Сейітніяза Атаева, Ашыра Назарава, Бібі Араздурдыеву, Атамурада Атабаева, Агагельды Аланазарава... Высвятляецца, што творы большасці з іх яны ведаюць, хаця і не філолагі, вучацца ў Мінску на ўрачоў, інжынераў, юрыстаў, эканамістаў... А вось літаратуру ведаюць нядрэнна. І калі ўжо згадаем імя Махтумкулі, то гэта гучыць зусім як пароль... Так нараджаюцца масты, так ствараюцца з'явы злучанасці, так адбываецца пераход з аднае эпохі ў другую. Менавіта дзякуючы класіцы, дзякуючы лепшым узорам прыгожага пісьменства. І Махтумкулі тут — яўны лідар, сапраўдны мост паміж эпохамі і паміж народамі.*

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

## БУДУЧЫНЯ ТУРКМЕНІІ

Абвеяна шыр ад хазарскіх краёў
Да гладзі Джайхуна вятрамі Туркменіі.
Уцеха вачэй маіх — ружа палёў
І плынь, што бруіцца з нагор'яў Туркменіі!

Стаіць прахалода ў туркменскіх садах!
І пасвяцца неры у стэпе; прапах
Прастор — зацвітае райхан на пясках;
Лугі увабраныя кветам Туркменіі.

Зноў перы ў зялёным сваім зазірне —
У твар дабрачыннага амбрай дыхне.
Народ з мудрацамі ў маёй старане,
Зямля ганарыцца сынамі Туркменіі.

Душа Гёр-аглы і па сёння жыве;
І колькі адвагі ў туркменскім ільве!
Ён сімвалам мужнасці стойкай слыве,
Пільнуючы гордую волю Туркменіі.

Плямёны жывуць тут адзінай сям'ёй,
Агульны абрус, як святкуецца той,
Высокая доля айчыны маёй, —
Растане граніт перад войскам Туркменіі.

Джыгіт гару здатны паглядам скарыць, —
Уздрыгне гара і рубінам гарыць.
Не воды, а мёд у разводдзе бурліць,
І вільгаць сябруе з палямі Туркменіі.

Туркмена знянацку не стрэне вайна;
Хвала яго славе ў стагоддзях чутна;
Тут ружы не вянуць — лягла не адна
На груд надмагільны паэтаў Туркменіі.

Братэрства тут — звычай, а дружба — закон
Для слаўных радоў і магутных плямён,
А бітвы пачуецца ярасны звон, —
Спалошыцца вораг прад войскам Туркменіі.

Куды б нас дарогі, туркмен, ні вялі,
Расступяцца горныя пікі зямлі.
Прабудзе з народам Махтумкулі,
Бо слова старэйшын — закон у Туркменіі.

## НЕПАХІСНАЕ

Аснова крэпкая у нас. І вечная яна.
Хай будзе вольнаю павек джыгітаў старана.

Прагонім ворага, калі ён з'явіцца з агнём.
Мы крэпасць духу узвялі — і продкаў памянём!

Сам Сулейман, Русцем, Джэмшыд ішлі на нас вайной,
Сто тысяч шах к нам слаў штодня — стаялі мы сцяной!

Айчына, як гара, калі падыме воін шчыт,
Яе не здужае ніхто, не зрыне у нябыт.

Цеке, йомуд, языр, гоклен — ідуць за строем строй —
І квецень юная садоў барвее ўслед зарой.

Кізілбаш* скінулі з хрыбцін на дно скалістых ям,
І днём, і ноччу скрушны стогн аддуль чуцён вятрам.

Не страшны ворaг, нат калі стаіць ля нашых сцен,
Такога слова, як «палон», не ведае туркмен.

А госці з'явяцца да нас — сустрэнем з дабрынёй, —
Туркмен не скажа лішніх слоў, рыхтуе пышны той.

Так кажа вам Махтумкулі, ты мудрасць паважай,
Прывеціў Бог яго з нябёс — цвіце ягоны край!

## КАХАНАЯ

Каханая мая мне даражэй жыцця,
Нібы сусвет увесь, стыхія пачуцця.

Ёй сэрца рад аддаць, ды шлях не знаны мне,
Я шчасце б там знайшоў — у роднай старане.

Каханую спаткаць, пачуць адно: «Не здрадзь!
За гэты грэх цябе магу і пакараць.»

Сіло — чарнеча кос — рыхтуе мне палон:
Душой і целам раб я да астачы дзён.

Калі ж з другім яна забыла аб табе,
На свеце мне не жыць, сканаю я ў журбе.

* Кізілбаш — туркменскае племя, якое прыняло шыіцкую секту іслама.

Аднак мінуць вясне — і ў горле даўкі ком:
Расплюшчыць вочы рад, ды заплылі свінцом…

А стрэнецца яна, спытаецца калі, —
«З Геркеза, — адкажы,— а зваць — Махтумкулі».

## ГОКЛЕН

Імчышся стэпам ты бязводным
Імклівей, чым кулан, гоклен;
У бой ірвешся львом галодным,
Твой гнеў — як ураган, гоклен!

З табою дабрыня Алаха,
Ніколі ты не ведаў страху,
Ты ворага век сек з размаху,
Непераможны ты, гоклен!

Не стане слава твая тленам,
Ты зрынеш ворага імгненна.
Прыйдзі, валодай зноў Гургенам:
Ён Богам дадзены, гоклен!

І дзень раз’ясніцца пахмуры,
Ты прыляціш хутчэй віхуры
І станеш правіць ў Нішапуры
На радасць мусульман, гоклен!

Руіны будуць Харасана
Нагамі коней патаптаны,
І далячынь Мазандзерана
Табе пакорыцца, гоклен!

Нябёсы морак не асмужыць,
Як волат Рума, станеш дужым,
Як воўк галодны, ў полі кружыш,
У сечах цешышся, гоклен!

Табе адвага сэрца грэе,
Дзяржава межамі шырэе,
І кроў кізылбаша барвее,
Ў Іран уступіш ты, гоклен!

Гляджу ў нябёсы я з мальбою,
Які прастор перад табою!
І скажа Фрагі: ў часе бою
Ты возьмеш Тэгеран, гоклен!

## ПТУШКА ШЧАСЦЯ

Дай птушку шчасця нам, чароўную хумай!
Туркмены бедныя, мы слёзы льём ракою.
Пачуй мяне, Алах, ратуй няшчасны край:
Нахабны кізылбаш зноў грозіць нам вайною!

У стэпах, там, дзе Хызр хадзіў, народ
Жыве няхай павечна з году ў год!
Хай знойдуць неры гнеўныя аплот,
Абрус для ўсіх уставяць хай ядою!

Хай разам дэрвішы здзяйсняюць свой намаз,
Харобрым воям хай адзін гучыць сааз.
Хай сыдзе вечная вясна на бедных нас,
Каб паквітацца нам з пакутнаю зімою!

Туркмены! Калі б мы у згодзе жыць змаглі,
Мы б асушылі Ніл, мы б на Гульзум прыйшлі.
Цеке, йомуд, гоклен, язык і алілі —
Ўсе пяць — павінны стаць адзінай мы сям'ёю!

## ФЕТТАХ

Іран і Туран пад тваёю рукой —
Святкуй, зневажаючы святасць, Феттах!
Ды памятай: кроў праліваеш ракой,
Туркмены змарнелі ў пустыні, Феттах!

Сягоння ты — шах, заўтра — бедны ізгой,
Пазбаўлены веры, айчыны сваёй.
І зрэнкі напоўняцца чорнай імглой,
Памрэш ты, узнесены пыхай, Феттах!

За слова маё закуеш ў кандалы,
Задушыш, прамовіўшы словы хулы,
Я праўду скажу, што чарней ад смалы:
Забойца, не здатны на літасць, Феттах!

Туркменскае гора і слёзы вакол,
Крывёю паліты мой горычны дол.
Галовы падымуцца — дзе твой прастол?
Не будзе яго і ў паміне, Феттах!

Народ мой паўстане, ужо акрыяў,
А ты на крыві сваю ўладу трымаў,
Ты хлеб наш надзённы з атрутай змяшаў,
Ў турме на чужыне загінеш, Феттах!

Жывём, бы ў цямніцы, па волі тваёй,
У ростані з годнасцю нашай людской,
У ростані з мовай пявучай сваёй,
І гінем у смерці віхуры, Феттах!

З каханымі нас разлучыў ты навек,
Пачулі нябёсы пра хіжасць і здзек.
Канае ў пятлі не адзін чалавек,
Сваіх жывадзёраў наняў ты, Феттах!

Пра тое гаворку вяду я з тугой:
Напіўся крыві ты удосталь, Феттах!
Жывы, а як мёртвы, стаю прад табой.
Пачуеш мяне, і заб'еш ты, Феттах!

## НЕЛІТАСЦІВЫ ЛЁС

Нелітасцівы лёс — самота, стынь.
Пасечана жыццё, як дрэва крона.
І вершы ўдалячынь панесла плынь,
Што столькі доўгіх год складаў натхнёна.

Спакойна мы жылі, не зналі бед,
Ды вось прыйшла бяда на цэлы свет.
Што я пісаў пяць год, — як першацвет,
Панішчыў вораг згублівым палонам.

Змірыўся хтосьці з доляю рабоў,
Дзяды згібелі, страціўшы сыноў.
І вораг нас пакінуць быў гатоў, —
Цану прызначыў кожнаму з праклёнам.

Бог і мяне ад ліха не ўбярог,
І я ад слёз няўцешлівых знямог,
Мае ўсе творы, што пісаў, як мог,
Пабраны часу бросняю зялёнай.

Выгнаннікамі стаць нам выпаў лёс,
Віхор жыцця ва ўсе бакі нас нёс,
Бязвінныя, пакутуем без слёз,
Знявечаныя зграяю шалёнай.

Гаворыць праўду вам Махтумкулі,
Цяжар і ганьба на душу ляглі.
Ўсміхнецца лёс ці ведама калі
І стане нам ад згубных бед заслонай?

## ШУКАЮ ПАРАТУНКУ

Я — раб любві, гоклен з Атрэка,
Адна ахвяра між ахвяр.
Шукаю у пустыні веку
Супакаення гойны дар.

Пагнаны у выгнанне лёсам,
Памерці ў скрусе не хачу.
Чужым павыстылым нябёсам
Свае малітвы я шапчу.

Браты мае за светам тужаць,
І аднагодак страціў зрок.
Адно плыве аблокаў кужаль,
Заступнік там адзін — Прарок!

Працята сэрца скутым болем,
З вачэй плыве-бруіцца кроў.
Не знаны мне спакой і воля,
Адно магіла прыме ў схоў.

О Сонгудаг, мой гонар знаны,
Крануўся я тваіх вяршынь.
Упаляваў я тут джэйрана,
І чорны змей тут збег у стынь.

Ды не канца тварэння свету, —
Паміж усіх зямных нягод
Шукаю шлях (сумленна гэта)
Табе да шчасця, мой народ!

## ДЗЕВЯЦЬ ГОД

Дзевяць год мы ў расстанні з табою, брат.
Дзе радзіму ты, мой Абдула, знайшоў?
Для цябе не закрыты шляхі назад.
Дзе радзіму ты, мой Абдула, знайшоў?

Я спытаў у гары: дзе вандроўнік мой?
Не сказала гара — стала ўміг нямой.
Як жа ты без радні на пуціне злой?
Дзе радзіму ты, мой Абдула, знайшоў?

Перад ростані спёкай — мы прах і тлен.
Я аслаб, не магу разагнуць кален.
У знямозе твой бацька, чакае змен.
Дзе радзіму ты, мой Абдула, знайшоў?

У зямных я істот запытаў: дзе брат?
Я ў краіне расстання знайшоў свой лад,
Мне крывавыя слёзы тубыльцаў — яд.
Дзе радзіму ты, мой Абдула, знайшоў?

Мне спакой між людзей не чуцён здавён,
І расце маё гора у плыні дзён.
Ты забыў аб краіне — яна, як сон.
Дзе радзіму ты, мой Абдула, знайшоў?

Злыя весткі мне мрояцца ў цішыні.
Ты самоту прынёс. Яна ў кожным дні.
Час мне кінуцца ў прорву, згарэць ў агні…
Дзе радзіму ты, мой Абдула, знайшоў?

Не блукаў ты па ўлонні сваёй зямлі,
Стаў чужым, на дасвецці вятры гулі.
Нема плача і кліча Махтумкулі:
Дзе радзіму ты, мой Абдула, знайшоў?

## РАНІШНЯМУ ВЕТРУ

Вецер, ранішні вецер! Слугой тваім стану! Скажы
Палоннаму брату: у percтані гасну. Скажы
Тым вачым, што ранай гаручаю сталі, скажы
Прыгажосці ягонай, высокаму стану скажы,
Матыльку акрылёнаму, беднаму хану скажы:

Як адбыцца магло, што пагас яго твар прада мной?
І чаму яго вочы агорнуты цемрай густой?
Ад зямлі адракуся, калі ён будзе ў далі нямой.
Так хваробы маёй відавочцу — Лукману скажы.

Ён прыслаў нам расстанне, пакінуў мясціны дзядоў,
Змучыў-зраніў душу і маўчанне на вусны навёў.
Рук узняць не магу, не знаходжу ад немачы схоў,
Я трывучасць згубіў, не знайду супакойлівых слоў,
Рэкі слёз праліваю — таму акіяну скажы.

Я дарогі не маю к прытульнай Каабе цяпер.
Без замкоў і ключоў горад горкага сэрца — павер,
Не ўзляцець мне без крылаў — брыду, як паранены звер,
І казны больш не маю, згубіў казначэя давер,
Ные памяць мая, зглададала — духану скажы.

Я схілюся прад Богам: хай будзе свабодным мой брат!
Бачыш слёзы мае, ім ніхто ў гэтым свеце не рад.
Пад пятою расстання спазнаў я адчаю пагляд.
Дзе ён, сябра Фрагі? Светы два зноў пачулі разлад.
Без яго нават праўда падобная зману — скажы.

## О СЛАЎНЫ ШЫРГАЗІ

Пад дахам жыў тваім — ты ветла прывячаў,
Мінула тры гады, о слаўны Шыргазі!
Тут зімы каратаў і вёсны тут страчаў…
Бывай, навукі дом, о слаўны Шыргазі!

Без ведаў сёння жыць — ісці у цёмны лес.
Ты прасвяціў мяне — бліжэй ступіў прагрэс.
Ды кліча дзень і ноч вярнуцца мой Геркез…
Бывай, навукі дом, о слаўны Шыргазі!

Цяпер вядома мне, дзе цемра, дзе святло,
Хто друг, хто вораг мой, што ёсць дабро, што зло.
Каран і мноства кніг другіх у мозг ўвайшло.
Бывай, навукі дом, о слаўны Шыргазі!

Віруе ува мне натхненне — зорны цуд!
Узбудзіць жаркі гнеў людской распусты бруд.
Духоўнай чысціні знямоглы прагне люд…
Бывай, навукі дом, о слаўны Шыргазі!

Ніхто прадбачыць лёс шчэ на зямлі не змог,
Ды я вярнуся зноў, калі не возьме Бог.
Чакае зноў мяне вярблюд — хадок дарог…
Бывай, навукі дом, о слаўны Шыргазі!

Перасяку пяскі пустыні, як плывец.
Узнёслых думак лад і мне пашле Тварэц,
Магчыма, зажыву як шчасця пасланец…
Бывай, навукі дом, о слаўны Шыргазі!

Мне ведаў чысціня, як горная бруя,
Зноў шлях перада мной, самотны зноўку я,
Бо страціў бацьку ўсё ж — Кааба дзе мая?
Бывай, навукі дом, о слаўны Шыргазі!

Як жыццядайны дождж, была мне мудрасць кніг,
Нібы марскі прастор перада мной узнік,
Я перасёк Джайхун — вяду дароў падлік…
Бывай, навукі дом, о слаўны Шыргазі!

Махтумкулі ўвесь бруд з душы сваёй адмыў,
З пашанаю заўжды настаўнікаў цаніў.
Ці ж залатых дзвярэй бліскоту ён забыў?
Бывай, навукі дом, о слаўны Шыргазі!

***Пераклад з туркменскай***
***Міколы МЯТЛІЦКАГА.***

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

# ІНТЭРМЕДЫЯЛЬНЫЯ СРОДКІ МАСТАЦКАГА ВЫРАЖЭННЯ Ў ТВОРАХ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Тэма чарадзейнага ўздзеяння мастацтва на свядомасць і ўспрыманне чалавека здаўна прысутнічае ў беларускай літаратуры, перайшоўшы ў яе з народнай паэтычнай творчасці. Гэта адзін з важнейшых аспектаў народнай эстэтыкі, якім характарызуецца адметнасць поглядаў на прыроду мастацтва як удзельнікаў фальклорнага працэсу, так і прафесійных творцаў, блізкіх па сваім светаўспрыманні да народнага. Генетычнай сувяззю дадзенай тэмы з фальклорнай традыцыяй можна вытлумачыць, мабыць, такую характэрную рысу, як асаблівую ўвагу многіх беларускіх аўтараў, якія звярталіся да тэмы мастацтва, да музычных вобразаў і матываў.

Выкарыстаная М. Багдановічам у якасці эпіграфа цытата з П. Верлена — «Музыка перш за ўсё» — паўстае ў кантэксце беларускай літаратуры пачатку ХХ стагоддзя не толькі крэдам паэтаў-імпрэсіяністаў, але і як абазначэнне аднаго з асноўных тэматычных прыярытэтаў маладой нацыянальнай літаратуры, звязанага з наследаваннем фальклорных традыцый. Музычныя вобразы і матывы шырока распаўсюджаны ў беларускім фальклоры. У новай беларускай літаратуры перыяду яе класічнага станаўлення яны выступалі ў трансфармаваным выглядзе, у суаднесенасці з мастацкімі задачамі, якія вырашаліся аўтарамі на дадзеным этапе.

Музычная тэма ў фальклоры, а затым у літаратуры, безумоўна, пераважала над іншымі тэмамі, у якіх выяўляюцца адносіны чалавека да мастацтва. Гэта цалкам пацвярджаецца творчасцю нашых класікаў («Курган» Я. Купалы, «Сымон-музыка» Я. Коласа і інш.). М. Багдановіч таксама пачынаў з распрацоўкі традыцыйнага вобраза музыканта як выразніка народнага духу, калектыўнага эстэтычнага самаўсведамлення. Паказальным у гэтым сэнсе з’яўляецца тое, што першы, апублікаваны ім у «Нашай ніве», твор — гэта апавяданне «Музыка» (1907), па сутнасці, аўтарская варыяцыя аднаго з найбольш распаўсюджаных у народнай творчасці вобразаў, праз які якраз праламляецца матыў чарадзейнасці мастацтва, яго незвычайнай сугестыўнай і духоўна накіравальнай сілы.

У паэтычнай творчасці самога М. Багдановіча, які быў прыхільнікам рытмічна ўпарадкаванай, строга акрэсленай вершаванай формы, гукавая прырода слоўнага мастацтва выяўляецца надзвычай выразна. Разам з тым выключнае значэнне надавалася ім таксама і сферы выяўленча-выразнага ўвасаблення, пластычнасці і візуальнай успрымальнасці вобразнай сістэмы.

Паказальнай у гэтым плане з’яўляецца назва аднаго з цэнтральных раздзелаў паэтычнай кнігі М. Багдановіча «Вянок» — «Малюнкі і спевы». Яна дае ў наглядным выглядзе канцэпцыю ўзаемадзеяння гукавога і выяўленча-пластычнага аспектаў літаратурнай творчасці, цэласнага ўспрымання аўтарскага выказвання ў яго вобразнай увасобленасці.

Максім Багдановіч адзін з першых беларускіх аўтараў, у творчасці якіх быў задзейнічаны ў пэўнай ступені прыём экфрасісу, апісання паэтычнай мовай асобных прадметаў і з’яў мастацтва. Ён даволі часта звяртаўся ў сваіх вершаваных і празаічных творах да тых або іншых артэфактаў, што можна патлумачыць агуль-

най зацікаўленасцю сферай культуры, феноменам мастацтва. Своеасаблівасць прадстаўлення артэфактаў у творах М. Багдановіча ў тым, што яны звычайна не суправаджаюцца падрабязным, разгорнутым апісаннем. Іх апісанне, г. зн. непасрэдна экфрасіс, з'яўляецца пераважна сціслым. Яно мае на мэце не шматбаковае выяўленне прадмета, а перш за ўсё падкрэсліванне яго характэрных, знакавых прыкмет.

Апісаныя М. Багдановічам артэфакты могуць выконваць у мастацкай сістэме твора значную ролю, з'яўляючыся яго сюжэтным і канцэптуальным цэнтрам. Паказальны прыклад такога змястоўнага выкарыстання — «Апавяданне аб іконніку і залатару...». Мастацкія творы, пра якія тут вядзецца гаворка, нясуць значную семантычную нагрузку, непасрэдна ўплываючы на выражэнне героямі, а таксама і аўтарам, іх адносін да важнейшых пытанняў мастацкай творчасці. У своеасаблівым дыспуце на эстэтычную тэму, які распачынаюць за сяброўскай гутаркай два паважаныя віленскія майстры, агульныя разважанні пра мастацтва падмацоўваюцца зваротам да канкрэтных прыкладаў. Тут, несумненна, сказваецца схільнасць самога аўтара да аналогій, да нагляднага прадстаўлення ідэй праз іх уключанасць у сістэму рэальных узаемаадносін прадметнага свету.

Мастацкі свет М. Багдановіча заўжды насычаны рэаліямі, вобразнымі выявамі, ён паўстае як цэласнае спалучэнне матэрыяльнага і духоўнага бакоў быцця. «Апавяданне аб іконніку і залатару...», у якім узнаўляюцца духоўная атмасфера і побытавае жыццё сярэднявечнага горада, «слаўнага места Віленскага», змяшчае ў сабе мноства падрабязнасцей, дэталей, якія выступаюць як адзнакі гістарычнага часу.

Час дзеяння суадносіцца апавядальнікам з характэрнымі прыкметамі пэўнай гістарычнай эпохі. Згадванне на пачатку расповеду такіх акалічнасцей, як змяншэнне «ў двакроць» падатку «на соль простую і ледаватую», як прывілей на прыгатаванне перад Хрыстовым нараджэннем піва, «ні капшызны, ані васковага да скарбу не плоцячы» [2, с. 60], адразу ўводзіць чытача ў абставіны месца і часу.

У творы выяўляецца некалькі ўзаемна суадносных матываў, якія ўплываюць на аўтарскую канцэпцыю. Перш за ўсё гэта матыў майстэрства, які мае вялікае значэнне для ўсёй творчасці М. Багдановіча. На пачатку апавядання робіцца акцэнт на тым, што перад намі менавіта ***майстры***, якія выдатна ведаюць сваю справу і паважаныя ў сваім асяроддзі. Апавядальнік падрабязна апісвае працэс творчасці сярэднявечнага жывапісца-іконніка, які вучыцца маляваць выявы святых, «фарбы кволыя на дашчэчках кляновых, гладка выструганых і крэйдай загрунтаваных, з малітвай у сэрцы накладаючы» [2, с. 60].

Майстэрства мастака ў любой сферы дзейнасці звязана найперш з дасканалым валоданнем тэхнікай, з уважлівым стаўленнем да мастацкай формы — у гэтым творчае крэда М. Багдановіча. Менавіта гэтымі якасцямі валодаюць героі яго апавядання.

Другі матыў як быццам далёкі ад сферы эстэтычнага, ён больш прыземлена-прагматычны. Аднак ён, тым не менш, несумненна звязаны з матывам майстэрства. Гэта апеляцыя да фінансавага боку мастацкай творчасці, да таго, што з'яўляецца пацвярджэннем сацыяльна-практычнай вартасці твораў мастацтва.

Дадзены матыў праходзіць праз увесь тэкст твора ад самага яго пачатку. Мы памятаем, як у пачатку аповеду згадвалася пра «мыта салянічае». Гэта зусім не выпадковая дэталь, таксама як і тая акалічнасць, што дзеянне адбываецца ў краме. Гаспадар ювелірнай крамы залатар Корж называецца «заможным крамарам». Вырабляючы ювелірныя рэчы (ён называецца апавядальнікам таксама і *майстрам*), ён сам займаецца іх продажам. Гандлюе ён, мабыць, не толькі сваімі ўласнымі вырабамі, наколькі можна меркаваць, зыходзячы з таго, што дзеля прыкладу, залатар параўноўвае дзве рэчы, адну з якіх ацэньваючы значна ніжэй. Мабыць, усё ж да ўласнага твора ён бы так не адносіўся.

Пры характарыстыцы іканапісца Рамана Якубовіча апавядальнік таксама не забывае згадаць пра фінансавае становішча гэтага персанажа. Распавядаючы пра

яго перадгісторыю, апавядальнік падкрэслівае, што, авалодаўшы прафесіяй, стаўшы майстрам, той «усягды цяпер заработак меў» [2, с. 60—61].

Цікава, што прафесійны статус суразмоўцаў вызначаецца апавядальнікам якраз у супастаўленні са шкалой вартасцей матэрыяльнага характару. На думку апавядальніка, уладальнік крамы, запрашаючы ў госці Якубовіча, пэўным чынам сыходзіў да яго, паколькі «ведама, іконнік залатару раўнёй быць не можа і таксама ад яго розніцца, як, прымерам кажучы, фарба трохграшовая ад золата угорскага, у агні пяць разоў ачышчанага» [2, с. 61].

Апавядальнік, а ў дадзеным выпадку ён з’яўляецца выразнікам пазіцыі аднаго з герояў — залатара Каржа, зыходзіць з даўняй традыцыі ўспрымання мастацтва перш за ўсё як рамяства, у якім найбольш цэніцца яго прыкладное значэнне. Жывапіс, як від мастацтва, які не меў такога значэння, знаходзіўся на ніжэйшай прыступцы ў іерархіі мастацкай дзейнасці сярэднявечнага чалавека. Таму ў пэўнай ступені паблажлівыя адносіны гаспадара да свайго госця, павучальны тон гаворкі цалкам вытлумачальныя з гістарычнага пункту гледжання.

У размове двух віленскіх майстроў, якая прымае форму своеасаблівага сярэднявечнага дыспуту, залатар выказвае погляды на мастацтва, якія ў большай ступені адпавядаюць павевам новага часу, чым даволі рэтраградныя погляды іконніка, які цвёрда трымаецца «старасвецкіх звычаяў». З самага пачатку гутаркі выяўляюцца адзнакі часу, да якога адносіцца дзеянне. Гэта эпоха Адраджэння, час кардынальных змен у светабачанні і светаадчуванні сярэднявечнага чалавека.

Перш чым выказаць свае засцярогі супраць новаўвядзенняў у жывапісе, іконнік Раман Якубовіч згадвае імя Сальватора Розы, майстра, які нібыта прыехаў «да нашага краю з зямлі Італійскай» [2, с. 61]. Дзейнасць выдатнага італьянскага мастака эпохі Адраджэння звязваецца, такім чынам, па волі аўтара, з беларускай зямлёй. Мы маем тут справу менавіта з аўтарскім вымыслам, паколькі якіх-небудзь фактаў, што сведчылі б пра сувязь С. Розы з Беларуссю, тым больш пра яго працу па аздабленні полацкіх цэркваў, не існуе. Буйнейшы прадстаўнік мастацтва барока ў XVII ст., С. Роза ўсё жыццё пражыў у роднай Італіі, працуючы ў Рыме, Неапалі і Фларэнцыі, адмовіўшыся ў свой час ад запрашэнняў працаваць мастаком пры дварах Францыі, Аўстрыі і Швецыі. Да таго ж С. Роза наогул не займаўся роспісам храмавых збудаванняў. Іконнік Якубовіч, праўда, робіць агаворку, што звесткі яго не вельмі пэўныя: «чуткі да мяне дайшлі... быццам...» [2, 61].

Што ж падштурхнула М. Багдановіча звярнуцца ў сваім апавяданні да вобраза менавіта гэтага мастака? Перш за ўсё можна выказаць меркаванне, што патрабавалася згадаць імя менавіта ***італьянскага*** мастака, паколькі радзімай і Адраджэння, і адраджэнскага жывапісу з’яўляецца Італія. Невыпадковым, мабыць, быў выбар і канкрэтнага мастака. Сальватор Роза быў асобай шматграннай, талент яго праявіўся ў розных відах мастацтва, што было наогул характэрна для той эпохі. Ён быў не толькі жывапісцам, але і гравёрам, паэтам, музыкантам. З’яўляўся аўтарам сатыр, напісаных тэрцынамі, у якіх закраналіся пытанні літаратуры і мастацтва. Пісаў оды, кантаты і канцоны, некаторыя з якіх былі пазней пакладзены на музыку італьянскімі кампазітарамі. Сам іграў на лютні. Выконваў ролі ў сваіх драмах.

Шматстайнасцю вызначаўся жывапіс С. Розы. Мастак працаваў у жанрах пейзажа, партрэта, батальнага жывапісу, пісаў палотны на гістарычныя, біблейскія і міфалагічныя тэмы. Іконнік Якубовіч належным чынам ацэньвае майстэрства замежнага мастака («у працы рупны і здольны...») [2, 61]. Заўважым, што ў гэтым ён салідарны з аўтарам, для якога, яшчэ раз падкрэслім, вельмі многае значыць менавіта *рупнасць*, настойлівасць у дасягненні мастацкай (і з боку тэхнікі таксама) дасканаласці.

Аднак шчыраванні італьянскага мастака і яго вучняў, на думку іконніка, скіраваны не ў правільным кірунку. «Старыну ў маляванні гэтым рухаючы, а навіны ўводзячы» [2, с. 61], С. Роза парушае заведзеныя ад веку правілы, паводле якіх

павінны ствараецца творы сакральнага мастацтва. Якубовіч апелюе да калектыўнай думкі, да меркаванняў на гэты конт людзей, «у старыне цвёрдых». Такім чынам, развагі і сумненні іконніка закранаюць адну з найважнейшых для ўсіх часоў існавання мастацтва праблему — традыцый і наватарства.

«Аб красе толькі дбаючы, а на збаўленне душы сваёй забыўшыся», мастакі новай эпохі, як мяркуе іконнік Якубовіч, ігнаруюць усталяваныя здаўна традыцыі, уносячы зусім непатрэбныя, на яго погляд, навацыі. Ён успрымае надыходзячыя змены ў мастацтве толькі з пункту гледжання сваёй прафесіі і яе канонаў і таму бачыць у іх выключна негатыўны сэнс. Чалавек сваёй эпохі, пераходнага часу, калі адбывалася карэнная ломка ранейшых уяўленняў пра межы і магчымасці мастацтва, ён не можа ўсвядоміць сапраўднага маштабу змен і іх гістарычнага значэння.

Іконніка Якубовіча непакоіць, што прадметам увасаблення ў сучасным яму жывапісе становіцца ўся шматстайнасць быццёвых і нават побытавых з’яў, што мастакі (і ў гэтым сэнсе іх, безумоўна, немагчыма называць уласна іконапісцамі) «людзей усякіх, нават роду паспалітага, а таксама і рэкі, бары і лугі і шмат чаго іншага малююць» [2, с. 61]. Тут звяртае на сябе ўвагу, дарэчы, згадванне пра людзей *роду паспалітага*, як несумненная аўтарская адсылка да мовы, якой карысталася эпоха Адраджэння і, у прыватнасці, да лексікону Ф. Скарыны.

Для Рамана Якубовіча, звыклага да канонаў сярэднявечнага сакральнага мастацтва з яго пераважнай увагай да ідэалізаванага і абагульненага, існаванне якіх-небудзь іншых падыходаў уяўляецца немагчымым. Адносіны да партрэта ў Сярэднія вякі былі своеасаблівымі. Іх наогул называюць нават «незнаёмым з партрэтам тысячагоддзем» [5, 23]. Аднак гэта, як адзначае даследчык сярэднявечнай культуры А. Гурэвіч, зусім не сведчыла пра «няўменне» і «неназіральнасць» жывапісцаў, іх няздольнасць перадаць у вобразнай форме партрэтныя рысы чалавека. Партрэтнае падабенства іх твораў было абмежавана імкненнем увасобіць «звышпачуццёвае за кошт рэальных асаблівасцей асобы» [4, с. 144].

Індывідуальныя характарыстыкі асобы, яе чалавечая непаўторнасць выходзяць на пярэдні план у выяўленчым мастацтве ў час Адраджэння, паколькі гэта адпавядае светапоглядным устаноўкам новай эпохі. Менавіта ў такой сітуацыі пераарыентацыі мастацкіх і светапоглядных прыярытэтаў, пераацэнкі каштоўнасцей і знаходзяцца, як паказвае М. Багдановіч, беларускія майстры.

Іконнік Якубовіч ставіць пытанні, якія яго хвалююць і трывожаць, выказвае сумненні адносна мэтазгоднасці і правамернасці новаўвядзенняў. Яму разважна адказвае залатар Корж, не так аспрэчваючы пазіцыю апанента, як абгрунтоўваючы сваю ўласную. Разважнасць, спакой, упэўненасць у сабе і перакананасць у сваіх поглядах — усе гэтыя праявы характару залатара аказваюць, па ўсёй бачнасці, не меншае ўздзеянне на яго суразмоўцу, чым прыводзімыя ім аргументы.

Зазначыўшы, што ён больш кампетэнтны ў іншай сферы мастацтва, Антон Корж усё ж рашаецца паразважаць над праблемамі, якія закрануў яго госць. Перш чым прыступіць да аргументацыі сваіх поглядаў, ён выказвае думку аб тым, што не варта ставіцца адмоўна да новага толькі на той падставе, што яно новае. «Бо ўсё тое, што цяпер навіною завецца, праз час які старыною мае быць, для людзей усіх станаў — звыклай, а ўшанавання і абароны годнай» [2, с. 62]. Дадзенае агульнае меркаванне залатар пацвярджае ўласным вопытам, набытым ім у падарожжах па замежных краінах. Там не з’яўляецца навіной тое, што для іконніка здаецца нечуваным і непрымальным.

Затым ад агульных разважанняў залатар пераходзіць да прыкладаў, што прызначаны падмацаваць іх. У дадзеным выпадку аўтар зноў надзяляе героя ўласнымі схільнасцямі. Залатар, каб выразна давесці суразмоўцу сваю думку, прыбягае да прыёма аналогій. Гэтым жа прыёмам у сваіх паэтычных творах актыўна карыстаецца і сам аўтар, раскрываючы закладзены ў творы ідэйны змест праз выяўленне сімвалічнай сутнасці прадметных вобразаў.

Каб наглядна паказаць перавагу дасканала выкананага ў мастацкіх адносінах твора над творам невысокай мастацкай вартасці, залатар Корж звяртаецца да блізкіх яму паводле яго прафесіі аналогій. Ён дае для агляду суразмоўцу дзве сярэбраныя ліхтарні, заўважаючы пры гэтым, што «адна з іх у семкроць болей другой каштуе, бо аздоблена з умеласцю надзвычайнай» [2, с. 63]. Зноў узнікае выразна артыкуляваны матыў непасрэднай ацэнкі мастацкага плёну, суаднясення шкалы эстэтычнай вартасці з прынятымі ў сацыяльнай практыцы вымярэннямі значнасці і каштоўнасці створанага.

Галоўная думка Антона Каржа не пра матэрыяльную выгаду, якую можна атрымаць з-за розніцы ў кошце прадметаў ужытковага мастацтва, а пра мастацкую каштоўнасць дасканала выкананага твора, якая ў пэўным сэнсе можа быць выражана і ў канкрэтных лічбах. Два паняцці ў яго развагах — ***кошт*** у намінальным яго значэнні і ***каштоўнасць*** як эстэтычная катэгорыя — не падмяняюць адно аднаго, але і не ўспрымаюцца як цалкам несумяшчальныя, антаганістычныя.

Вуснамі майстра Каржа гаворыць сама эпоха Адраджэння з яе ўвагай да практычнага боку дзейнасці чалавека, да падрабязнасцей побыту. У вусны майстра аўтар укладае і свае запаветныя думкі аб тым, што «толькі здольнасць і ўлежнасць» мастака «могуць малюнку хвалу і каштоўнасць надаць» [2, с. 62], што «каштоўнасць вырабаў прыгожых адно толькі праз красу іх форм узрастае» [2, с. 63].

У «Апавяданні аб іконніку і залатару...» няма падрабязных апісанняў артэфактаў. Яны, па сутнасці, толькі называюцца. Таму немагчыма гаварыць пра экфрасіс у поўным сэнсе гэтага слова. Ён нібы толькі намячаецца ў згадванні пейзажных і партрэтных кампазіцый, якія, па словах іконніка, атрымоўваюць распаўсюджанне ў жывапісе.

Дакладна невядома, ці быў М. Багдановіч знаёмы з творамі С. Розы. Хутчэй за ўсё ён меў пэўнае ўяўленне пра творчую манеру мастака, ведаў яго палотны хоць бы па рэпрадукцыях. На гэту думку наводзіць стылёвая адметнасць творчасці італьянскага майстра, наяўнасць у ёй прыкмет, якія маглі зацікавіць М. Багдановіча.

Мабыць, беларускаму паэту быў блізкім даволі своеасаблівы каларыт палоцен С. Розы, на якіх пераважаюць цьмяныя фарбы, паўстае кантраснасць святла і ценю. Прыцягальнымі маглі аказацца для М. Багдановіча і тэматычная разнастайнасць жывапісных твораў С. Розы, яго майстэрства ў выяўленні сюжэтных калізій, партрэтных характарыстык. Яскрава прадстаўляе дух часу «Аўтапартрэт» С. Розы, на якім выразна праступаюць энергічныя рысы чалавека адраджэнскага кшталту. Адным з істотных кампазіцыйных кампанентаў гэтага твора з'яўляецца табліца з надпісам на лацінскай мове: «Або маўчы або гавары тое, што лепш маўчання».

Увядзеннем у кампазіцыю твора вербальнага элемента акцэнтуецца ўвага на шырокім творчым дыяпазоне аўтара, у прыватнасці, на тым, што перад намі не толькі жывапісец, але і мастак слова. Дадзены філасофскі афарызм, маючы ўніверсальны сэнс, суадносіцца ў першую чаргу са сферай слоўнага мастацтва.

Як бачым, у якасці «закадравага» персанажа М. Багдановічам выбраны тып мастака, духоўна і эстэтычна блізкі аўтару. Гэтым самым ускосна пацвярджаецца, на чыім баку знаходзіцца аўтар, чые погляды на мастацтва ён падзяляе.

У творах М. Багдановіча ўсё ўзаемаабумоўлена, у іх не сустрэнеш выпадковых, не звязаных з агульнай задумай і мастацкім цэлым, падрабязнасцей і дэталей. Невыпадковым хутчэй за ўсё быў і выбар у якасці прыкладу для довадаў залатара менавіта ліхтарняў. Апрача таго, што гэта рэчы, якія непасрэдна адносяцца да яго прафесійнай дзейнасці і аказваюцца якраз пад рукой у патрэбны момант, яны маюць, безумоўна, і пэўнае сімвалічнае значэнне. Яны пэўным чынам звязаны з агульнай сістэмай «святлаценевых» вобразаў М. Багдановіча.

У апавяданні «Шаман» вельмі яскрава праяўляюцца экспрэсіўныя магчымасці гэтай вобразнай сістэмы. Вялікае значэнне мае характэрны для пісьменніка

спосаб стварэння каларыту, заснаваны на передачы кантрасных узаемапераходаў святла і ценяў, сумяшчэнні агнёў і змроку. Экспазіцыйны малюнак пабудаваны на пералівах і адлюстраваннях начнога асвятлення. Гэта і святло месяца, якое «залацістым стаўпом» кладзецца «на люстраную гладзь шырокай Волгі», і «сігнальныя ліхтарні» парахода, і нават святло ад «запаленай сярнічкі», якое асвятляе твар і далоні чалавека, які прыкурвае папяросу.

Вось, напрыклад, як імпрэсіяністычна, маляўніча ствараецца дынамічны малюнак водбліскаў месячнага «стаўпа» на рачной вадзе: «Ён увесь дрыжыць, зыбаецца, пераліваецца агнямі і, папаўшы раптам пад хвалі, узнятыя параходам, шырыцца, драбіцца і доўга цягнецца светлым следам за нашай кармой» [2, с. 64]. Ліхтарні (ліхтары) і на параходзе, і на рачным узбярэжжы займаюць у гэтай карціне начнога падарожжа па Волзе значнае месца.

Патрэбна заўважыць, што гэты прадмет атрымоўвае ў мастацкім свеце М. Багдановіча яшчэ і дадатковае, канататыўнае значэнне, з’яўляючыся адной з істотных прыкмет гарадскога побыту. Характэрна, што вобраз ліхтарняў паўстае ў кожным другім вершы з цыкла «Места» ў кнізе «Вянок». У дадзеным выпадку відавочна, што гэтыя вобразы ў цыкле выконваюць не толькі адпаведную паэтычна-экспрэсіўную функцыю, але з’яўляюцца таксама і знакамі ўрбаністычнага асяроддзя.

У вершы «Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць…» і ў санеце «У Вільні» вобраз ліхтарняў (у дадзеным выпадку — вулічных ліхтароў) зліваецца з многімі іншымі адзнакамі вялікага і шумнага горада. Візуальныя і аўдыяльныя вобразы-ўражанні ўтвараюць шматзначнае, шматслойнае адзінства, якое рэпрэзентуе напружанае, дынамічнае жыццё горада. Ззянне і грукат, якія выступаюць вызначальнымі рысамі агульнага вобразнага шэрагу ў першым жа радку верша «Вулкі Вільні...», антанімічна суадносяцца з супрацьлеглымі па значэнню вобразамі — цемрай і цішынёй, якія стаіліся літаральна побач («А завернеш ў завулак — ён цесны, крывы; цёмны шыбы глухіх, старасвецкіх будынкаў...») [1, с. 96].

Як кантрасна вылучаецца на фоне цемры святло, так і гукі асабліва выразна ўспрымаюцца ў цішыні. Гэтая асаблівая рэзананснасць мастацкай прасторы, яе насычанасць кантрастамі ў вершы амаль што фізічна адчувальныя. «Гук хады адзінокай», «мерныя ўдары звана» прадстаюць як *асабіста* перажываемыя суб’ектам лірычнага выражэння ў вершы, як успрымаемыя ім непасрэдна — тут і цяпер. І разам з тым яны быццам належаць таксама і іншаму часу, далёкай мінуўшчыне. Адбываецца як бы разваенне лірычнага героя, які, звярнуўшы з людных гарадскіх вуліц, трапляе не толькі ў іншае прасторавае вымярэнне, але і ў іншы час.

«Ўспамяні, маё сэрца, даўнейшыя дні!..», — гаворачы так, ён звяртаецца не столькі да агульнай гістарычнай памяці, як да свайго асабістага душэўнага вопыту. І адразу пасля гэтай фразы перад унутраным зрокам героя разгортваецца карціна эпічнага кшталту:

> Па загаду бурмістра усе, як належа,
> Зачынілі ўжо вокны; загасілі агні...
> Варта вулкай прайшла... [1, с.96].

Выяўленая ў гэтым фрагменце сітуацыя амаль літаральна паўтараецца ў канцы «Апавядання аб іконніку і залатару...»: «Але ўжо ноч настала, і варта па вулках ішла, усім загадываючы, з наказу пана войта, агні гасіць і дзверы зачыняць» [2, с. 63]. Падобныя тэкстуальныя сыходжанні ў паэтычным і празаічным дыскурсе сведчаць пра тэматычнае адзінства ўсёй творчасці пісьменніка, пра структурную спалучанасць пэўных канцэптуальна значымых адзінак аповеду.

Як бачым, некаторыя моманты апісальнага і наратыўнага характару ў вершаваных і празаічных творах М. Багдановіча аказваюцца зблізканымі. Да падобнага шэрагу патрэбна аднесці і згаданыя вышэй *ліхтарні*. Несучы ў сабе пэўныя

агульнапрызнаныя значэнні, гэта дэталь выконвае адпаведныя мастацкай задуме функцыі, семантычна звязваецца з тымі азначваемымі, якія ўтвараюць цэласнасць твора як закончанага мастацкага выказвання.

Калі ў «Апавяданні аб іконніку і залатару» ліхтарні найбольш непасрэдна звязаны з галоўнай тэмай твора, то ў «Шамане» сувязь падобных вобразаў з тэмай апавядання — роздумам аб красе і яе месцы ў светабачанні чалавека — падаецца даволі аддаленай. Аднак, тым не менш, яна ўсё-такі адчувальная. Пры вызначэнні ролі, якую выконвае ў кожным з дадзеных кантэкстаў вобраз ліхтарні, ёсць сэнс звярнуцца да класіфікацыі наратыўных адзінак, распрацаванай Р. Бартам.

Французскі семіёлаг вылучаў, па-першае, функцыянальнае значэнне наратыўных адзінак тэксту, якое праяўляецца ў іх непасрэдным уздзеянні на сюжэт, і, па-другое, іх здольнасць абазначаць пэўныя прыкметы, адзнакі, якія ўласцівы аповеду. На яго думку, менавіта вылучэнне дзвюх асноўных разнавіднасцей наратыўных адзінак («Функцый» і «Прыкмет», як умоўна абазначае іх даследчык) «робіць магчымай пэўную класіфікацыю апавядальных тэкстаў» [3, с. 397]. Выяўленне прыкмет таксама мае ў апавядальнай структуры істотнае значэнне, яны «дапамагаюць раскрыць характар персанажа, яго эмацыянальны стан, абмаляваць атмасферу, у якой разгортваецца дзеянне» [3, с. 399].

Святло ліхтарняў у «Шамане» М. Багдановіча з’яўляецца не толькі адзнакай краявіду; значэнні гэтага вобраза як наратыўнай адзінкі тэксту ўступаюць ва ўзаемадзеянне з іншымі семантычнымі ўзроўнямі апавядальнай структуры. Хоць апасродкавана, аднак гэты вобраз прымае ўдзел у раскрыцці галоўнай тэмы твора, і перш за ўсё тым, што ўваходзіць у склад апазіцыі *святло — цемра*.

Супрацьстаянне святла і цемры праходзіць лейтматывам праз увесь твор, у многім вызначаючы экспрэсію аповеду. І ў аўтарскім слове, і ў маўленні персанажа сутыкненне гэтых дзвюх стыхій, іх актыўнае ўзаемадзеянне ўспрымаюцца як праявы эстэтычнага. Мы ўжо згадвалі пра маляўнічую экспрэсіўнасць апісанняў навакольнага, якімі пачынаецца аповед. Тыя ж матывы, і ў прыватнасці прыгажосці агнёў, ззяючых на начной Волзе, выяўляюцца і ў маўленні персанажа — выпадковага спадарожніка, з якім сустракаецца на параходзе апавядальнік. Па-сутнасці, гэты персанаж успрымаецца тут як *alter-ego* апавядальніка (а ў пэўным сэнсе абодва яны блізкія да пазіцыі самога аўтара).

«Ды і краса ж тут! Здаецца, нідзе такой красы няма. Глядзіце, як светла — быццам чырвонае золата зыбаецца на рацэ»[2, с. 65] — не можа стрымаць сваіх пачуццяў «падарожны», развагі-ўспаміны якога і складаюць сюжэтнае ядро твора. Яго маналог — гэта прагавораныя ўслых запаветныя думкі, якія, відаць па ўсім, даўно яго турбавалі, і цяпер, супаўшы на часе з адпаведным эмацыйным настроем і абстаноўкай, адрасуюцца сустрэтаму ў дарозе суразмоўцу. Размова спадарожнікаў, сапраўды, у большай ступені нагадвае маналог, паколькі гаворыць у асноўным адзін з іх. Такая размеркаванасць роляў паміж суразмоўцамі блізкая да той, якую мы назіраем і ў «Апавяданні аб іконніку і залатару...».

Структурнае падабенства наратыўных планаў двух разглядаемых апавяданняў М. Багдановіча звязана, як нам уяўляецца, і з індывідуальнымі асаблівасцямі паэтыкі аўтара, і з пэўнай тэматычнай скіраванасцю, агульнай для гэтых твораў. Калі ў «Апавяданні аб іконніку і залатару...» у цэнтры ўвагі праблема майстэрства як крытэрыю вызначэння мастацкай вартасці твора, то ў «Шамане» на першы план выходзіць некалькі іншая праблема — выяўлення ролі эстэтычнага ў экзістэнцыі чалавека як сродку пераадолення жаху быцця. Гэта значыць, у першым выпадку эстэтычнае (краса) разглядаецца пад вуглом гледжання сацыяльнай праблематыкі, а ў другім — філасофскай. Але ў абодвух выпадках успрыманне і разуменне прыгожага паўстае як дамінуючая тэма аповеду.

У адрозненне ад даволі ідылічнага развіцця тэмы ў «Апавяданні аб іконніку і залатару...», у «Шамане» пануе іншая атмасфера, якую можна ахарактарызаваць як драматычную (дзеянне наогул заканчваецца трагічным эпізодам — гібеллю

людзей). Напружаная драматычнасць заключаецца ў самім проціпастаўленні святла і цемры, якое ў нацыянальнай мастацкай традыцыі атрымоўвае сімвалічнае значэнне, пераносіцца з прыроднага асяроддзя на з'явы сацыяльныя. У дадзеным жа выпадку, як было ўжо адзначана, актывізуюцца яшчэ і філасофска-эстэтычныя значэнні гэтай антыноміі.

Спадарожнік апавядальніка так і застаецца з-за выпадковасці і эпізадычнасці сустрэчы, невядомым, не названым па імені, яго аблічча ў цемры праглядаецца смутна і невыразна, асвятляючыся толькі на імгненне ўспышкаю «запаленай сярнічкі». У канцы твора ён так успрымаецца апавядальнікам: «як чорная мара, стаяў ён перада мною, а чырвоны кончык папяроскі ў яго руцэ рабіў сярэдзь цёмнага паветра шырокія агнявыя кругі» [2, с. 69]. Сустрэча з гэтым чалавекам, з яго цікавымі і арыгінальнымі думкамі, паўстае раптоўным праблескам у жыцці апавядальніка, асвятляючы на імгненне глыбінныя таямніцы чужой душы.

Ад выказванняў непасрэдных уражанняў ад загадкавай красы навакольнага, у якіх ён бачыцца натурай паэтычнай, чалавекам, здольным да тонкага эстэтычнага ўспрымання («А вада-то ў Волзе густа-цёмная, і ад усяго гэтага святла па ёй залатыя кругі разбягаюцца, драбяцца, блутаюцца; днішчы параходаў нібы агнявымі водараслямі абрастаюць...» — так паэтычна перадае ён свае адчуванні), падарожны пераходзіць да роздумаў аб тым, якім чынам выпрацавалася ў чалавеку на працягу прамінулых тысячагоддзяў пачуццё прыгожага, якія фактары спрыялі яго зараджэнню.

На яго думку, фарміраванне ў старажытнага чалавека пачуцця красы было абумоўлена перш за ўсё імкненнем пазбавіцца ад усепаглынальнага экзістэнцыйнага страху перад быццём. Каб паказаць, што ў свеце побач з красой і гармоніяй існуе і пачварнае, застрашлівае, ён прыводзіць у прыклад свой побыт на поўначы, у Нарымскім краі. «Цяжкае і прыкрае там жыццё. А іншы раз нават страшна зробіцца, — так ясна бачыш усю сваю бяспомачнасць перад суровай зямлёй» [2, с. 66].

«На працягу доўгіх тысяч лет» адбывалася развіццё чалавека, «перарабляўся ён, падвышаў свой розум, — а разам з тым павінна была расці ў яго душы бяскрайняя, трывожная нуда, бо зямля наша сувора, жорстка, невясёла, і так няцвёрда на ёй існаванне чалавека» [2, с. 66—67]. Робячы такі маштабны гістарычны экскурс, герой М. Багдановіча выказвае погляды, характэрныя якраз для пачатку XX стагоддзя, калі былі пашыраныя ідэі вычарпанасці цывілізацыйнага развіцця, крызісу асноватворных духоўных і маральных каштоўнасцей, калі адчувалася разгубленасць чалавека перад новымі выклікамі часу. Экзістэнцыйныя адчуванні, якія герой прыпісвае людзям мінулых эпох, у значнай ступені ўласцівыя яму самому як носьбіту сучаснай (мадэрновай) свядомасці.

Трывожлівыя адчуванні, неадчэплівы сум, усё няпэўнае і незразумелае, што глыбока затоена «ў самым падполлі душы», як лічыць герой апавядання «Шаман», з'яўляецца «спадчынай, пакінутай нам ад прадзедаў» [2, с. 67]. Але яе можна пазбавіцца, пераадолець яе наступствы, калі знайсці адпаведныя для гэтага сродкі. Універсальным сродкам для такога пераадолення, на яго думку, прадстае якраз эстэтычнае пачуццё.

Падарожны ўспамінае ў размове адзін з эпізодаў свайго жыцця на поўначы, калі пад уздзеяннем ад песні шамана, у якой ***апявалася*** суровая прырода Нарымскага краю, у яго кардынальна змяніліся адносіны да навакольнага. Грунтуючыся на аналізе ўласных адчуванняў, ён імкнецца вывесці агульную заканамернасць, якую можна разглядаць як выяўленне анталагічнай прыроды мастацтва. Ён робіць вывады. «Здалося мне, што пачуццё красы вытварылі сабе людзі таму, што былі змучаны і запужаны суворай зямлёй; вытварылі, каб пазбыцца няяснага, але бяскрайнага, усю душу запаўняючага смутку» [2, с. 68].

Гэтыя думкі наогул блізкія да аўтарскай пазіцыі, яны суадносяцца пэўным чынам з канцэпцыяй мастацтва, якой прытрымліваўся М. Багдановіч. Адзін з

істотных момантаў гэтай канцэпцыі якраз палягае ў тым, што літаратура як адзін з відаў мастацтва павінна прыўносіць у жыццё гармонію і супакаенне, «здымаць» празмерны трагізм быццёвых калізій. Краса павінна духоўна і маральна ўзвышаць чалавека, надаваць яго жыццю пэўны сэнс.

Герой М. Багдановіча заўважае, што ў сучаснай яму літаратуры назіраюцца зусім іншыя тэндэнцыі. У ёй на першы план выходзіць, па яго меркаванні, стыхія падсвядомага, выяўляецца драматызм існавання чалавека ў супрацьстаянні не толькі са знешнімі неспрыяльнымі абставінамі, але і са сваім унутраным, расколатым надвое «я». Літаратура адкрывае ва ўнутраным свеце чалавека тое, што калісьці, у даўнія часы, было для яго продкаў ашаламляльнымі ўражаннямі ад таямнічага, неспазнанага, пагрозлівага свету.

Падарожны ў «Шамане» М. Багдановіча, апавяданні, якое (як, па сутнасці, і ўся яго проза) яшчэ як след не прачытанае і не зразуметае, дае цікавую і даволі грунтоўную характарыстыку літаратуры эпохі мадэрну «Ува ўсіх нашых драмах, раманах, апавяданнях трагізм тоіцца не за чалавекам, а ўнутры яго, у тых цёмных, дзікіх сілах, каторыя ён калісьці скарыў, заціснуў у падзямелле душы, забыўся на іх і з жахам згадвае толькі тады, калі яны раптоўна прарвуцца, заліюць сабою мазгі, затуманяць розум, зніштожаць адпор волі, кінуць чалавека ў брудныя і шалёныя ўчынкі» [2, с. 69].

На гэтай патэтычнай ноце маналог абрываецца, паколькі параход прыбывае на прыстань і тут падарожны сыходзіць. Размова застаецца незавершанай, вынікі не падведзенымі, таму складваецца ўражанне, што ў творы наогул не расстаўлены да канца акцэнты, не выяўлена адназначна аўтарская пазіцыя. Ці так гэта на самай справе?

Апавяданне «Шаман» якраз валодае завершанасцю цэлага, хоць яно і ўяўляе сабой, таксама як і «Апавяданне аб іконніку і залатару...», па сутнасці, сітуацыйны дыялог (жанрава набліжаны да маналога) і не мае разгорнутага сюжэта. Дарэчы, у параўнанні з «Апавяданнем аб іконніку і залатару...», «Шаман» усё ж такі ў большай ступені сюжэтна выражаны твор. У ім пасля заканчэння размовы і развітання апавядальніка са спадарожнікам адбываецца падзея, якую якраз і можна лічыць завяршаючым твор акцэнтам.

Неўзабаве пасля адыходу ад прыстані параход сутыкнуўся з лодкай, якая пры гэтым перакулілася. На параходзе былі чутны крыкі, але пасля таго, як параход развярнуўся, вакол перакуленай лодкі нікога немагчыма было заўважыць. Такім чынам, адбылася рэальная жыццёвая трагедыя, якая па-свойму праецыруецца на развагі аб трагізме быцця і ролі прыгажосці ў яго пераадоленні, якія выказваў герой апавядання.

Важнае значэнне для раскрыцця галоўнай ідэі твора маюць словы апавядальніка пасля таго, як ён становіцца сведкам трагічнага здарэння: «...і я мог зразумець, чаго варта краса гэтай цёмнай ночы і аксамітна-чорнай вады...» [2, с. 70]. «Цёмная ноч», «аксамітна-чорная вада» — той фон, на якім найбольш кантрасна і яскрава праяўляецца бясконца шматстайная гульня агнёў, адценняў святла. Такім чынам, гэтыя «цёмныя» складнікі карціны свету таксама ўваходзяць у агульнае паняцце эстэтычнага.

Прыгожае, узвышанае, гарманічнае, дасканалае мяжуюць, блізка сутыкаюцца, пераплятаюцца ў рэальнасці з супрацьлеглымі якасцямі быцця — з дысгарманічным, трагічным, пачварным, небяспечным. Тое ж, па аб'ектыўнаму меркаванню М. Багдановіча, адлюстроўваецца і ў літаратуры, хоць аўтар цалкам знаходзіцца на баку светлага і стваральнага, гарманічнага пачатку ў мастацкім спасціжэнні быцця.

Выяўленню ўсёй паўнаты мастацкага ўспрымання ў празаічных творах класіка беларускай літаратуры садзейнічае яго заўсёднае ўважлівае стаўленне да спосабаў выказвання, у тым ліку і выкарыстанне агульных для розных відаў мастацтва сродкаў мастацкага выражэння.

## Літаратура

1. Багдановіч, М. Поўны збор твораў: у 3 т. — Т. 1 / Максім Багдановіч. — Мінск : Навука і тэхніка, 1991. — 752 с.

2. Багдановіч, М. Поўны збор твораў: у 3 т. — Т. 2 / Максім Багдановіч. — Мінск : Навука і тэхніка, 1993. — 600 с.

3 Барт, Р. Введение в структурный анализ повествовательных текстов / Ролан Барт // Зарубежная эстетика и теория литературы XIX—XX вв.: Трактаты, статьи, эссе. — М.: МГУ, 1987. — 512 с.

4. Гуревич, А. Я. Категории средневековой культуры / А. Я. Гуревич. — М., 1984.

5. Почепцов, Г. Г. Теория коммуникации / Г. Г. Почепцов. — М.: «Рефл-бук», К.: «Ваклер» — 2001. — 656 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 8 жніўня 2013 г.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

### Інтэрмедыяльныя сродкі мастацкага выражэння ў творах Максіма Багдановіча

### Рэзюмэ

Прадметам даследавання з'яўляецца выкарыстанне ў празаічных творах Максіма Багдановіча інтэрмедыяльных сродкаў мастацкага выражэння, такіх як экфрасіс, святлаценевыя суадносіны, вобразны каларыт і г. д. Звяртаецца ўвага на сувязь дадзеных кампанентаў паэтыкі з ідэйным зместам твораў. Аналізуецца адметнасць раскрыцця тэмы мастацтва ў апавяданнях Максіма Багдановіча.

**Yauhen HARADNITSKI**

### The Intermedial Means of Artistic Expression in Maxim Bahdanovich's Works

### Summary

The object of the investigation is the usage in Maxim Bahdanovich's prose works the intermedial means of artistic expression, such as ecphrasis, light-and-shade correlations, image colouring, etc. The attention is attracted to the connection of these poetics components with ideological content of the works. The originality of the art's theme exposition in Maxim Bahdanovich's short stories is analysed.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ААТ «АГРАКАМБІНАТ “ДЗЯРЖЫНСКІ”»: ЦУДОЎНА ПРАЦАВАЦЬ — ГОРА НЕ ЗНАЦЬ

*Наўрад ці можна знайсці ў нашай краіне чалавека, які хоць бы аднойчы ў сваім жыцці не купляў курэй, на ўпакоўцы якіх значыцца брэнд «Фабрика здоровья». Праўда, далёка не кожны задумваецца над тым, хто ж з'яўляецца вытворцам гэтай прадукцыі. Толькі тыя, хто паспелі ацаніць яе па вартасцях, не задумваючыся адкажуць: Адкрытае акцыянернае таварыства «Агракамбінат “Дзяржынскі”».*

*Сёння гэта — вядучае прадпрыемства Беларусі па вытворчасці мяса куранят-бройлераў. Але «Фабрика здоровья» — гэта не толькі традыцыйныя куры, а і паўфабрыкаты — як у марынадах, так і прыпраўленыя рознымі спецыямі, а таксама каўбасы, сасіскі, сардэлькі, рулеты, паштэты, ветчына, а да ўсяго — пельмені. Усё і пералічыць немагчыма: мясны асартымент, які пастаянна абнаўляецца, складаецца амаль з 300 найменняў прадукцыі. Аднак радуе не толькі багацце яго, а і выдатнейшая якасць. Дасягаецца гэта дзякуючы таму, што куры гадуюцца без прымянення гармонаў, харчуюцца кармамі, вырашчанымі на самім прадпрыемстве. Нездарма прадукцыя агракамбіната «Дзяржынскі» атрымала права маркіравацца знакам «натуральны прадукт».*

*У 2006 годзе агракамбінат першым сярод птушкаводчых прадпрыемстваў краіны атрымаў сертыфікаты на адпаведнасць сістэм менеджменту якасці стандартам СТБ ISO 9001 і СТБ 1470 — 2004, а ў 2012 годзе ўвялі ў дзеянне сістэму бяспекі харчовых прадуктаў на адпаведнасць патрабаванням СТБ ISO 2200 — 2006. Быў атрыманы і сертыфікат на вытворчасць прадукцыі «Халяль».*

*За дасягненне высокіх паказчыкаў у вытворчасці ААТ «Агракамбінат “Дзяржынскі”» прызнаваўся лепшым у Беларусі і сем разоў заносіўся на Рэспубліканскую Дошку гонару. Апошні раз гэта адбылося сёлета.*

*Неаднаразова агракамбінат выходзіў пераможцам конкурсаў «Лепшая прадукцыя года», «Прадукт года», «Выбар года», «ГУСТ», «АграРусь», мае залатыя медалі міжнародных конкурсаў «Курыны Кароль», «Залатая восень», з'яўляецца лаўрэатам Прэміі Урада Рэспублікі Беларусь за дасягненні ў галіне якасці і летась пацвердзіў гэтае званне. У 2012 годзе ён стаў дыпламантам конкурсу краін СНД, лаўрэатам конкурсу краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, узнагароджаны еўрапейскім знакам якасці.*

*За ўсімі гэтымі працоўнымі дасягненнямі — напружаная работа ўсяго працоўнага калектыву і, безумоўна, мэтанакіраваная, сістэмная работа ягонага кіраўніцтва, спецыялістаў на чале з генеральным дырэктарам ААТ «Агракамбінат “Дзяржынскі”» Іосіфам Палачаніным.*

*Пра гісторыю прадпрыемства, ягонае станаўленне, пра яго сённяшні дзень і расказваецца ў гэтым матэрыяле.*

## Такім быў пачатак

Усё пачыналася ў прамым сэнсе гэтага слова на голым месцы. Хоць, калі быць дакладным, то там, дзе ў 1977 дырэктыўныя органы ( а ўсё на той час, як вядома, залежала ад партыйных органаў) вырашылі будаваць Дзяржынскую бройлерную птушкафабрыку, было поле і лес. Знаходзіліся яны блізу малавядомага на той час невялікага пасёлка Фаніпаль і непадалёку ад Мінска. Апошняе асабліва важна з эканамічнага пункту гледжання, бо не ў апошнюю чаргу прадпрыемства павінна было забяспечваць мясам птушкі сталіцу рэспублікі. Поле ж, лес — складнікі экалагічнага значэння, а гэта таксама немалаважна.

Што будучую фабрыку назвалі не Фаніпальскай, а менавіта Дзяржынскай, зноў жа, зразумець можна. Дзяржынск — усё ж раённы цэнтр, дый нельга не прымаць пад увагу палітычны момант. Хто такі Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі, ведалі ва ўсім Савецкім Саюзе, то, не сумняваліся праекціроўшчыкі, хутка будзе на слыху і новае прадпрыемства. Асабліва, калі яно стане зладжана працаваць. У гэтым таксама ніхто і ніколькі не сумняваўся. Як і ў тым, што дыетычнага мяса будзе ў дастатковай колькасці. Паводле праекта магутнасць фабрыкі складала 3, 2 мільёны бройлераў у год, а гэта 5, 2 тысячы тон мяса ў жывой вазе. Таму і плошча пад новае прадпрыемства адводзілася немалая — 43 гектары.

Час прыспешваў, бо за кароткі тэрмін неабходна было выканаць вялікі аб’ём работ. Не толькі прадпрыемства пабудаваць, а і стварыць адпаведную інфраструктуру, па сутнасці, узвёўшы новы горад. Таму калі трэст № 5 «даваў» жыццё самой фабрыцы, дык ДСК-3 узводзіў жыллё. Трэст «Белтрансбуд» пракладваў чыгуначную ветку, а трэст № 15 — сеткі. Усяго ж на будаўніцтве было занята 34 субпадрадныя арганізацыі. Ад таго, наколькі яны змогуць працаваць зладжана, шмат у чым залежала не толькі ад іх непасрэдных кіраўнікоў, а і дырэктара будучай фабрыкі Васіля Грушы. Васіль Паўлавіч узначаліў усё будаўніцтва, а потым стаў і першым дырэктарам Дзяржынскай бройлернай птушкафабрыкі.

Першую працоўную перамогу адсвяткавалі 22 снежня 1978 года, калі ў строй увайшлі кацельная, шэсць монаблокаў — птушнікаў, склад для кармоў, за выключэннем цэха забою. Праз пяць дзён быў падпісаны Дзяржаўны акт аб прыёмцы першай чаргі птушкафабрыкі. Афіцыйна ж днём нараджэння прадпрыемства стала 21 студзеня 1979 года, калі пасадзілі першых птушанят, так званы рамонтны маладняк. Другая чарга фабрыкі была здадзена ў строй у 1980 годзе, а гэта некалькі новых монаблокаў для вырошчвання і адкорму птушкі, цэх забою. Тым самым, вытворчы працэс стаў завершаным, бо ўключаў у сябе ў паслядоўнасці ўсе этапы. Таксама рыхтаваўся да здачы тыповы кармацэх з поўнай механізацыяй працаёмкіх працэсаў.

На праектную магутнасць фабрыка выйшла менш чым за тры гады. Аднак інтэнсіўна развівалася не толькі само прадпрыемства, а і пасёлак Фаніпаль. Да яго падвялі прыродны газ, у адну сетку злучылі артэзіянскія свідравіны, закальцавалі энергазабеспячэнне, праклалі калекцыйны калектар. Работнікі фабрыкі справілі наваселле ў 340 кватэрах, быў пабудаваны дзіцячы сад-яслі. З’явіліся тыповая паліклініка і спальны корпус дзіцячага аздараўляльнага лагера «Дружба», фізкультурна-аздараўляльны корпус з вялікай спартыўнай залай…

У 1983 годзе калектыў прыняў на сябе новыя працоўныя абавязацельствы, апублікаваныя ў друку. Было ўсенародна заяўлена: «Выканаем Харчовую праграму!» Пры гэтым браліся такія абавязацельствы, што далёка не кожнаму калектыву пад сілу: рэалізаваць дзяржаве 5, 5 тысячы тон мяса, атрымаць 12 мільёнаў яек і ўвесці ў строй усе запланаваныя сацыяльныя аб’екты. Словы не разышліся са справай. Гэтыя абавязацельствы былі паспяхова выкананы. Але толькі імі поспехі не абмежаваліся. На птушкафабрыцы дасягнулі немалой эканоміі кармоў, што завозіліся, а таму былі дарагімі. Калі на адну тысячу яек планавалася выдзяленне 380 кармавых адзінак, то, дзякуючы беражлівасці, абыходзіліся 351-й. Аднак усё

рабілі так, каб гэта не ішло на шкоду вытворчасці. План па валавой вытворчасці яек прадпрыемства не толькі выканала, а і значна перавыканала.

Новыя набыткі прынёс 1985 год. За поспехі, дасягнутыя ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве па павелічэнні вытворчасці і продажы курынага мяса дзяржаве, калектыў Дзяржынскай бройлернай птушкафабрыкі быў узнагароджаны пераходным Чырвоным сцягам ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ. Такая высокая ацэнка работы, канечне, не магла не акрыліць на новыя працоўныя поспехі. Толькі ніхто і падумаць не мог, што наперадзе чакаюцца такія перашкоды, пераадолець якія будзе нялёгка.

## Памірай, але … далікатэсы давай

Якраз на гэты час прыпаў пачатак курсу на рэфармаванне сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сістэмы СССР. Як быццам, намеры былі самыя добрыя. Бяда, аднак, у тым, што многае рабілася з наскоку, без улічвання сапраўдных рэалій. Праўда, пераход на поўны гаспадарчы разлік, самафінансаванне і самаакупнасць, на што настройвалі матэрыялы Пленума ЦК КПСС «Аб аграрнай палітыцы партыі ў сучасных умовах», сам па сабе з'яўляўся адным з эфектыўных шляхоў інтэнсіфікацыі вытворчасці. Толькі далёка не ўсе гэта ўспрынялі з разуменнем. На ўласным вопыце неаднойчы пераконваліся, што важныя партыйныя рашэнні звычайна заканчваліся гаварыльняй і справа далей размоў і запэўніваннях не ішла, таму і не спяшаліся выконваць рашэнні, прынятыя наверсе.

Праўда, да гонару тагачаснага кіраўніцтва птушкафабрыкі, яно ўжо на ўласным вопыце ўпэўнілася, што альтэрнатывы новаму гаспадаранню няма і быць не можа. Радыкальная рэформа вытворчасці ў межах усяго Савецкага Саюза даўно стала неабходнасцю. Іншая справа, што да ўсяго неабходна ставіцца прадумана. Што і рабілі на прадпрыемстве, а паколькі становішча ў краіне пагаршалася, разумеючы, што дапамогі чакаць не даводзіцца, шмат у чым разлічвалі толькі на ўласныя магчымасці, Прынамсі, каб паменшыць увоз кармоў, павышаныя абавязацельствы ўзяў на сябе цэх па прыгатаванні травяной мукі і гранул. Каб мець неабходныя абаротныя сродкі, запланавалі атрымаць у 1989 годзе не менш чым 7, 5 тон бройлернага мяса, каб вырučаныя грошы пусціць на мадэрнізацыю вытворчасці. Адкрылі ў Фаніпалі фірменны магазін, у якім жадаючыя маглі купіць ці не ўсе віды прадукцыі, якую на той час выпускала птушкафабрыка.

Апошняе рашэнне важным стала і па той прычыне, што гаспадарчыя сувязі пачалі разрывацца. Гэта асабліва сказалася пасля распаду Савецкага Саюза. Склалася парадаксальная сітуацыя. Склады прадпрыемства заваленыя прадукцыяй, а ў той жа час прылаўкі магазінаў пустыя. Таго ж курынага мяса і днём з агнём не знойдзеш. Прычынай гэтага стала масавае беспрацоўе. Дый, увогуле, жыццёвы ўзровень насельніцтва рэзка панізіўся. Таму магазіны і не спяшаліся заказваць прадукцыю, каб не затаварыцца. У першую чаргу гэта тычылася той, якая хутка псавалася. Ды як у народзе кажуць? Паміраць збірайся, а жыта сей.

Паколькі ж птушкафабрыка «паміраць» не збіралася, то гэтую, вобразна кажучы, «сяўбу» павялі так, каб нават дамагчыся большага, чым было да гэтага. У прыватнасці, вытворчы план 1991 года выканалі на 104, 5 працэнта. Меркавалася дасягнуць сярэднясутачнай прыбаўкі птушкі ў вазе 29 грамаў, а яна склала 33, 3 грама. А ёсць мяса — трэба думаць, як яго збыць. Таму, каб палепшыць попыт на сваю прадукцыю, вырашылі пачаць рабіць і розныя курыныя далікатэсы. Выпусцілі першыя партыі сыравяленага мяса, з'явіліся высокагатунковыя каўбасы і сасіскі. Каб паскорыць іх продаж, адкрылі ў Мінску фірменныя магазіны «Птушыны гасцінец» і «Вырабы з птушкі», адпаведна па вуліцы Лібкнехта і Казінца. Канвеер паставак дзейнічаў хутка і надзейна: «з калёсаў — на прылавак». Такая прадукцыя заўсёды карыстаецца павышаным попытам. А да ўсяго пастулова

жыццёвы ўзровень народа пачаў павышацца, а гэта, безумоўна, спрыяла пакупной здольнасці.

Крызіс для калектыву Дзяржынскай бройлернай птушкафабрыкі закончыўся ў 1999 годзе. Вынікі работы сведчылі аб тым, што прадпрыемства пераадолела цяжкасці. Аб’ём вытворчасці склаў на 60 тон больш, чым у папярэднім, 1998 годзе, — атрымалі амаль 8, 5 тысяч тон мяса. На кілаграм яго затрачвалі ўсяго 2, 24 кілаграма кармоў, а гэта быў лепшы тагачасны паказчык у птушкагадоўлі Беларусі. Рэнтабельнасць склала 24 працэнты. Птушкафабрыка за год выпусціла прадукцыі на 2, 6 мільярда рублёў.

Але спачываць на лаўрах калектыў не збіраўся. Жыццё, як даўно даказана, — гэта нязменны рух. У дачыненні да вытворчасці можна сказаць, што гэта пастаяннае абнаўленне яе, расшырэнне, выкарыстанне схаваных рэзерваў. Падобнага падыходу і прытрымліваліся на прадпрыемстве. Увялі ў дзеянне кацельню, з’явіліся новыя майстэрні, каўбасны цэх, пабудавалі цяпліцу.

## Які час, гэткі і падыход

Новы этап у развіцці прадпрыемства пачаўся ў 2004 годзе, калі дырэктарам птушкафабрыкі стаў доктар эканамічных навук Сямён Шапіра. Прадстаўнік кіраўнікоў новай хвалі, Сямён Барысавіч праявіў сябе як выдатны арганізатар, спецыяліст, які здатны прымаць у імя агульнай справы правільныя і эфектыўныя рашэнні, што дазваляюць за кароткі час дасягаць вялікага поспеху. Гэта па ініцыятыве С. Шапіры ў кастрычніку 2004 года Дзяржынская бройлерная птушкафабрыка была перайменавана ў Таварыства абмежаванай адказнасці «Агракамбінат “Дзяржынскі”». Адбылася не проста замена «шыльды». Падобнае рашэнне было выклікана вытворчай неабходнасцю: да птушкафабрыкі далучылі сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў «Пяцігор’е».

Нельга сказаць, каб гэта адбывалася па прынцыпе: без мяне мяне ажанілі. Перш чым прыняць такое рашэнне, усё загадзя абмеркавалі, узгаднілі. Сапраў-ды ўжо: сем разоў адмерай, а потым адрэж. Ды не ўсё праходзіла гладка. З аднаго і з другога боку да аб’яднання ставіліся насцярожана. Сёй-той з працаўнікоў фабрыкі ў «пяцігорцах» бачыў звычайных нахлебнікаў. Маўляў, справы ў нас ідуць цудоўна, таму ім і хочацца з нашага «караваю» адкусіць кавалак. «Пяцігорцы», у сваю чаргу, лічылі становішча сваёй гаспадаркі стабільным. СПК «Пяцігор’е» быў адным з моцных у Дзяржынскім раёне. У такім разе, навошта тое аб’яднанне, і без яго можна пражыць.

Не хацелі разумець падобныя скептыкі, што аб’яднанне пойдзе на карысць як птушкафабрыцы, так і СПК «Пяцігор’е». Птушкафабрыка не мела ўласных сельскагаспадарчых угоддзяў, таму не магла вырошчваць зерневыя культуры. Каб задаволіць уласныя патрэбы ў зернефуражы, яго штогод закуплялі каля 35 тысяч тон, а гэтая немалыя грошы. Далучэнне СПК дазваляла гэтую праблему вырашыць. У «пяцігорцаў» жа неставала ўласных фінансавых сродкаў на набыццё новай сельскагаспадарчай тэхнікі. Іхні машынна-трактарны парк быў так зношаны, што даўно на ладан дыхаў. Дый патрабавалася рэканструкцыя жывёлагадоўчых ферм, у якіх у асноўным пераважала ручное абслугоўванне. А хіба без грошай гэта ажыццявіць? Яны ж акурат і былі на птушкафабрыцы.

У рэшце рэшт сышліся на тым, што аб’яднанню быць. Але на гэтым працэс узбуйнення не спыніўся. Хутка да «Агракамбіната “Дзяржынскі”» далучылі ТАА «Рыбная гаспадарка “Хотава”» і прадпрыемства «Фаніпальаграртранс». Здавалася б, не профільныя арганізацыі. Толькі з якога боку паглядзець, як да ўсяго падысці. У «Хотаве» пачалі разводзіць на прамысловай аснове рыбу, а расшырэнне свайго транспартнага парка дазволіла агракамбінату павысіць эфектыўнасць розных перавозак. Канец 2007-га — пачатак 2008 года — далейшае ўзбуйненне. У ААТ

«Агракамбінат “Дзяржынскі”» з’явіліся сельскагаспадарчыя філіялы «Фалько-Агра», «Іскра-Агра», «Праўда-Агра».

Вынікі не прымусілі чакаць. У 2008 годзе агракамбінат «Дзяржынскі» фактычна забяспечыў сябе на год зернефуражом. Было сабрана 31, 8 тысячы тон зерневых. Ды яшчэ каля тысячы тон зерня кукурузы і соі атрымалі. А тут яшчэ далучылі Негарэльскі камбінат хлебапрадуктаў і ААТ «Малочнік». Таксама немалая выгада. На камбінаце хлебапрадуктаў запусцілі новую лінію па вытворчасці рапсавага алею.

Аднак па-ранейшаму асноўным накірункам для агракамбіната заставалася, дый па сённяшні дзень застаецца, птушкагадоўля. Разумеючы, што прапускная здатнасць забойнага цэха абмежаваная, за кароткі час узвялі яго новы будынак, які аснасцілі сучасным тэхналагічным і халадзільным абсталяваннем. Гэта дазволіла да мінімуму скараціць ручную працу, а перапрацоўку птушкі павялічыць у два разы. Яна склала 35 — 36 працэнтаў ад усёй масы птушкі.

Паспяхова вырашылі пытанне з тэхналагічным працэсам вырошчвання маладняку птушкі. Здавалася б, якая праблема тут можа быць? Ды засцярога маладняку ад розных інфекцый. Спачатку выкарыстоўвалі так званы замкнуты цыкл — ад інкубатара да забойнага цэха. Для таго, каб атрымаць куранят, выкарыстоўвалі яйкі бацькоўскага статку, які ўтрымліваўся ў птушніках, што знаходзіліся на тэрыторыі самога прадпрыемства. Ніхто і падумаць не мог, што гэта небяспечна, бо інфекцыя магла лёгка пераносіцца да маладняку. Некалькі палепшыў становішча завоз птушанят-бройлераў з іншых птушкафабрык, але, тым самым, павялічыліся затраты вытворчасці. Выйсце знайшлі ў тым, каб пабудаваць новыя цэхі па вытворчасці бацькоўскіх форм бройлераў і інкубатар на 20 мільёнаў яек у год за межамі тэрыторыі прадпрыемства.

У 2008 годзе С. Шапіра быў прызначаны міністрам сельскай гаспадаркі і прадуктаў Рэспублікі Беларусь. На змену яму прыйшоў Леанід Заяц. Леанід Канстанцінавіч таксама зрабіў вельмі шмат як для развіцця птушкагадоўлі, так і для ператварэння агракамбіната «Дзяржынскі» ў буйное таварнае шматгаліновае сельскагаспадарчае прадпрыемства. Пры ім было рэалізавана шмат значных праектаў, што паспрыялі далейшай мадэрнізацыі вытворчасці, дасягненню вялікай эканамічнасці і эфектыўнасці. Калі Л. Заяц стаў міністрам сельскай гаспадаркі і прадуктаў Рэспублікі Беларусь на змену яму ў студзені 2013 года прыйшоў Іосіф Палачанін.

## Кіраўнікі новай фармацыі

Пра такіх людзей, як Іосіф Мікалаевіч, звычайна кажуць: «Сам сваю біяграфію сцвярджае». Хіба што трэба дадаць: дзякуючы пастаяннай мэтанакіраванасці, упэўненасці ў сабе і ўласных сілах, уменню назапашаны вопыт удала трансфармаваць у новыя пачынанні, а з іх ужо з’яўляюцца і новыя дасягненні. Да ўсяго І. Палачанін ішоў сам, таму і многага дасягнуў. Напорыстасць жа, канечне, у добрым слове ў яго ад бацькі, які быў чалавекам моцным і заўсёды ўмеў узняцца пасля ўдараў лёсу. А лёс яго не песціў. Гадаваўся без бацькоў, якія рана пайшлі з жыцця. Пачынаў працоўную біяграфію трактарыстам, працаваў у докшыцкіх гаспадарках галоўным інжынерам. Прызнаваў толькі інжынерныя спецыяльнасці, таму хацеў, каб іх выбралі сабе і ягоныя сыны. Таму трое іх — Іосіф, Мікалай і Віктар — «прайшлі» праз тэхнікум.

Пасля тэхнікума І. Палачанін працаваў механікам і завочна вучыўся ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. А ў 23 гады стаў старшынёй калгаса «Ленінскі шлях». Назва то гучная, але ніхто на гэтую пасаду ісці не хацеў, бо гаспадарка была самай слабай на Віцебшчыне. А Іосіф Мікалаевіч згадзіўся, таму што паспеў у тым жа «Ленінскім шляху» перад гэтым папрацаваць інжынерам. Не

пабаяўся адказнасці. Дый перад цяжкасцямі не спасаваў. А як працаваў — відаць па тым, што пасля пяці гадоў ягонага старшынёўства калгас «Ленінскі шлях» выйшаў пераможцам ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве, атрымаў шмат сцягоў і быў занесены на Дошку гонару Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР.

Чарговы радок у біяграфіі І. Палачаніна — начальнік Докшыцкага раённага сельскагаспадарчага ўпраўлення. Дзевяць гадоў аддаў гэтай працы. А потым былі выбары ў Вярхоўны Савет БССР XIII склікання. У акрузе, па якой балатаваўся ён, прэтэндэндавалі на дэпутацтва 11 чалавек. Перамог І. Палачанін. Людзі вераць таму, у каго вераць, а вераць у таго, хто гэтую веру заслужыў сваёй самаадданай працай. Таму і прагаласавалі за Іосіфа Мікалаевіча, які залатых гор не абяцаў, але ведаў, як зрабіць жыццё людзей лепшым і шчаслівейшым.

У снежні 1998 годзе ён стаў старшынёй Верхнядзвінскага райвыканкама, дзе за кароткі час зарэкамендаваў сябе ініцыятыўным, дзелавым кіраўніком. Справы ў раёне адразу зрушыліся ў бок лепшага. А на Рэспубліканскім кірмашы-фестывалі «Дажынкі - 2003» Верхнядзвінскі раён быў адзначаны ў ліку лепшых за найвышэйшы рост нарыхтоўкі кармоў. Пасля Верхнядзвінска І. Палачанін працаваў першым намеснікам старшыні Віцебскага аблвыканкама, быў саветнікам ва Упраўленні справамі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

— Асноўнай сваёй задачай наш калектыў, — гаворыць Іосіф Мікалаевіч, — лічыць вытворчасць якаснай, смачнай і канкурэнтназдольнай прадукцыі, што адпавядае ўсім патрабаванням спажыўца, таму і дэвіз таварыства: «Наш клопат аб Вашым здароўі».

У якасці і бяспечнасці прадукцыі камбіната сумнявацца не даводзіцца. Птушкафабрыка з'яўляецца закрытым прадпрыемствам, якое працуе ва ўмовах самага строгага ветэрынарна-санітарнага кантролю, што выключае занясенне на яе тэрыторыю любых інфекцый. Усімі працэсамі ў птушніках кіруе камп'ютар. Каб не пранікла інфекцыя, існуе цэлая сістэма мер абароны. У высокатэхналагічным замкнутым цыкле адбываецца вырошчванне птушкі, атрыманне ўласных інкубацыйных яек, рэалізацыя гатовай прадукцыі ва ўласнай гандлёвай сетцы.

Кураняты-бройлеры вырошчваюцца напольна і ў клетках у 40 птушніках, кожны з якіх умяшчае 80 — 100 тысяч асобін. Выкарыстанне сучаснага абсталявання пры клеткавым утрыманні дазволіла павысіць каэфіцыент выкарыстання будынкаў у параўнанні з напольным утрыманнем у 1, 7 раза. Увогуле ж, перадавыя і высокаэфектыўныя тэхналогіі, новае абсталяванне і паўнацэнныя кармы павялічылі аб'ём вытворчасці мяса пры значным зніжэнні яго сабекошту.

У 2012 годзе ў жывой вазе мяса атрымана 49, 4 тысячы тон, а ў забойнай гэта склала больш як 36 тысяч тон. Сяроднесутачныя прывагі яшчэ тры гады назад дасягнулі еўрапейскага ўзроўню — 58 грамаў. Цяпер гэты паказчык складае 65,1 грама ў суткі пры захаванасці птушкі 97 працэнтаў і канверсіі корму 1,65. Паспрыяла нарошчванню аб'ёмаў прадукцыі і работа, што праводзіцца па павелічэнні пагалоўя. У прыватнасці, завершана будаўніцтва і здадзены ў эксплуатацыю тры новыя будынкі для клеткавага ўтрымання птушкі.

У тым, што такія пераканаўчыя поспехі ў атрыманні курынага мяса, заслуга і дырэктара па птушкагадоўлі аграхамбіната, заслужанага работніка сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь Валянціны Фесінай. Валянціна Васільеўна звязала свой лёс з птушкагадоўляй невыпадкова. Яна нарадзілася ў вёсцы Пліса Смалявіцкага раёна. Менавіта ў гэтых мясцінах, калі Валянціна была школьніцай, будавалася першая ў Беларусі бройлерная фабрыка. Разам з сяброўкамі Фесіна хадзіла туды на практыку, дзяўчаты працавалі падсобнымі рабочымі. Таму, калі паступіла ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, вучылася на аддзяленні «Спецыялізаваная група птушкагадоўлі». Практыку ж нязменна праходзіла на Смалявіцкай бройлернай птушкафабрыцы. У 1976 годзе абараніла дыпломную работу «Рост і развіццё куранят-бройлераў пры раздзельным па полу вырошчванні». Пасля

заканчэння сельскагаспадарчай акадэміі паўтара гады працавала на Смалявіцкай бройлернай птушкафабрыцы.

Першы працоўны дзень на новым месцы запомніўся назаўсёды. Як брыгадзір птушкаводаў прымала першых куранят. Потым узначальвала цэх бацькоўскага статку бройлераў, а ў 1993 годзе стала галоўным заатэхнікам прадпрыемства з выкананнем абавязкаў намесніка дырэктара птушкафабрыкі. Намеснікам дырэктара па птушкагадоўлі агракамбіната працуе з 2004 года. Прафесійнае крэда В. Фесінай застаецца нязменным: «Няспынна ўкараняць перадавыя тэхналогіі, ніколі не баяцца выкарыстоўваць замежны вопыт, пастаянна вучыцца самой і вучыць іншых».

Калі Дзяржынская бройлерная птушкафабрыка выпускала толькі адзін від прадукцыі, дык ААТ «Агракамбінат “Дзяржынскі”» — шматпрофільнае аграпрамысловае прадпрыемства, якое не толькі курэй вырошчвае, а і гадуе на адкорм буйную рагатую жывёлу, трымае вялікі малочны статак, паспяхова займаецца раслінаводствам. Вялікая роля ў гэтым належыць філіялам агракамбіната, таму самы час пазнаёміцца з імі.

## «Пяцігор’е» — усім прыклад

Гаворку трэба пачынаць з філіяла «Пяцігор’е». І не столькі дзеля захавання справядлівасці, бо, як ужо гаварылася, СПК «Пяцігор’е» першым быў далучаны да птушкафабрыкі, а потым і да агракамбіната. Прычына на гэта куды больш важкая. Сёлета філіял «Пяцігор’е» агракамбіната заняў першае месца ў аглядзе-конкурсе «Землекарыстанне высокай культуры, добраўпарадкаванне машынных двароў, жывёлагадоўчых ферм комплексаў», а старшы камбайнер Віталь Ласіцкі стаў прызёрам сярод маладзёжных экіпажаў па выніках рэспубліканскага спаборніцтва. Дырэктар філіяла «Пяцігор’е» Пётр Ярыжанец і В. Ласіцкі прынялі ўдзел у «Дажынках-2013», што праходзілі ў Жлобіне. Гэтае права заслужылі таксама старшы камбайнер Віталь Куніцкі і вадзіцель Дзмітрый Бірыла з філіяла «Праўда-Агра».

Спачатку гэта і не СПК «Пяцігор’е» быў, а калгас імя Леніна. Новае імя яму далі, калі ператваралі ў СПК, прывязаўшы гэтую назву да мясцовых рэалій, як гэта на той час і рабілася паўсюдна на Беларусі. Загучала гэтая назва, бо арыгінальная яна, наўрад ці дзе яшчэ такую напаткаеш. Аднак цяпер «пяцігорцы» славяцца і ў агракамбінаце, і ў Дзяржынскім раёне, дый за ягонымі межамі сваімі працоўнымі поспехамі. Спецыялізуючыся на малочнай жывёлагадоўлі і раслінаводстве (зернефураж і насенне рапсу), яны пастаянна дабіваюцца выдатных вынікаў.

Пагалоўе буйной рагатай жывёлы ў філіяле на пачатак сёлетняга года склала 2731 галаву, з іх 890 — дойныя каровы. Валавая вытворчасць малака летась склала 7 390 тон, сярэднегадавы надой ад адной каровы — 8303 кілаграмы. Валавая прывага маладняку — 476 тон, а сярэднесутачная прывага цялушак на вырошчванні дасягнула 679 грамаў. Вытворчасць жа зерня ў фізічнай масе пасля дапрацоўкі склала ў 2012 годзе 11 564 тоны, а ўраджайнасць зерневых і зернебабовых культур у бункернай вазе — 64,3 цэнтнера з гектара, у свірнавай — 56,5. Валавая вытворчасць рапсу пасля дапрацоўкі — 1734 тоны пры ўраджайнасці 39,4 цэнтнера.

У цэлым жа ў філіяле «Пяцігор’е» летась было атрымана сельскагаспадарчай прадукцыі на суму 59, 7 мільярда рублёў пры тэмпе росту 103 працэнты. Чысты прыбытак склаў каля 7, 34 мільярда рублёў, а гэта 238 працэнтаў у параўнанні з 2011 годам. Узровень рэнтабельнасці дасягнуў 26, 6 працэнта, у тым ліку ў жывёлагадоўлі — 36, раслінаводстве — 11 працэнтаў. Сярэднегадавы надой на карову склаў 8302 кілаграмы. Выпрацоўка на аднаго работніка — 249,53 мільёна рублёў, пры сярэдняй зарплаце — 4 мільёны 510 тысяч рублёў.

Вытворчасць рапсу — асаблівы гонар філіяла «Пяцігор’е». Гэтая сельскагаспадарчая культура на тамашніх палетках адчувае сябе на дзіва ўпэўнена. Безумоўна, дзякуючы стараннаму догляду і паважліваму стаўленню да яе. Сёлета атрыманы рэкордны ўраджай — 59, 3 цэнтнера насення з гектара, а паколькі рапс — адна з самых высокарэнтабельных і прыбытковых культур, дык застаецца толькі радавацца за такія вынікі руплівай, самаадданай працы.

Выдатныя працоўныя поспехі — намаганні ўсіх працаўнікоў «Пяцігор’я», але ў гэтым і значная заслуга дырэктара філіяла Пятра Ярыжанца. Пётр Пятровіч, прайшоўшы цудоўную школу спецыяліста і ўпраўленца на Віцебшчыне, і на дзяржынскай зямлі здолеў падабраць такіх людзей у сваю каманду, якія разумеюць, што поспехі залежаць ад агульных намаганняў усіх, незалежна ад таго, якую пасаду займае чалавек, на якім участку працуе.

## Молада — не зелена

Гэтае выслоўе найлепшым чынам стасуецца да Віталя Ласіцкага. Ён на сёлетнім жніве дамогся лепшых паказчыкаў сярод маладзёжных экіпажаў, намалаціўшы 2 165 тон зерня. Сваім камбайнам Ласіцкі ўбраў 430 гектараў. Гэта і не дзіўна: камбайн у яго найсучасны, высокапрадукцыйны, «John Deere-9640i» называецца. Сем гадоў Віталь на ім працуе, а ўвесь ягоны працоўны стаж складае ўсяго восем гадоў, ды гэта не перашкодзіла Ласіцкаму за такі кароткі час стаць сапраўдным майстрам сваёй справы.

Дарэчы, ён не толькі на камбайне працуе, а і на пагрузчыку «Амкадор-320». Таксама авалодаў дасканала. Дый як жа іначай, калі любоў у яго да тэхнікі яшчэ з самых юных гадоў. Бацька працаваў трактарыстам, таму і пастараўся як мага хутчэй далучыць сына да сакрэтаў работы на трактары. Пасля заканчэння школы, адслужыўшы ў арміі, вярнуўся ў родную гаспадарку і пачаў працаваць камбайнерам.

Першы год не так проста ўсё складвалася. Давала аб сабе знаць адсутнасць вопыту. Але з задачай, што стаяла перад ім, тым не менш, справіўся паспяхова. Штосьці ў вопытных механізатараў распытваў, штосьці ў спецыяльнай літаратуры яшчэ да пачатку ўборкі прачытаў. А ў нечым і інтуітыўна дзейнічаў. Гэтак жа нярэдка бывае: калі да нечага ляжыць душа, то пэўнае веданне быццам само па сабе прыходзіць, хоць, калі лепш разабрацца, то гэта праяўленне сукупнасці ведаў, што і вядзе да спасціжэння яшчэ не цалкам зведанага.

У рэспубліканскіх «Дажынках» Ласіцкі сёлета ўдзельнічаў трэці раз. У 2011 годзе, калі гэтае свята ўраджаю праходзіла ў горадзе Маладзечна, заняў другое месца і ў якасці прыза атрымаў матаблок. На наступны год з Горак вярнуўся са скутарам — зноў заняў другое месца. А так хацелася стаць пераможцам! Таму сёлета перад сабой паставіў задачу, а, можа, і звышзадачу — стаць у спаборніцтве сярод маладзёжных экіпажаў правафланговым.

Праўда, зацяжная зіма ў яго крыху паменшыла аптымізму. Толькі нездарма кажуць: «У прыроды няма кепскага надвор’я». Калі пасевы дружна пайшлі ў рост, аптымізму пабольшала, а з надыходам жніва яго стала яшчэ больш. Каласы не паляглі, зерне не абсыпалася. Працавалася ў ахвоту, з натхненнем працавалася. Дый пачуццё ўласнай годнасці ні на хвіліну не пакідала. А яшчэ добра ведаў, што пры гэтай адказнай справе трэба спадзявацца на тэхніку і на самога сабе.

Памочніка ў Віталя няма. Як, дарэчы, і ў іншых камбайнераў філіяла. Дырэктар П. Ярыжанец, як і іншыя кіраўнікі, успрымаюць такое сумяшчэнне ў адной асобе самога камбайнера і ягонага памочніка толькі станоўча. У выйгрышы і сам працаўнік, бо атрымлівае значна вышэйшую зарплату, чым працуючы толькі камбайнерам. Дый гаспадарка ў накладзе не застаецца: лепшая праца — большая аддача.

## У кожнага філіяла — свае поспехі

Філіял «Фалько-Агра» ўзначальвае Вадзім Кунц. У гэтым падраздзяленні агракамбіната знаходзіцца пяць малочна-таварных ферм і тры фермы па вырошчванні рамонтнага маладняку. Несумненна, што ў гаспадарцы вялікае пагалоўе. Па стане на 1 мая 2013 года на фермах утрымлівалася 3759 галоў, з іх дойны статак складаў 1467 кароў. Валавая вытворчасць малака за леташні год вымяраецца 10668,5 тоны, а надой ад адной каровы ў сярэднім склаў 7419 кілаграмаў. Упэўнена працуе філіял і ў галіне паляводства. У 2012 годзе вытворчасць зерня пасля дапрацоўкі склала ў фізічнай масе 13 321 тону, у тым ліку кукурузы — 3986 тон. Ураджайнасць зерневых і зернебабовых у бункернай вазе — 70,8 цэнтнера з гектара, а ў свірнавай — 65,1. Ураджайнасць кукурузы на зерне і таго болей — 88,2 цэнтнера з аднаго гектара. Рапсу ж пры ўраджайнасці 36,9 цэнтнера атрымана 1624 тон. Як і паўсюдна на прадпрыемстве, вядзецца вялікая работа па добраўпарадкаванні. Адбываецца абнаўленне машынна-трактарнага парка. Летась у вёсцы Павелкава пасля рэканструкцыі малочна-таварнай фермы ўведзена яе першая чарга. Цяпер каровы ўтрымліваюцца без прывязі, а для атрымання малака выкарыстоўваюцца найноўшыя тэхналогіі.

У філіяле «Праўда-Агра» (дырэктар Віталь Хацько) вырошчваюць зерне на фураж, рапсавае — для атрымання алею, займаюцца малочнай гадоўляй жывёлы. Дзеля таго, каб было больш малака, вядуць работы па пашырэнні малочна-таварнага комплексу на 1000 галоў у аграгарадку Томкавічы. Вядзеццца таксама рэканструкцыя малочна-таварнай фермы ў вёсцы Баравікі, а гэта дазволіць павялічыць пагалоўе дойнага статку з 200 галоў да 500. Паспяхова асвойваюць у «Праўда-Агра» і новыя накірункі дзейнасці. Яскравы прыклад таму — закладзены ў 2010 годзе сад на плошчы ў 84 гектары, які ў 2012 годзе парадаваў сваім першым ураджаем.

Негарэльскі камбінат хлебапрадуктаў, які са студзеня 2008 года з'яўляецца філіялам агракамбіната, адзначыў сваё дзесяцігоддзе. Узрост адносна юны, але поспехі немалыя. Гэтае прадпрыемства, якое ўзначальвае Аляксандр Зяневіч, у нашай краіне з'яўляецца буйнейшым вытворцам прэміксаў. Тэхналагічная лінія па вытворчасці іх, што пастаўлена галандскай фірмай Van Aarsen, дазваляе, дзякуючы сістэме дакладнага шматкампанентнага дазіравання, выпускаць у год па навукова-абгрунтаваных рэцэптах 17 тысяч тон прэміксаў, разлічаных на розныя віды, пароды, узроставыя групы і прадуктыўнасць жывёлы. Гарантавана таксама як высокая дакладнасць дазіравання, так і аднароднасць змешвання біялагічна актыўных рэчываў.

У філіяле сёлета завершана рэканструкцыя цэха па вытворчасці кармоў з устаноўкай сучаснага, высокааўтаматызаванага абсталявання той жа галандскай фірмы. Магутнасць лініі падвоіцца і складзе 130 тысяч тон грануляваных кармоў у год. Сярод навінак — тэхналогія напылення тлушчу на гранулы, што, безумоўна, павысіць эфектыўнасць выкарыстання. Якасць прадукцыі нязменна высокая. Кантроль яе ажыццяўляецца вытворча-тэхналагічнай лабараторыяй, якая атэставана на права правядзення выпрабаванняў у сістэме акрэдытацыі правераных і выпрабавальных лабараторый Рэспублікі Беларусь. А ў снежні мінулага года прадпрыемства пацвердзіла сертыфікат, які сведчыць пра тое, што сістэма менеджменту якасці вытворчасці прэміксаў, камбікармоў і БВМД адпавядае патрабаванням СТБ ISO 9001 — 2009.

## Прыйшоў «Багач» — працаўнік рад

Дзелавы, энергічны, з цудоўным веданнем усяго, што робіцца ў агракамбінаце, — Павел Друз. Што ж, быць такім «усёзнайкам» Паўла Сцяпанавіча абавязвае ягоная пасада. П. Друз з'яўляецца намеснікам генеральнага дырэктара па ідэалагічнай рабоце, праваых, кадравых і сацыяльна-бытавых пытаннях. Дагэтуль

працаваў на шмат якіх пасадах. Так што жыццё ведае не па падручніках, а гэтае веданне і спатрэбілася яму, калі ў студзені сёлетняга года прыйшоў на такую адказную пасаду.

Павел Друз з задавальненнем расказаў мне пра шмат якія аспекты сваёй работы. Дый у цэлым пра розныя накірункі работы агракамбіната «Дзяржынскі». Дарэчы, ёсць у гэтага прадпрыемства і свая паляўнічая гаспадарка, што складае дзесяць тысяч гектараў лясных і палявых угоддзяў. Жадаючыя за адпаведную плату могуць паляваць на казуль, аленяў, дзікоў. А ў рыба-сажалкавай гаспадарцы «Хотава» гэткія паслугі аказваюцца па лоўлі рыбы. Выбар жа насельнікаў вадаёма немалы: белы амур, таўсталобік, карп, фарэль, шчупак, карась. Тыя ж, хто не хоча сядзець з вудай, гэтыя віды рыб могуць тут жа купіць.

У планах зарыбленне штучнага вадаёма, што належыць Цэнтру экалагічнага турызму «Станькава», які першых сваіх наведвальнікаў прыняў у 2008 годзе. Хоць і без рыбнай лоўлі тут можна адпачыць з задавальненнем. У заасадзе ў вальерах утрымліваюцца ваўкі, дзікі, лісіцы, казулі, ламы, фазаны, паўліны, дэкаратыўныя куры і іншыя прадстаўнікі фаўны. Ёсць конеферма, гульнявыя пляцоўкі не толькі для дзяцей, а і для дарослых, а таксама лазерны цір. Можна паглядзець фільмы ў фармаце «5D». Пражыванне наладжана ва ўтульных драўляных дамках гасцінічнага тыпу з усімі выгодамі, харчавацца можна ў кафэ «Мішутка» ці ў рэстаране «Графскі маёнтак».

Калі праводзяцца экскурсіі, нікога не пакідаюць абыякавымі «Мінскі ўмацаваны раён» і «Партызанскі лагер». «Мінскі ўмацаваны раён» — рэканструяваная пагранічная застава 20—30-х гадоў мінулага стагоддзя. А назва «Партызанскі лагер» сама гаворыць за сябе. Можна як бы перанесціся на некалькі дзесяцігоддзяў назад, апынуцца ў тым часе, калі савецкі народ мужна змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, паглядзець старую ваенную тэхніку і ўзбраенне, пазнаёміцца з побытам партызан. І, канечне ж, людна тут у Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь, які, як вядома, супадае з Днём вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тыя, хто набліжаў свет і такі жаданы Дзень Перамогі ў якасці падарунка атрымліваюць унікальную кнігу — фотаальбом «1944. Партызанскі альманах. 2009», у якім прадстаўлены выбраныя старонкі з часопісаў, што выпускаліся партызанамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

У Цэнтр турызму «Станькава» арганізоўваюцца і карпаратыўныя выезды, праводзяцца ў ім турыстычныя злёты. Там жа адзначаюцца і розныя святы, у тым ліку і традыцыйныя народныя, як, скажам, «Масленіца», ці «Багач». Апошняе з іх сёлета прайшло ўпершыню. Ладзілася яно ў апошнюю нядзелю верасня. Багач, як вядома, — гэта старадаўняе земляробчае свята, якое спраўлялі пасля заканчэння жніва. Паводле народных павер’яў, багач ці, інача кажучы, багатнік, багатуха павінен быў забяспечыць дому багацце і шчасце.

Пачатак гэтаму святу быў пакладзены абходам усіх падворкаў, што размясціліся на тэрыторыі Цэнтра. Ад дома да дома ўрачыста неслі сімвал гэтага свята — кашолку са свечкай, а ўжо пры падыходзе ўсіх сустракалі песнямі, танцамі і, зразумела, шчодра застаўленымі сталамі. У якасці ж гаспадароў выступалі дырэктары філіялаў агракамбіната. Пасля свята прадоўжылася на сцэне, на якой пад воплескі гледачоў начальнік Цэнтра экалагічнага турызму «Станькава», ён жа ініцыятар і галоўны арганізатар правядзення гэтага свята Максім Друз і начальнік цэха па ўтрыманні бацькоўскіх форм бройлераў Людміла Шолахава ўзнялі сцяг ААТ «Агракамбінат “Дзяржынскі”».

Урачыстасці і святочны каравай асвяціў настаяцель Храма ў гонар Узнясення Гасподняга протаіерэй айцец Уладзімір. Першым жа каравай новага ўраджаю з рук генеральнага дырэктара агракамбіната «Дзяржынскі» І. Палачаніна атрымаў дырэктар філіяла «Пяцігор’е» П. Ярыжанец. Лепшым працаўнікам былі ўручаны кашолкі з падарункавай прадукцыяй і фірменны знак «Багач».

Гледачам была прапанавана цікавая забаўляльная праграма. Знайшліся жадаючыя прыняць удзел у конкурсе «Жывая рыбалка». Дый як было адмовіцца ад

перспектывы за … 20 секунд злавіць рыбу і панесці яе дамоў. Аматары верхавой язды маглі зрабіць колькі кругоў на кані ці поні. Дзеці ж з энтузіязмам каталіся на надзіманых горках. Сваімі выступленнямі прысутных радавалі шырока вядомы ансамбль «Свята», ансамбль народнай музыкі «Гуляй, казак», група «Ветах».

Не пакінуў абыякавым наведвальнікаў і кірмаш, на якім быў багаты асартымент садавіны і агародніны, а таксама тавары з ярка выражаным нацыянальным каларытам — традыцыйныя беларускія галаўныя ўборы, касцюмы, уручную вышытыя паясы. А дзе, як не на свежым паветры, такія смачныя шашлык, юшка, гарачыя блінцы з мёдам. Дый салдацкая каша на свежым паветры таксама была адна смаката.

Іосіф Палачанін адзначыў: «Перамога прадпрыемства ў рэспубліканскім спаборніцтве па сацыяльна-эканамічнаым развіцці і энергазберажэнні рэсурсаў — добрая падстава, што дазваляе нам сёння сабрацца разам. У сувязі з гэтым высокім дасягненнем кожны супрацоўнік камбіната атрымлівае прэмію. Сёлета «Агракамбінат “Дзяржынскі”» сабраў добры ўраджай зерня, рапсу і яблык. І гэта не можа не радаваць. Усе гэтыя цудоўныя вынікі нашай агульнай работы дазваляюць смела і з аптымізмам глядзець у будучыню. Выкарыстоўваючы вопыт і веды спецыялістаў, мы робім усё, каб пашыраць межы вытворчасці. Хочацца сказаць дзякуй тым, хто прыйшоў сёння з сем’ямі, сябрамі і радуецца ў гэты дзень разам з намі».

Цяпер свята «Багач» будзе адзначацца штогод, і не ў верасні, а ў жніўні. Бліжэй да завяршэння чарговага жніва.

## «Дзяржынаўцы» ёсць «дзяржынаўцы»

Зразумела, не праходзіць незаўважаным на прадпрыемстве і Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу. Сёлета ў актавай зале клуба агракамбіната прайшло ўшанаванне тых, хто перад тым, як пайсці на заслужаны адпачынак, шмат гадоў аддаў прадпрыемству, а таксама пажылых людзей, якія працягваюць працаваць. Званні «Ганаровы ветэран працы» і «Ветэран працы» з уручэннем адпаведнага нагруднага знака, грашовай прэміі і набору прадукцыі, што выпускаецца на прадпрыемстве, былі зацверджаны ў верасні сёлетняга года па ініцыятыве генеральнага дырэктара ТАА «Агракамбінат “Дзяржынскі”» І. Палачаніна. Ужо прысвоілі такія званні 60 чалавекам. Звання «Ганаровы ветэран працы», у прыватнасці, удастоены Васіль Груша, Канстанцін Пазняк, Валянціна Фесіна, Зінаіда Гапановіч, Пётр Бацяноўскі. Валянціна Харошава, Марыя Котава, Аляксандр Валахановіч.

На прадпрыемстве ёсць нямала працоўных дынастый, некаторыя працягваюць працаваць па сённяшні дзень. Дый навошта ісці на адпачынак, калі ёсць яшчэ сілы. Тым больш, што на агракамбінаце вялікая ўвага надаецца сацыяльнай падтрымцы. Да святаў — як дзяржаўных, так і прафесійных, да Новага года ўсе атрымліваюць прадуктовыя наборы. За кошт прадпрыемства цяжарныя жанчыны могуць раней пайсці ў дэкрэтны водпуск. Сёлета ўпершыню літаральна ўсе сем’і, у якіх ёсць дзеці-школьнікі, атрымалі па мільёну рублёў на кожнае дзіця для падрыхтоўкі да новага навучальнага года. На гэта пайшло прыкладна 900 мільёнаў рублёў, ды хіба можна эканоміць на будучыні?! Малазабяспечаных жа сямей у ААТ «Агракамбінат “Дзяржынскі”» проста няма. Дый адкуль ім узяцца, калі зарплата звыш 600 долараў.

Таму людзі так і даражаць сваёй работай, а ўсяго працуючых на прадпрыемстве звыш трох тысяч чалавек. Агракамбінат дае ў год 50 тысяч тон мяса і вырабаў з птушкі, 30 тысяч тон малака пры надоях на адну карову каля 9 тысяч кілаграмаў, 2 тысячы тон ялавічыны.

Істотны і такі момант. Шматграннае жыццё прадпрыемства адлюстроўваецца на шматлікіх стэндах, у вітрынах, розных сродках інфармацыі. Гэта тычыцца

і мерапрыемстваў. Якое б з іх ні праводзілася, якое б свята ні адзначалася, літаральна на наступны дзень на прахадных, а таксама ў галоўным будынку агракамбіната вывешваюцца вялізныя плакаты, на якіх каляровыя фотаздымкі ўзнаўляюць асноўныя, найбольш важныя моманты таго, што так шмат прынесла радасці адпачываючым, дало ім зарад энергіі на новы працоўны дзень, яшчэ раз прымусіла прамовіць у думках, а то і ўслых: «Такія мы, дзяржынаўцы!».

* * *

Пашчасціла мне сустрэцца з І. Палачаніным яшчэ дзесяць гадоў назад, калі ён працаваў старшынёй Верхнядзвінскага райвыканкама. Тагачасны галоўны рэдактар часопіса Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Беларуская думка» Уладзімір Вялічка і я, першы намеснік галоўнага рэдактара, прыехалі ў гэты горад на Заходняй Дзвіне, каб расказаць аб працоўных справах Верхнядзвінскага раёна. Уразілі, аднак, не толькі яны, а і тое, як шмат расло ў райцэнтры кветак. Нягледзячы на тое, што быў ужо верасень, яны квітнелі паўсюдна.

На старанна дагледжаных клумбах ля будынка райвыканкама.

Уздоўж дамоў і грамадскіх пабудоў.

Ля ўваходу на прадпрыемствы і ў арганізацыі.

Перад намі паўстаў не Верхнядзвінск, а сапраўдны Кветкаград.

У Кветкаград Вернядзвінск ператварыўся не без удзелу Іосіфа Мікалаевіча, які ўмее цаніць сапраўдную прыгажосць.

Умеюць цаніць прыгажосць і ў агракамбінаце «Дзяржынскі». Не паўтараюць да месца і не да месца словы класіка пра тое, што прыгажосць уратуе чалавецтва, а ўсё робяць для таго, каб быць дбайнымі не толькі ў працы, а і духоўна багатымі, прыгожымі. Дый каб іншыя бачылі гэтую прыгажосць штодня. Таму так шмат увагі і надаецца добраўпарадкаванню. Прыклад — галоўная сядзіба прадпрыемства.

Наведаўся я ў Фаніпаль у першыя дні кастрычніка, калі пасля нядаўняга пахаладання прырода ўспомніла, што яшчэ павінна быць і бабіна лета. Пацяплела, выглянула сонца… Як жа было прыемна ўбачыць каля адміністрацыйнага будынка старанна дагледжаныя клумбы і газоны, трава на якіх была пакошана так старанна, што, бадай, не кожны цырульнік можа зрабіць гэткую акуратную стрыжку. Але не паспеў я выказаць сваё захапленне, як П. Друз, які сустрэў мяне на чыгуначным прыпынку, сказаў:

— Пачакайце каля ўваходу, — а сам накіраваўся да касца, які спяшаўся пайсці, палічыўшы сваю работу выкананай. — Трэба, каб у некаторых месцах яшчэ крыху падкасіў.

Я здзівіўся, хоць і не выказаў гэтага здзіўлення. Здавалася, што і так усё зроблена — лепш зрабіць немагчыма. Павел жа Сцяпанавіч, мабыць, угадаў мае думкі, бо заўважыў:

— Дробязей ні ў чым не павінна быць. Дый, як кажуць, няма мяжы дасканаласці.

Не пагадзіцца з П. Друзам было нельга. Такой перакананасці у шмат разоў пабольшала, калі я бліжэй пазнаёміўся са справамі ААТ «Агракамбінат “Дзяржынскі”». На гэтым прадпрыемстве працуюць САПРАЎДНЫЯ ГАСПАДАРЫ, а на іх, САПРАЎДНЫХ ГАСПАДАРАХ, і зямля трымаецца. Памятаеце, некалі Міхайла Ламаносаў зазначыў, што «будущее России будет произрастать Сибирью», і, як вядома, не памыліўся. Што да будучага нашай роднай Беларусі, дык яно, несумненна, «будет произрастать» сапраўднымі гаспадарамі на зямлі. Такімі, якія і працуюць і ў ААТ «Агракамбінат “Дзяржынскі”».

**Валянціна ЛОКУН**

# ПТАХІ З ПАДРЭЗАНЫМІ КРЫЛАМІ

## Фрэдэрык Стэндаль і Змітрок Бядуля: да праблемы свабоды і чалавека

«*Рамантызм як мастацкі спосаб адлюстравання рэчаіснасці, як своеасаблівы тып мастацкіх адносін да рэчаіснасці,* — сцвярджае І. Багдановіч, — *знамянальны культам свабоды як вышэйшай формы існавання асобы ў свеце, прыцягальны сваёй ідэяй вызвалення чалавечага духу ад прыніжанай залежнасці, ад усяго, што нявечыць душу чалавека*» [2, с. 33].

В. Гюго разглядаў свабоду ў мастацтве і свабоду ў грамадстве як адзіную мэту жыцця. «*Свабода ў мастацтве, свабода ў грамадстве, — вось двайная мэта, да якой павінны імкнуцца ўсе тыя, хто думае паслядоўна і лагічна*» [10, с. 158], — адзначаў адзін з заснавальнікаў еўрапейскага рамантызму.

Паняцце свабоды філосафы суадносілі з гармоніяй у сферы чалавечых адносін. І. Кант пісаў: «*Ніхто не можа прымусіць мяне быць шчаслівым так, як ён хоча (так, як ён уяўляе сабе шчасце іншых людзей); кожны мае права шукаць сваё шчасце на тым шляху, які яму самому здаецца прыдатным, калі толькі гэтым ён не перашкаджае іншым імкнуцца да падобнай мэты*» [11, с. 79]. Свабода па І. Канту не толькі з'ява дэмакратычная, гэта яшчэ і самастойнае, заяўленае самім чалавекам, імкненне да дасканаласці, да шчасця — і не за кошт абмежавання свабоды іншых. Ідэя свабоды ў І. Канта зрабіла пэўны ўплыў на светапоглядную сістэму І. Фіхтэ, а пасля яна адбілася і на працах Ф. Шэлінга і Г. Гегеля, а праз іх і на фарміраванне філасофска-этычных пастулатаў рамантызму — маем на ўвазе канцэпцыю прарока ці генія, ідэю актыўнасці духу і г. д.

Увогуле, праблема свабоды асобы мае складаную гісторыю. Філосафы эпохі Адраджэння вылучылі ідэю homo universalis, універсальную асобу, г.зн. цэльную, усебакова развітую. Асобу, якая спалучала цялеснае і духоўнае. Але гэта дамінавала і ў антычным мастацтве. На працягу XVII—XVIII стагоддзяў у заходнееўрапейскім мастацтве і літаратуры ўніверсалізм асобы пачне страчвацца. Яна будзе разглядацца або рацыяналістычна (класіцызм, розныя напрамкі асветніцкай літаратуры), або з пазіцый пачуцця (сентыменталізм), або ў такім складаным комплексе, дзе адсутнічала гармонія і адзінства (барока).

Не менш важнай у эстэтыцы рамантызму з'яўляецца і праблема адчужанасці асобы, распрацаваная Ф. Шылерам. Філосаф, які ўвасобіў у сваіх працах асветніцкі ідэал чалавека, у сярэдзіне 90-х гадоў XVIII стагоддзя прадэманстраваў новы падыход да лёсу асобы, прадвызначаючы тую логіку думкі, якая неўзабаве заявіла аб сабе ў рамантыкаў. Раздумваючы аб лёсе чалавека ў сучасным свеце, Ф. Шылер заўважыў, што характэрная для XVIII стагоддзя антытэза антычнасці і сучаснасці набывае новы сэнс. Па яго словах, «*разарваўся ўнутраны саюз чалавечай прыроды, згубнае процістаянне раздвоіла яе гарманічныя сілы*» [17, с. 262].

Адмаўляючы грамадства, якое распалася на мноства асобных, ізаляваных адзін ад аднаго індывідуумаў, рамантыкі імкнуліся стварыць вобраз неадчужанага чалавека, стварыць ілюзію свабоды ад усялякага ціску. Але свае творчыя праекты яны рэалізоўвалі па-рознаму. Адны адлюстроўвалі асобу, якая існавала па-за

рэальнымі грамадскімі стасункамі, асобу выключную, якая імкнулася дыктаваць іншым сваю волю. Гэта — героі Дж. Байрана. Іх можна лічыць архетыпамі еўрапейскага рамантызму. Іншыя ж у сваіх тэкстах імкнуліся стварыць універсальную асобу, якая ўвасабляла ў сабе «абноўленую» мару мастакоў рэнесансу. Гэты герой найбольш поўна прадстаўлены творчасцю нямецкіх рамантыкаў — Вакенродэра, Наваліса, Э. Гофмана.

Задача нашага даследавання, якое носіць адначасова інтэгратыўны і кампаратыўны характар, разгледзець у свеце пазначанай праблемы кропкі судакранання рамантызаваных мастацкіх дыскурсаў Ф. Стэндаля (1781—1842) і З. Бядулі (1886—1941) — пісьменнікаў розных па часе і сацыякультурных умовах. Пісьменнікаў, не прызнаных сваім часам.

Канцэпцыя свабоды ў З. Бядулі набліжаецца да кантаўскага яе разумення — як імкненне да дасканаласці, у З. Бядулі — да гармоніі. Сімвалам свабоды ў беларускага пісьменніка з'яўляецца хараство. Хараство і гармонія — гэта дзве стыхіі, якія пранікаюць у сутнасць бядулеўскіх тэкстаў, фармуючы яе сэнсавую і стылёвую парадыгму. Для рамантыкаў катэгорыя харастве была вышэйшым выражэннем сутнасці мастацтва. Гэта была катэгорыя духоўнага плана і звязвалася з высокім духам, які адзіны і мог ператварыць свет адпаведна свайму ідэалу. З. Бядуля бачыў сваю задачу мастака ў тым, каб адлюстраваць «*святое адвечнае хараство*» [5, т. 5. с. 109], пад якім ён разумеў адвечны свабодны духоўны пачатак жыцця чалавека. Ён лічыў, што праз гэты пачатак чалавек злучаецца «*з праўдзівым богам, добрым, усёдаровываючым, святым богам зямлі…*» [5, т. 5. с. 384] «*Што гэта — хараство?*» — пытаецца З. Бядуля і тут жа адказвае: «*Хараство — маці жыцця, кіраўніцтва дабра і праўды. Хараство — гэта гарманічна скрышталізаваныя жыццёвыя атамы: каторыя, губляючы сваю даўнейшую хаатычнасць, уваходзяць у цыкл кемлівасці, штукарства*» [5, т. 5. с. 384]. Такім чынам, хараство ў З. Бядулі — гэта яшчэ і гармонія ў сваім сакральным значэнні. Хараство ёсць найвышэйшая гармонія свабоднага прыроднага свету.

Катэгорыя хараства ў эстэтыцы рамантыкаў займала дамінуючае месца. Яны лічылі, што прыгажосць мастацтва — вынік аўтарскага пераўтварэння жыцця, вынік творчага пачуццёва-канкрэтнага ўвасаблення ідэалу пры адлюстраванні рэальных з'яў. З. Бядуля, у прынцыпе падтрымліваючы іх ідэю, разам з тым быў перакананы, што «*мастацтва — зачараванае фаўстаўскае люстэрка, у якім вабная постаць цудоўна-прыгожай Гэлены красуецца навекі*» [5, т. 5. с. 403]. Ф. Стэндаль быў большым рэалістам, ён параўноўваў раман з люстэркам, якое праносяць па вялікай дарозе. Тым самым пісьменнік, з аднаго боку, падкрэсліваў адказнасць, цяжкасць літаратурнай працы, з другога — аб'ектыўнасць адлюстравання. Літаратура, па Ф. Стэндалю (і гэтым ён адрозніваецца ад З. Бядулі), — гэта не «гарманічнае люстэрка», хоць яно імкнецца да адлюстравання поўнага малюнка жыцця, а люстэрка «аналітычнае», якое «змешчана» ў свет як яго рухомая часцінка («*ідзе чалавек*») і таму імкнецца да адлюстравання гэтага свету ў мностве ракурсаў і праекцый. Прычым усе гэтыя ракурсы і праекцыі залежаць ад пазіцыі асобы аўтара, якая «ўзваліла» на сябе люстэрка.

Ф. Стэндаль мастацтва ставіў вышэй за жыццё — па ступені праўдзівасці і багацці псіхалагічных адценняў. У процівагу «тэорыі падражальніцтва», характэрнай для папярэдніх перыядаў развіцця мастацтва, французскі раманіст разглядаў мастацтва як ***творчую*** дзейнасць, у выніку якой ствараецца адметная рэчаіснасць. Гэтая рэальнасць спалучае адмаўленне існуючага з памкненнем да ідэалу.

З. Бядуля таксама ставіў мастацтва вышэй за жыццё. На яго думку, менавіта мастацтва ў сваіх формах, вобразах і гуках «*авекавечвае эпохі тысячагоддзяў*». Яно «*служыць новым пакаленням у сэнсе гісторыі ў сто крат болей чымся летапісы, прафесарскія працы і г. д., бо ў іх захаваны непадробны дух эпохі — яе настроі, яе перажыванні, яе ідэалы хараства*» [5, т. 5. с. 403].

А яшчэ для З. Бядулі мастацтва — гэта стыхія. Як і сама прырода. Гэтыя дзве формы «стыхіі» то зліваюцца ў адно цэлае, то імкнуцца пераважыць адна адну. «*Няма лепшага хараства над хараством прыроды. Няма болей пэўнага мастацтва над мастацтвам, што раскідана ў прыродзе. Чалавек павінен гэта зразумець… Прырода — бязвінна, чыста і ніколі не здрадзіць, як чалавек*» [5, т. 3. с. 109]. Гэтыя словы прамаўляе адзін з герояў З. Бядулі, хоць перад гэтым быў перакананы, што «*мастацтва вышэй за жыццё і смерць*» [5, т. 3. с. 60].

«*Мастацтва і жыццё*, — адзначаў З. Бядуля ў адным са сваіх артыкулаў у 1923 годзе, — *гэта два фактары, якія ўзаемна ўплываюць адзін на адзін*» [5, т. 5. с. 412]. Пазней, у «Сярэбранай табакерцы», напэўна пад уздзеяннем пануючай тады марксісцкай філасофіі, у формуле «*мастацтва — жыццё*» пісьменнік першасным зробіць жыццё. «*Якія мы самі — такія нашы галовы. Якія нашы галовы — такія і шапкі*» [5, т. 5. с. 334]. А далей яшчэ больш выразна: «*Дзяжа — бацька ўсіх найлепшых інструментаў на зямлі. Без дзяжы і хлеб — не хлеб. А без хлеба надзённага хлеб духоўны ніякага смаку не мае*» [5, т. 5. с. 337]. Пяро творцы пісьменнік параўноўвае са «*снапком крапівы*». «*Няхай твае словы праўды*, — звяртаецца Дзіда-дзед да Паэта, — *пякуць сэрцы людзей, як пячэцца наша родная крапіўка*» [5, т. 5. с. 337].

Асаблівае месца ў рамантызаванай эстэтыцы беларускага пісьменніка займала песня. У 1910 годзе ён пісаў: «*Якая моцная падмога ідзе ад цябе, шчырая, святая песня! Ты лечыш наша беспатольнае гора, ты аблягчаеш нашу працу, ты абціраеш кроў і пот, даеш надзею і моц, малюючы шэрае жыццё, цешыш надзеяй на лепшае*» [14].

Музычныя матывы займалі выключнае месца ў мастацкай парадыгме беларускага творцы. Гэта пры тым, што музыка разглядалася рамантыкамі як своеасаблівая мадэль светапабудовы. Яна расцэньвалася імі як гарманічнае ўвасабленне бясконцасці быцця, як выражэнне адзінства душы чалавека і свету. Гофман, напрыклад, лічыў музыку «*прамовай прыроды», «песняй песняў дрэў, кветак, жывёл, каменняў і вод*» [9, с. 25].

Міфалагізаваны сэнс музыкі, у якой сінтэзуюцца гукі прыроды і драматычныя адчуванні чалавека, — вобразна-сімвалічная дамінанта аповесці З. Бядулі «Салавей».

Ф. Стэндаль таксама сферай ідэальнага абраў прыроду і музыку: «*Я з вытанчанай пачуццёвасцю выгледжваў прыгожыя пейзажы; выключна дзеля гэтага я вандраваў. Пейзажы былі* ***смычком****, які граў на маёй душы*» [15, т. 13. с. 15]. Непасрэдна пейзажы ўспрымаліся раманістам «*бачным вобразам душы Мацільды*» [15, т. 13. с. 15]. Уласную любоў да музыкі Ф. Стэндаль называў «*самым моцным і самым дарагім*» [15, т. 13. с. 167] сваім пачуццём. Дзеля музыкі ён гатовы быў ахвяраваць, чым заўгодна: «*і не ведаю, дзеля чаго іншага я пайшоў бы на такія высілкі*» [15, т. 13. с. 167].

Разам з тым, і Ф. Стэндаль, і З. Бядуля, з'яўляючыся рамантыкамі па духу, па светаўспрыманні, па сваіх унутраных памкненнях да ідэалу, гармоніі, трывала стаялі на рэалістычнай глебе, іх эстэтычная свядомасць угрунтоўвалася жыццёвай канкрэтыкай і сацыяльнымі задачамі.

Ф. Стэндаль выступаў супраць абсалютызацыі мастацкай формы, надаючы ёй другаснае значэнне: «*Вось мая першая стылістычная памылка*, — пісаў ён у сваім дзённіку, дапусціўшы там памылку, — *іх будзе шмат, таму што я лічу за правіла не абцяжарваць сябе і нічога не выкрэсліваць*» [15, т. 14. с. 5]. Па гэтай прычыне ён недалюбліваў Ж. Расіна і Ф. Шатабрыяна. «Не саромецца», «не выкрэсліваць», «быць самім сабою», «ладзіць са сваім становішчам» — вось імператывы мастацкага стылю Ф. Стэндаля.

З. Бядуля, наадварот, лічыў, што ў мастацтве «*ўсё павінна быць строга падпарадкавана. Гэта як у прыродзе, дзе кожная маленькая, скромная кветка прыгажэй у шмат разоў багатага хораму Саламона (…) У паэзіі апрача душынатхнення павінна быць і голас цела — добрая тэхніка*» [5, т. 5. с. 399].

Бядуля-паэт шукае мастацкую форму для рэалізацыі сваіх ідэй у паэтыцы і сімволіцы, вуснай народнай творчасці. І паняцце гармоніі звязваў менавіта з ёю, з яе ідэяй услаўлення «*святога адвечнага хараства*». Разам з тым, у З. Бядулі паняцце гармоніі закранае і суб'ект тварэння — чалавека: «*Жыццё можна назваць кветкай, хараство — мёдам гэтай кветкі, а чалавека — пчалінай, збіраючай гэты мёд*» [5, т. 5. с. 385]. Па З. Бядулі, чалавек не ёсць першатворца, ён не з'яўляецца стваральнікам гармоніі, ён — яе ахоўнік і спажывец.

Рамантычная літаратура была самым цесным чынам звязана з фальклорам. Познерамантычная нямецкая паэзія, выкарыстоўваючы народныя матывы і вобразы, запазычвала і формастваральныя сродкі народнай песні. Дзякуючы такому сінтэзу, яна стала больш даступнай масаваму чытачу, набыла рысы задушэўнасці, мілагучнасці (паэзія К. Брэнтана, А. Шamісо, Л. Уланда і інш.). Г. Гейне быў першым нямецкім паэтам, які выкарыстаў формы народных песень («Кніга песень»). Ва ўмовах нацыянальна-вызваленчай барацьбы супраць Напалеона фальклорная арыентацыя абуджала патрыятычныя пачуцці немцаў (Зб. «Чароўны рог хлопчыка» (1806—1808), які склалі А. Арнім і К. Брэнтан).

Фальклорныя тэксты выкарыстоўвалі і падвяргалі рамантычнай стылізацыі Я. Чарот, Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, М. Багдановіч, Я. Купала, Я. Колас і інш. Беларускі фальклор лёг у аснову паэтычных твораў А. Міцкевіча (творчасць апошняга, дарэчы, з'яўляецца ўзорам філасофскага і мастацкага асваення фальклору: «Балады і рамансы», 1822).

З. Бядуля таксама шукаў сваю праўду ў ***слове*** народным. У яго творах праз ***слова*** паяднoўваюцца душы памерлых і жывых шматлікіх пакаленняў. Гэтае слова ўлівалася ў свядомасць чалавека «*з калыснай песняй маці*». Слова гэтае «*бясчысленныя вякі, як евангелле святое перадаецца з вуст у вусны, шліфуецца, гартуецца і робіцца як тая дамасская сталь, вострым і гібкім. Яно да касцей прырастае, у кроў уядаецца і адбіваецца ў псіхіцы народа*» [5, т. 5. с 393].

Праз слова народнае рамантызм З. Бядулі сілкаваўся нацыянальнай ідэяй, ідэяй абуджэння народнай свядомасці. Праз гэтае слова мастацкі свет Бядулі-рамантыка прасякнуты духам бунтарства. Тым духам, якім былі прасякнуты нацыянальныя казкі, міфы, легенды.

Свой мастацкі свет З. Бядуля будаваў па законах фальклорнай персаналізацыі. Пры гэтым пісьменнік выкарыстоўваў не гатовыя тэксты народнай міфалогіі, а быў стваральнікам іх новых сэнсаў — філасофскіх, сацыяльных, маральна-этычных. У міфатворчасці З. Бядуля шукаў спрадвечныя духоўныя каштоўнасці. Міфы ў яго тэкстах — гэта ідэі-сімвалы, вобразы-ідэі аб вышэйшым, незнішчальным у духоўнай існасці чалавека.

Рамантызм З. Бядулі «судакранаецца» са стыхіяй прыроды і вынікае з яе. Гэта абсалютна адпавядае канонам еўрапейскага рамантызму. Эстэтыка рамантызму адводзіла прыродзе ролю аднаго з найбольш значных сродкаў пазнання свету і раскрыцця ўнутранага «я» чалавека. Сувязь з натурфіласофіяй Ф. Шэлінга тут відавочная. Адпаведна тэорыі Ф. Шэлінга прырода ўяўляе сабою жывы арганізм, цэласнасць якога грунтуецца на ідэі «сусветнай душы». Суб'ектывацыя прыроды, яе адзінства з чалавекам — характэрныя адзнакі рамантызму. Трактоўка і адлюстраванне прыроды ў рамантыкаў былі амаль заўсёды па-філасофску заглыбленымі. Яна была люстэркам самога аўтара. Менавіта праз прыроду рамантыкі спасцігалі таямніцы быцця, у ёй жа яны шукалі ідэал хараства і гармонію свету. Чалавек як частка прыроднага космасу мог праз яе, прыроду, зліцца з найвышэйшай духоўнай субстанцыяй — Богам.

Менавіта вобраз прыроды, яе філасофія і ёсць той плацдарм, які найбольш збліжае мастацкія светы З. Бядулі і Ф. Стэндаля. У беларускіх рамантыкаў вобразы прыроды, пейзаж былі надзелены таямнічасцю ў меншай ступені, чым, скажам, у еўрапейскай рамантычнай літаратуры. З. Бядуля ўспрымаў навакольны свет і жыццё эмацыянальна-пачуццёва: «*Зірніце...* — пафасна ўсклікае пісьмен-

нік. — *Зусім асобны, забыты куток на зямлі… Сваімі рэчкамі, лугамі, балотамі, лясамі, сваімі зычнымі, хапаючымі за душу песнямі, музыкай, казкамі, бывальшчынай… гульнямі, звычаямі — усім тым, у чым выяўляецца асобная, таямнічая, і такая дзіўная містэрыя нашага народа, ці не папхне вас, каб сказаць усё гэта, выведаць і паказаць свету ўсяму!..*» [5, т. 5. с. 385] Яго вобразы зямлі, сонца, ветру былі выявамі аднаго вялікага космасу, «ланцужкамі» ў гармоніі свету. З. Бядуля намагаўся сінтэзаваць этнічнае і мастацкае. Ён хацеў «*прытуліцца гарачым сэрцам да зямлі-маткі і вокам заглянуць глыбока-глыбока ў жыццё: у зямлю аж да дзедаўскіх костачак, у людзей — да бяздоні душ, у край — праз усе яго долі, да першых дзён, спазнаць душу сваёй зямлі…*» [5, т. 5. с. 383].

І гэтае «пазнанне» рабіла аўтара моцным і незалежным. Тут З. Бядуля нібыта пераклікаецца з Гейнэ: «*гігант Антэй заставаўся непераможаным, пакуль датыкаўся нагамі да мацеры-зямлі, і ён страціў сілу, як толькі Геркулес узняў яго ў паветра*» [8, с. 219].

Лірычны герой З. Бядулі моцны сваімі зямнымі каранямі, ён хацеў наталіцца сілаю сваёй зямлі, яе духам, моцным і свабодным. Каб самому стаць такім жа моцным і свабодным. Адчуванне зліцця і ўзаемапранікнення чалавечага і прыроднага светаў дало магчымасць яму ўсвядоміць сябе часткай бязмежнага стваральнага духу, разлітага ў Сусвеце: «*Здаецца, лётаў бы вышэй гаю зялёнага, далей рэчкі блакітнай, туды, дзе сонейка ўзыходзіць, дзе фарбай пурпурнай яно хмаркі фарбуе. Здаецца, ахапіў бы весь свет божы і зліўся ў адно з ветрыкам лёгкім, каб нешта цікавае, патрэбнае казаць, убогім вёскам…*» («У досвітку») [5, т. 2. с. 26]. Адсюль зыходзіць і ідэя разняволенага духу як духу свабоднага. Такім чынам, прырода ў З. Бядулі — гэта крыніца высокай духоўнасці, натхніцелька патрыятычных пачуццяў чалавека. І да ўсяго — сімвал свабоднага духу.

Ф. Стэндаль таксама звяртаўся да дакладных апісанняў прыроды. Толькі яго прырода звязана найперш з маральнай сферай чалавека, яго настроем ці станам душы. Трапіўшы ў Пармскую крэпасць, Фабрыцыа «*ўзяўся разглядваць вялізны ланцуг Альп і яму здавалася, што Пармская крэпасць выштурхнена на перадавы рэдут іх хрыбта*» [15, т. 3. с. 321]. Часам пісьменнік толькі напамінае аб прыгажосці «*ляснога гушчару*» ці «*дзіўнай прахалодзе*» пад букамі, згадвае пра радасць, якую дастаўляе «*чыстае горнае паветра*». Але ўся гэтая дзіўная прыгажосць не існуе сама па сабе, яна створана для таго, каб несці чалавеку шчасце: «*Усё тут высакароднае і ласкавае, усё гаворыць аб каханні*» [15, т. 3. с. 31]. Прырода робіць чалавека і больш дасканалым. «*На вадзе і ў небе ўсё было напоўнена глыбокім спакоем. Душа Фабрыцыа не магла супрацiўляцца велічыні прыгажосці прыроды…*» [15, т. 3. с. 30] Пейзаж у Ф. Стэндаля — гэта, карыстаючыся словамі Р. Андрые, «*ландшафт душы*», адбітак унутранага стану чалавека. А яшчэ — сфера гармоніі, якая адсутнічае ў сацыяльным жыцці. Той жа самы Фабрыцыа, трапіўшы ў родныя мясціны пасля працяглага перапынку, «*аддаваўся пачуццю замілавання, любуючыся то велічнымі, то кранальнымі ляснымі пейзажамі… Прыгажэй іх, бадай, няма ў цэлым свеце*» [15, т. 3. с. 180]. А яшчэ — гэта памяць, «*памяць душы*». Апынуўшыся ў зачыненай званіцы, Фабрыцыа пад уплывам навакольнай прыгажосці згадвае аб сваім дзяцінстве. «*Гэты дзень, у адзіноце, быў самым шчаслівым у яго жыцці*» [15, т. 3. с. 174].

У сваім адчуванні прыроды Ф. Стэндаль збліжаецца з Ф. Шэлінгам. Для Ф. Шэлінга прырода была свайго роду паэмай, мастацкім творам, бо яна іманентна «створана», «народжана» дзейнасцю абсалютнага духу, які выяўляўся ў ёй гэтак жа, як ідэя мастацкага твора ў яго вобразах. Адсюль і ідэя мастацтва як вышэйшай і найбольш адэкватнай формы пазнання свету. Мастацтва з’яўлялася аналагам свету і адпавядала яго сутнасці. Рамантызаванай сутнасці, дадамо. «*Тое, што мы называем прыродай — усяго толькі паэма, схаваная пад абалонкай цудоўнага тайнапісу*» [16, с. 393], — пісаў Ф. Шэлінг.

Шэлінгаўская ідэя ўспрымання прыроды сугучна і З. Бядулі: «*Вясна…*

*Салоўка спявае...*» [5, т. 3. с. 5] Тут «адчуваецца» не толькі «паэма» прыроды, вясны-чараўніцы, а і песня, у якой душа пісьменніка перапоўнена вакольнай прыгажосцю.

Гэтак жа «заспявала» душа Фабрыцыа, калі ён апынуўся каля «*свайго дрэва*» [15, т. 3. с. 179] — каштана, якое пасадзіла маці яшчэ ў дзень яго народзін.

З. Бядуля стварае адмысловую паэму прыроды і напаўняе яе новым сэнсам — жыццесцвярджальным, «быційным». Разам з тым ён насычае пейзаж глыбокім сэнсам, метафарызуе яго: «*А месяц чырвоны, чырвоны. Вяснову ноч крывавіць. А часам ён сіні або іншага колеру*» [5, т. 3. с. 5].

Прырода ў З. Бядулі прымірае самых розных людзей і яднае іх у адно цэлае: згадваецца сцэна, калі пан Вашамірскі, ксёндз, фурман і Салавей апынуліся ў зімовым вечаровым лесе. «*Усе маўчалі. Яны былі захоплены пекнатою зімовай месячнай ночы. Ва ўсіх пачуццё было спачатку звязана і пераплецена нечым адным — і чацвёра людзей у сваім маўчанні, у азіранні вакольнай смуглай белі вельмі блізкі былі між сабой, або нават* ***адной*** (падкрэслена мной — В. Л.) *істотай, раздзеленай на чатыры часткі...*» [5, т. 3. с. 48]

У параўнанні з імпрэсіяністамі, у якіх замалёўкі прыроды выконвалі найперш псіхалагічную функцыю, былі своеасаблівымі вобразамі-сімваламі, эквівалентамі «матэрыялізаванага» ўнутранага стану героя, прырода ў З. Бядулі, як і ў Д.-Г. Байрана («Паломніцтва Чайльд-Гарольда», «Манфрэд»), не мае такой цеснай псіхалагічнай залежнасці. (Хоць бываюць і выключэнні. Але гаворка ідзе аб агульнай тэндэнцыі.) Прырода ў З. Бядулі выступае як вольная стыхія, як свет свабодны і прыгожы:

> *«Жывуць, нібы краска на ніве,*
> *Як дуб на паляне, — шчаслівы,*
> *Як бура — адважны і смелы,*
> *Жыццём ты напоўнен, як хмелем»* [6, с. 51-52].

Бядуля-рамантык стварае мадэль прыроднага свету як свету ачалавечанага, як жывой, рухомай ***істоты***, прамацеры свету-ўніверсуму: «*Зямля! Маці наша! Чуецца заўсёды і ўсюды тваё цёплае, жыватворнае дыханне, каторае мёдам па жылах разліваецца...*

*Усе мы дзеці твае: і расліна, і жывёла, і чалавек...*

*Усіх ты нас родзіш, усе мы жывем на табе, усіх ты нас ізноў прымеш...*» [5, т. 2. с. 21] («Зямля» — 1917). Прыродны свет З. Бядулі жыве паводле анімістычных, антрапалагічных уяўленняў нашых продкаў.

Часткай бясконцага па часе і прасторы прыроднага космасу быў чалавек. Чалавек, які злучаў мінулае з будучым, ствараў гісторыю:

> «*Я — спадчына вякоў, сын даўніх пакаленняў,*
> *Я — бystралётны цень тысячалетніх ценяў,*
> *Я — хуткамігі блеск ранейшых мігаценняў;*
> *Я — тку далей узор няскончаных тканінаў,*
> *Я — непрыкметна плынь стардаўніх ручаінаў,*
> *Я — кволая трава вячыстых лугавінаў (...)*
> *Хачу прабіць сцяну да новых, светлых даляў...*» [5, т. 1. с. 118].

Такім чынам, аўтар сцвярджае «ўсюдыіснасць» чалавека як часткі прыроды, дух якога зліваецца з самой духоўнай прыроднай субстанцыяй.

* * *

Антытэзай замкнёнасці ў сваім «я» была ідэя ўніверсальнасці рамантычнай асобы. Тэарэтычна гэтая думка абгрунтавана раннімі нямецкімі рамантыкамі, у прыватнасці В. Вакенродэрам і Ф. Шлегелем.

Першы з іх з ironiяй ставіўся да тых, хто не разумеў, што на зямным шары існуюць антыподы і што самі яны — антыподы: «*Яны заўсёды пазначаюць тое месца, дзе знаходзяцца, цэнтрам прыцяжэння, і іх духу не хапае крылаў, каб абляцець увесь зямны шар і адзіным поглядам абхваціць сцверджанае ў сабе самім цэлае*» [12, с. 154].

Зразумела, што ідэя цэласнай гарманічнай асобы магла знайсці ў рамантыкаў толькі ўтапічнае, ілюзорнае ўвасабленне. Гэта магла быць ілюзія зліцця чалавека і прыроды (Вордсворт, Эйхендорф), ідэя перамогі героя над усімі формамі прыгнёту (П. Б. Шэлі) або старая русоісцкая ўтопія натуральнага чалавека, інтэрпрэтаваная новымі ўмовамі (Ж. Санд). Праўда, часцей за ўсё — у Кітсі, Гофмана, Наваліса — гэтая мара ўвасаблялася ў вобразе мастака. У беларускай літаратуры ў вобразе Музыкі — Я. Купала і З. Бядуля.

Бядуля-рамантык абсалютызаваў ролю мастацтва ў сацыяльным і духоўным абнаўленні свету. Вобраз Музыкі — аповесць «Салавей» (1928) — узяты пісьменнікам у якасці ўніверсальнай мадэлі ўзаемаадносін мастацтва і рэчаіснасці. Гэта адпавядала літаратурным традыцыям і актуаліям таго часу. Толькі З. Бядуля акцэнтуе сваю ўвагу на праблеме **свабоды** мастака.

У аповесці «Салавей» ён застаецца такім жа рамантыкам-ідэалістам, шукальнікам абсалютных маральных каштоўнасцей, якім быў і раней. Толькі свой ідэал свабоды ён шукае ўжо не ў міфатворчасці або ў сферы прыроды, а ў мастацтве, якое, на яго думку, з’яўляецца носьбітам высокай маралі і вольнасці народнай.

Галоўны герой аповесці Сымон — дзіця прыроды, зямлі, лесу, усяго наваколля, ён іх духоўная частка і працяг адначасова. Хлопчык «*усімі пачуццямі ўбіраў ў сваю істоту навакольнае. Увесь свет быў, як у гняздзе, у яго сэрцы, для яго ж. Нават сам пан Вашамірскі, якому належалі ўсе навакольныя вёскі, той самы пан, што купіў яго, Сымонкі, бацьку за каня ў суседняга пана Весялоўскага, быў цікавым для хлопчыка*» [5, т. 3. с. 12].

Беларускі пісьменнік прадстаўляе асобу выключную — Паэта, Музыку. Героя-рамантыка, які адчуваў у навакольным свеце «*зусім не тое, што яго равеснікі*» [5, т. 3. с. 14]. Герой прыслухоўваўся да разнастайных гукаў зямлі, якія яму здаваліся музыкай «*тысячаструнных гусляў*». Гэтыя гукі зліваліся ва ўспрыманні героя ў непарушную мелодыю, гарманічную па сваёй сутнасці. Сымон-Салавей хацеў быць уладаром Сусвету. Багацце гукаў, спрадвечная іх «іначасць» дзівіла яго. Ён хацеў стаць уладаром гукаў зямлі: «*Эх, каб сабраць усе гэтыя гукі ў адно — у сваю жменю, і потым патроху, кропелькамі выпускаць іх адтуль* <…>

*Усе галасы зямлі сціснуты ў кулаку Сымонкі* (…) *Усе галасы зямлі захаваны ў кулаку Сымонкі…*» [5, т. 3. с. 14]

Сымонка хацеў быць фокуснікам, каб распараджацца гукамі прыроды, — усімі гэтымі песнямі, скрыпамі, шумамі, стогнамі, свістамі, стрэламі, шолахамі, звонамі і г. д.

Толькі фокусніка з яго не атрымалася. Не стаў ён і валадаром гукаў, ён навучыўся толькі іх падрабляць.

З. Бядуля стварае **сваю** канцэпцыю рамантычнай асобы. Яго Сымон — не Бог і нават не звышчалавек. Пісьменнік не прыхільнік індывідуалістычнага максімалізму байранаўскага тыпу. Яго герой разумее, што сапраўднае мастацтва — гэта свабоднае мастацтва. «*Нядобра быць забавай у пана. Добра спяваць салаўём тады, калі самому хочацца, а не па загаду пана*» [5, т. 3. с. 100].

З. Бядуля агучвае галоўную тэму аповесці — тэму свабоды мастака ў несвабодным свеце. Тэму спрадвечную — ад часоў Баянавых.

Выключнасць героя няўхільна вяла яго да адчужанасці ад свету. Ставіла **над** натоўпам. І, такім чынам, набліжала эстэтыку З. Бядулі да эстэтыкі рамантыкаў.

Герой «Чырвонага і чорнага» Ф. Стэндаля Жульен таксама быў глыбока незадаволены акаляючым яго жыццём, адсюль і яго бунт. Фабрыцыа («Парм-

скі манастыр») — летуценнік, ён хацеў жыць і змагацца за свабоду, толькі яго высокія парыванні былі нікому не патрэбныя. Матыў незадаволенасці жыццём у вобразах Жульена і Фабрыцыа, як і ў героя З. Бядулі, мае сацыяльную прыроду.

У Ф. Стэндаля выключнасць асобы часцей за ўсё атаясамлялася са сцвярджэннем ідывідуалізму. Раскаванае, вызваленае «я» праяўляла сябе як пачатак разбуральны, варожы да людзей. У гэтай сувязі, зразумела, што постаць Напалеона цалкам упісвалася ў рамантычную канцэпцыю асобы.

Асоба Напалеона стаяла перад вачыма сучаснікаў Ф. Стэндаля як своеасаблівы ўзор рамантычнага героя. Пушкін паставіў побач імёны Напалеона і Байрана ў сваім вершы «Да мора» (1824) — і не толькі таму, што абодва «геніі» ў адзін год пакінулі гэты свет, а таму што яны былі «ўладарамі думак» яго, пушкінскага, пакалення.

А. Міцкевіч лічыў, што «*сумныя думкі аб чалавецтве і той уладзе, якую можа набыць над ім адзін моцны і геніяльны чалавек*» [13, с. 63], — асноўная ідэя паэм Байрана. У тым жа артыкуле А. Міцкевіч прыводзіць словы аб тым, што некаторыя рысы байранаўскага Корсака спісаны з Напалеона.

Небывалы ўзлёт Напалеона стаў прыкладам для ўсяго пакалення французаў, народжанага рэвалюцыяй. І для Ф. Стэндаля ў тым ліку, тым больш, што вялікі раманіст пэўны час быў воінам арміі Напалеона. Ф. Стэндаль параўноўваў Напалеона то з ястрабам у небе («Чырвонае і чорнае»), то з арлом («Пармскі манастыр»).

Ф. Стэндаль любіў «чалавека 1793 года», чалавека, які энергічна руйнаваў старую Францыю, каб пабудаваць новую. Ён шукаў моцныя характары паўсюль, дзе іх можна было знайсці, — у італьянскім Адраджэнні, у французскай рэвалюцыі, сярод карбанарыяў і нават сярод катаржнікаў.

Актаў дэ Малівер, П’етра Місірылі, Жульен Сарэль — усе яны, нягледзячы на неаднолькавы сацыяльны статус і адрозныя лёсы, процістаяць грамадству. Італьянскі рамантызм быў цесна звязаны з карбанарскім нацыянальна-вызваленчым рухам. Гэтаму руху сімпатызаваў Ф. Стэндаль. У тэорыях італьянскіх рамантыкаў ён знайшоў тую аснову, на якой можна было сфарміраваць сучасны ідэал прыгажосці ці, дакладней, праграму новага мастацтва.

Героі «Італьянскіх хронік» вызначаліся жалезнай воляй і актыўным дзеяннем. І гэта імпанавала маладому празаіку. Ён натхняўся тэорыяй італьянскага характару, яго незвычайнай энергіяй і сілай пачуцця, мэтанакіраванасцю. Любоў, нянавісць, прага помсты цалкам завалодвалі чалавекам, не пакідаючы месца для ваганняў. Такі псіхалагічны тып адлюстраваны ў «Ваніне Ваніні». У «Італьянскай хроніцы» празаік працягваў распрацоўку менавіта такой псіхалагічнай мадэлі. Ён не перадаваў «механізм» рэфлексіі, роздумаў, якія штурхалі героя на той або іншы ўчынак. **Працэс** выбару адсутнічае, ёсць толькі вынік гэтага працэсу. Так напісаны хронікі «Вікторыя Акорамбоні», «Герцагіня Паліано», «Ченчы» і г. д.

«Пармскі манастыр» — тыя ж італьянскія характары. Героі не любяць уладаў, але дзейнічаюць, зыходзячы ўжо са свайго «эга».

У часы Першай імперыі роздум, аналітыка, рэфлексія былі не ў пашане. Некалькі пакаленняў французаў маршыравалі па Еўропе і ішлі ў бой ні пра што не думаючы і ні ў чым не сумняваючыся. Гэтак жа, як пазней будуць паводзіць сябе і героі Кастрычніцкай рэвалюцыі на старонках новай, толькі што народжанай, савецкай літаратуры. То былі людзі дзеяння.

Мастацкі свет для Ф. Стэндаля — гэта ўжо не «чалавек», як разумеў яго Бюфон, а таксама асветнікі і натуралісты, а нейкае адзінае «эга». Ф. Стэндаль абвяшчае «эгатызм» [18] сваёй філасофіяй. «*Эгатызм, але толькі шчыры*, — пісаў Ф. Стэндаль ва «Успамінах эгатыста», — *адзін са спосабаў адлюстраваць унутраны свет чалавека, у спасціжэнні якога мы зрабілі вялікі крок наперад*

*пасля 1721 года, калі з’явіліся «Персідскія пісьмы» вялікага Мантэск’е, якія я старанна вывучаў*» [15, т. 13. с. 393].

Філасофіяй эгатызму карыстаўся і Ф. Шатабрыян, ён лічыўся каралём эгатыстаў. Па сутнасці эгатызм абазначае памкненне асобы вызваліцца з сацыяльных абмежаванняў, што перашкаджаюць яе росквіту.

Эгатызм — гэта таксама адна з форм процістаяння маральна-этычным нормам грамадства, барацьба за мажлівасць застацца чалавекам «натуральным», застацца самім сабою — насуперак сацыяльнаму ціску. Ф. Стэндаль аддаваў перавагу «натуральнаму» чалавеку, проціпастаўляючы яго сацыяльнаму. Натуральнасць, у разуменні французскага пісьменніка, — гэта шчырасць, пачуццёвасць, непрыманне ўсяго ўмоўнага, асабліва правілаў соцыуму.

Эгатызм не ёсць эгаізм, не ёсць імкненне «*стаць астраўлянінам вострава Я*» (В. Паул). Філасофія эгатызму сцвярджае тую маральную аснову, якая, як і ўсялякая іншая маральна-этычная аснова, становіцца правілам жыцця. Эгатызм заснаваны на маралі ўтылітарызму. Ён не ўзводзіцца ў ранг спрадвечных каштоўнасцей, бо мае палітычную афарбоўку і сваю гістарычную і часавую прывязку.

У Ф. Стэндаля эгатызм — гэта яшчэ і самаахоўная рэакцыя асобы ў эпоху Рэстаўрацыі і Ліпеньскай манархіі на нізкія пачуцці, на кар’ерызм і прагу да грошай. «*Усялякая тыранія мяне абурала, я не любіў улады*» [15, т. 13. с 140—141], — прызнаецца раманіст у аўтабіяграфічным творы «Жыццё Анры Брулара».

На пачатку 20- х гадоў Ф. Стэндаль лічыў В. Скота найвялікшым раманістам эпохі, але неўзабаве яго думка змеціцца. Гістарычны раман страчваў сваю актуальнасць. Герой часоў Рычарда Львінае сэрца ці Людовіка XI не адпавядаў маральным запатрабаванням новага часу. У 1828 годзе Ф. Стэндаль напіша свой раман «Арманс» з падзагалоўкам «Сцэны з жыцця аднаго салона 1827 года». Галоўны герой Актаў дэ Малівер — герой сумлення. Юны Актаў адпраўляецца ў Грэцыю, удзельнічае ў вайне грэкаў з туркамі. А пасля гіне — як і належыць рамантычнаму герою.

З аднаго боку, Актаў прадстаўляе старую феадальную манархію, а з другога — ён імкнецца спасцігнуць новыя ідэі свайго часу. Адсюль і яго пакутлівыя хістанні і супярэчлівыя паводзіны. Адсюль і дваістасць характару.

Па Ф. Стэндалю, раздваенне асобы — тыповая рыса сучасных яму людзей. Але ж гэта была і «праблема» Гамлета і «лішніх» людзей у рускай літаратуры XIX стагоддзя, і героя аповесці «Дзве душы» М. Гарэцкага.

***Працяг будзе.***

Васіль МАКАРЭВІЧ

# ВЕРАСОВЫ ЎЗЯТАК

Чытаючы, перачытваючы багатую спадчыну нашага шырока вядомага майстра мастацкага слова Анатоля Вялюгіна, нельга не заўважыць, што ў яго асобе шчасліва зліліся і спалучыліся найлепшыя рысы паэта-шукальніка, паэта-адкрывальніка, паэта-наватара і ў той жа час паэта-традыцыяналіста. Ён выдатна ведаў, што паэзія — гэта не прафесія, а хутчэй за ўсё прызванне і самаахвярнасць. Сапраўдны паэт, як сказаў калісьці С. Ясенін, «асуджаны на катарзе пачуцця круціць жорны паэм». І трэба зазначыць, А. Вялюгін з дня ў дзень, з году ў год добрасумленна і самаахвярна круціў гэтыя паэтычныя жорны. Адначасова, ступіўшы на свой «аблог цаліны» ўзнімаў на ім скібіну за скібінай, з любоўю засяваў раллю адборным паэтычным зернем, каб на ёй выспеў багаты ўраджай творчага набытку. Творы яго густа замешаны на метафарычнасці, дакладных зрокавых і глыбокіх па змесце і значэнні вобразах, і многія з іх сталі скразнымі метафарамі. Відаць, на пытанне, як пішуцца вершы, паэт мог бы адказаць словамі аднаго са скульптараў: «Бяру і адсякаю ўсё лішняе». Сапраўды, ён меў дзіўнае і зайздроснае ўменне знайсці адзіную патрэбную мастацкую дэталь, штрых, важкае і каларытнае слова, што рабілі творы прыкметнымі, непадобнымі да іншых, прымушалі звярнуць на сябе ўвагу чытачоў. У іх маецца нешта ад чарадзейства і магіі, замовы і прыхамаці. Сказанае ў вершах адпавядае праўдзе, бо грунтуецца на канкрэтнай жыццёвай глебе, зямных рэаліях. У сувязі з гэтым на памяць прыходзяць радкі П. Панчанкі: «Паэзія — самы няўлоўны сакрэт, які не будзе нікім рассакрэчаны».

Але гэты сакрэт нельга схаваць за сем ці семдзесят сем замкоў. Вершы паэта — перад вачамі чытачоў і калег па пяры. Калі ласка, чытай і перачытвай, бяры, што называецца, на зуб кожны радок, разгадвай сакрэт іх вабнай і прыцягальнай сілы. У адрозненне ад тэхнакратаў і вынаходцаў якіх-небудзь тэхнічных навінак паэт не баіцца, што хто-небудзь возьме і разгадае сакрэт іх стварэння, а пасля выкарыстае яго і зробіцца небяспечным канкурэнтам. Адкрыццё паэта нельга паўтарыць. Бо гэта будзе нікому не патрэбнае эпігонства. А такому твору грош цана, як кажуць, у базарны дзень.

Дык што ў рэшце рэшт стаіць, тоіцца за метафарамі, паэтычнымі тропамі і адкрыццямі, за самой неардынарнай фігурай майстра мастацкага слова Анатоля Вялюгіна? Велізарная Атлантыда паэзіі, пакліканая да жыцця неверагоднымі намаганнямі творчай натуры мастака з вялікай літары; Атлантыда, якая мае свой адметны ландшафт, свае непаўторныя мясціны з гаючымі ручаямі і крыніцамі, паўнаводнымі рэкамі і азёрамі, у якіх пялёхкаюцца дзябёлыя, бы сасновыя плашкі, язі і шчупакі. На ёй маюцца цяністыя дубровы і пушчы, а таксама той адзіны ў свеце сабор, дзе згодзен маліцца паэт-атэіст А. Вялюгін, бо сабор гэты — векавечны смалісты бор, які прапах перавітымі паміж сабой верасамі і багунамі, пераспелымі і нагрэтымі на сонцы чарніцамі. Цвітуць на гэтым мацерыку сады, а «па ярах сумётамі — белая чаромха, салаўі шалёныя б'юцца на ўсе лады», недзе глыбока пад зямлёй плывуць з далёкай поўначы залатыя ключы ажно да Асвейскіх азёр. На гэтай, адкрытай паэтам, райскай і адначасова д'яблавай зямлі, маецца лета з рабінавай начной навальніцай і зыркай бліскавіцай, што «адрэжа

для кожнай нівы хмар цяжкі акраец». Пабачым мы і рабіну, як цыганку, што прыйшла да ганка паэта на лісці варажыць, як на картах, гэта значыць, наступіла восень, якая «гадамі і сівізной паграржае».

Паэт стварыў свой запаветны і непаўторны свет, дзе розныя рэчы і з'явы набываюць казачныя і ў той жа час рэальныя рысы і адценні. Трапіўшы ў гэты свет, мы, чытачы, верым: менавіта так, а не інакш, было тут і раней, што ўся гэта чароўная і цудадзейная неспадзяванка дойдзе да нашых унукаў і праўнукаў. Разам з гэтым мы знаходзімся пад невытлумачальнай уладай мастака-чарадзея, гатовы разам з ім, як з гаспадаром, а не з гідам, блукаць ад адной мясціны да другой, знаёміцца з іх адметнай прыгажосцю, навінкамі.

У сувязі з гэтым цікава даведацца, як пачынаўся творчы шлях паэта, як завязваліся радкі, якімі былі першыя ягоныя спробы ў паэзіі.

Напачатку, трэба думаць, было звычайнае вучнёўства, асваенне тэхнікі вершаскладання. А пасля, як кажуць, пайшло і пакацілася, як гурба снегу з высокай гары. Мелася па завязку для пачаткоўца і ўражанняў. У дзяцінстве будучы паэт жыў у роднай бабулі і цёткі на хутары ў цудоўным краі сініх азёр, на Віцебшчыне. Безумоўна, кашлатыя лясы, што блізка падступілі пад самыя вокны хаты звонкамеднымі соснамі і бухматымі ялінамі, на галінах якіх яркімі агеньчыкамі свяціліся вавёркі, зыркаючы ў шыбіны, назаўсёды запалі ў душу і памяць хлапчука. Гэта быў цудадзейны куток, Лукамор'е, дзе стаяў чарадзейны дуб, вакол якога хадзіў вучоны кот, то заводзячы песню, то расказваючы дзівосную казку. Летам у густым гушчары рагаталі совы і пераклікаліся лесуны, на палянах высыпалі, як скажа пасля паэт, «палкі баравікоў» і процьма ягад. А зімой глыбокія і цяжкія снягі настолькі трывала і грунтоўна заносілі хутарскі падворак, што даводзілася добра-такі ўперціся плечуком у дзверы, каб адчыніць іх і заадно адсунуць гурбу снегу. А па начах, калі на небе плыў-праставаў срэбразвонны круглячок маладзіка і навокал было так светла, хоць іголкі збірай, да хутара падыходзілі згаладалыя ваўкі-пераяркі і, учуўшы рохканне япрука ці бляянне авечак, задзіралі ўгору вострыя насы і пачыналі выць настолькі жудасна і працяжна, што падлетак кідаў вершы і забіраўся на печ, спадзеючыся, што на гэтым фарпосце яго не дастануць і больш страшныя звяры, якія былі на свеце. Побач сядзела бабка з учарнелай ад агню качаргой, гатовая кожную хвіліну рынуцца на ваўкоў, абараніць ад іх унука, калі б яны пачалі лезці ў вокны іх хаціны. А раніцай, калі на чырвона-вогненным небасхіле ўскочвалася сонца, як зіхцеў, як адліваў іскрысты, быццам перапалены марозам, чысты калядны снег! Мароз трашчаў у навакольных соснах, спрабуючы іх трываласць, і зара палала на паўнеба. Ці мог утрымацца хлапчук ад спакусы ўзяць у пальцы пяро, каб занатаваць на паперы зімовае дзіва, баючыся страціць першапачатковае пачуццё, якое жыло і буяла ў яго душы: «Сасніўшы сінія снягі, // за вокнамі ля тыну // чырванее, як снягір, // вясёлая рабіна».

Страфу хочацца чытаць і перачытваць, разгадваць сакрэт яе вабнасці. У ёй, здаецца, свеціцца кожнае слова, кожная паэтычная рыска. Ужо на пачатку творчай дарогі паэт умеў убачыць і вылучыць самае галоўнае і характэрнае з таго, што адкрывалася яго востраму зроку і дапытлівай, па-маладому відушчай, душы. Прыведзеная страфа, — не проста эцюд, замалёўка з натуры, схопленая, што называецца, злёту. Паэт выявіў і прадэманстраваў уменне фантазіраваць, бачыць рэчы ў розных ракурсах, праявах і вымярэннях. У страфе малады паэт здолеў спалучыць у адно цэлае дэталі дзвюх пор года — восені і зімы. І яны не разваліліся, не адасобіліся адна ад аднае, а нязмушана пaяднаaліся і зліліся паміж сабой, выклікаючы ў нашых чытацкіх душах хвалюючае пачуццё замілаванасці да роднай прыроды. У сувязі з тым, як арыгінальна і самабытна пачынаў свой творчы шлях А. Вялюгін, варта сказаць пра адну немалаважную рэч.

У той час, а гэта былі перадваенныя гады, паэтаў прывучалі і прымушалі пісаць на адзін капыл. «Чым прасцей, тым лепш!» — патрабавалі ад маладых аўтараў літаратурныя рамеснікі, што адказвалі за вершаваную прадукцыю.

У каго ж усё-такі вучыўся Анатоль Вялюгін? Можа, у С. Ясеніна, калі згадаць ягоную страфу пра клёнік, які «ў маткі зялёнае вымя ссе»? Нешта не падобна на гэта. Хаця густая вобразнасць і метафарычнасць у некаторай ступені родніць, яднае іх. Аднак пераймання няма і блізка. Дык у чым жа тады справа? Адказ просты. Паэт гаварыў і пісаў па-свойму, па-вялюгінаўску, як ён будзе рабіць гэта праз усё жыццё. Гэта сведчыла, што ў душы паэта прарэзаўся самабытны і арыгінальны талент. Дарэчы, на той час, калі пачынаў А. Вялюгін, мала было мець талент. Трэба было яшчэ ўмець зберагчы яго, захаваць ад пустадомкаў, што былі, як ужо гаварылася, прыстаўлены да літаратараў, каб павучаць на кожным кроку, як пісаць, каго хваліць і што кляйміць. Нешта падобнае спазнаў і А. Вялюгін. Вось як ён успамінае пра адзін выпадак, які адбыўся з ім: «Я пачаў пісаць вершы, але на людзі выходзіў толькі з газетнай прозай — допісы, замалёўкі. Вершы перапісваліся ў тоўсты сшытак. Праўда, адзін з іх — васьмірадковую мініяцюру «Пуня» — асмеліўся паслаць у часопіс «Полымя рэвалюцыі». Праз месяц вярнулася мая «Пуня» з падкрэсленай страфою. І побач накрэслены прысуд — «Разбэшчанасць і блюзнерства». Я глыбей схаваў сшытак…»

Ці трэба казаць, што адчуваў малады паэт, якія буры прайшлі па яго душы! Пачуць такі прысуд тое самае, што атрымаць удар дручком з-за вугла. Згадаем гэтыя радкі, якім была дадзена такая жорсткая і грэблівая ацэнка: «Стагоў дванаццаць цішыні // і зоранькі праз дах. // Гербарый лета… Не крані! // Паваліць хмельны пах. // І толькі ластаўкі: віць-віць... // За бэльку — тур-трава, // дзе можа поначы ўдавіць // гарачая ўдава».

Цудоўны, выдатны верш, а не мініяцюра, як заўважае А. Вялюгін. Сёння падобныя «карацелькі» ахвотна і віртуозна, пішуць многія паэты. Але вернемся да прысуду літаратурнага крытыка. Яму не спадабалася сказанае пра ўдаву, якая можа ўдавіць на душным сенавале. На цяперашні розум і на цяперашні час у радках крамолай нават і не пахне. Наадварот, пра ўдаву сказана настолькі моцна, ёміста і афарыстычна, а, галоўнае, псіхалагічна дакладна, што лепш і не трэба. Колькі ў радках экспрэсіі, якая дапамагае аўтару перадаць фізічны і душэўны стан маладой удавы. І застаецца толькі па-добраму пазайздросціць аўтару, які сказаў вось так пра ўдаву.

Трэба падзякаваць Богу, а больш, відно, аўтару, што ён не паў духам, не стаў пісаць спрошчана і хадульна, трафарэтна і заштампавана, а пайшоў яшчэ нікім не ходжанай дарогай, не пратоpанай сцягой. Ва ўсім гэтым яму, відно, дапамагла прыроджаная натура, прыроджаны літаратурны талент, уменне адрозніць паэтычную праўду ад фальшу і падробкі, паэтычнае слова ад пазаддзя і ўсялякага іншага шалупіння.

Як і трэба было чакаць, а яно, здаецца, інакш і не магло быць, неўзабаве нарадзіўся значны твор «След мастака», які носіць падзагаловак «Легенда». Гэта, адзначым, беспрэцэдэнтны і выключны выпадак, калі параўнаўча ў маладыя гады паэт змог напісаць твор, які можна лічыць шэдэўрам. Легенда — прыклад таго, якія высокамастацкія радкі могуць нараджацца ў хвіліны высокага душэўнага ўзлёту і творчага азарэння. Твор прымушае хваляваца, глыбока кранае душу, — такое вось невытлумачальнае гіпнатычнае ўздзеянне аказвае ён на нас сваімі да канца не разгаданымі радкамі. Да ўсяго ўзнікае дзіўнае адчуванне, што задоўга да таго, як А. Вялюгін узяўся за пяро, твор існаваў у прыродзе, жыў сваім, аднаму яму вядомым, жыццём, чакаючы шчаслівчыка, які натрапіць на яго, перанясе на паперу і паставіць пад ім сваё прозвішча. Гэтым шчаслівцам стаў Анатоль Вялюгін. Так бывае з выдатнымі творамі, якія прыносяць прызнанне аўтару і становяцца прыкметнай з'явай у нацыянальнай літаратуры. Цяжка сказаць, пачуў гэту легенду паэт ад сваёй бабкі ці ад каго-небудзь іншага альбо шчасліва прыдумаў сам. Галоўнае, што мы маем класічны твор. Такое здараецца рэдка. М. Лермантаў напісаў свой знакаміты «Парус», здаецца, у 18 гадоў. А. Вялюгін — «След мастака» ў 16. Згадана гэта не для таго, каб паміж паэтамі паставіць знак роўнасці.

Гаворка пра тое, што сапраўдны талент, якога б рангу ён ні быў, праяўляецца вельмі рана і ў кожнага аўтара па-свойму і ярка.

«След мастака» — твор, які мае сюжэт, і яго, здаецца, можна пераказаць. А калі паспрабаваць зрабіць гэта, то нічога не выходзіць. Аказваецца, што сапраўдная паэзія не паддаецца пераказу. Тым больш у вершы, дзе гаворыцца пра адносіны мастака і ўладара, які хоча, каб мастак і мастацтва служылі яму аднаму. Але ні мастака, ні мастацтва нельга запрыгоніць, нельга адзець на іх цесныя путы ўціску. Ва ўсякім выпадку, калі такое здараецца з мастацтвам, яно гіне, як гіне і сам мастак.

У аўтабіяграфіі А. Вялюгін успамінае цікавы выпадак, звязаны з гэтым творам. Ён адбыўся пры сустрэчы з вядомымі маскоўскімі літаратарамі, паэтам У. Лугаўскім і празаікам В. Катаевым, якія прыехалі ў даваенны Мінск: «Калі масквічы адвіталіся (заўважым, гаворка ідзе пра сустрэчу ў рэдакцыі газеты «Звязда». — В. М.) я следам спусціўся з трэцяга паверха, выйшаў з імі на людную вуліцу. Лугаўской азірнуўся, спыніўся, спытаў добрым басам ва ўпор: «Пішаце вершы?» Рушылі да гасцініцы «Еўропа». «Чытайце», — сказаў ён.

Зямля пайшла з-пад ног, я набраў паветра і, нічога не бачачы, імкнуўся сцішыць шумны тратуар: «Юнак маўклівы каля сосен // хадзіў са статкам ціха ўвосень, // вялікім вокам ястрабіным // глядзеў на хмары і рабіны. // Глыбока гоней родных далі // у вока з хмарамі запалі. // На чыстым палатне бяросты // юнак зрабіў малюнак просты: // рабіны палымнеюць гроны, // здаецца, пырсне сок чырвоны... // Рабіну кінуў, як жывую, // у каляіну палявую, — // дразды прыселі на бярösту // дзяўбці крывавую рабіну. // І князь аддаў загад старосту // арыштаваць хлапца й карціну... // — Табе, пастух, спакой і фарбы. // Малюй маю красу і скарбы... // Пагас камін.

У гулкай залі // хлапца са свечкамі шукалі. // І мацаў гнеўна князь вусаты // замкі, някранутыя краты. // Ён са здагадкай ля карціны // застыг: на мармуры — рабіны, // лясоў халодныя пажары, // ляцяць над імі — дымам — хмары… // — Глядзіце, мокры след ля сосен! // Мастак уцёк туды… у восень».

— Ого! — Лугаўской спыніўся, успамінае А. Вялюгін. — Трэба ў Маскву. — І ўжо зусім па-сяброўску: — Прыязджай да нас у Маскву. А «След мастака» пастараюся перакласці…»

Выдатных твораў у паэтычным набытку А. Вялюгіна нямала. Як ажурныя апоры для высакавольтнай лініі высокага напружання, яны праходзяць праз творчасць паэта, вызначаючы яе стратэгічны напрамак, скіраваны ў заўтрашні дзень і, не пабаімся гэтага слова, у вечнасць. І чымсьці нагадваюць імклівую і нястрымную плынь Млечнага Шляху, што свеціцца, пераліваецца тысячамі агнёў, сярод якіх маюцца планеты і астэроіды, вогненныя каметы і зыркія знічкі.

Як і раіў У. Лугаўской, перад вайной паэт апынуўся ў Маскве. Ён меў намер вучыцца ў Літаратурным інстытуце. Але спазніўся з паступленнем. Сцэнарны факультэт першага курса Інстытута кінематаграфіі быў таксама ўкамплектаваны. Аднак пасля субяседавання, яму параілі застацца вольным слухачом. А. Вялюгін з радасцю згадзіўся. Тым больш, што адным з выкладчыкаў быў знакаміты А. Даўжэнка, для паэта бог кінематаграфіі. А неўзабаве адбыўся выпадак, які Вялюгін запомніў на ўсё жыццё. Вось як апавядае ён пра гэта здарэнне ў аўтабіяграфічных нататках: «Ідзём на лекцыю. Сакавік. Вятрыстае неба. Чорнае набрынялае голле на бульварах.

— Аляксандр Пятровіч, паглядзіце, якія сінія, густыя цені на снезе!

— Цені?.. А я не прыкмеціў. Ой, біда!..

У зале паўнютка. Штось не ладзіцца ў яго, не можа распачаць лекцыю. Пайшоў да акна, доўга стаіць там, задуманы.

— Скора Маскву жураўлі прывітаюць. Дрэвы чуюць вясну, нават снег чуе… Лекцыі сёння не будзе! Чаму? Толькі адзін з усіх нас — не я! — пабачыў цуд. Ідзіце, глядзіце, як пад мокрымі дрэвамі гусцеюць на снезе сінія цені… Хочацца, каб тыя, хто хвалюе сэрцы людзей у мастацтве, і самі былі інады ўсхваляваныя».

Думаецца, што пачуць такую пахвалу ад Даўжэнкі марыў не адзін студэнт. І пачуў яе Вялюгін, дзякуючы сваёй прыроджанай назіральнасці, паэтычнай душы, што, як чуйны сейсмограф, магла ўлавіць змены надвр'я, а пільнае вока заўважыць амаль непрыкметныя з'явы, як колер веснавых ценяў і пахаў. Ці не таму ў радках лепшых яго вершаў можна знайсці такія жамчужыны, як гэта, дзе гаворыцца пра восень: «Хмурынкі — й тыя у тарпах, // і так у полі пуста, // і верас вераснем прапах, // зазімкамі — капуста». І яшчэ адна перліна, якая цешыць душу і сэрца: «Там, дзе летам з любай // мёд пілі чмяліны, // закусіла губы // да крыві каліна». Ці не ў Даўжэнкі вучыўся паэт кінематаграфічнаму бачанню рэчаў і з'яў, якія паўстаюць перад намі, як жывыя, і да якіх, здаецца, можна дакрануцца, адчуць іх навобмацак.

Не было дарэмным і навучанне ў вялікага майстра кіно А. Даўжэнкі. Прыйдзе час і А. Вялюгін стане актыўна працаваць у беларускім кінематографе. Па яго сцэнарыях былі пастаўлены мастацкі двухсерыйны тэлефільм «Рэха ў пушчы», мастацкі фільм «Глядзіце на траву» і сорак дакументальных кінастужак.

Паэзіі А. Вялюгіна давялося апранаць ваенны шынель і прайсці праз полымя Вялікай Айчыннай. Маецца крылаты выраз: «Калі гавораць гарматы — маўчаць музы». Муза А. Вялюгіна не маўчала, гаварыла на ўвесь голас, калі толькі наступаў пярэдых паміж баямі, грукатам гармат і авіябамбёжкамі. Праўда, гаварыла ўрыўкамі і прыхваткамі. І тым не менш, музу паэта і на вайне не пакідала юнацкая няўрымслівасць і няўседлівасць: «Кароткім сном я пераб'юся // пад зорамі у халады, // са стога выскачу, смяюся // няголены і малады».

Пісаліся і радкі трагічнага характару, напрыклад, пра палкоўніка, які завітаў з перадавой у асаджаны Ленінград, і яго сына, што выглядаў, «як парастак у склепе бульбяны». Бацька гаворыць: «Вось хлеб (сляза на партупею — кап ды кап)... // Фашыста пакажу... жывым прывёз у штаб... // А сын ускінуў воч блакітныя нажы: // — Не трэба! Лепш забітага мне пакажы!..»

У каго не перахопіць дыханне, не сціснецца горасна сэрца ад балючых слоў ленінградскага хлопчыка, які страціў маці і зведаў столькі ліха ў асаджаным горадзе. Гэта не выдумка, не аўтарская фантазія, а суровая і трагічная праўда вайны, факт, выхаплены з грымотных і полымных блакадных дзён. Безумоўна, А. Вялюгін не быў у акружаным халодным і галодным Ленінградзе. Ён ваяваў пад Сталінградам. Але мы верым у верагоднасць сказанага і расказанага паэтам у вершы пра ленінградскага хлопчыка, чаму ён папрасіў бацьку паказаць не жывога, а забітага фашыста.

У большасці вершаў ваеннага часу, якія прысвечаны змаганню з ворагам, чуецца водгалас агульнаславянскага эпасу «Слова аб палку Ігаравым». Можа, гэтаму спрыяла тое, што ў грозныя дні вайны А. Вялюгін звярнуўся да гэтага неўміручага твора і пераклаў на родную мову ўрывак пад назвай «Плач Яраслаўны» з падзагалоўкам «Вершаваны пераказ». Нельга не сказаць, што годам раней напісаліся радкі, якія сваім стылістычным і гераічна-ўзвышаным тонам і настраёвасцю былі блізкія да «Слова…» Вось яны: «У агні захлынулася Лёзна. // Гул нябёс. І дым над палянамі. // Счырванілі пажары грозна // на веях гарачыя слёзы — // Беларусь лягла за курганамі».

Хіба апошні радок як вонкавым, так і ўнутраным гучаннем і сэнсам не пераклікаецца з адпаведнымі мясцінамі славутага твора? Гэта вельмі пахвальна для паэта, які ў нялёгкія дні ўспомніў гераічнае «Слова…» Дарэчы, яго матывы праявіліся і загучалі ў лепшых франтавых творах і радках Анатоля Вялюгіна. Як бачым, славуты шэдэўр нашага славянскага пісьменства праз столькі гадоў пасля яго стварэння натхняў на гераічныя і ратныя подзвігі, усяляў упэўненасць у нашу перамогу.

Элегічная настраёвасць гучыць у невялічкім вершы «Васількі». Радкі выклікаюць цэлую гаму пачуццяў, якія кранаюць душу і сэрца чытачоў. Верш — даніна светлай памяці сыноў Беларусі, што склалі галовы падчас баёў на палях брацкай Расіі. У ім маецца нешта ад рэквіема і чуецца гучанне твораў, якія напішуцца

пасля, калі прыйдзе час па-новаму ацаніць, больш глыбока заглянуць у яе пакуль што нязведаныя старонкі і бездані: «У мінных разорах за Лугай-ракой, // з-пад горкага попелу Гжацка // расцвіў васілёк Беларусі маёй // на сумнай магіле салдацкай. // Сівеюць магілы пад сонцам здалёк. // Гаруе бацькоўская хата. // На брацкіх курганах цвіце васілёк — // вясёлае вока салдата».

Самым значным і адметным творам, прысвечаным вайне, з’явілася «Балада аб уральскім танку». У гэтай баладзе мы знаходзім крыштальна-чыстыя, можна сказаць, крынічнай празрыстасці, радкі і строфы, віртуознае майстэрства і адначасова гранічную прастату ў абмалёўцы асобных эпізодаў і ўсёй карціны ў цэлым. У творы нямала розных падрабязнасцей, але аніводнага лішняга і непатрэбнага слова, неабавязковага ўдакладнення, — настолькі шчыльна і шчыгульна леглі радок да радка, страфа да страфы. Балада нагадвае сабой сасновы зруб, дзе смольныя бёрны зліліся ў адно цэлае, і зруб звініць, як крышталёвая шклянка.

Аўтар настолькі высока змог узняцца над матэрыялам, што рабіў з ім усё, што толькі хацеў, — гнуў радкі, як падковы, адмаўляўся ад непатрэбнага і пакідаў самае неабходнае, менавіта тое, што магло на поўную сілу і моц загучаць у радках. Уменне адчуваць і прытрымлівацца мастацкай меры ў адборы паэтычных штрыхоў і дэталей дапамагло стварыць баладу пра вайну, якая стала ўзорам у гэтым жанры.

А матэрыялу, які аўтар здолеў змясціць у баладзе, было вунь колькі, можна сказаць, з гакам! Балада пачынаецца з таго, як рудакопы шукалі ў глыбокіх нетрах тайгі жалезную руду, як варылася сталь і адлівалі танк. Нарэшце фабзаевец пафарбаваў баявую машыну і не прамінуў выпадку зрабіць на яго бакавой брані сімвалічны надпіс: «Вярні маю родную вёску Суніцы». Па адным ужо гэтым штрышку не цяжка здагадацца, што родам хлопчык з Беларусі, які, відаць, разам з сям’ёй быў эвакуіраваны на ўсход у першыя дні вайны. Гэты надпіс служыць у вершы адпаведным рэфрэнам і вельмі ўдала працуе на агульную задуму балады. Калі расказваць пра адысею танка, то яго вязуць на фронт, дзе перад боем генерал чытае на брані надпіс. Нарэшце танк выбег на поле бою і робіць на ім тую справу, дзеля якой і быў адліты на заводзе. І нарэшце танк вызваляе вёску: «І хрысціцца бабка // на зоркі байніцы... // — Як вёска завецца? // — Сыночак, Суніцы...»

Круг, як кажуць, замкнуўся. Балада закончана. Але паглядзіце, пакуль балада пераказвалася, колькі пайшло на гэта часу. А пры чытанні балады, нават не заўважаеш гэтага, настолькі натуральна, нязмушана і дасціпна апавядае паэт пра грозную машыну, яе нараджэнне і ўсё астатняе. Гэта яшчэ раз падкрэслівае высокае мастацкае майстэрства, якім валодаў А. Вялюгін.

Нельга не сказаць, што стварыць выдатную баладу дапамагло і тое, што паэт пэўны час жыў на Урале, дзе пасля франтавога ранення лячыўся ў ваенным шпіталі.

Пасля вайны Анатоля Вялюгіна, як і ўсіх паэтаў, якія вярнуліся да стваральнай працы, хвалявалі мірныя турботы і справы, аднаўленне разбураных і спаленых гарадоў і вёсак, будаўніцтва Мінскага трактарнага завода і адкрыццё Мінскага мора. Будучы сведкам і відавочцам працоўнага гераізму былых партызан і франтавікоў, паэт стараўся адлюстраваць усё гэта ў сваіх творах. Хаця і больш стрымана, чым гэта рабілі некаторыя яго паплечнікі і равеснікі. Разумеючы сваю высокую адказнасць як мастака, паэт заяўляе: «Я заўсёды баюся напышлівых выцвілых слоў, // што звіняць, як жабрацкая медзь у асенняй журбе». І тым не менш ён ганарыцца рэспублікай і знаходзіць самыя лепшыя фарбы і мазкі, каб уславіць яе гераічны подзвіг, здзейснены як у гады вайны, так і ў мірныя дні. А. Вялюгін не можа ўявіць родны край «без лясных генералаў і трох беларускіх франтоў, // што ішлі на Берлін і пакінулі ў тыле Берлін». Увагу паэта не магла не спыніць і партызанская гармата, якая «ў цішыні музея сніць Казлова санны рэйд».

Плённа і зацікаўлена пісалася паэту пра родныя мясціны, стваральную працу, што кіпела на былых руінах і папялішчах. Здаецца, адкуль толькі браліся, прыходзілі пад руку канкрэтныя ёмістыя і дакладныя паэтычныя вобразы, як напры

клад: «Блiснуць цёплыя пяскi, як дзясны абмялелыя ракi». Метафары настолькi канкрэтныя, зрокавыя, што iх, здаецца, можна адчуць фiзiчна, навобмацак.

Цiкавiў паэта i звычайны рабочы кадравiк, якi, напрацаваўшыся да сёмага поту, спяшаўся дадому. Пра гэта ён гаварыў настолькi паэтычна i з пэўнай доляй фантазii, што ў таго, хто чытаў радкi, святлела на душы, узнiмаўся настрой: «Люблю, сябры, такую стому, // калi, з работы iдучы, // нясеш, як скарб, яе дадому, // цяжкую стому на плячы».

Звярнiце ўвагу, рабочы кадравiк нясе стому не абы-як, напрыклад, апанураны i прыгнуты, а менавiта на плячы. I пры ўсiм гэтым нясе, нiбы гуляючы, нiбы забаўляючыся. Тут многа чаго ад натуры самога аўтара, вечнага жыццялюба i аптымiста. А варта прачытаць, як «звiнiць зямля ўся пад падэшваю, нiбы тугi футбольны мяч», i перад вачыма ўстае мажная спартыўная выпраўка постацi лiрычнага героя, а гэта значыць, i аўтара, поўнага фiзiчнага i душэўнага здароўя.

А колькi маладога задору як у рытмiцы верша, так i ў самiм малюнку маладой вясны, калi пачынаюць расцвiтаць яблынi i акрывацца белым кiпенем цвету: «Стаiць гэта воблака ранiцай на ножцы пабеленай вапнаю». Заўважце, вобраз створаны не пры дапамозе параўнання цi iншых лiтаратурных прыёмаў, — паэт проста бачыць вось такой яблыню, якая акрылася густой квеценню.

А. Вялюгiн вельмi любiў вясну, паказваў яе ва ўсiх праявах. Не абыходзiць ён увагай i бярозавiк: «Шурпаты ствол надрэзаны глыбока, са звонам кропля падае ў глыдыш». Дэталi выпiсаны настолькi рэльефна i выразна, што мы, здаецца, увачавiдкi бачым глыбока надрэзаны ствол бярозы i чуем цоканне святлiста-сцюдзёнай кроплi, якая падае на самае донца гладыша. Кiнематаграфiчная здольнасць бачыць i ўспрымаць навакольнае, — iначай i не скажаш пра гэты малюнак.

А з якой цеплынёй i душэўнай замiлаванасцю гаворыць А. Вялюгiн пра тое, як пачынаюць праклёўвацца першыя парасткi. Патрэбна мець бездакорны зрок сапраўднага мастака i, безумоўна, безаглядна ўлюбёную душу ў дарагое i роднае, сярод якога рос i гадаваўся, бегаў i свавольнiчаў, наталяў навiзной смаглую душу будучы паэт: «А ў нядзелю з-пад зары // вылятали журавы, // густа пырснулi ў бары // стрэлы цёплае травы».

У гутаркова-размоўнай iнтанацыi маецца нешта такое, што мiжволi падкупляе, зачароўвае, прымушае нас задумацца, успомнiць днi маленства, тое казачнае дзiва, калi з-пад зары вылятали журавы, i яшчэ раз перажыць гэта шчаслiвае iмгненне. Штосьцi неверагоднае i разам з гэтым балюча-шчымлiвае маецца i ў наступным малюнку, якi ледзь не паўтарае вышэй згаданы: «Ў нядзелю з-пад зары // вылятали журавы, // за чырвоныя бары // дождж працокаў яравы».

Страфа здзiўляе бездакорным майстэрствам, высокiм адчуваннем паэтычнага слова, ягонага гукапiсу, што нагадвае сабой меладычныя ўдары па струнах цымбал.

Не цураўся, не пазбягаў А. Вялюгiн i грамадзянскай тэматыкi. Але i тут паэт застаецца верным свайму стылю i манеры пiсьма. Недзе ў Прыбалтыцы яму кiнуўся ў вочы звычайны надмагiльны камень, на якiм меўся высечаны надпiс: «Iх забiў Пячура». Жудасны надпiс, факт i жудаснае вiдовiшча! Дзе i калi было, каб на валуне, што ставяць у галавах, выразалi не iмя нябожчыка, а прозвiшча яго забойцы? Гэта акалiчнасць, вiдаць, надзвычай уразiла паэта. I ў вынiку з-пад яго пяра выйшаў твор, поўны душэўнага болю да нявiнных ахвяр i нянавiсцi да вылюдка-ката. Верш, як i сапраўдная паэзiя, выклiкае мноства думак i асацыяцый. Строфы хочацца цытаваць, хаця на першы погляд яны простыя, без анiякай прэтэнзii на якую-небудзь знешнюю эфектыўнасць: «Сведчыць камень абчасаны // на пясчаным схiле: // дзве дзяўчыны пахаваны // у адной магiле». I далей: «А яшчэ нiжэй… глядзiце! // каб зямля пачула, // крык не моўкне на гранiце: // IХ ЗАБIЎ ПЯЧУРА». Страшная i вусцiшная карцiна, страшны даставерны факт ваенных гадоў, якi можна прад’явiць фашызму як акт абвiнавачвання ва ўчыненых iм злачынствах i здзеках над людзьмi.

Любiў А. Вялюгiн пасядзець з вудай над ракой цi возерам не дзеля таго, каб вывудзiць шчупакоў альбо яршоў. Яму было прыемна памарыць, паразважаць у адзiноце пра жыццё-быццё, аб пражытым i перажытым. Часам у такiя хвiлiны да

яго прыходзілі паэтычныя радкі, клаліся ў аснову лепшых яго вершаў: «Спіць за барамі // ў калысцы пясчанай // сіняя Нарач — // дзіця акіяна».

Наўрад ці можа хто пахваліцца ўменнем вось так зліць, спалучыць у адно цэлае форму і змест твора, думку і яго мастацкае ўвасабленне ў вобразах і метафарах, як гэта зрабіў паэт у вершы «Спелы бор». Сёння нельга ўявіць паэзію А. Вялюгіна без гэтага, забяспечанага залатым запасам твора, які, пэўна, з'явіўся на свет не ў бары, дзе паэт назіраў, як хаваецца «барсук-манах у цёмны свой закутак». Магчыма, нават і не ў мінскай кватэры, а далёка ад дому, напрыклад, на Волзе ці на берагах Крымскага ўзмор'я. Талент — такі багаж, які няцяжка браць і вазіць з сабой усюды, як гэта рабіў нястомны вандроўнік А. Вялюгін. Здзіўляе сплаў творчай думкі і густу заснаваная, як гаварыў паэт, метафарычная сіла, калі суцэльнай, скразной метафарай становіцца ўвесь верш. Прыкладам густой вобразнасці можа быць яго першая страфа: «З усіх сабораў ёсць сабор, // дзе згодзен я маліцца: // ў спелым леце, спелы бор, // звіняць твае званіцы».

Нельга абысці ўвагай і другі верш, прысвечаны прыродзе, у якім услаўляецца восень і ўсё тое, што звязана з ёй: капуста, што прапахла зазімкам, лісце, якое злятае з клёна, як з календара і шмат што іншае.

Учытваючыся ў восеньскі верш перад намі ўзнікае і праходзіць тое самае, што мы бачылі не раз на ўласныя вочы, і ў той жа час нешта іншае, ва ўсякім разе абноўленае і чымсьці не падобнае на ранейшае. Аднак А. Вялюгін не быў бы мудрым і праніклівым мастаком, каб стан прыроды ён не імкнуўся знітаваць і пяднаць з душэўным станам лірычнага героя, яго лёсам. Па-майстэрску робіць гэта і ў вершы, прысвечаным восені: «Навісла восень нада мной // трывожным ураджаем // гадоў, зарніц і сівізной // дрымотнай пагражае. // Я ўсё ўтрымаю на плячах, // што прагне наваліцца, — // яшчэ ў рабінавых начах // палае навальніца».

Вершы паэта заўсёды былі багатыя на паэтычныя знаходкі. Можа, гэта не зусім дакладнае вызначэнне, калі гаворка ідзе пра паэзію майстра, якім з'яўляецца А. Вялюгін. Знаходка — нешта выпадковае, рэдкае, як і залаты самародак, што тады-сяды трапляецца сярод пустой пароды. Кожны верш паэта — гэта залаты злітак, што радуе душу і сэрца не толькі гурмана, але і простага чытача. Толькі А. Вялюгін мог сказаць вось так мудра і відушча: «Гартала вечны лемантар дуброва; // суняўшы кашаль, грэлася ў пакровы // на папялішчах бесхацініцавайна. // …Ніколі не загіне наша мова, // калі ў такім агні не згінула яна».

Пасля выдатных вершаў у паэта пачаўся творчы перапынак і маўчанне. Цяжка сказаць, чаму так адбылося, што было гэтаму прычынай. Можа, паэт аддаўся працы ў дакументальным кіно, якім захапіўся на той час, можа, пасадзейнічала нешта іншае. Калегі па пяры трывожыліся, каб жа муза яго не замоўкла назаўсёды. Што да А. Вялюгіна, ён быў упэўнены ў сабе, сваім таленце. Сябрам казаў: «Узяў адгул у Яе Вялікасці Паэзіі. Пройдзе час, і зноў вазьмуся за пяро. Як і Аркаша». Ён меў на ўвазе А. Куляшова. У яго таксама быў перыяд маўчання, пасля якога ён выдаў выдатную кнігу «Новыя вершы», што стала знакавай з'явай у нашай паэзіі. Дачакаўся свайго часу і А. Вялюгін. З-пад яго пяра забруіліся свежыя радкі, вобразы, быццам авеяныя чэрвеньскім ветрыкам, настоеныя на лугавых красках і апырсканыя світальнымі росамі. У новых радках адчуўся душэўны неспакой, неспатольная прага да паэтычнага слова, унутраная сіла, якая прасілася выліцца важкімі строфамі і вершамі. Колькі юнацкага неспакою і энергіі тоіцца ў радках, калі паэт гаворыць пра святое са святых — творчасць: «І пад зялёнай засняй лямпы // на белаце марозна-строгай, // як лёд, ламае панцыр ямба // яшчэ не злоўленая стронга». Чытаючы страфу, здаецца, што паэт ледзь паспявае запісаць тое, што выспела ў душы і просіцца на паперу. У ёй — жыццесцвярджальная інтанацыя, моўнае багацце, сінтаксічная і лексічная навізна. Малюнкі прыроды выпісаны настолькі рэльефна і графічна выразна, што падобны на гравюры. Хто не залюбуецца вось гэтай страфой: «Выходжу ў лета босае // я, ветрыкам апрануты. // Сінеюць сцежкі плёсамі // чарнічнага атраманту». Душа паэта па-ранейша-

му рвалася на прастор, туды, дзе разгортвалася шырокая панарама неспакойнага жыццядайнага дня: «Жыццё — не мітульгі пацеха. // Таптала. Славіла. Ламала. // Нявыкрыканы крык, як рэха: // жыцця ў жыцці мне мала. Мала!»

Зноў — той самы парыў душэўнай энергіі, сілы і неўтаймаванасці! Рызыкоўнасць, безагляднасць у рашэнні і дзеянні — вось тыя рысы, што выгодна вылучаюць лірычнага героя А. Вялюгіна, робяць яго вобраз вабным і абаяльным. Натура паэта прагне новых дарог і адкрыццяў. Але гэта зусім не камсамольская рамантыка, якая зрывала з месцаў дзяўчат і юнакоў і кідала куды папала, а прыроджаны неспакой, няўседлівасць: «Наранку, з цёплага парога // працяты ветрыкам азарту, // сядлаю зноў агонь-дарогу // юначым воклічам: у заўтра!»

Паэт умее бачыць рэчы і гаварыць пра іх у глабальным маштабе. Вершы пры гэтым не губляюць душэўнай цеплыні і прывабнасці, не робяцца «фанернаманернымі», як ён любіў казаць і паўтараць пра творы аднаго даволі папулярнага аўтара. Чаму? Ды таму, што ў іх прысутнічае жывая думка і адначасова душа паэта. Характэрны ў гэтых адносінах верш «Вёрсты», дзе гаворка ідзе пра вяртанне Пушкіна з высылкі: «Падсохлым сенам, каланіцай // прапах дарожны прыпамін: // гарачы пыл; і камяніцы // паштовых станцый на спачын. // Закрачуць крыжнямі алёсы, // і перакуліцца ў раку // кудлаты бор, дзе плынь Лучосы // люструе кроны сасняку».

Знешне строфы як быццам спакойныя, стрыманыя. Але гэта толькі здаецца. Варта засяродзіцца на іх, як адчуваеш, колькі ўзрушанасці, хвалявання, пачуцця высокага напалу тоіцца ў скупых, крыху аскетычных радках, дакладных і рэзкіх мазках.

Дарэчы, напісаць верш, прысвечаны Пушкіну, не такая ўжо і лёгкая задача не толькі для каго-небудзь з маладых аўтараў, але і для такога славутага мэтра паэтычнага радка, якім быў і застаўся А. Вялюгін. Тут, здаецца, Вялюгіну-паэту шчодра і плённа дапамагаў Вялюгін-кінасцэнарыст, аўтар многіх дакументальных фільмаў. Увесь строй і малюнак верша разгортваецца па законах кінадраматургіі.

Нельга не заўважыць, што большасць вершаў апошняй кнігі паэта засведчыла наш суровы, трывожны і неспакойны век, у якіх адчуваецца яго гарачае дыханне. Як проста, ёміста і акварэльна пададзена: «Лубянку схопіш, грыбавік, // а шчыры бор пад бокам. // На тупкай сцежцы баравік, // як хлеба свежы бохан».

Што і казаць, малюнак выпісаны пластычна і маляўніча. А якое трапнае і дакладнае параўнанне: баравік, як бохан! Аднак верш снаваўся не для аднаго гэтага зрокавага і ўдалага вобраза. «Карэніцца ў баравіку нябачны люты цэзій», — кажа далей паэт, і чытач здагадваецца, чаму баравік параўноўваецца з боханам. Многазначна сказана і пра цэзій: не сядзіць, не тоіцца, а якраз «карэніцца» ў баравіку. Паэт прадэманстраваў тонкае і далікатнае адчуванне слова і стварыў новы каларытны дзеяслоў. А колькі шкадавання і горычы ў наступнай страфе: «Хоць ты патомны лесавік, // ідзі, ўздыхнуўшы міма. // Эх, часе, часе… Баравік // і той сядзіць, як міна».

Як не падзівіцца з глыбокай мастацкай дасканаласці ўнутранай будовы гэтага кароценькага верша. Якая дакладная і вывераная душэўным ватэрпасам закончанасць і сіметрыя яго прапорцый! І галоўнае: у вершы з усёй сілай праявіліся чалавечы боль і трывога, чарнобыльская бяда і трагедыя, хоць пра яе ў радках няма нават намёку.

Беражлівае, ледзь не прымхлівае стаўленне да слова, да балюча-чуйнага адчування яго — рыса характэрная для ўсіх вершаў А. Вялюгіна. Паэт, бадай, як ніхто іншы, адчуваў глыбіню і сэнс фальклорных выразаў і вобразаў, іх выяўленчае і сінтаксічнае багацце. А таму з такой павагай ён і прыпадаў да вытокаў народнай творчасці і мудрасці, што назапашвалася гадамі і стагоддзямі, шчодра чэрпаў яе прыгаршчамі. І яна адгукалася ў строфах: «Штыкамі белых ледзяшоў // ашчэрацца грамніцы, // хоць час, гавораць, надышоў // і вераб'ю жаніцца».

Штосьці падобнае пра вераб'я маецца ў народных назіраннях. Дасціпна і з пэўнай доляй гумару сказаў пра яго і паэт, асвятліўшы сказанае сваёй уласнай

усмешкай, атуліўшы і сагрэўшы душэўнай цеплынёй. А каго не кране вось гэта, выверанае і вымеранае на глыбіню ўласнай неўтаймаванай няўседлівасці жаданне: «Туды, туды, дзе вечны клопат, галін і крылаў крыжавіны».

Пра тое, што мы ведаем і знаходзіцца недзе непадалёк ад нас, паэт умее сказаць так, што мы міжволі здзіўляемся, — як не маглі дадумацца да гэтага самі? Як і ў гэтым выпадку: «У стоме сонна змоўчыць лета, // калі на пасвішчы ля статка // лізне зялёны ствол ракеты // даверлівае ласянятка».

У страфе не толькі высокае майстэрства, але яшчэ і вунь колькі дзіцячага даверу, безабароннасці і адначасова жудасна-вусцішнага страху, — усяго таго, што і павінна прысутнічаць у вершах на такую тэму. Вельмі дарэчы аўтар ужыў і рытмічны перапад у радку, калі пужлівае ласянятка прыпадае языком да ракеты, думаючы, што гэта ствол жаданай асіны ці бярозы.

На якіх бы рэчах і з'явах ні спыніўся пільны і мудры, крыху стомлена-прымружаны пагляд А. Вялюгіна, усюды ён бачыў паэзію: «Калі стамлёна скарбаў тоны // на Зорны Воз ускіне дзень, — // праз мул і мут магнітафонны // крынічны выблісне струмень: // — Сыраежачку ў дуброве, // харашунчык, не крані — // Зіна круціцца ў любові, // як бяроста на агні!»

Гэта строфы з «Замастоцкіх прыпевак». Ёмістыя, глыбокія па сэнсе і змесце. Арыгінальныя, яркія вобразы свецяцца і гараць у радках. Жамчужынай успыхвае пераасэнсаванне, дзе гаворка ідзе пра Зорны Воз, на які дзень «ускіне скарбаў тоны». Далей: «Зіна круціцца ў любові, як бяроста на агні» — параўнанне як не трэба лепш перадае стан дзявочага кахання — не толькі радаснае і святлістае, але яшчэ і пакутлівае, самаахвярнае.

У радках іншага кшталту А. Вялюгін паказвае, як трэба абыходзіцца з алітэарацыяй, каб верш не нагадваў рассохлую драбіну, што грыміць і свіргоча па брукаванай вуліцы: «Ішоў салдат на Харкаў // па прозвішчы Харкоў». Гэта з верша, прысвечанага драматургу Пятру Харкову. Апрача блізкіх па сугуччы слоў, розных, вядома, па значэнні, нічога асаблівага ў радках няма. Але, аказваецца, што і ў самім сугуччы тоіцца нешта вабнае і незвычайнае.

Ёсць у паэта і цікавы сатырычны верш «Модлы мангола». Напісаны ён як быццам на гістарычную тэму. Пра гэта сведчыць адпаведны каларыт, ужыванне спецыфічных слоў і выразаў, такіх, як напрыклад: «хан», «ясыр», «ясак», «арда». Нямала ў вершы і тутэйшых, мясцовых выразаў, з ухілам да размоўна-бытавой лексікі: «не хапае клёпак», «лысая гунька», «босы чэрап». Пра што гэта гаворыць? Хутчэй за ўсё пра тое, што, ведучы гаворку пра манголаў у мінулым, аўтар мае на ўвазе нашага сучасніка. І па ўсім бачна, герой верша мае прататыпа. Гэта адмоўны тып. Ён прызнаецца: «Здабыць пасад высокі // ляту па чарапах... // Штодзень на вуха хану // я нагавор вяду». Мазок за мазком кладзе паэт, малюючы партрэт і аблічча двурушніка і прайдзісвета, што markednymі хітрыкамі і махінацыямі прыдбаў сабе цёплае і зручнае месца. Верш нагадвае гнеўна-саркастычны памфлет, у якім паэт закляйміў тых, хто да нядаўнага часу вёў «падкопы ды паклёпы», робячы свае ўлюбёныя «ардынскія наскокі».

Апошнія вершы А. Вялюгіна — гэта ўзор патрабавальнасці і стаўлення да мастацкага слова, прыклад высокага служэння паэзіі. Па сваёй паэтычнай чысціні кожны з іх нагадвае сабой, кажучы словамі паэта, верасовы ўзятак рупнай шчырунні пчалы.

Паэтычны набытак Анатоля Вялюгіна — унікальная з'ява ў нашай паэзіі. Неўтаймаванасць і рызыкоўнасць, самаахвярная безагляднасць і бескампраміснасць, душэўная шчырасць і сардэчная цеплыня — вось ён, далёка не поўны пералік асноўных і вызначальных рыс і штрыхоў, што характэрны для самабытнага і арыгінальнага паэта, які былінная сахой казачнага Мікулы, з залатым нарогам, рупна і любоўна ўзараў паэтычны загон, і досвіткам жменя за жменяй засеяў адборным зернем нечапаных слоў, вобразаў і метафар, якія адразу пырснулі цёплымі стрэлкамі ўзыходаў, зарунелі і ўскаласіліся маладой ярынай, ашчодрылі рупнага гаспадара, нястомнага сейбіта і ратая багатым ураджаем.

Раіса БАРАВІКОВА

# ПАЭЗІЯ. ДУША. АЙЧЫНА

***Да 65-годдзя з дня нараджэння Яўгеніі Янішчыц***



Так, «Паэзія. Душа. Айчына» — радок аднаго з вершаў Жэні Янішчыц, вялікага таленту паэтэсы, слыннай, надзвычай адметнай і яркай, чыё жыццё і творчасць прыпалі на XX стагоддзе. Адпаведна і наша сяброўства, якое, можна сказаць, пачалося ці не з першага дня знаёмства. Але спачатку напішу пра апошнюю сустрэчу з ёю ў часопісе «Маладосць», дзе яна тады працавала рэдактарам аддзела паэзіі.

Чацвер, калі не памыляюся, гэта было 24 лістапада 1988 года. Еду ў «Чырвонку», дзе тады працавала літкансультантам. На вакзале купляю пяць белых хрызантэм — для Жэні, каб павіншаваць яе з нядаўнім саракагоддзем (20 лістапада). На апошняй секцыі паэзіі ў Саюзе пісьменнікаў мы з ёю размаўлялі пра гэты яе першы, хай сабе не такі ўжо і салідны, але ўсё ж — юбілей, круглая дата, святкаванне якой яна вырашыла прымеркаваць да уваходзінаў у новую кватэру, якую нарэшце атрымала пасля доўгага жыцця на Ульянаўскай вуліцы на нізенькім першым паверсе, ледзь не цокальным. «Напярэдадні я табе яшчэ патэлефаную, — сказала Жэня, — зараз яшчэ рана запрашаць». І вось прыйшло тое «напярэдадні», чакаю званка — Жэня не тэлефануе. Не пазваніла яна і назаўтра, ужо якраз у дзень сваіх народзінаў. Стэлефанавацца было немагчыма, у новай кватэры ёй яшчэ не правялі тэлефон. Яна сама званіла альбо з тэлефона-аўтамата ці ад Святланы Алексіевіч, якая жыла ў тым жа доме. Ну і як ехаць, калі нават невядома, а якой гадзіне трэба быць у Жэні? Такім чынам сваё віншаванне я і адклала да чацвярга.

«Чырвоная змена» і рэдакцыя «Маладосці» былі ў адным будынку, у Доме друку і, зразумела, я спачатку іду да Жэні, дзе адразу ж, зірнуўшы на яе твар, заўважаю, што ў яе жыцці нешта адбылося, штосьці здарылася. Яна і ёсць, і разам з тым адсутнічае ў тым невялічкім кабінеце, дзе займаюцца сваімі справамі хлопцы-пісьменнікі: Леанід Дайнека, Валодзя Саламаха, Іван Данілавіч Сіпакоў… На падаконні ляжаць чырвоныя гваздзікі. «Гэта мяне Мікола Мятліцкі таксама павіншаваў сёння, — кажа Жэня. — Ён прыйшоў у рэдакцыю вычытваць карэктуру сваіх вершаў». — «Дык што, і ён у цябе не быў 20-га?» — я нават трошкі здзівілася, ведаючы, што яна хросная яго дачкі. «А я нікога і не запрашала,

і нічога не адзначала, — адказвае Жэня. — Увогуле, тымі днямі з’ехала з Мінска, дадому, да мамы…» Усё гэта прамаўлялася спакойна, і разам з тым ва ўсім — у голасе, у вачах — адчуваўся душэўны надлом, надрыў, адчай, было бачна, што яе гняла нейкая вялікая пакута. «У цябе штосьці не так?» — пытаюся. Жэня маўчыць, а вочы ўжо ў слязах… Потым сказала: «Давай выйдзем...» І мы выйшлі, прайшліся па калідоры, падышлі да акна.

— Ну, што ў цябе такое здарылася, ты ж сама не свая? — пытаюся. — Чаго раптам усё кінула-рынула і паехала да маці?

І тое, што пачула ад Жэні, да гэтага часу — загадка…

— Мне прыслалі рэквіем, разумееш? Нехта вельмі хоча, каб я пайшла з жыцця… Нікому не вер, проста пішы свае лірычныя вершы, мы ж зараз развітваемся, а не проста размаўляем…

— Жэня, што ты такое кажаш? Які рэквіем?

— Звычайны… Нехта прыслаў мне рэквіем!

І як я ні дапытвалася, Жэня так і не патлумачыла, што гэта такое было? Злосная ананімка, пагроза ад якога-небудзь аўтара, каго не надрукавалі ў часопісе, ці штось іншае? Дапускаю нават гульню ўяўлення, выкліканую незычлівымі адносінамі, незычлівай, непачцівай, абразлівай размовай, такое можа быць у натуры ўразлівай. Але гульня — гульнёй, набегла і адпусціла… Адна эмоцыя перабіла другую. У жыцця шмат колераў, шмат самых розных бакоў.

А тут здарылася нешта такое, што цалкам выбіла Жэню з жыцця, са звыклай жыццёвай каляіны, як кажуць, было ўдарам пад дых… І ці многа кропель чыесьці злосці патрэбна самотнай жанчыне, што жыла, адно творчасцю! Пра творцаў жа нярэдка пішуць, што не ад гэтага свету, як дзеці, ці як анёлы, дзе ўсё — адна душа, на духу ўсё замешана. І гэты дух не заўжды разумее грубае, подлае, нізкае зямное… Тая ж руская вядомая паэтка Юлія Друніна — франтавічка, мужная жанчына, якая прайшла дарогамі такой жорсткай вайны, а якраз той самай мужнасці не хапіла ў мірны час: добраахвотна пайшла з жыцця ў самы разгар перабудовы.

Жэню супакойвала, як магла. Яна казала адно: прыслалі рэквіем. І нішто не змяняла яе настрою. І ўсё ж настроі мяняюцца. Мне тады думалася, што, калі б у Жэні быў у кватэры той самы тэлефонны апарат, ёй можна было б патэлефанаваць вечарам, неяк супакоіць, адагнаць тую нядобрую хвіліну. Маглі б патэлефанаваць пісьменніцы Валя Коўтун, Ніна Загорская, Хрысціна Лялько, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, каго яна любіла, з кім сябравала. І, магчыма, чыесьці словы сталі б для яе выратавальным суладдзем думак, душы, разагналі б роспач…

Назаўтра я паехала ў Саюз пісьменнікаў, каб пацікавіцца, калі ж, нарэшце, у Жэні Янішчыц з’явіцца тэлефон у кватэры. Сказалі, што хутка, што ўсе паперы з хадайніцтвам ад саюза адасланы і ўжо ёсць станоўчае рашэнне. З тым я і паехала ў рэдакцыю «Маладосці», каб сказаць пра гэта Жэні, а там ужо ў глыбокім жалі твары супрацоўнікаў… Раніцай таго дня, той чорнай пятніцы Жэні Янішчыц не стала.

## Паэзія

У мяне заўсёды было адчуванне, што Жэня не любіла працаваць за пісьмовым сталом. У яе двухпакаёвай кватэры на вуліцы Ульянаўскай пісьмовы стол стаяў у гасцёўні без аніякіх папер на ім, толькі пішучая машынка, якую Жэні падарыла пісьменніца і з маладых гадоў блізкая сяброўка — Валянціна Коўтун. Тымі гадамі была ў нас, жанчын-паэтак, такая завядзёнка абменьвацца не толькі сваімі кніжкамі, але і рабіць адна адной нейкія невялікія падарункі. У мяне да гэтага часу за шклом у кніжнай шафе стаіць паліваны прыгожы збаночак, які Жэня купі-

ла ў мастацкім салоне і без пэўнай нагоды, проста як прыемны момант, аднойчы прывезла ў падарунак мне. Ну, а тая даволі вялікая гасцёўня, якую, мяркую, да гэтага часу памятаюць многія пісьменнікі з нашага пакалення (Жэня была вельмі гасціннай, любіла, калі да яе заходзілі), у асноўным, і была толькі гасцёўняй. Новыя вершы роўным стосікам заўжды ляжалі на канапе на кухні, якая, думаю, найчасцей і служыла тым самым творчым кабінетам, куды Жэня адразу ж і запрашала, брала ў рукі некалькі старонак, спісаных прыгожым буйным почыркам, і пачынала чытаць… Гэта ўжо было, як рытуал, мы ўсе тады жылі адно — паэзіяй! І вершамі зачытваліся да позняй ночы. У большасці сваёй чыталі па памяці, хоць ніколі сваіх радкоў спецыяльна і не завучвалі. Проста жылі імі, усе яны былі ў душы і ў любы момант нешта з яе сховаў можна было выцягнуць. Паэзію нярэдка называюць вясной літаратуры, гэта — парыў, павеў, тое самае натхненне, якое дыхне сваім жарам, на нейкі час захопіць і адляціць… У Жэні, безумоўна ж, вершы не «выседжваліся» (у яе і чарнавікоў не было), яны лёгка выдыхаліся з душы, магчыма, з дня нараджэння Кімсьці ў душу ўкладзеныя, і натхненне было толькі той энергіяй, якая дапамагала радкам з той душы выпырхнуць і нейкім чынам аформіцца ў той ці іншы верш. Такое бывае толькі ў сапраўдных вялікіх паэтаў, а не ў рамеснікаў. Паэзія была для яе не рамяством, якому доўга вучацца, а неад’емнай часткай яе самой, ёй было лёсам наканавана нарадзіцца з ёю, таму і быў такім яркім, адметным уваход Янішчыц у літаратуру.

Першая кніжка вершаў «Снежныя грамніцы» — выключна не вучнёўская. Яна магла б быць і другой, і трэцяй. Радкі дыхалі тым, што звычайна прынята называць талентам. І што ён такое — талент? Так, Божы пацалунак, падарунак лёсу, а з другога боку… Таленавіты чалавек, як правіла, нікуды не ўпісваецца, найчасцей жыве непрыкаяным самотнікам. Яму цяжка зразумець людзей, таму што ён жыве на сваёй уласнай планеце думак і пачуццяў, яго лёгка параніць, пакрыўдзіць, у нешта ўкруціць, увесці ў нейкі сумнію, у зман. Згадайма таго ж Пушкіна: «Ах, обмануть меня не трудно!.. Я сам обманываться рад!». «Жыццё паэта? Вось яно: непастаяннае, як хваля», — скажа Жэня ў адным з вершаў, а ў другім зробіць выснову: «Пісаць, нібы ісці пад лёд, каб потым зноў узняцца ў слове». І яна штодня «ішла пад лёд», часам казала: «Калі не пішацца, проста перабіраю, праглядваю штосьці старое, каб не страчваць творчай формы». І гэтае «ўзняцца ў слове» для яе не было прыгожай фразай: у слове акрамя сэнсу яна чула сваю, асаблівую магію. Яна чаравала на слове, і за радкамі нярэдка гучала нейкая глыбокая тайна, яна ўмела стварыць аўру недаказанасці, таемнасці ў вершы.

Зліецца хай з людскімі галасамі
Душа на веснім гуку салаўя:
Аптымістычна — яркая, лясная,
Як і сама паэзія мая.

«Яркая, лясная паэзія», паэзія пары любові і жалю, паэзія каліны… «Я так цябе чакала, што ў каліне адбілася уся мая душа», «За грамамі веку, за дажджамі, за чаканнем сонца і адліг — сойка скрухі, перапёлка жалю, кнігаўка маіх лірычных кніг», — і ўсё разам атрымліваецца: паэзія беларускай прыроды, душы і характару беларуса, паэзія Палесся, Бацькаўшчыны…

«Колькі неба на лёгкіх плячах», — выхопліваю радок з Жэнінага верша і чытаю па-свойму: колькі таленту! Светлага, як нябёсы, тужлівага, адчайнага і балючага — «Я ўся цяпер неразгаданы боль». Гэты боль так і застаўся неразгаданым для ўсіх нас — сяброў, чытачоў, проста сучаснікаў. «Падманваю сябе, свой дзень пусты, — нібыта міска стравы ў ліхалецце. Пішу не вершы я — пішу лісты, пяро макнуўшы ў думнае дасвецце». Свае вершы Жэня назвала лістамі, а ў лістах вельмі часта прысутнічае споведзь, давер, вера, любоў, нешта малітоўнае. І як адарваць ад малітвы душу?!

## Душа

Дзесьці на пачатку так званай перабудовы ў нейкім артыкуле прачытала, што, маўляў, у беларускай паэзіі занадта многа «душы» і трэба пазбягаць ужывання гэтага слова ў вершах. Слова словам, але ж цяжка абвергнуць, што Паэзія прысутнічае ў тых радках, дзе якраз і ёсць тая самая душа, а дакладней, праца душы. Ва ўсялякім выпадку такая паэзія, па-вялікім рахунку, несмяротная, як і сама душа. Розум можа зарыфмаваць, дарэчы, як і камп'ютар, калі запраграмаваць на пэўную праграму, творчы вопыт можа надаць вершу тую ці іншую форму, а калі працуе душа, радок пульсуе, як жывая матэрыя, у гэтым і загадка, і тайна, і вышыня сапраўднай паэзіі, пра якую мы кажам — ад Бога. Я неаднойчы чула ад старых людзей выраз: «глыбока ўздыхнуў і болей не тхнуў», іншымі словамі, перахапілася дыханне, не змог чалавек тхнуць, а па-іншаму, натхніцца. Адсюль, напэўна, і пайшло паняцце: натхненне! Чым жа натхняецца паэт, чым напаўняецца падчас творчай працы? Больш чым упэўнена — адным з відаў касмічнай энергіі, якая ўступае ў кантакт непасрэдна з душой…

Калі спяваць прытоміцца душа,
Не бойся скрухі, песенная доля:
Як голька залатога спарыша —
Яшчэ жыве любоў твая і воля.

Ўдыхні яе жывы глыток наноў,
Перш, чым накрые незвароту навісь.
Я знаю: свет багаты на любоў,
Бо толькі у разлюбленых — нянавісць.

Гэтым вершам завяршаецца кніга лірыкі «Пара любові і жалю», выдадзеная ў 1983 годзе. У радку прысутнічае «незвароту навісь», але перадусім: любоў і воля. Жэня верыла ў гаючую сілу любові, і з любові ткаліся ў яе вершы ад пачатку: «Пачынаецца ўсё з любві» пісала яна ў сваёй першай кнізе «Снежныя грамніцы». Душа — таксама, бо дзе няма любові, там не гаворыцца пра душу. «Любоў мая, ты песня, і маркота, і спелы бор, і вольны гон ракі», — напіша Янішчыц у адным вершы, а другі пачне страфою:

«Я вас люблю» — няма каму сказаць?
А мне ў любві да скону не змыліцца:
Я вас люблю, лясы і сенажаць,
Старая вёска, новая сталіца…

Пачуццё любові шукала гармонію, суладдзе… На вялікі жаль, гармоніі ў нашым зямным жыцці мала, суладдзя таксама. Жэня не любіла канфліктаваць, ёй была ўласціва тая самая беларуская памяркоўнасць, але гэта ўжо тычыцца яе характару і натуры вельмі зычлівай жанчыны. Яна была не ўзрыўным чалавекам, усе эмоцыі аддаваліся вершам, а калі ў звычайнай жыццёвай плыні штосьці было ўжо надта не даспадобы, то проста ўставала і ішла з кампаніі, з пісьменніцкага сходу… Вельмі любіла дарыць падарункі і запрашаць да сябе ў госці, а найбольш — добрыя вершы сяброў, маладых і старэйшых паэтаў. Сапраўдную паэзію чула адразу і калі ўжо некага вылучала, дык усяляк старалася падтрымаць. Яе сяброўства многія шукалі, але разам з тым — «Над адзінотаю ўсмак пасваволю…» Надта многа ў яе было адзіноты, вельмі зямной, жаночай. «Маё аблічча толькі форма, адлітая для струн душы», — напіша Жэня ў адным з вершаў. Душа ішла «на голас ліры, дзе ўсё — фантазія, палёт», а аблічча, яе звычайнае жаночае «Я» жыло на зямлі — і ў нейкі момант душа не зразумела гэтага зямнога жыцця…

Я думала: прыйду ў зялёны сад —
Яшчэ над садам цішыня і поўня.
І я адчай другім жыццём запоўню,
Пакуль на дол не выпала раса…

Яснее незваротны далягляд,
І набягаюць, нібы хвалі, словы…
Прыйшла у сад, які увесь барвовы!
А думала: «Прыйду ў зялёны сад…»

Кніга «Каліна зімы» розніцца ад «Пары любові і жалю» менавіта гэтым адкрыццём: свет не такі, якім бы хацеў бачыць яго Паэт! Ён сатканы не толькі са святла, у ім шмат непрымальнага, дзе праўда часта падмяняецца няпраўдай, дзе ёсць і зласлівасць, і хіжасць, і зайздрасць, ды і элементарнае прыстасаванства. І гэта чуецца ў шмат якіх радках: «Дзеці самі выбіраюць маскі, смела пазбягаючы апек… Ім сягоння, пэўна ж, невядома, што свядома йшчэ і несвядома носіць маску толькі чалавек». Альбо: «Дзе музыка твая, зямля, ў якіх барах начуюць ноты?» Ці: «Здзіўляюся я часу-скамароху: ён стаў надзіва тлумны й гаваркі…»

Перачытваю ад верша да верша кнігу «Пара любові і жалю» — гэта мая любімая Жэніна кніга з яе аўтографам праз пяць гадоў пасля выхаду ў свет: «Раечка, хай будзе любоў і натхненне да ста лят!» і дата: 12. 06. 1988 года. Ні яна, ні я тады яшчэ не ведалі, ды і падумаць не маглі, што гэты год (з такімі, здавалася б, круглымі лічбамі, зусім непрарочымі) стане абрывам для Жэні, тым самым палётам у вечнасць, калі ўсе струны душы раптоўна пад нейкім невыносным цяжарам абарваліся…

У паэтэс лірычнае адзенне,
Яно ў радках з заранак і аблог.
Ды колькі раз падманвалі надзеі
І адступаўся памагаты Бог…
І змые час дурных здзіўленняў пену,
І пачуццё абвугліцца датла.
…Паэзія — яна не знае тлену,
Калі ў душы хоць прыгаршчы святла.

Жэня несла ў сабе святло і ішла на яго. Што было святлом для яе? Безумоўна ж, найперш сын, самы галоўны клопат — яе Андрэйка. А што каханне? У нейкай ступені і яно, але найбольш тое, пра што пісала: «Я за плячыма маю трохі шчасця ад баразны, ад жытняга снапа». І далей: «Я прад вачыма маю белы бераг, куды здалёк вяртаюцца буслы».

## Айчына

У Янішчыц, як і ў любога іншага сапраўднага паэта, не было пафасных, халодных, барабанных вершаў, якія, як правіла, адкрывалі шлях да службовай кар’еры… У паэта ж адна кар’ера: быць паэтам! Хаця ў тыя часы, на якія прыпала наша маладосць і пачатак літаратурнай сталасці, каб больш-менш прыстойна існаваць, гэтага было, відавочна, недастаткова. Тагачасная ідэалогія патрабавала не толькі ўхвалення, павагі і ўвагі да яе, але і выключнай вернасці і адданасці. Вось і Жэня… Яна ўжо была лаўрэатам камсамольскай прэміі, а на працу загадчыкам аддзела паэзіі ў часопісе «Маладосць» уладкавалася з цяжкасцю, перад тым доўгі час працавала літкансультантам пры тагачаснай «Сельской газете».

Потым у яе была і Дзяржаўная прэмія, а ніяк не магла атрымаць нармальную кватэру, хоць падобная праблема для многіх і многіх у тыя часы вырашалася вельмі лёгка. А калі, нарэшце, усё ж атрымала яе, аказалася, што тое адбылося ўжо напрыканцы жыцця. Чамусьці так ужо заведзена: чым большы ў чалавека талент,

тым большыя ў яго цяжкасці з бытам. Талент, даруйце, у чыстым выглядзе нікому непатрэбны, гэта ўсё больш і больш пачынаеш разумець з узростам, можа, толькі Часу, які адбірае творцаў у сваю раку вечнасці выключна па гэтай адзнацы. Але ўсё гэта так, між іншым…

А мне у мілай старане —
Бліжэй да сонца і прыроды…
Там дзень праявіцца ў акне
Густым малінавым усходам.

Мілая старана… Нарадзілася Яўгенія Янішчыц 20 лістапада 1948 года ў вёсцы Рудка, што ў Пінскім раёне на Берасцейшчыне. Землякі назвалі яе і называюць дасюль ластаўкай Палесся. Шмат і шмат вершаў паэтэсы прысвечана тым мясцінам, ад якіх ніколі сваёй душой не адрывалася Жэня. Адна з яе кніг так і называецца «Ясельда». А ў кнізе «На беразе пляча» тая мілая старана ўявіцца Жэні «Ягадным хутарам» і ў «Каліне зімы» стане «Зорнаю паэмаю». «Скуль іду я, куды мне дарога — у чабору радзімы спытай», — напіша яна ў адным вершы, гэтак злітна адчувала сябе і з «шумам жытняга святла», і з «дажджавою ніткай лёсу мамы», і з «прадоннем былінных азёр», дзе баялася, «каб хата сельская мая не стала сувенірам» і прасіла кагосьці «…ды калі ты не бязродны сын — гавары са мной па-беларуску». Янішчыц малявала сваім трапятлівым слоўкам родную прыроду, як мастак малюе пэндзлем, гэтак яна занатоўвала ў радках таямнічыя краявіды беларускага Палесся і глыбока ўнікала ў лёсы людзей — простых палешукоў, з якімі да апошняга свайго дня не страчвала роднасці. Нават у самы адчайны, драматычны момант свайго жыцця, за некалькі дзён да імгнення, калі перарвалася нітка лёсу, што злучала яе з зямным светам, яна ад усяго адхінулася, усё кінула і паехала да сцежак дзяцінства, да родных мясцін, да мамы…

Не назавём — само не назавецца
Ні азярцо, ні твар, ані — вякі.
…Ці знаеш ты, як рыфма цяжка тчэцца,
Як рвецца песня — часта! — на шматкі?..

Вось на парог радзімы павярнуся:
Шчыруе мама. Бульбачка кіпіць.
Ды ведаю — на песні захліпнуся.
І знаю: долі мне не абхітрыць.

Пра што думала Жэня тою лістападаўскай раніцай, якая расчыніла перад ёю акно ў вечнасць?! Якія пачуцці: роспач, адчай, балючая крыўда ці нейкае глыбокае расчараванне, калі ўжо і самога жыцця не хочацца, — вялі яе? Але вечнасць не дае адказу, у ёй проста застаюцца «Паэзія. Душа. Айчына»…

**Тамара АЎСЯННІКАВА**

# ЯЕ ТАЛЕНТ БЫЎ НАВІДАВОКУ

Адметнасць творчасці і асобы Яўгеніі Янішчыц — святло. У адным яшчэ школьным вершы яна выказала жаданне «беляхцець» у небе хмаркамі, «каб на белых крылах разнясці святло». Яго яна несла сваімі творамі ўсё жыццё. І ў памяці тых, хто яе ведаў, яна засталася таксама светлым чалавекам.

Кажуць, калі хочаш лепш зразумець паэта, трэба пабываць на яго радзіме. Піншчыну я наведала ў 2011 годзе. У жывапісных мясцінах раскінуліся чатыры вёскі — Мерчыцы, Велясніца, Рудка і Парэчча, — з якімі звязана маленства і школьныя гады Жэні. Усё ўразіла: і рака Ясельда, апетая ёю, і наваколле, і парк, у якім трыццаць шэсць экзатычных дрэў, і Парэчча ў пяць кіламетраў даўжынёю. Добрая і Парэцкая школа. Яна была адкрыта яшчэ ў 1863 годзе. Будынак, у якім вучылася Жэня, узведзены ў 1956 годзе. Школа і адна з вуліц вёскі носяць імя Яўгеніі Янішчыц.

Жэня нарадзілася 20 лістапада 1948 года ў Рудцы. Яе бацькі, Іосіф Сцяпанавіч Патапчук і Марыя Андрэеўна Янішчыц, працавалі ў калгасе. Бацька іграў на гармоніку, і ніводнае свята ў вёсцы не абыходзілася без яго.

У 1955 годзе Жэня пайшла ў першы клас Рудкаўскай пачатковай школы. Яе першая настаўніца **Вольга Васільеўна Новак (Лойка)** успамінае: «Жэня расла цікаўнай дзяўчынкай. Вучылася добра. Лепей за ўсіх пісала сачыненні. Асабліва любіла апісваць поры года. Выразна дэкламавала вершы, добра чытала прозу. Пачатковая школа размяшчалася ў звычайнай вясковай хаце, Жэнін дом быў насупраць. Тады першы клас вучыўся разам з трэцім, а другі — з чацвёртым. Пасля заняткаў Жэня часта заставалася ў школе, яе маці прыбірала ў класах. Бывала, правяраю сшыткі, а Жэня побач стаіць, — яна любіла глядзець, як я сшыткі правяраю, — і гаворыць: «Вольга Васільеўна, я так люблю чытаць, а матэматыку не люблю». Нічога, Жэнечка, кажу я ёй, ты дзяўчынка разумная і ў матэматыцы разбярэшся.

Што яшчэ запомнілася? Жэня любіла спяваць. Я жыла ў Мерчыцах, на веласіпедзе ездзіла ў школу. Еду дадому, а Жэня сядзіць на плоце і песні спявае, народныя: «Каля грэблі шумяць вербы», «Біла мяне маці беразовым прутам», «Чаму не прыйшоў, як месяц ўзышоў» і іншыя. Яна ад маці іх пераймала. Мне скажа: «Да пабачэння, Вольга Васільеўна», — рукою махне і далей спявае.

Ці адчувала я, што Жэня стане паэтам? Што такім, мабыць, не. Але аднойчы яна мяне здзівіла. Не магу дакладна сказаць, у якім гэта было класе, мабыць, у трэцім, але добра помню, што па вуліцы ішоў статак кароў. Жэня стаяла, глядзела і раптам выпаліла:

Идут коровы чередой,<br>Несут с собою сыродой.

Была ў ёй нейкая адметнасць. Шчырасць. Мая дачка паступала ў інстытут. Ідзём мы з ёю па Мінску, і чую, мяне хтосьці кліча. Азірнулася — Жэня бяжыць. Абняла мяне, пацалавала, распытала, у госці запрашала, але я не хадзіла, часу не было. На вакацыях Жэня працавала ў Мерчыцах у піянерскім лагеры. Падаравала мне дзве кнігі з вершамі». (Запісана са слоў В. В. Новак 20 студзеня 2012 г.).

Затым Янішчыц вучылася ў Мерчыцкай васьмігодцы, дзе талент будучай паэтэсы праявіўся больш ярка. Дырэктар школы і настаўнік беларускай мовы і літаратуры Аркадзь Міронавіч Грэчка даў заданне падрыхтаваць верш Я. Коласа «За падаткі». У Жэні нарадзілася думка: а што калі самой напісаць верш і прысвяціць яго Я. Коласу. Так і напісала свой другі верш. Першы быў прасвечаны маме, ён не захаваўся, яго Жэня напісала, калі вучылася ў Рудкаўскай школе. Аркадзь Міронавіч падтрымаў дзяўчынку ў яе творчых памкненнях. У музеі Парэцкай школы захоўваецца «Тетрадь для собственных сочинений», у якой Жэня запісала: «Затем мне посоветовали писать дальше и не останавливаться на достигнутом. И целью моей жизни был и будет лозунг: «Искать и найти, найти и не сдаваться».

Напачатку Жэня пісала і на беларускай мове, і на рускай. Усе вершы акуратна занатоўвала сваім прыгожым почыркам у сшытках, спецыяльна для гэтага заведзеных. Там яна пазначыла і свае першыя крокі ў паэзіі, пачынаючы з верша, прысвечанага Коласу. А калі ў газеце «Полесская правда» за 12 студзеня 1963 года быў надрукаваны яе верш «Голуб», яго Жэня напісала за 27 хвілін у Пінску, то, па словах аднакласніцы і сяброўкі Раісы Ганчарык, «гэта стала вялікай падзеяй у жыцці Жэні і Мерчыцкай школы, было многа радасці і лікавання. Менавіта пасля верша «Голуб» Жэня ўсур'ёз задумалася аб паэзіі».

Аб вучобе Жэні ў Мерчыцкай школе свае ўспаміны пакінула настаўніца рускай мовы і літаратуры **Кацярына Васільеўна Патапчук (Шчурэвіч).** Яны захоўваюцца ў музеі паэткі. «Жэня Янішчыц вучылася ў Мерчыцкай васьмігадовай школе з 1959 па 1963 гг. Я адразу звярнула ўвагу на гэтую незвычайную дзяўчынку, яна мне вельмі спадабалася, яе любілі настаўнікі і вучні. Дзяўчынка была вельмі старанная, працалюбівая, сціплая, добразычлівая. Вучылася добра, любіла гуманітарныя прадметы, асабліва мову і літаратуру, выдатна пісала сачыненні. Калі я задала напісаць сачыненне на тэму: «Кім я мару стаць», то яна напісала на цэлы сшытак. Жэня марыла стаць настаўніцай, і мара яе збылася, яна стала не толькі настаўніцай, але і знакамітай беларускай паэткай.

Жэня Янішчыц любіла сваю малую Радзіму, родную прыроду, людзей, шмат вершаў ім прысвяціла, ніколі не зазнавалася, была простай у размовах з людзьмі. Я захавала два яе рукапісныя вершы. «Пісьмо да настаўніцы» датавана 1 верасня 1964. Вось некалькі радкоў з гэтага верша:

Абяцаю, што ўсё асілю я…
Вецер ходзіць, пяе за стаўнямі.
Добры дзень, Кацярына Васільеўна,
Дарагая мая настаўніца.

У «Полесской правде» за 1962 год была змешчана падборка яе артыкулаў пад назвай «Заметки из колхоза «Большевик», дзе яна пісала пра сваіх землякоў, пра любімых настаўнікаў. А калі Жэня, ужо вядомая беларуская паэтка, прыязджала да маці ў сваю родную вёску Рудка, яна ніколі не абмінала маёй хаты. Мы садзіліся на канапу і гутарылі пра жыццё-быццё. Я вельмі ганаруся тым, што такая вядомая беларуская паэтка вучылася ў Мерчыцкай школе» .

У Парэцкай сярэдняй школе паэтычныя крылы Янішчыц акрэплі і ўзнялі яе высока над зямлёю. Вялікая роля ў гэтым належыць настаўнікам, з якімі я мела шчасце гаварыць. На вялікі жаль, з самым галоўным настаўнікам Жэні, **Фёдарам Фёдаравічам Цудзіла,** мне не давялося ні ўбачыцца, ні пагаварыць, спазнілася амаль на чатырнаццаць гадоў.

Расказаць аб Жэні я папрасіла былога бібліятэкара Парэцкай сярэдняй школы **Антаніну Міхайлаўну Нікалайчык**. «Бібліятэка для Жэні — святое месца. Ніколі не праходзіла міма. Як толькі з'явілася ў нашай школе, то першай прыйшла ў бібліятэку. Помню, як Фёдар Фёдаравіч стаяў у калідоры і размаўляў з Жэняю, дзверы бібліятэкі былі адчынены. Потым яны зайшлі, і Фёдар Фёдаравіч падаў мне часопісы: «Полымя», «Маладосць» і «Юность» і папрасіў запісаць на Жэню. Так

і павялося — спачатку часопісы чытаў Фёдар Фёдаравіч, а потым Жэня. Фёдар Фёдаравіч — свяціла нашай школы. Калі ўзнікала якое пытанне, то ўсе звярталіся да яго. Фёдара Фёдаравіча запрашалі на працу ў Мінск, але ён не паехаў.

Вучылася тады ў Парэцкай школе каля пяцісот вучняў. Выпускнікоў сто чалавек. А фонд — тысяч шэсць. Кніг не хапала. Праграмныя творы Жэня брала першай, яна хутка чытала. Чытала многа. Цікавілася паэзіяй, навінкамі. У яе фармуляры заўсёды былі ўкладышы. Калі брала кнігі, то заўсёды гаварыла: «Мне гэтыя, — называла якія, — і для душы». Аднойчы зайшла такая вясёлая, радасная, з лістком у клетачку, а на ім верш «Радзіме». Прачытала мне. Потым гэты верш быў надрукаваны ў газеце. Пасля заканчэння школы, калі б ні прыязджала Жэня дадому, заўсёды заходзіла да Фёдара Фёдаравіча і ў бібліятэку. Яна абяцала правесці вечар паэзіі ў школе, ды так і не паспела. Помню, што ў 1979 годзе Жэня заходзіла ў бібліятэку. Фёдар Фёдаравіч у той дзень кансультацыю праводзіў па літаратуры. І ён цэлую гадзіну прысвяціў творчасці Жэні. Мая дачка Таня расказвала аб гэтай сустрэчы: «Як светлы ручаёк, яе голас ліўся».

Смерць Жэні для нас была шокам. Фёдар Фёдаравіч зайшоў у бібліятэку і ад хвалявання не мог слова сказаць… Я штогод рабіла выставы па творчасці Жэні: размяшчала яе кнігі, артыкул «Звенит речка Ясельда», які напісаў Антон Квір, таксама наш выпускнік; кнігу «Натхненне» (універсітэцкае выданне), там Жэнін верш змешчаны. Пасля яе смерці ў мяне была пастаянная выстава — «Паэзія любові і святла». Я любіла Жэню і паважала. Яна добры чытач. Ведаеце, Жэня мне прысвяціла верш, але яго ў мяне няма.

— Хочаце я Вам яго прачытаю, ён захаваўся ў сшытку, які Таня, пляменніца Жэні, перадала сыну Яўгеніі Янішчыц, Андрэю.

— Канечне, хачу.

— Чытаю.

Перапынак. Мяне чакаеце
І амаль што усе «навінкі»
Вы з прыходу мне выкладаеце,
Нібы школьніца, без запінкі.
Перагортваю кніжкі новыя
І прыходжу у захапленне.
Лепш скажыце, якімі словамі
Вам аддзякаваць за натхненне?

Антаніна Міхайлаўна вельмі расхвалявалася, голас задрыжэў, яна пачала дзякаваць за верш, які чытала ёй Жэня 45 гадоў назад. (Запісана са слоў А. М. Мікалайчык 21 студзеня 2012 г.).

Прыемнай была размова і з **Астахавай Марыяй Аляксееўнай**, настаўніцай геаграфіі і гісторыі: «Я заўсёды гавару, што жыццё падарыла мне вучаніцу, якую немагчыма забыць. Помню, як у школу прыйшла хударлявая дзяўчынка, вельмі сціплая, шчырая, абаяльная, з вялікім жаданнем вучыцца. На ўроках заўсёды ўважліва слухала. Я расказваю, а яна глядзіць на мяне такімі разумнымі вочкамі. Так, вочы, Жэніны вочы запомніліся. Калі ў класе з'явілася Жэня, хацелася даць як мага больш, выйсці за рамкі падручніка. Жэня вельмі добра адказвала, не проста завучвала. Галасок яе ўсё слухаў бы і слухаў. Класы вялікія былі. Адна вучаніца мне і гаворыць: «Марыя Аляксееўна, вы пачынаеце чвэрць з Жэні і заканчваеце Жэняй?» — «А я люблю слухаць, як Жэня адказвае», — кажу я ёй. У лютым 1964 года так сціпла мяне сустракае і дае лісток з вершам, прысвечаным мне. Верш я перадала ў музей. Аднаго разу я вярталася з Лагішына — наганяе мяне Жэня: «Марыя Аляксееўна, давайце я вам дапамагу». Ідзём, размаўляем пра любоў да жыцця, да прыроды. Я і пытаюся: «А куды ты, Жэня, ідзеш?» — «Я вас правяду», — адказвае. Так і давяла мяне да самай хаты, а гэта далёка. Жэня была добразычлівай дзяўчынкай. Яе любілі аднакласнікі. Я вельмі шкадую, што ў Мінску не зайшла да яе, сын мой пастунаў. Яна гасцінна запрашала, а я падумала, як я з ёю гаварыць буду, яна ж такая знакамітая. І не пайшла.

Як даведалася пра трагедыю? Я працавала ў Пінкавічах, расказвала пра Жэню, вершы яе чытала. Там музей Якуба Коласа ёсць. Падыходзіць да мяне той восенню адзін вучань і кажа: «Вы нам пра Яўгенію Янішчыц расказвалі. Дык яе няма». «Так і даведалася». (Запісана са слоў М. А. Астахавай 21студзеня 2012 г.).

**Зінаіда Афанасьеўна Шпакоўская**, настаўніца хіміі, расказала, што хімія Жэні давалася цяжкавата. Запомнілася ёй, як Жэня і Фёдар Фёдаравіч на перапынках каля акна стаялі і аб чымсьці гаварылі. Аб чым яны маглі гаварыць, я думаю, няцяжка здагадацца. Аб паэзіі, канешне.

**Тамара Цітаўна Гагалінская,** выкладчыца матэматыкі: «Аб Жэні ў мяне самыя светлыя ўспаміны. Яна была вельмі эмацыянальнай дзяўчынкай, рамантычнай, шчырай і жыццярадаснай. У класе Жэню любілі. Па матэматыцы ў яе не заўсёды атрымлівалася, але яна старалася. Я часта Жэню параўноўвала з Пушкіным, талент яе быў навідавоку, і гаварыла: «Жэня ў цябе, як у Пушкіна, усё раўняецца нулю». Я ведала, што займацца Жэня будзе літаратурай і матэматыка наўрад ці спатрэбіцца ёй. Таму і даравала многае.

Помню адзін выпадак. Неяк прыехалі ў школу рабіць прышчэпкі, а Жэня вельмі баялася ўколаў. А калі ёй зрабілі прышчэпку, дзеці пасмяяліся і прапанавалі Жэні напісаць верш аб тым, як яна баялася ўколаў. Жэня — светлы чалавек, і вобраз яе незабыўны». (Запісана са слоў Т. Ц. Гагалінскай 7 кастрычніка 2012 г.)

**Альфонс Іосіфавіч Гагалінскі,** намеснік дырэктара Парэцкай сярэдняй школы, настаўнік гісторыі: «У той час, калі вучылася Жэня Янішчыц, настаўнікі мелі такое грамадскае даручэнне як агітатар. Агітатары былі і асветнікамі, і інфарматарамі, і выхавацелямі. Усе калгасныя справы адлюстроўваліся ў «Баявых лістках». Жэня нам у гэтым вельмі дапамагала. Мы давалі ёй інфармацыю аб перадавіках вытворчасці і аб тых, каго трэба было «прапясочыць». Жэня выдатна спраўлялася. Яе вершы, асабліва сатырычныя, карысталіся вялікім поспехам. Іх баяліся, як агню. Жэня сама і афармляла «Баявы лісток», у яе быў цудоўны почырк. І школьны расклад урокаў яна пісала, і атэстаты выпісвала. На кожную просьбу Жэня адгукалася з радасцю. Яна была добрай вучаніцай і цудоўным чалавекам, шчырым і светлым. Яе працаздольнасць, акуратнасць, творчы падыход да любой справы, лёгкасць, з якой яна ўсё рабіла, здзіўлялі і выклікалі павагу. А якія Жэня пісала вершы! На школьніных вечарынах усе чакалі, калі Жэня будзе чытаць свае вершы. Талент адчуваўся. У школе літаратурнае жыццё кіпела дзякуючы Цудзілу Фёдару Фёдаравічу, Жэні Янішчыц і Антону Квіру». (Запісана са слоў А. І. Гагалінскага 29 кастрычніка 2012 г.)

**Антаніна Паўлаўна Сідарук,** дырэктар Музея Яўгеніі Янішчыц: «Якой запомнілася мне Жэня? У яе была вельмі добрая дыкцыя. Як чытала яна свае вершы! Чытала, як сапраўдная артыстка. Усе школьныя мерапрыемствы праводзіліся ў спартыўнай зале. Зала была маленькая, таму на вечарыны дапускаліся толькі дзеці 9-х і 10-х класаў і лепшыя вучні 8-х класаў. Я вучылася ў восьмым, добра вучылася, таму і мела магчымасць прысутнічаць. Значнасць асобы Яўгеніі Янішчыц я зразумела пазней, калі працавала настаўніцай, калі пачала збіраць матэрыялы для музея. Маё жыццё і захаванне спадчыны Яўгеніі Янішчыц ужо знітаваныя і непадзельныя. Зараз я раблю Жэнін радавод. Дзякуй богу, дакументы знайшліся». (Запісана са слоў А. П. Сідарук 5 лістапада 2012 г.)

З аднакласніцай Жэні **Раісай Вікенцьеўнай Ганчарык** мы сустракаліся 30 студзеня 2012 года і некалькі разоў гутарылі па тэлефоне. Яна самая блізкая школьная сяброўка Жэні, вучылася з ёю з першага класа да выпуску. Раіса Вікенцьеўна расказала ўсё, што захавала яе памяць: «Каля Рудкаўскай школы быў лужок, і мы любілі на ім гуляць. Здаралася, вымачымся і бяжым да Жэні сушыцца. Мама яе была хлебасольнай, заўсёды піражкамі частавала. Мы залазілі на печ і гаварылі аб усім на свеце. Аднойчы дагаварыліся да таго, што Жэня і кажа: «Рая, а давай сходзім на могілкі. На вуліцы такое надвор’е, вецер, а на могілках столькі людзей, можа, мы што пачуем, убачым». Мы апранулі нейкія доўгія адзежыны (восень была) і пайшлі цераз поле. Ідзём, з ветрам змагаемся, моцны вецер быў. А вось ці дайшлі мы да могілак, я не помню. Мабыць, не. Вучыліся тады мы ў пачатковай школе.

Была яшчэ адна гісторыя з намі. Нас папярэдзілі, што будуць рабіць прышчэпкі. І мы з Жэняй як шуганулі — знайсці нас так і не змаглі.

Жэня добра спявала. Адна з любімых песен — «Ой у лесе на дубочку». Гаварылі, што ў яе голас з падводам.

Па дарозе з Парэцкай школы мы разважалі, складалі вершы. Дарога доўгая, да Жэнінага дома кіламетраў пяць, часу многа. Жэня першы радок, я другі. Яна мяне папраўляла. Часта заходзілі да Жэні. «Ой, ты пачакай, у мяне нарадзіліся радкі, я хуценька запішу», — кідала мне. Жэня была чалавекам у сабе, незвычайнай явай для нашага асяродку, не такая як усе, і талент яе быў навідавоку. Гэта — Божы дар, для развіцця якога былі добрыя ўмовы. Яна жыла паэзіяй і станавілася сама собою толькі тады, калі гаварыла аб земляках. Яна ўмела быць удзячнай. Аднойчы і кажа: «Ты знаеш, Рая, калі мяне будуць друкаваць, я ж змагу тады купіць падарункі і маме, і тату». Жэня любіла рабіць падарункі. Прывозіла родным і суседзям. З Амерыкі мне прывезла набор касметыкі.

Жэня лічыла, што Бог не даў ёй знешняй прыгажосці. Яна была ўся ў творчасці, думала аб паступленні ва ўніверсітэт. Спачатку мы марылі стаць настаўнікамі. Пад уплывам кнігі Чінгіза Айтматава «Первый учитель» збіраліся паехаць працаваць у які-небудзь аул».

Вялікую ролю ў развіцці творчых здольнасцей будучай паэткі адыграў настаўнік рускай мовы і літаратуры Парэцкай сярэдняй школы і класны кіраўнік Фёдар Фёдаравіч Цудзіла. Раіса Вікенцьеўна працягвае ўспамінаць: «Урок рускай літаратуры ў новай школе перавярнуў свет, такія настаўнікі, як Фёдар Фёдаравіч, бываюць рэдка. Літаратурнае жыццё ў школе кіпела».

Цудзіла бачыў сэнс свайго жыцця ў вучнях: «Вось, ёсць у мяне Жэнечка, і можна будзе сказаць, што працаваў і жыў недарма». Фёдар Фёдаравіч сам мясцовы, Парэцкую школу скончыў з сярэбраным медалём. Зінаіда Дудзюк у артыкуле «Дзівосныя вёсны» («Настаўніцкая газета» за 18 лістапада 2008 г.) прыводзіць ягонае выказванне: «Гэта была незвычайна адораная дзяўчынка. Калі чытала вершы, дык хвалявалася і ўся свяцілася. Ужо тады яе творы былі вобразнымі і сталымі… З прыходам Жэні […] усталявалася асаблівая атмасфера. Шмат хто з дзяцей пачаў пісаць вершы. Мы выпускалі акрамя школьнай насценнай газеты яшчэ газету літаратурную і альманах «Ясельда». На заўвагу Зінаіды Іосіфаўны, што ў літаратурных поспехах вучняў вялікая і важная роля належыць яму, настаўніку, Фёдар Фёдаравіч адказаў: «Я шчаслівы, што не перашкодзіў ёй стаць паэтам».

Настаўнік адчуў сябе асірацелым, калі Жэні не стала. Ён быў першым, хто загаварыў аб увекавечанні памяці сваёй любімай вучаніцы. А. Сідарук, таксама былой сваёй вучаніцы, а на той час настаўніцы Парэцкай школы, ён сказаў: «Антаніна, нам патрэбна ўвекавечыць памяць Жэні. Каму каму, а нам будзе сорамна, калі мы гэтага не зробім. Людзі павінны пра яе ведаць болей». Так Антаніна Паўлаўна пачала збіраць матэрыялы для музея Яўгеніі Янішчыц. Яна расказвала, што былі хвіліны, калі рукі апускаліся, такая нялёгкая гэта справа. Вялікую падтрымку мела ад Фёдара Фёдаравіча. Ён беражліва захоўваў сшыткі і вершы сваёй любімай вучаніцы, якія адразу ж аддаў у музей, і першую сваю пенсію ахвяраваў у фонд музея. На жаль, пасля адкрыцця музея, менш чым праз месяц, Ф. Цудзілы не стала.

Мікалай Елянеўскі ў артыкуле «Настаўнік і вучаніца» («Звязда» за 18 лістапада 2003 г.) піша: «Цяпер, калі называем імя паэтэсы Яўгеніі Янішчыц, то за ім добрым анёлам лунае і імя Фёдара Фёдаравіча Цудзілы». У артыкуле, прысвечаным свайму настаўніку, Жэня напісала: «Стаіць на кніжнай паліцы ў мяне кніга «Пра час і пра сябе» — біяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Гэтая кніга мне па-асабліваму дарагая і памятная, бо кожны раз шчымліва чытаю надпісанае Вамі: «Жэні Янішчыц, маёй лепшай вучаніцы, з цвёрдай упэўненасцю ў тым, што ў будучых выданнях гэтай кнігі я прачытаю яе біяграфію». Пад аўтографам пазначана: 29.08.1966 года. Артыкул убачыў свет, калі Цудзілу прысвоілі званне заслужанага настаўніка БССР.

Раіса Ганчарык з цеплынёю гаварыла пра любімага настаўніка і сустрэчы з ім і Жэняю. Кожная такая сустрэча ператваралася ў вечар паэзіі. Фёдар Фёдаравіч

чытаў вершы сваіх вучняў. Рая была здзіўлена, калі ён прачытаў і яе вершы. Чаму? Ды таму, што гэта напамінак аб шчаслівым школьным жыцці. Яна даўно не піша, бадай, з таго часу, як атрымала водгук Кастуся Кірэенкі на свае вершы — «сырыя, трэба працаваць». Жэню Кірэенка пахваліў і гэта яе акрыліла. «Я сёння здзіўляюся, якія мы былі адчайныя, — гаворыць Раіса Вікенцьеўна, — як мы асмеліліся пісаць Нілу Гілевічу. З якой нагоды не помню, але Жэня вельмі хвалявалася, доўга карпела над тым лістом, усё раілася, пісала і перапісвала».

Аб гэтым пісьме я распытала **Ніла Сымонавіча Гілевіча**. Вось яго аповед: «У ЛіМе я прачытаў Жэніны вершы, там быў і фотаздымак: дзяўчынка на кладачцы. Святы ветрык спаднічку лашчыць. Жэня тады вучылася ў Парэччы. Я папрасіў у рэдакцыі адрас і напісаў Жэні ліст, які пачынаўся словамі: таварыш Жэня. Вершы пахваліў. А ў верасні з'явілася сама мне на вочы. Я прачытаў лекцыю і да мяне падышла дзяўчына і сказала: «Я — Жэня Янішчыц». Выходзіць, што не Жэня першай напісала пісьмо Нілу Гілевічу. І хваляваліся дзяўчынкі, пісаўшы ліст-адказ. Вядома, што для Жэні гэта было вялікай падзеяй. З асаблівай павагай і цеплынёю яна адносілася да Ніла Сымонавіча ўсё сваё жыццё.

**Раіса Іванаўна Бызылік,** аднакласніца Янішчыц: «Помніцца, што мы часта прасілі Жэню напісаць сачыненне за нас, яна нікому не адказвала. Я доўга захоўвала нататку, якую мне напісала Жэня. Пры пераездах недзе згубілася.

Вялікая падзея была ў школе, калі Ніл Гілевіч прыслаў пісьмо Жэні, у якім раіў ёй паступаць ва ўніверсітэт. Што яшчэ запомнілася. Жэня заплятала косы, і Саша Коваль яе часта скуб за гэтыя косы, а Гагалінскі Альфонс Іосіфавіч, настаўнік гісторыі, казаў: «Вось, Саша, скубеш ты Жэню за косы, а пройдзе час і табе будуць зайздросціць, што ты вучыўся разам з Жэняю». Жэня — самародак. Нас заўсёды цікавіла, калі яна піша вершы. Мы давалі ёй тэму. На наступны дзень яна прыносіла верш. Урокаў было многа, у школу хадзіла здалёку, мабыць, ноччу пісала.

Нам вельмі пашанцавала з настаўнікамі. Нашы настаўнікі былі эрудытамі. Па матэматыцы мы рашалі не па два варыянты, а па дзевяць. На кантрольнай парты расцягваліся, каб ніхто не мог спісаць, падказаць. Мы вельмі раўніва адносіліся да вучобы. І да працы на зямлі былі прывучаны. У нас была вытворчая брыгада. Вялікую ролю ў нашым жыцці адыграў Цудзіла Фёдар Фёдаравіч. Расказаць аб ім немагчыма, як нельга абняць неабдымнае. Глыба. Ён быў рознабаковым чалавекам. На ўроках не абмяжоўваўся школьнай праграмай, знаёміў нас з навінкамі ў літаратуры, мы завучвалі на памяць любімыя вершы. На адзнакі, праўда, скупіўся. У нас і спектаклі ладзіліся, і канцэрты, і газета выпускалася. Рэдактарам быў Антон Квір, ён старэйшы за нас на два гады. Канешне, кіраваў усім Фёдар Фёдаравіч, але ж і Квір натхняў.

У мяне памяць ад Жэні засталася — атэстат, запоўнены яе рукою, прыгожы почырк быў». (Запісана са слоў Р. І. Базылік 8 кастрычніка 2012 г.)

**Сафія Іванаўна Гуцеева:** «Для мяне Жэня Янішчыц была такой прыгажуняй! Суперпрыгажуняй! Калі яна прыходзіла ў школу, мы глядзелі на яе з захапленнем. Для нас, вясковых дзяўчат, яна была модніцай. У 1968 годзе Жэня зайшла да нас на ўрок рускай літаратуры, які праводзіў Фёдар Фёдаравіч. Лёгкая, тоненькая постаць, прыгожа апранутая і высокія боцікі! Мне так запомніліся боцікі! Такіх мы яшчэ ніколі не бачылі. Яна чытала вершы. Якія? Я не помню. Але захавалася адчуванне святла і радасці ад сустрэчы. Мы часта слухалі выступленні Жэні па радыё і вельмі ганарыліся, што ведаем яе. Больш за ўсіх радаваўся Фёдар Фёдаравіч. Ён быў шчаслівы тым, што распазнаў яе талент і не перашкодзіў яго развіццю. Цудзіла — асоба з вялікай літары. Ён і мае здольнасці распазнаў і параіў паступаць у тэатральна-мастацкі інстытут, які я паспяхова потым і скончыла. Фёдару Фёдаравічу — вялікая наша ўдзячнасць. З Жэняю ў мяне была сустрэча ў Мінску ў сталовай Дома друку прыблізна ў 1981 ці ў 1982 годзе. Яна вельмі эмацыянальна расказвала аб паездцы ў Амерыку, аб пасяджэнях ААН. Калі я працавала на радыё, то рабіла перадачу пра Жэню: «За права жыць на ўзроўні сэрца». (Запісана са слоў С. І. Гуцеевай 3 лістапада 2012 г.)

**Ніна Паўлаўна Макарская,** сакратар камсамольскай арганізацыі Парэцкай школы: «Я вучылася ў паралельным класе. Жэню ведала, але сяброўкай яе не была. Жылі мы ў розных вёсках. Яна была звычайнай, сціплай дзяўчынай, вучылася сярэдне, па літаратуры ў яе быў талент. Жэня пісала сачыненні для сваіх аднакласнікаў, а я для сваіх. У студэнцкія гады здаралася ехаць разам дадому. Аднойчы восенню ішлі пешшу, аўтобусы не хадзілі. Гаварылі аб усім. Але нічога асаблівага ўспомніць не магу». (Запісана са слоў Н. П. Макарскай 8 кастрычніка 2012 г.)

**Яўгенія Паўлаўна Зарэцкая,** заканчвала школу разам з Жэняю, але ў розных класах: «Жэня была простым, добрым і вясёлым чалавекам. Мне запомнілася пісьмо, якое прыслаў Ніл Гілевіч. Пісьмо было змешчана ў насценнай газеце, усе чыталі і абмяркоўвалі. Былі размовы аб паступленні Жэні у Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве, а Ніл Гілевіч раіў паступаць у БДУ, каб не адрывацца ад роднай зямлі і мовы. Хачу сказаць, што ў нас быў вельмі добры настаўніцкі калектыў. Нашы выпускнікі паспяхова паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Калі заканчвалі школу, то абменьваліся фотаздымкамі. У мяне ёсць Жэнін фотаздымак, на якім яна ў хустачцы, завязанай ззаду, як у вясковых жанчын летам. Я вучылася ў політэхнічным інстытуце і аднойчы ехала разам з Жэняю на зімовыя канікулы. Дарогу замяло, і ў наш бок з Пінска аўтобусы не хадзілі. Я сцерагла рэчы, а Жэня бегала, шукала, на чым даехаць дадому. Угаварыла шафёра аўтобуса Пінск—Гродна давезці нас да павароткі на Лагішын. А далей ішлі пешшу — Жэні 8 кіламетраў, мне — 12. Нейкі чалавек нас усё ж падвёз да Мерчыц кіламетры са два. Месцамі снег быў па пояс, але мы не праклінали лёс, а радаваліся, што хутка будзем дома». (Запісана са слоў Я. П. Зарэцкай 8 лістапада 2012 г.)

**Антаніна Георгіеўна Сяргеева**, аднакласніца Янішчыц: «Жэня была вельмі датклівай. Крыўду сваю нідзе не паказвала. У школу хадзіла з Рудкі, заўсёды запрашала да сябе ў госці. Было ў ёй нешта таемнае, вытанчанае, для мяне незразумелае на той час. Мы гаворым, напрыклад, на нейкую тэму, Жэня магла імгненна парушыць говорку, прачытать верш, ці загаварыць зусім аб іншым.

У мяне аднойчы была прэтэнзія да Гагалінскай. Яна паставіла Жэні пяцёрку па матэматыцы, а мне чацвёрку. Я ведала, што Жэнін адказ быў слабейшы. «Табе трэба будзе здаваць матэматыку пры паступленні, а Жэні не», — патлумачыла Тамара Цітаўна. Нашы настаўнікі адчувалі Жэнін талент. Я думаю, калі б не было Фёдара Фёдаравіча, можа, і Жэні такой, якой яна стала, не было б. Фёдар Фёдаравіч таксама таленавіты чалавек. Ва ўсіх таленавітых людзей шлях ад нараджэння да канчатковага прыпынку свой, але кароткі.

Пасля школы мы з Жэняю сустрэліся толькі адзін раз у Мінску незадоўга да яе саракагоддзя. Нашай сустрэчы яна абрадавалася. Мы прайшлі з ёю ўвесь праспект. Гэта была споведзь чалавека, хранаметраж яе жыцця. Я слухала. Часам голас заглушаўся машынамі. З гэтай споведзі я зразумела, што ў творчым асяродку таксама існуе зайздрасць, што маральна ёй цяжка, хаця яна ні на кога не скардзілася, не назвала ніводнага прозвішча, нічога не сказала пра былога мужа, ні дрэннага, ні добрага. Яна гаварыла пра сябе». (Запісана са слоў А. Г. Сяргеевай 7 кастрычніка 2012 г.).

Успаміны мне ўдалося запісаць дзякуючы дырэктару Музея Яўгеніі Янішчыц Антаніне Паўлаўне Сідарук. Яна дапамагала шукаць адрасы і тэлефоны настаўнікаў і аднакласнікаў Жэні. Усе ўспаміны пададзены ўпершыню. Выключэнне складаюць спасылкі на такіх аўтараў, як Зінаіда Дудзюк, Мікалай Елянеўскі і Яўгенія Янішчыц, дзе гаворка ішла пра Цудзілу.

Пазнаёміўшыся са школьнымі гадамі Жэні, мы бачым, што ўжо тады талент яе быў навідавоку. Усё сышлося: час, месца і асяродак. Жэня была звычайнай дзяўчынкай: шчырай, адкрытай, баялася ўколаў, і ў той жа час — незвычайнай: загадкавай і таемнай, узнёслай і паэтычнай, па-асабліваму датклівай і вельмі светлай. Жэня хацела «…светлай быць да скону шэрых дзён…», яна і засталася светлай у памяці тых, хто яе ведаў і ў сваіх творах.

# Валянціна ГАЯВАЯ: «Я ЗАМУЖАМ ЗА “ХАРОШКАМІ”»



Даўно прыглядваюся да нашых «Харошак». Дзіўлюся і захапляюся яркай адметнасцю і непаўторнай самабытнасцю папулярнага харэаграфічнага ансамбля. На кожным яго канцэрце літаральна акунаешся ў феерычнае дзейства, якое цябе захапляе і зачароўвае, нараджаючы ў душы адчуванне палёту, ўражанне сапраўднага сцэнічнага цуду.

Гэты калектыў не зблытаеш ні з якім іншым! Дзякуючы свайму непаўторнаму стылю, багатай фантазіі і арыгінальнасці задум, неверагодна высокаму выканальніцкаму майстэрству, «Харошкі» займаюць у сучасным беларускім мастацтве асаблівае, незаменнае месца.

І гэта не толькі маё суб’ектыўнае ўражанне. Надзвычай высока ацэньваюць калектыў і спецыялісты, называючы яго ўнікальным брыльянтам у кароне сакральных нацыянальных каштоўнасцей, адным з самых яркіх сузор’яў на айчынным культурным небасхіле, жывой легендай беларусаў.

Нехта можа запярэчыць: кожны кулік сваё балота хваліць. З прыемнасцю адкажу: хвалім не толькі мы, яшчэ большае захапленне выказваюць за мяжою. «Выступленне “Харошак” — гэта цудоўнае падарожжа ў свет моцных пачуццяў і эмоцый, падарожжа з такой дынамікай і жарсцю, якія нікога не могуць пакінуць абыякавым», — сцвярджала італьянская прэса. Японцы назвалі калектыў «часцінкай адной з самых яркіх культур Еўропы». А сірыйцы засведчылі: «Пікантны густ, тэмперамент, маладосць, шчырасць, сапраўдная любоў — гэты подых далёкай краіны зачараваў публіку».

Не стрымаў сваіх эмоцый і вядомы амерыканскі крытык Льюіс Сегал: «Дух, сіла і энергія “Харошак” ствараюць перад гледачамі яркі спектакль, у якім немагчыма прапусціць ніводную дэталь». Крытыка дружна падтрымалі амерыканскія журналісты: «Вадаварот фарбаў танцавальнага калектыву проста асляпляльны!.. Выступленне “Харошак” — гэта вялікі зрэз унікальнай беларускай культуры ўсіх слаёў. Усё проста дзівосна!» А саветнік па культуры пасольства Францыі Франсуа Ларан на сустрэчы з супрацоўнікамі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь сказаў: «Дарагія калегі, зрабіце так, каб “Харошкі” як мага больш гастралявалі па ўсім свеце: яны — вашы найлепшыя паслы».

І сапраўды, амаль за сорак гадоў сваёй сцэнічнай дзейнасці «Харошкі» сталі з'яваю ў нашым музычным мастацтве, своеасаблівым брэндам Беларусі. Аб гэтым сведчаць не толькі шматлікія дыпломы і Гран-пры, атрыманыя на самых прэстыжных фестывалях і конкурсах (айчынных — «Руская зіма», «Маскоўскія зоркі», «Кіеўская вясна», замежных — у кіпрскім горадзе Лімасоле, у італьянскім Сан-Рэма, у французскім Мантуары і іншых), але і бліскучыя выступленні на лепшых сусветных сцэнах — у маскоўскай Канцэртнай зале «Расія», лос-анжэлескім Сітызен-Холе, шматтысячнай спартыўна-канцэртнай зале ў Іарданіі…

Варта пры гэтым адзначыць: ансамбль «Харошкі» — калектыў аўтарскі. Яго стваральнік і нязменны кіраўнік Валянціна Гаявая. Народная артыстка Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне», кавалер ордэна Францыска Скарыны і ордэна Дружбы народаў. Таленавіцейшы харэограф з выразным і непаўторным почыркам. Выдатны педагог, чыімі стараннямі выхавана не адно пакаленне артыстаў.

У творчым лёсе Валянціны Іванаўны шмат парадаксальнага. Ураджэнка Расіі, яна ўсё сваё свядомае жыццё прысвяціла мастацтву Беларусі. У юнацтве марыла стаць актрысай, а стала балетмайстрам, харэографам. Стварыла выдатны харэаграфічны ансамбль, якім захапляліся гледачы ў дзясятках замежных краін, а дома яго як бы і не заўважалі. Больш за тое, пагражалі закрыць. Яна ўкладала ў свае праграмы бязмежнае пачуццё любові да беларускай культуры, беларускай гісторыі, а яе абвінавачвалі ў нацыяналізме, апяванні шляхты, узвелічэнні магнатаў. Яна глыбей за многіх беларусаў адчула і раскрыла вялізны патэнцыял нацыянальнай народнай спадчыны, сваёй творчасцю ўзбагаціла духоўную скарбніцу беларускага народа, а яе абвінавачвалі ў тым, што яна разбурае фальклор, заводзіць айчынную харэаграфію ў тупік. Папракалі нават за тое, што яна займаецца самарэкламай, праяўляе нясціпласць, назваўшы ансамбль прыгожым імем «Харошкі», маўляў, сама сабе дае атэстацыю — якія яны харошыя. А на самай справе назва пайшла ад вёскі «Харошкі», што на Магілёўшчыне, дзе быў запісаны адзін з першых нумароў ансамбля «Гусарыкі», які, дарэчы, да гэтага часу захоўваецца ў рэпертуары.

Народная мудрасць сцвярджае: вялікае бачыцца на адлегласці. Спатрэбілася не адно дзесяцігоддзе, каб чыноўнікі ад культуры ў рэшце рэшт пераканаліся, што «Харошкі» — гэта сапраўдны, унікальны набытак рэспублікі. Гаявой удалося стварыць сродкамі народна-сцэнічнага танца свой пластычны воблік нашага народа — рамантычны, па-еўрапейску вытанчаны, з яркімі элементамі беларускага досціпу і гумару. Захоўваючы на сцэне ўсе законы сучаснага відовішчнага шоу, яна прапаноўвае ў той жа час сваю асаблівую філасофію хараства і гармоніі. Сутнасць гэтай філасофіі простая — раскрыццё з дапамогай вобразнай мовы танцаў невычэрпных духоўных скарбаў народа.

У адным з інтэрв'ю Валянціна Іванаўна прызналася:

— Мы нікога не пераймаем, не паўтараем — ні ва ўласнай харэаграфіі, ні ў сваёй эстэтыцы — іншыя калектывы. І ў той жа час нясём у сабе тое, што блізкае ўсёй славянскай супольнасці: яркую вобразнасць характараў, развіццё сюжэтнай лініі, якая прасочваецца і ў кожным асобным танцы, і часта — ва ўсёй праграме.

І насамрэч «Харошкі» ствараюць самыя сапраўдныя маленькія балеты і цэлыя спектаклі. Іх героі-персанажы атрымоўваюць дэталёва распрацаваныя харэаграфічныя партыі, музычныя тэмы, арыгінальныя касцюмы. А ўсё дзейства ў цэлым — завершаную драматургію з адпаведным сцэнаграфічным рашэннем. Апошнія канцэртныя праграмы ансамбля, на думку некаторых музыказнаўцаў, сведчаць аб тым, як імкліва набліжаюцца пастаноўшчыкі да стварэння сапраўднага поўнамаштабнага харэаграфічнага спектакля, у якім ужо не будзе падзелу на асобныя нумары-танцы. І гэта стане відавочным і значным крокам наперад у развіцці айчыннай харэаграфіі.

Прызнаюся: усю гэту інфармацыю я вычытаў — што ў дукаваных СМІ, а што ў інтэрнэце. Аднак цікавасць мая да «Харошак» і іх мастацкага кіраўніка не толькі не зменшылася, а наадварот, узрасла. З’явілася шмат пытанняў, на якія хацелася атрымаць адказы. І я напрасіўся да Валянціны Гаявой на сустрэчу.

## Ад лёсу не ўцячэш

**— Дасведчаныя людзі кажуць: каб лепш зразумець творчага чалавека, трэба пабываць у яго на радзіме. У мяне зараз такой магчымасці, на вялікі жаль, няма. Але мы можам разам з вамі, Валянціна Іванаўна, зрабіць неабходнае падарожжа ва ўспамінах. Раскажыце, калі ласка, крыху пра сваю малую радзіму, пра сваіх бацькоў, пра сваё дзяцінства.**

— Ой, хіба сапраўды крыху, бо пра гэта можна расказваць бясконца. І што самае цікавае: з гадамі гэтыя ўспаміны ўсё больш яркія, цёплыя, хвалюючыя… Мусіць, для кожнага чалавека малая радзіма — як тая жыццядайная крыніца, яна не толькі жывіць успаміны, але і грэе душу, абуджае творчую фантазію.

А нарадзілася я ў Валгаградскай вобласці ў мястэчку Данілаўка. Па тым часе гэта быў даволі вялікі населены пункт, які размяшчаўся на беразе маляўнічай рэчкі Мядзведзіца. Побач з вёскай — заліўны луг, ці, як кажуць у Беларусі, поплаў, на якім, уздоўж рэчкі, вербы, вербы, вербы… Крыху воддаль — рукатворнае возера, на беразе якога стаяў барскі дом. І ўвесь луг усыпаны крокусамі, што зацвіталі ў маі і цвілі амаль цэлы месяц. А ў чэрвені ўжо ўсё выгарала ад бязлітаснага сонца. Зімой у нас заўсёды было пад сорак градусаў, але ж і летам стаяла не меншая спёка. Яшчэ бывалі сухавеі, якія нібы агнём абпальвалі рукі, твар.

Вялікай праблемай быў дэфіцыт вады. Пітной. У нас быў калодзеж такой глыбіні, што страшна было ў яго глядзець. Мне нават неаднойчы снілася, што я туды падаю і прачыналася ад уласнага крыку. Вось з гэтага калодзежа нам з сястрой даводзілася штодня насіць ваду вёдрамі.

Але цяпер усё гэта прыгадваецца з цеплынёй і замілаваннем. Больш за тое, я нават думаю, што няпростыя абставіны мелі і свой станоўчы бок: яны фарміравалі характар тутэйшых жыхароў. Каб нешта мець, трэба было праяўляць цярплівасць, упартасць, настойлівасць. Нешта ад гэтага, напэўна, перадалося і мне.

**— А хто былі вашыя бацькі?**

— Бацька працаваў брыгадзірам трактарнай брыгады. Ад МТС, машынна-трактарнай станцыі. Абслугоўваў, як зараз помню, калгас імя Молатава. У яго брыгадзе было два трактары ЧТЗ і некалькі СТЗ — гэта трактар з такімі вялікімі жалезнымі коламі з шыпамі. І яшчэ мелася два ці тры збожжаўборачныя камбайны.

**— Адкуль вы ўсё гэта ведаеце?**

— Дык я ж, пачынаючы з канца вясны і пакуль ісці ў школу, жыла ў гэтым атрадзе, на палявым стане. І мая малодшая сястра Ніна таксама. Дый маці на лета перабіралася сюды. Яна была паварыхай у атрадзе.

Ведаеце, гэтыя летнія месяцы былі для мяне самыя радасныя, самыя жаданыя. Як толькі прыходзіла вясна, мяне ўжо цягнула туды, у стэп. Які ж ён прыгожы ў гэту пару! Суцэльны зялёны дыван з мноствам цюльпанаў ці, як мы іх называлі, гарыцветаў, безліччу дзікіх півонь, крокусаў. Хараство незвычайнае!

А побач з палявым станам быў байрак — гэта нешта падобнае на роў, толькі больш шырокі, глыбейшы. І ў ім раслі дрэвы, кусты. Нідзе больш дрэў, на дзясяткі вёрст, не было, а тут — сапраўдная зялёная раскоша. Мы з сястрою любілі ў гэтым байраку ладзіць розныя гульні. А то і проста паляжаць у цяньку, палюбавацца аблокамі, памарыць.

**— Вось, аказваецца, адкуль вашае рамантычнае, паэтычнае светаўспрыманне… Ці не тады і нарадзілася мара стаць артысткай, прысвяціць жыццё творчасці?**

— Магчыма, нешта передалося і ад навакольнай прыроды. Але, думаю, галоўную ролю сыгралі гены. Мой дзед Цімоха меў незвычайны талент апавядальніка. Ён быў удзельнікам дзвюх войнаў — руска-японскай і грамадзянскай. Але звычайна расказваў розныя забаўныя гісторыі і смешныя байкі. То пра тое, як з Будзённым з аднаго глечыка малако піў. То як генералу карову купляў і як вучыў генеральшу гэту карову даіць… Калі ён садзіўся і пачынаў свае аповеды, то ад смеху клаліся і старыя, і малыя. Сапраўдны шолахаўскі дзед Шчукар!

**— І рана дзедавы гены прачнуліся?**

— Рана. Самае цікавае, што ў дзяцінстве я была, у адрозненне ад сваёй бойкай, камунікабельнай сястры, сарамлівая, замкнутая. Таму ўсе дужа здзівіліся, калі ў першым класе мы з маёй сяброўкай, таксама Валяй, зрабілі інсцэніроўку аднаго смешнага апавядання — паказалі са сцэны дыялог фанабэрыстага пана і глухаватага, але вельмі дасціпнага дзеда. Я, канешне, іграла дзеда. І, відаць, удала, таму што ў зале заходзіліся ад рогату. А ў піянерважатай, якая і натхніла нас на гэты скетч, ажно цяклі слёзы.

**— Гэта быў ваш першы артыстычны вопыт?**

— Так. А потым у старшых класах я ўжо займалася ў драматычным гуртку і шмат удзельнічала ў розных міні-спектаклях. Мне даручалі самыя складаныя ролі. Дарэчы, у мяне была выдатная памяць. Я магла за вечар вывучыць на памяць чатыры-пяць старонак прозы.

Акрамя гэтага я займалася яшчэ ў літаратурным гуртку. Вельмі многа чытала. Асабліва драматычных твораў. Праштудзіравала ўсяго Шэкспіра, Астроўскага, Лопэ дэ Вега…

**— Ужо свядома рыхтаваліся да акцёрскай прафесіі?**

— Рыхтавалася. Хаця мама была катэгарычна супраць майго выбару. Яна хацела, каб я стала настаўніцай і паступала ў Валгаградскі педагагічны інстытут. А я пасля школы ўзяла і паехала ў Маскву, трапіла на прагляд у Малы тэатр. Але ў мяне напярэдадні як на тое зло забалеў зуб. І вось у такім стане я і выступала перад камісіяй, у якой былі вядомыя, масцітыя акцёры. Завочна я іх ужо усіх ведала і таму хвалявалася не вельмі. І, як мне падалося, выступіла няблага. Аднак мне сказалі: «Вы цікавы экзэмпляр. Толькі ў вас недахоп моўнага апарату…» А я пасаромелася сказаць пра сваю бяду. Так з майго паступлення ў тэатр нічога і не атрымалася.

Але я вырашыла не здавацца. Даведалася, што ў інстытуце кінематаграфіі ідзе набор абітурыентаў. Знайшла прыёмную камісію, але аказалася, што набор ужо завершаны. На тым мая акцёрская кар’ера і скончылася.

Аднак ад свайго лёсу не ўцячэш. Калі табе нешта наканавана ў гэтым жыцці, то яно абавязкова збудзецца. Будзеш кружыць, ісці нейкімі бакавымі лініямі, прабівацца праз розныя цяжкасці, але ўсё роўна прыйдзеш да свайго.

Так атрымалася і ў мяне. Пасля маёй няўдалай спробы стаць актрысай мне сорамна было вяртацца дадому. Я ж была адна з лепшых выпускніц школы — і раптам нікуды не паступіла. Таму з адной дзяўчынай, якой таксама не пашанцавала, мы пайшлі ў ЦК камсамола, каб нас паслалі на цаліну. Малады чалавек, да якога я трапіла на прыём, вельмі ўважліва выслухаў маю гісторыю з паступленнем, спачувальна паглядзеў на мяне (а я тады была невялічкага росту, худзенькая-худзенькая, ну дзяўчо дзяўчом) і паківаў галавой:

— І што ты там будзеш рабіць?

— Што і ўсе! — з выклікам сказала я.

— Што і ўсе… Давай дамовімся так. Я табе зараз дам запіску, з ёю ты паедзеш у абласное ўпраўленне культуры да таварыша Алёхіна. Хай ён уладкуе цябе ў які-небудзь тэатр статыстам.

Знайшла я тое ўпраўленне, трапіла да Алёхіна, які здаваўся мне тады маім анёлам-выратавальнікам, але ён мяне расчараваў:

— Я ўсюды званіў — людзі ў адпачынку. Прыязджайце восенню.

А што я буду рабіць да восені? На маё шчасце, у кабінеце гэтага Алёхіна была нейкая жанчына, і яна раптам мне кажа:

— А давайце да нас, у культасветшколу. Паўтара года павучыцеся і атрымаеце спецыяльнасць.

І дае мне адрас: горад Ягор’еўск, вуліца такая, дом нумар такі. Абнадзееная, паехала я ў тую вучэльню, зайшла да дырэктара, а ён мне амаль з парога, насуплены такі, з вялізнымі, як у Брэжнева, брывамі, раздражнёна заяўляе:

— У нас экзамены закончыліся! Прыязджайце восенню, ды крыху раней, у канцы жніўня.

Зноў гэтая «злашчасная» восень! Не лёс, значыць, мне вучыцца…

І ўсё ж такі ў тую школу я паступіла. І скончыла яе з адзнакай. Накіравалі мяне культасветработнікам у падмаскоўны Загорск — туды, дзе знакамітая Троіца-Сергіеўская лаўра. Але, канешне ж, не ў лаўру (смяецца), а ў тамашні Дом культуры. Прыязджаю я туды, а мне ва ўпраўленні культуры кажуць:

— А Дома культуры ўжо няма, таму што ён быў на тэрыторыі лаўры, і яго адтуль выселілі. Але вы не расстрайвайцеся: у нас ёсць месца мастацкага кіраўніка ў Доме культуры ў Птушкаградзе.

А гэта недзе ў самай глыбінцы, на вядомым 101-м кіламетры, куды адпраўлялі тунеядцаў і розных дысідэнтаў. Ехала я туды і ледзь не плакала: за што мне такая доля? Аднак лёс павярнуўся да мяне лепшым бокам. Там я сустрэла такіх цікавых людзей. Там мне так хораша працавалася. І, уласна кажучы, там жа пачалася мая творчая кар’ера.

У Птушкаградзе я працавала роўна год. За гэты час мы стварылі даволі моцны калектыў мастацкай самадзейнасці. Як энтузіястку народнай творчасці мяне ўзялі ў раённы аддзел культуры і паставілі задачу стварыць агітбрыгаду. Такую брыгаду мы неўзабаве стварылі, і яна нават карысталася поспехам далёка за межамі і раёна. Але мне гэтага падалося мала. І я вырышыла перайсці на оптыка-механічны завод у Палац культуры, дзе праз нейкі час стварылі ансабль песні і танца — тады модна было арганізоўваць такія калектывы. Наш ансабль вельмі хутка набыў шырокую папулярнасць, ніводзін канцэрт мастацкай самадзейнасці не абыходзіўся без нашага ўдзелу. І, мусіць, мясцоваму начальству спадабалася мая праца, таму што неўзабаве мне прапанавалі паехаць вучыцца ў Ленінград, у Вышэйшую школу прафсаюзнага руху ВЦСПС. А прымалі туды толькі па накіраванні і рэкамендацыі, так што гэтым самым мне аказалі немалы гонар.

І я пастаралася гэты гонар апраўдаць: скончыла школу з адзнакай. Атрымала спецыяльнасць харэографа…

Вось бачыце, якія павароты лёсу. І хоць я з дзяцінства любіла танцаваць, але ніколі не думала, што буду харэографам. Гэта — выпадковасць. Але выпадковасць шчаслівая, бо стала маім прызваннем, галоўнаю справаю майго жыцця.

**— Валянціна Іванаўна, а якім чынам вы апынуліся ў Беларусі, на Магілёўшчыне?**

— Гэта доўга расказваць, тут амаль дэтэктыўная гісторыя. А калі коратка, то было так. На размеркаванні, хоць я і атрымала чырвоны дыплом, мне сказалі, што я павінна вярнуцца туды, дзе давалі накіраванне. У Загорску мяне ўсе добра помнілі і сустрэлі з радасцю. Аднак новы дырэктар Дома культуры перапужаўся, што я магу заняць ягонае крэсла і пачаў круціць носам. Я зразумела, што мне там рабіць няма чаго. Узяла адмацаванне і паехала на радзіму. Да бацькоў. Тым больш, што надышла пара раджаць. Я ж на апошнім курсе выскачыла замуж, але мужа неўзабаве забралі ў армію, і мне давялося ехаць да бацькоў адной. Там я шчасліва нарадзіла сына, Алёшачку. А праз колькі месяцаў пайшла працаваць у школу, выкладала ў старэйшых класах нямецкую мову. Збылася нарэшце запаветная мара маёй мамы.

Ды мне ўсё ж быў наканаваны іншы шлях. Недзе праз год я амаль адначасова атрымала адразу два запрашэнні прыязджаць на працу па спецыяльнасці:

ад дырэктара таго завода, дзе мы стварылі ансамбль песні і танца, і ад маёй аднакурсніцы Тамары Сласцёнавай, якая ў Магілёве ўжо працавала начальнікам абласнога ўпраўлення прафсаюзаў. І я, разважыўшы, вырашыла ехаць у Магілёў — там харэаграфічны калектыў застаўся без мастацкага кіраўніка. Пагаварыла з мужам, ён таксама згадзіўся на гэты варыянт, хаця яго пасля арміі пакідалі ў Ленінградзе, у адным з тамтэйшых тэатраў.

Ну, і я паехала. Спачатку пры Доме культуры Магілёўскага аўтазавода разам з мужам стварылі харэаграфічны ансабль «Вяснянка», а пасля арганізавалі яшчэ дзіцячую студыю, каб рыхтаваць кадры для дарослага калектыву. І праз тры гады наша «Вяснянка» была ўжо ў поўным сэнсе прафесіянальнай. З гэтым калектывам мы прыязджалі ў Мінск на розныя агляды мастацкай самадзейнасці і заўсёды былі першымі. Нас запрашалі нават у Маскву, прымалі ўдзел у праграме «Шырэй кола» на Усесаюзным тэлебачанні.

Аднойчы па ініцыятыве Міністэрства культуры і нашага опернага тэатра вырашана было правесці рэспубліканскі конкурс на лепшы беларускі народны танец. А я ўжо к таму часу зрабіла «Скокі дзвюх вёсак». Нумар, праўда, быў крыху прасцейшы, чым цяпер, але ўсё роўна гледачы прымалі яго з вялікім захапленнем. Гэта быў своеасаблівы міні-спектакль. Дзве вёскі сабраліся на свята. У кожнай свае ўборы, свая манера танцаваць. Хто ж пераможа ў танцавальным спаборніцтве?

Мы вырашылі гэты нумар паказаць на конкурсе. І не памыліліся: нашы «Скокі...» заваявалі самую высокую ацэнку журы, а я як балетмайстар за гэты танец атрымала Гран-пры!

А неўзабаве пасля гэтага да нас у Магілёў прыехала цэлая дэлегацыя ад Міністэрства культуры і філармоніі. Папрасілі паказаць усю праграму. Паглядзелі, шматзначна пераглянуліся і паехалі. А праз колькі дзён запрашаюць нас у міністэрства на гутарку і прапаноўваюць узначаліць Дзяржаўны ансабль танца, які на той час застаўся без кіраўніка. А я ведала, што ў гэтым калектыве вельмі складаная абстаноўка. Людзі там не прывыклі сур’ёзна працаваць, і калі мы пачнём нешта патрабаваць — ім гэта не спадабаецца. Некаторыя з іх пабягуць у міністэрства, маючы там пэўную падтрымку і пратэкцыю. І мы адмовіліся.

## Нараджэнне легенды

**— Валянціна Іванаўна, і тым не менш вы апынуліся ў Мінску. Як гэта адбылося?**

— Справа ў тым, што Палац культуры, у якім месціўся наш ансамбль, закрылі на капітальны рамонт, і мы з мужам засталіся без працы. Паехалі ў Міністэрства культуры, да начальніка ўпраўлення па справах мастацтваў Каландзёнка. Анатоль Іосіфавіч прапанаваў мне пасаду галоўнага балетмайстра філармоніі. Мяне падкупіла не гэтая пасада, а тое, што мне далі карт-бланш на стварэнне арыгінальнага харэаграфічнага ансамбля.

Я ўжо гаварыла пра тое, што ў тыя гады было модным ствараць розныя вакальна-інструментальныя і танцавальныя ансамблі. Вось і пры філармоніі рашылі арганізаваць такія калектывы — гурт «Лявоны» (будучыя «Песняры») і харэаграфічную групу «Лявоніха». Калі сталі прымаць праграмы, то «Лявоны» аказаліся на вышыні, а харэаграфія «Лявоніхі» камісіі не спадабалася.

Калі мяне запрасілі на субяседаванне, то пацікавіліся, у чым тут, на мой погляд, праблема і якой мне бачыцца будучыня беларускай харэаграфіі. Я адказала, што трэба вяртацца да фальклору, але не проста пераймаць, бяздумна капіраваць тое, што некалі танцавалі нашыя продкі, а творча перапрацоўваць, надаваць народнай творчасці сучаснае аблічча і гучанне. «Ну вось і займіцеся гэтым»,— сказалі мне і пакінулі мяне сам-насам з гэтай няпростай праблемай.

**— І з чаго вы пачыналі?**

— А пачынала я не з «Харошак». На мне ж была адказнасць за харэаграфію ўсіх філарманічных калектываў. Пэўны час працавала з вакальна-інструментальным ансамблем «Верасы», дапамагала зрабіць ім новую праграму. Пасля Валодзя Мулявін запрасіў разам стварыць рок-оперу «Песня пра долю». Але, канешне ж, галоўная мая задача заключалася ў тым, каб стварыць нацыянальны ў поўным сэнсе гэтага слова харэаграфічны калектыў. Беларусь была ў Саюзе трэцяй па значэнні рэспублікай, а адпаведнага калектыву не мела. Калі трэба было ехаць на нейкія зводныя канцэрты ў Маскву, то везлі галоўным чынам «Юрачку» ды «Бульбу». Ну яшчэ хіба «Лявоніху». Але і яны не былі арыгінальнымі танцамі, а скапіраванымі з пастановак Ігара Маісеева, з украінскага гапака. Словам, багатая народная культура зводзілася да сярэдненькай полечкі.

Мне ж хацелася паказаць гледачу аўтэнтычныя беларускія танцы, якія істотна адрозніваюцца ад рускіх, украінскіх, польскіх, літоўскіх. Стварыць сапраўды нацыянальны, самабытны калектыў, які б мог спаборнічаць у майстэрстве з такімі гігантамі, як знакаміты ансамбль Ігара Маісеева, Грузінскі нацыянальны балет імя Іліко Сухішвілі і Ніно Рамішвілі, ансамбль танца імя Вірскага з Украіны.

Я разумела, што маіх ведаў і практычнага вопыту, набытага падчас працы ў Магілёве, недастаткова для таго, каб вывесці беларускую харэаграфію на якасна новы ўзровень. Хацелася зрабіць штосьці яркае, арыгінальнае, адметнае. Падказку я вырашыла шукаць, заглыбіўшыся ў багатыя пласты нацыянальнай гісторыі. На той час гэта была абсалютна не распрацаваная ў нашай культуры ніша. А мне казалі: «Якая культура? Якая гісторыя? Беларусь увесь час была то пад Польшчай, то пад Расіяй». А я не магла нават сабе ўявіць, каб краіна, якая мяжуе з Еўропай, не мела сваёй «еўрапейскай» гісторыі, адлюстраванай у культуры. І мая інтуіцыя мяне не падвяла. Вывучэнне шматлікіх гістарычных і навуковых крыніц яскрава засведчылі, што такая культура ў беларусаў была, і былі людзі, якія зрабілі вялікі ўклад у чалавечую цывілізацыю.

Аднак, працуючы над першай праграмай для маладога калектыву, я апынулася перад няпростым выбарам: якім шляхам ісці? Адзін з іх патрабаваў беражлівага захоўвання аўтэнтычнага танцавальнага мастацтва, перадаваць яго ў нерушавым, натуральным стане. Другі, найбольш папулярны ў савецкія часы, сведчыў аб тым, што поспех можа забяспечыць толькі народна-сцэнічная апрацоўка фальклору.

Мяне ж ні той, ні другі шлях не задавальняў. Простае, механічнае перанясенне народных танцаў на сцэну прыводзіла, як правіла, да спрошчанасці, прымітывізму. Залішняя апрацоўка фальклору, увядзенне ў яго элементаў поп-культуры і розных аўтарскіх вынаходак «забівала» народную душу. Мне ж хацелася якраз гэту душу раскрыць, паказаць усё яе багацце і хараство.

**— Раскажыце, калі ласка, як ствараліся першыя нумары. Яны нараджаліся на фальклорнай аснове ці тут галоўную ролю адыгрывала ваша ўласная фантазія? А можа, нешта пераймалі і творча перапрацоўвалі падгледжанае ў вядомых, знакамітых калектываў?**

— У вядомых калектываў я, безумоўна, вучылася, але ніколі нічога не пераймала. Вучылася ў іх сцэнічнаму майстэрству, уменню будаваць нумар, складаць праграму, каб яна была цэльная, арганічная і ў той жа час разнастайная, яркая, відовішчная.

Свае нумары я стварала па-рознаму. У адным выпадку пераважала фальклорная аснова, мы толькі надавалі ёй сучасную, больш прывабную форму. У другім — я ішла ад асабістых уражанняў, ад падгледжанага ў жыцці. Часам дзейнічала наперакор закаснелым традыцыям. Чамусьці лічылася, што беларусам уласцівыя ўсяго тры рухі: так званы просты ход, пераменны ход і полька. Некаторыя, дарэчы, і цяпер абыходзяцца толькі гэтым. А ў танцы самае важнае — прыдумаць адметны рух і надалей развіваць яго, ствараючы арыгінальныя, відовішчныя карункі. Але разам з тым у гэты рух павінна быць закладзена думка, вобраз,

эмоцыя. З самага пачатку я імкнулася да таго, каб кожны танец быў самастойным, каб артысты не проста бегалі па сцэне ды весяліліся, а каб неслі нейкую ідэю, прымушалі гледача над чымсьці задумацца.

Першыя нумары, якія кардынальна адрозніваліся ад папярэдніх, зрабіў у «Харошках» Мікалай Дудчанка. Ягоны «Крыжачок» — гэта быў зусім новы танец. Ад чаго мы адштурхнуліся? Зазірнуўшы ў энцыклапедыю прыроды, мы дазналіся, што крыжачок — гэта маленькая птушка з крыжыкам на галоўцы. Калі яна плавае, то ўвесь час у руху: то дае нырца, то ўзнімаецца над вадою. Вось гэты рух мы і ўзялі за аснову. А таленавіты беларускі кампазітар Мікалай Коньшын (на жаль, рана пайшоў з жыцця) напісаў менавіта такую вясёлую музыку, як гэтая маленькая рухавая птушка. Танец стаў нашай вялікай дэбютнай удачай.

Сваю гісторыю мае «Мітусь». Яшчэ працуючы ў «Вяснянцы», я зрабіла на музыку Чуркіна «Польку-трасуху». Нумар атрымаўся цікавым, але праставатым. Для «Харошак» я яго значна перапрацавала, зрабіўшы больш складаным і арыгінальным. І назвала «Мітусь». Адкуль назва? Да суседкі па доме часам прыязджаў яе стрыечны брат, які працаваў лесніком. Аднойчы я выходжу на вуліцу, а там — дождж. Гляджу ля пад’езда стаіць яе сваяк і ўвесь мокры, да ніткі. «Як жа ты ішоў? — пытаюся. — Такі дождж…» — «А я мітуські» — смяецца. — «Як гэта?» — «Дождж сюды, я туды».

Мне запомніўся гэты дасціпны адказ. І калі распрацоўваўся малюнак танца, у мяне з’явілася нечаканая ідэя руху-лейтматыву: сюды-туды, туды-сюды… Нумар атрымаўся, можа, крыху архаічны, але вельмі яркі, па-вясковаму самабытны. Пазней, калі яго ўбачыў Ігар Маісееў, ён яму дужа спадабаўся.

А часам, ствараючы малюнак, характар танца, у мяне перад вачыма паўстае канкрэтны чалавек. Так нараджаліся «Валачобнікі». У той жа вёсачцы, дзе мая дача, жыў надзвычай цікавы чалавек, якога ўсе звалі Пецька Капейка. Выпіць любіў, але сумленне сваё не прапіваў. Чалавек быў харошы, светлы. Усё, помню, як сустрэнемся, пачынае мне нешта скарагаворкай расказваць. А я нічога разабраць не магу, толькі вылучаю «як тады», «як тады»… Наконт гэтага аднавяскоўцы прыдумалі нават такую пагаворку: «Хадзі сюды, няма бяды — усё будзе як тады».

Танец «Галубец» існаваў толькі ў апісаннях этнографаў і фалькларыстаў. Мы яго адрадзілі, надаўшы, вядома, сучасную, цікавую форму. З’явіліся і эксклюзіўныя нумары. Як, напрыклад, «Весялуха». За аснову тут былі ўзяты «Скокі дзвюх вёсак», пра якія ўжо гаварыла, але зноў-такі гэты нумар значна перапрацавалі, узбагацілі. А «Каханачкай» і «Крутухай» мы ўжо зрабілі сур’ёзную заяўку на віртуозную і тэхнічную харэаграфію.

**— Слухаючы вас, Валянціна Іванаўна, я не магу не здзіўляцца: як жа вы пры такім грунтоўным, выключна патрабавальным і цалкам арыгінальным падыходзе змаглі падрыхтаваць калектыў за фенаменальна кароткі тэрмін? Наколькі я ведаю, меней чым праз год «Харошкі» ўжо заявілі пра сябе першым публічным выступленнем.**

— Так, «Харошкі» нарадзіліся роўна праз дзевяць месяцаў (смяецца). І нарадзіліся пад шчаслівай зоркай. Першыя ж выступленні прынеслі вялікі поспех. Праз год ужо мы паехалі на гастролі ў Малдавію. А пасля серыі нашых канцэртаў ва Украіне кіраўнік ансамбля імя Вірскага Яраслаў Вантух усклікнуў: «Гэта была бомба!» Яны не чакалі, што пасля праслаўленых савецкіх калектываў можна яшчэ нешта прыдумаць, зрабіць новае, нечаканае, цікавае. А мы здзівілі і ўразілі публіку сваёй непадобнасцю, сваім адметным почыркам.

Але галоўны поспех нас чакаў у Маскве. У 1977 годзе на Усесаюзным конкурсе прафесійных калектываў, прысвечаным 60-годдзю Кастрычніка, «Харошкі» сталі лаўрэатам і атрымалі дыплом першай ступені. Гэта была ў нейкім сэнсе сенсацыя. Таму што да гэтага беларусы, у адрозненне ад украінцаў і грузін, нічым асаблівым не вызначаліся на маскоўскіх сцэнах. А тут — перамога! Мы тады былі



*З іскрамётным Фёдарам Балабайкам.*

нарасхват. Далі па два канцэрты ў зале «Расія» і ў зале Чайкоўскага. І ўсюды — аншлаг.

**— З таго часу мінула ўжо амаль сорак гадоў. Але і цяпер «Харошкі» збіраюць поўныя залы. Публіка з захапленнем прымае кожны нумар, а пасля выступлення наладжвае артыстам бурныя авацыі. Гэтаму я быў сведкам і сам, пабываўшы нядаўна на двух вашых канцэртах, якія вы давалі ў Мінску. Дык у чым жа сакрэт вашага пастаяннага поспеху? Як вам удаецца на працягу гэтулькіх гадоў здзіўляць і захапляць гледача? Прычым не толькі дома, але і далёка за межамі, у самых розных краінах?**

— Сваю папулярнасць мы заваявалі тым, што ад самага пачатку былі непадобныя на іншых. Можа, і нясціпла так казаць, але да нас многія калектывы альбо будавалі свае танцы на адным руху, альбо пераймалі, практычна капіравалі тое, што выконвалі іншыя. Мы ж паставілі сабе задачу-максімум: кожны нумар рабіць арыгінальным, непаўторным. На аснове народна-сцэнічнага танца ствараем мінібалеты, у якіх ёсць змест. Абавязкова. Ёсць сюжэт — экспазіцыя, развіццё тэмы і кульмінацыя, фінал. Бывае фальш-фінал, ён пасля паўторыцца па-іншаму.

Вельмі важна правільна пабудаваць праграму, каб у гледача з кожным наступным танцам нарасталі станоўчыя эмоцыі, каб ён не толькі разумеў, што адбываецца на сцэне, але і жыў гэтым, радаваўся, захапляўся, перажываў. Нельга, каб усё было манатонным, нібыта гучыць адна і тая ж музыка, толькі мяняюцца касцюмы і танцоры. Таму ў мяне кожны нумар адрозніваецца адзін ад аднаго — і па тэме, і па малюнку, і па стылі. І па сэнсе! Народная ж харэаграфія часцей за ўсё вялікага сэнсу не несла. Выйшлі, сталі ў кола, патанцавалі — і ўсё. Мы ж, паўтаруся, робім міні-спектаклі, якія ў цэлым складаюць вялікі, змястоўны спектакль. На сцэне ў нас выступаюць не проста танцоры, а пэўныя персанажы. Каб стварыць яркі, каларытны вобраз такога персанажу, патрабуецца немалое акцёрскае майстэрства.

## Кадры для кадрылі

**— І дзе ж вы такія кадры знаходзіце, каб яны выдатна танцавалі ды яшчэ валодалі акцёрскім талентам?**

— Свае кадры мы рыхтуем самі. Напачатку было вельмі складана. На паперы ансамбль існаваў, а рэальных людзей не было. Хто ж нам аддасць падрыхтаваных танцораў? Давялося набіраць хлопцаў і дзяўчат з харэаграфічнага вучылішча, слабенькіх, тых, каго пры размеркаванні ніхто не ўзяў. Праўда, некалькі чалавек перайшло да нас з народнага хору. Сяго-таго ўдалося пераманіць з «Вяснянкі», былога нашага магілёўскага гурту. І адзін Бог ведае, колькі мы ўклалі сілы і старанняў, каб гэтую разнашэрсную публіку зрабіць адзіным, згуртаваным калектывам, навучыць кожнага і ўсіх разам якасна па-іншаму тан-

цаваць. Артысты рэпеціравалі да знямогі, а сама я пастаянна, апантана шукала штосьці новае, арыгінальнае, самабытнае. Чытала спецыяльную літаратуру, некласічныя народныя па падглядвала на вяселлях у глыбінцы, на мястэчковых святах, на зводных канцэртах мастацкай самадзейнасці, куды з’язджаліся танцоры з усёй рэспублікі.

Аднойчы, памятаю, на адным з такіх канцэртаў-аглядаў я была ў складзе журы. У перапынку ўсе пайшлі абедаць, а я засталася. З цікаўнасці зазірнула за кулісы. Гляджу — а там жанчыны з Магілёўшчыны сабраліся ў гурт, селі на падлозе, дасталі сала, агуркі, хлеб. Выпілі па кроплі, закусілі і ціхенька заспявалі. А адна немаладога ўжо веку жанчына пайшла танцаваць. І колькі ж у яе імправізаваных, нестандартных рухах было натуральнай грацыі, пластыкі, хараства! Як добра, што я не пайшла абедаць: я ж узбагаціла сябе неацэнным скарбам, бо такога, што я ўбачыла, седзячы ў кабінеце, не прыдумаеш і не вычытаеш ні ў якіх кніжках.

Пасля мы стварылі сваю школу-студыю і некалькі гадоў праблемы з кадрамі практычна не існавала. Але трэба ж было нейкай «разумнай» галаве ўстанавіць за гэтае памяшканне такую арэнду, што мы вымушаны былі аддаць школу гарадскому ўпраўленню культуры — з усімі педагогамі, касцюмернай, бібліятэкай. На жаль, новы ўладальнік не палічыўся з нашымі інтарэсамі і перарабіў усё на свой лад і густ. Педагогаў маіх звольнілі, заняткі класічнымі танцамі скарацілі, і такім чынам унікальную школу знішчылі. Мы паспрабавалі былі вярнуць памяшканне назад, але нічога не атрымалася.

**— І як жа вы выходзіце са становішча?**

— Па-рознаму. Некага знаходзім сярод выпускнікоў харэаграфічнага вучылішча і іншых вучэльняў мастацтва. Нехта да нас прыходзіць сам. Мы ўсіх праглядваем, аднак бяром далёка не ўсіх. Але нават з тых, каго прымаем, прыжываецца адзін з дзесяці. Справа ў тым, што мы працуем на аснове класічнага танца, а для гэтага неабходна мець вельмі добрую фізічную форму.

**— І, напэўна, не толькі…**

— Канешне. Наш артыст абавязаны мець прывабную знешнасць, прыгожую паставу, музыкальнасць, артыстызм. Але найперш пры адборы мы глядзім на фізічныя даныя. Чаму? Таму што танцоўшчыку даводзіцца вытрымліваць даволі вялікія нагрузкі. Вы заўважылі, якія шырокія і высокія скачкі выконваюць нашы артысты? А гэта ж дасягаецца няпроста, штодзённымі і нялёгкімі трэніроўкамі, рэпетыцыямі да сёмага поту і мазалёў. Каб бездакорна танцаваць, павінна быць добрая, распрацаваная ступня, правільная пастаноўка спіны — інакш не будзе належнага кручэння. А наш калектыў адрозніваецца ад астатніх якраз вельмі моцным вярчэннем. У нас круцяцца ўсе — і дзяўчаты, і хлопцы.

**— А ці былі ў вас выпадкі, калі вы прымалі чалавека, які не меў асаблівага таленту да танцаў, але вельмі хацеў працаваць у «Харошках»?**

— Былі. Мы такім кандыдатам даём шанц, і нярэдка яны яго апраўдваюць. Ды што казаць, хіба ў нашым першым наборы ўсе былі з выдатнымі данымі, неабходнымі для харэаграфіі? Не. Але дзякуючы моцнаму жаданню і выключнаму стараннню, яны выраслі ў таленавітых танцоўшчыкаў. Яркі прыклад таму — заслужаны артыст рэспублікі Фёдар Балабайка. З яго несамавітай знешнасцю, з яго маленькім ростам, ён, здавалася б, зусім не падыходзіць для танцаў. Калі стваралася «Харошкі», Фёдар (а яму к таму часу было ўжо дваццаць пяць гадоў — узрост для танцоўшчыка немалы) ледзь прайшоў адборачны тур. Большасць галасоў было супраць, але я настаяла. Настаяла, бо бачыла яго арганічнасць, яго незвычайную артыстычнасць. І не памылілася. Маючы свой адметны, непаўторны імідж, Балабайка стаў улюбёнцам публікі. Сёння Фёдару Якаўлевічу за шэсцьдзясят, але ён па-ранейшаму — вядучы саліст ансамбля. І вытрымлівае нагрузкі нароўні з астатнімі — сорак пяць хвілін ля балетнага станка і тры гадзіны рэпетыцый.

**— А ўвогуле, да якога ўзросту чалавек можа танцаваць? Як я разумею, Фёдар Балабайка — гэта шчаслівае выключэнне.**

— Безумоўна, такія самародкі сустракаюцца нячаста. Сярэдні ж стаж танцоўшчыка — дваццаць гадоў. Але мы трохі адхіліліся. Гаворачы пра пошук і падрыхтоўку кадраў для ансамбля, я вось што хачу зазначыць. Закрыццё школы-студыі вельмі ўскладніла нам жыццё. Справа ў тым, што гэта была надзвычай важная падрыхтоўчая ступень. Мы чалавека спецыяльна рыхтавалі да той работы, якая яго чакала. Выхоўвалі яго на традыцыях нашага калектыву, прывівалі любоў і павагу да свайго народа, яго гісторыі і культуры. Усё гэта вельмі важна для прафесійнага росту артыста.

Калі ж чалавек прыходзіць збоку, яму вельмі цяжка адразу ўпісацца ў калектыў. Даводзіцца і год, і два з такім навічком займацца па асобнай праграме. І, скажу чэсна, не заўсёды нашы старанні даюць належны вынік. Таму мы вымушаны час ад часу вяртацца да ранейшай, самай надзейнай формы падрыхтоўкі кадраў — набіраем групу таленавітых, перспектыўных дзетак і пэўны час займаемся з імі. Хаця належных умоў для гэтага няма, самі праводзім рэпетыцыі ў невялікай, душнаватай зале. Але іншага выйсця не бачым, перавучваць чужых яшчэ цяжэй і даражэй.

**— У калектыве ёсць свае традыцыі, пісаныя і няпісаныя правілы?**

— Безумоўна, ёсць. Галоўная наша традыцыя — добрасумленныя адносіны да працы. Чалавеку, якога мы прымаем у калектыў, адразу ж даём зразумець, што халтура, гультайства ў нас не праходзяць, ён павінен поўнасцю выкладвацца, паказваць усё, на што здольны. Яшчэ адна непарушная традыцыя — бой п’янству. Стараемся, каб чалавек не толькі не прыходзіў пад градусам на рэпетыцыі, але і не піў пасля работы. Бо які з яго будзе сёння танцор, калі ён учора хапіў лішку. Мы нават на сваіх юбілеях, розных урачыстасцях абыходзімся мінімумам алкаголю. Тым не менш яны праходзяць заўсёды весела, цікава, прыгожа.

**— А юбілеі артыстаў, вяселлі, народзіны дзяцей вы адзначаеце?**

— Абавязкова. Віноўніка ўрачыстасці віншуем, уручаем прэмію, а калегі прыдумваюць розныя дасціпныя жарты.

**— Асабістым жыццём сваіх выхаванцаў цікавіцеся?**

— Не тое каб я цікавілася гэтым спецыяльна. Яны мне самі расказваюць. Усё, усё, усё. Асабліва, калі калектыў быў невялікі. Я ведала пра кожнага больш, чым іх бацькі. Дзяўчаты прыходзяць параіцца нават па нейкіх інтымных пытаннях.

**— Як вядома, артысты — людзі складаныя, ранімыя, тонкія. Як вы з імі спраўляецеся?**

— Перш за ўсё — я іх люблю. Я за ўсіх іх перажываю, стараюся ўсім памагаць. І ў творчым сэнсе, і ў сацыяльным. І яны гэта адчуваюць, адплачваюць мне даверам і павагаю.

**— Цякучка кадраў ёсць?**

— Ёсць. І крыху большая, чым хацелася б. Прычыны? Тут і натуральная змена пакаленняў. І прафесійны рост — чалавека заўважаюць, давяраюць больш адказную, самастойную справу. Так было з Анатолем Кашталапавым. Ён узначаліў вядомы цяпер калектыў «Свята». І мы толькі рады гэтаму, калі нехта ідзе на павышэнне, працягвае актыўна і плённа служыць мастацтву.

На жаль, так бывае не заўсёды. Прыгадваецца мне драматычны лёс Васіля Купрыяненкі. Ён у нас танцаваў яшчэ ў «Вяснянцы». Пасля закончыў музычнае вучылішча, паступіў у кансерваторыю. А калі мы стварылі «Харошкі», перайшоў на завочнае і стаў у нас музычным кіраўніком. Музыкант ад Бога! Талент выключны. Адзін грэх — слабасць да выпіўкі. Але пакуль працаваў у нас — трымаўся. А як толькі яго забралі, перавялі на іншую працу — усё, пакаціўся па нахільнай. Згубіў і працу, і сям’ю. Я нават не ведаю, дзе ён цяпер…

Некаторыя пакідаюць калектыў вымушана. Вы ведаеце якая ў нас зарплата — гаварыць няёмка. Дык пакуль чалавек нежанаты, ён яшчэ неяк церпіць — трымае

любоў да прафесіі, грэе душу высокі прэстыж калектыву. А з'яўляецца сям'я — як, за што яе ўтрымліваць? Вымушаны сыходзіць. У мяне вось гэтым летам адзін артыст уладкаваўся на будоўлю, другі — таксістам. І ў мяне язык не павернецца іх у чым-небудзь папракнуць. Шкада, канешне, расставацца, асабліва калі сыходзіць таленавіты чалавек, але што зробіш?

**— А вы не спрабавалі…**

— …вырашыць праблему з зарплатай? Спрабавала. І не аднойчы. Апошні раз дайшла нават да міністра культуры. Ён, дазнаўшыя колькі атрымоўваюць нашы артысты, страшэнна здзіўляўся. Абяцаў дапамагчы. Але з'ехаў паслом у Парыж, і на тым усё скончылася. Цяпер надзея на новага міністра.

## На мяжы выжывання

**— Валянціна Іванаўна, вы мяне не менш здзівілі. І засмуцілі. Па праўдзе кажучы, я думаў, што такі праслаўлены калектыў, як ваш, наогул ніякіх праблем не мае. Што тут вас літаральна носяць на руках. Аказваецца…**

— О, вы яшчэ многага не ведаеце. З самага пачатку мы сутыкнуліся з вялікімі праблемамі. У нас не было ні памяшкання, ні касцюмаў, ні кадраў. Пакутавалі цэлых дзесяць гадоў. Расказваць пра гэта нават не хочацца, таму што гэта доўгая і сумная гісторыя…

**— Пачакайце, дык вы ж ужо былі лаўрэатамі Усесаюзнага конкурсу, мелі папулярнасць за межамі краіны. І такія адносіны? Не разумею.**

— А тут і разумець няма чаго. Зайздрасць. Элементарная чалавечая зайздрасць. Чым вышэйшы ў нас быў поспех за мяжою, тым горш да нас тут адносіліся. Некаторым маім калегам гэта было як сярпом па адным месцы. Тое, што тварылася тады ў сферы мастацтва, у іншым асяродку называлася б злачынствам. Адносіны да таленавітых людзей былі жорсткія. Акрамя таго яшчэ і палітыка была такая: калі нехта моцна вытыркаўся, калі нечая галава ўздымалася над натоўпам — яго трэба было асадзіць назад.

Вось я таксама паспрабавала вытыркнуцца і атрымала па поўнай праграме. І злева, і справа. Шматлікія «дабрадзеі» бегалі да міністра культуры і нашэптвалі яму, што Гаявая і не тое робіць, і не так робіць. І наогул «Харошкі» трэба закрыць, ніякай патрэбы ў іх няма. Ёсць Дзяржаўны ансамбль танца, ёсць, у рэшце рэшт, народны хор з выдатнай танцавальнай групай — і дастаткова.

Намеры ў міністэрства былі надзвычай рашучыя. Калі мы выйшлі ў другі тур таго самага конкурсу, пра які вы напомнілі, то Каландзёнак мне прама сказаў: «Цяпер, Валя, усё залежыць ад цябе. Возьмеце хоць які-небудзь дыплом, я вас яшчэ магу пакінуць. Калі ж не, то прабач…» А мы заваявалі Гран-пры!

Тады мае «дабрадзеі» вырашылі зайсці з другога боку. Паслухайце, вам гэта будзе цікава. Аднойчы раздаецца званок з міністэрства культуры: «Заўтра ў міністра нарада па пытанні будучыні беларускай харэаграфіі». Ну, думаю, нарэшце. Даўно пара перабудоўвацца на новы, сучасны лад. Прыходжу за дзесяць хвілін да прызначанага часу, а кабінет міністра ўжо перапоўнены, людзі нават стаяць уздоўж сцен. «Адкуль столькі харэографаў? — падумала сама сабе. — Нешта тут не тое…» І мне стала неспакойна.

Першым узяў слова міністр. Гаварыў ён доўга, сумбурна, але лейтматыў яго выступлення быў такі: беларуская харэаграфія пад пагрозай гібелі. Прышэльцы, якія навязваюць сваё псеўдамастацтва, вядуць нас у тупік. Таму перад намі стаіць важная задача — берагчы і ахоўваць нашу харэаграфію ад разбурэння…

І мне адразу стала зразумелым, супраць каго скіраваны гэты гнеўны спіч. Хацелася не проста запярэчыць, а закрычаць: пра якое разбурэнне вы кажаце? Што берагчы і захоўваць? Перамальныя, прымітыўныя нумары? За выклю-

чэннем трох самадзейных калектываў — Анатоля Вераб’ёва ў Брэсце, Мікалая Рыбальчанкі ў Гомелі і Івана Серыкава ў Віцебску — у рэспубліцы нічога больш няма. Беларуская харэаграфія пераажывае глыбокі застой, не развіваецца, адстала ад лепшых сусветных узораў. Вось аб чым трэба гаварыць, а не граміць прышэльцаў, якія нешта спрабуюць рабіць, адпавядаць патрабаванням сучаснасці.

Але я стрымала сябе. Ведала: будзе яшчэ горш. Ад мяне толькі і чакаюць гэтага эмацыянальнага зрыву. Праўда, маё маўчанне не дапамагло. Усё ўжо было падрыхтавана і зрэжысіравана. Ад «Харошак» не пакінулі каменя на камені. Крытыкавалі нават тыя, хто нас ніколі не бачыў. Справа дайшла да таго, што студэнтам інстытута культуры забаранілі хадзіць на нашы канцэрты.

**— Ажно не верыцца, што такое магло быць…**

— А яно было!

**— А вы не думалі куды-небудзь з’ехаць?**

— Між іншым, такія прапановы былі. Аднойчы, калі мы па лініі Інтурыста выступалі перад літоўскай дэлегацыяй, іх адказны прадстаўнік падняўся на сцэну і на поўным сур’ёзе мне прапанаваў: «Пераязджайце да нас. Мы вам створым усе ўмовы…» А другі раз такое запрашэнне я атрымала пасля выступлення ў кіеўскім канцэртным зале «Україна».

Але я нікуды не паехала. Я ўсёй душой палюбіла Беларусь, яе мілых, працалюбівых і таленавітых людзей, на ўсё жыццё захапілася яе багатай гісторыяй і культурай. А цяжкасці… Як-небудзь справімся. Тым больш, што неўзабаве прыйшоў новы міністр культуры, Яўген Вайтовіч. Да канца сваіх дзён буду ўспамінаць яго добрым словам. Ён адразу ж убачыў усю несправядлівасць у адносінах да «Харошак» і актыўна стаў нам памагаць.

З разуменнем да нашых наватарскіх пошукаў паставіліся і ў ЦК КПБ. Сакратаром па ідэалогіі тады быў Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін. На адзін з канцэртаў «Харошак» ён прыйшоў разам з Пятром Міронавічам Машэравым. Яны былі ўражаны ўзроўнем нашага выканальніцкага майстэрства. І пасля выступлення, у гутарцы з калектывам, нам было сказана, што мы ідзём у правільным накірунку і паабяцалі падтрымку ва ўсім. Тады ж паступова пачалі вырашацца і нашы, здавалася б, невырашальныя праблемы. Мы атрымалі больш-менш нармальнае памяшканне для рэпетыцый, пакой для рэквізіту, раздзявалкі. А самае галоўнае — адкрылі сваю школу-студыю. Міністэрства выдзеліла значныя сродкі на набыццё касцюмаў.

**— Дарэчы, пра касцюмы. Колькі бываю на канцэртах «Харошак», заўсёды захапляюся строямі вашых артыстаў — яркімі, нацыянальна-каларытнымі, непаўторнымі. Хто іх вам стварае, дзе і як вы іх шыеце?**

— Шыем у тых жа тэатральных майстэрнях, што і астатнія калектывы. Але шыем, вядома, па сваіх эскізах, сваіх распрацоўках. І стараемся кожны касцюм рабіць так, каб ён служыў шмат гадоў, таму што бюджэтныя сродкі на гэта абмежаваныя.

З чаго я пачынала? І тут пайшла насуперак тадышняй традыцыі. Было як? Бралі туаль — самую распаўсюджаную і танную тканіну — і фарбавалі яе ў палоску. Пасля рабілі гафрэ альбо плісэ і шылі спадніцы. Кофтачкі былі вышываныя. Вось і ўвесь касцюм. Мне з гэтым прыйшлося змагацца, ствараць новыя строі.

Было, скажу шчыра, няпроста. Калі я прыйшла ў нашу Акадэмію навук і папрасіла паказаць мне ўсё, што ў іх ёсць па беларускім касцюме, навукоўцы паглядзелі на мяне як на дзівачку і развялі рукамі. Праўда, у той момант рыхтавалася невялікая кніга — яна ў мяне і цяпер ёсць, — але інфармацыі і там было небагата.

Я падумала і рашыла звярнуцца ў Ленінград. Яшчэ з часоў вучобы я ведала, што там, у тэатры оперы і балета, ёсць выдатныя майстэрні. На маю просьбу адгукнулася патомная мастачка гэтых майстэрань Галіна Смірнова. Разам з ёю

мы шукалі матэрыялы ў запасніках Цэнтральнага этнаграфічнага музея. Шукалі і знайшлі. Такім чынам былі зроблены эскізы касцюмаў для першай праграмы.

Прынцыпова новым было тое, што мы свае касцюмы вырашылі ткаць. І сутыкнуліся з непрадбачанай праблемай. Аказалася, што нідзе ў рэспубліцы, ні ў адной майстэрні, гэтым не займаюцца. Толькі ў Івянцы знайшлі нарэшце народную майстрыху Марыю Сасонку (дагэтуль памятаю яе прозвішча), якая ўзялася нас выручыць. Яна ўгаварыла яшчэ дзвюх жанчын, у якіх былі ткацкія станкі, і ўсе разам зрабілі нам неабходную тканіну. Выдатныя атрымаліся касцюмы!

А перад гэтым я ледзь не атрымала інфаркт. З-за чаго? Зараз раскажу. Гатовую тканіну мы аддалі шыць у нашыя тэатральныя майстэрні. Па задумцы Смірновай вырашылі зрабіць сапраўдныя беларускія андаракі — гэткія доўгія, па шчыкалатку спадніцы. Прычым знізу была шырокая паласа арнаменту, а далей ішлі рознакаляровыя гарызантальныя палоскі.

Аднойчы прыходжу, каб паглядзець, як шыюцца нашыя андракі і — о, жах! — гляджу і нічога не разумею. Вісяць мае касцюмы і вось такія кароценькія спадніцы. Аказалася, нехта прыйшоў (па-мойму з ансамбля танца) і сказаў, што «Харошкі» нічога не разумеюць, такія андаракі — анахранізм, іх трэба падкараціць. І нам увесь арнамент — самае хараство — узялі і абрэзалі. Божа мой! Я да дырэктара. Яна загадала ўсе абрэзкі сабраць і прышыць нанава. Вось так усё стваралася…

А цяпер куды ні глянь — усюды ткацкія промыслы. Нам жа ўсё даводзілася прабіваць з такімі цяжкасцямі. Мала таго, што не было каму ткаць, дык яшчэ супраціўляўся мастацкі савет: «Якое ткацтва? Гэта ж будуць пудовыя касцюмы. Як у такіх танцаваць?»

**— А і праўда, яны ж сапраўды цяжкія. Не наракалі артысты?**

— Ведаеце, ткацтва ёсць рознае — і лёгкае, і цяжкае. Ёсць воўна, а ёсць лён. Мы падыходзілі гібка: дзе трэба касцюм больш унушальны, цяжкі — рабілі цяжкі, дзе тэмпераментныя, быстрыя скокі патрабавалі лёгкіх касцюмаў — рабілі лёгкія. Так што ніякіх нараканняў ад артыстаў я не чула. Затое эстэтычны бок «Харошак» аказаўся на вышыні. Больш за тое, мы далі штуршок развіццю напаўзабытага ўжо рамяства — сапраўднага беларускага народнага ткацтва. Мне нават перадавалі, што аднойчы на семінары ў Ленінградзе было адзначана: у Беларусі вельмі добра развіваецца нацыянальны сцэнічны касцюм і што ён, бадай, адзін з самых лепшых у Савецкім Саюзе.

**— У вас ёсць чалавек, які спецыяльна займаецца касцюмамі?**

— І не адзін, а нават два. Гэта нашы мастакі Юрый Піскун і Аляксей Гаявы. Юрый абапіраецца на ўзоры традыцыйнага народнага мастацтва і ў сваіх работах падкрэслівае характар персанажаў, рэгіянальныя адметнасці нацыянальнага адзення. Аляксей больш схільны да паэтызацыі вобразаў, імкнецца надаваць касцюмам сучаснае гучанне, не губляючы нацыянальнага каларыту. А разам яны вырашаюць складаную задачу — зберагчы этнаграфічныя рысы той ці іншай мясцовасці і надаць метафарычнасць танцавальным персанажам.

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

***Працяг будзе.***